# ЗМЕСТ

Крыніца

Я

# Леў САПЕГА



1557 -- 1633





Прадмова да Статута
Вялікага Княства Літоўскага:

# ЗВАРОТ ДА ЎСІХ САСЛОЎЯЎ

**Мудрыя людзі**
**усіх стагоддзяў**
**сыходзіліся на думцы,**
**што ў кожным —**
**калі б яно ні ўтварылася —**
**гаспадарстве**
**дастойнаму чалавеку**
**нічога не можа быць даражэй**
**за вольнасць.**
**Затое няволя**
**яму настолькі**
**агіднаю мае быць,**
**што не толькі маёмасцю,**
**а і смерцю**
**яе адганяць ад сябе павінен.**

**Таму і не дзіўна,**
**што людзі,**
**якія сябе шануюць,**
**каб не падпасці**
**пад панаванне чужацкае,**
**у змаганні**
**з усякім наспротнікам**
**не шкадавалі**
**ні скарбаў сваіх,**
**ні горлаў.**
**Калі ж аднак,**
**здаралася,**
**трацілі волю,**
**дык усё роўна**
**паводле парадкаў чужых**
**не хацелі жыць.**

**А хіба**
**лепей намнога,**
**каб чалавек**
**быў ад старонняга ворага**
**вольны,**
**ды мусіў**
**свайго трываць над сабою?!.**
**Вось жа, на ўтаймаванне**
**усякага ліхадзея**

## *Пра Мяне*

*На палітычным небасхіле Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега — бясспрэчна зорка першай велічыні. Яго жыццё і дзейнасць прыпадаюць на перыяд найвышэйшага ўздыму і культурнага росквіту нашага старажытнага гаспадарства. Нарадзіўся Л.Сапега ў Астроўне, што на Віцебшчыне, у сям'і Івана Сапегі, драгічынскага старасты, і Багданы з роду Друцкіх-Сакалінскіх.*

*Пачатковую адукацыю юнак атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе, уфундаванай Мікалаем Радзівілам Чорным, а ў 13-гадовым веку паступіў у Лейпцыгскі (Ліпскі) універсітэт, дзе гадоў колькі студыяваў гісторыю права. Па вяртанні на радзіму ён трапіў на службу да вялікага князя С.Батуры. У 1579—1582 гг. на чале гусарскага аддзела вызваляў Вялікае Княства ад маскоўскіх агрэсараў, ваяваў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалачам.*

*За ратныя справы Л Сапега ў лютым 1580 г. атрымаў пасаду сакратара, а неўзабаве і найвышэйшага пісара Вялікага Княства Літоўскага. Ад гэтае хвілі яму сталі даступныя ўсе гаспадарскія таямніцы. Распачынаецца кар'ера Л.Сапегі як палітычнага дзеяча, змагара за ўмацаванне Бацькаўшчыны. У 1581 г. ён разам з А.Валовічам ды К.Радзівілам Перуном дамагаецца ўтварэння Трыбунала — найвышэйшага апеляцыйнага суда Княства. У 1584 г. 27-гадовы Л.Сапега едзе на чале пасольства ў Маскву, дзе на выключна выгодных умовах падпісвае пагадненне з усходнім суседам і вяртае з маскоўскага палону без аніякага выкупу нешта 900 суайчыннікаў. Дбанні пасля былі*

*добра ўзнагароджаны манархам: у 1585 г. яму далі Слонімскае староства і партфель вялікакняскага падканцлера. Новая пасада дазваляла Л.Сапегу здзейсніць яго даўнюю задуму — умацаваць сваю дзяржаву. Дзеля гэтага яму даводзілася штодня аналізаваць як унутранае становішча ў Княстве, гэтак і міжнародныя дачыненні. Кожны зрух, кожны заварот у палітыцы еўрапейскіх і бліжэйшых азіяцкіх краінаў вымагаў ад падканцлера адпаведных дзеянняў.*

*Па смерці ў 1586 г. С.Батуры, Л.Сапега ўзяў чынны ўдзел у выбарах новага манарха. На апошнім этапе палітычнай барацьбы ён падтрымаў Жыгімонта Вазу і той урэшце выйшаў пераможцам, атрымаўшы вялікакняскі пасад, хоць на яго было шмат іншых прэтэндэнтаў, сярод якіх — Максімільян, брат імператара Святой рымскай імперыі Рудольфа, ды маскоўскі цар Фёдар. Дзякуючы ўзважаным дзеянням падканцлера і ягоных аднадумцаў Вялікае Княства Літоўскае выйшла з таго палітычнага крызісу фактычна без стратаў. Больш за тое, Л.Сапега дамогся выканання Жыгімонтам галоўнага перадвыбарнага абяцання — зацвердзіць новы Статут Княства, праца над якім ішла пад падканцлеравым кіраўніцтвам ужо некалькі год. 28 студзеня 1588 г. Жыгімонт III Ваза нарэшце паставіў свой подпіс пад Прывілеем, пацвердзіўшы гэтым юрыдычную моц Статута. Не чакаючы дзяржаўнай падтрымкі, Л.Сапега ахвяраваў уласныя сродкі на выданне Статута, напісаўшы да яго славутую «П р а д м о в у». Гэты найдасканалейшы ўва ўсёй Еўропе кодэкс законаў стаўся гарантам эканамічнай, палітычнай, культурна-этнічнай і дзяржаўнай незалежнасці Беларускага (літоўскага) гаспадарства.*

*У 90-я гады XVI ст. Л.Сапега займаецца правядзеннем артыкулаў Статута 1588 г. у*

**вынайдзены муштук,
ці — іначай — цуглі,
каб, маючы боязь перад законам,
утрымліваўся ад гвалту
і ад сваволі
і над слабейшым
ды над бяднейшым
не пасвіўся
і не змушчаўся.**

**Закон
і ўсталёўваецца на тое,
каб дужы-заможны не ўсё,
што яму зажадаецца,
чворыў.
Як зазначыў
некалі Цыцэрон,
каб маглі
мы вольнасцю карыстацца,
становімся для таго
нявольнікамі закону.**

**Калі найміле́й
дастойнаму чалавеку
жыць у айчыне сваёй бяспечна
і не баяцца,
што нехта добрую славу яго
зганьбуе
альбо здароўю яго і целу
прычыніць шкоду,
альбо маёмасці — страту,
нічому другому,
адно закону
дзякаваць мае,
што век у спакоі жыве
і ніякай змушты,
ніякага абылгання
і крыўды ніякай не зносіць.
Мэта і вынік
усіх законаў,
што існуюць на свеце,—
каб кожны добрую славу сваю,
здароўе
і скарб-нажытак
меў непашкоджанымі
і страты
у гэтым ніколі не спадкаваў.**

**Наша вольнасць,
якою мы ганарымся
сярод хрысціянскіх народаў,
найперш у тым палягае,
што пана,**





**які б панаваў
не паводле законаў,
але паводле жадання свайго,
над сабой не маем,
а самі валодаем
сваёй славай,
нажыткам сваім
і сваім жыццём.**

**Бо калі б
хто-кольвечы нас у гэтых
трох рэчах укрыўдзіў
і пасвіцца стаў над намі
паводле свайго ўпадабання,
той быў бы не панам нашым,
а — парушальнікам нашых законаў
і руйнавальнікам вольнасцяў
апынуўся,
а мы —
нявольнікамі ў яго.
Але,
дзякаваць пану Богу,
за панаваннем
іх міласці каралёў
і вялікіх князёў,
з праўдаю ў згодзе,
маем
гэтую ўладу
і вольнасць нашу
ў сваіх руках
і, законы
творачы самі сабе,
старанна
вольнасць ва ўсім зберагаем.
Не толькі сусед
і супольны жыхар у айчыне,
але і сам пан гаспадар
над намі
ніякай звярхоўнасці
ўжыць не можа,
адно толькі тое,
што дазваляе яму закон.**

**Маючы ў нашых руках
гэтакі скарб,
што ніякай капою грошай
аплочаны быць не можа,
належыць,
каб кожны
дастойны жыхар гаспадарства
уведаў аб ім
і, уведаўшы добра,
утрымліваўся ад спакусаў**

*жыццё. У 1589 г. ён атрымаў пасаду канцлера, пасля чаго ягоны ўплыў у палітычных колах Княства значна павялічыўся. Канцлер у першую чаргу паставіў за мэту спыніць ціхую экспансію палякаў на вялікакняскія землі. Ён дамогся, каб вакансіі, тытулы, маёнткі і землі па абшарах гаспадарства атрымлівалі толькі ўраджэнцы Княства, як таго патрабаваў Статут 1588 г. (раздзел III, арт.12). Амаль 10 год Л.Сапега змагаўся з Жыгімонтам і польскай магнатэрыяй супраць прызначэння на віленскую катэдру паляка Бярнарда Мацяеўскага і ўрэшце перамог, паставіўшы сваю кандыдатуру — ліцвіна Бенядыкта Вайну.*

*Шмат высілкаў ад канцлера патрабавала ўрэгуляванне канфліктаў паміж шляхтай і дачыненняў між рознымі канфесіямі. У 1596 г. ён удзельнічае ў Берасцейскім царкоўным саборы ў якасці камісара, імкнучыся праз задзіночанне католікаў і праваслаўных дасягнуць спакою ў гаспадарстве. Ён вядзе перамовы з рэфарматамі, перапісваецца з папам рымскім Кліментам VIII, пад эгідай якога тады стваралася еўрапейская кааліцыя хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі. Недзе ў канцы XVI ст. Л.Сапега распачынае парадкаваць галоўны архіў Княства, гэтак званую Літоўскую Метрыку. На яго загад былі перапісаны спарахнелыя кнігі, сістэматызаваны неразабраныя папкі з найкаштоўнейшымі дакументамі.*

*У пачатку XVII ст. Л Сапега актывізаваў усходнюю палітыку Княства. Увосень 1600 г. ён едзе да Барыса Гадунова і падпісвае 24 артыкулы «вечнага міру», каб перашкодзіць хаўрусу Маскоўшчыны са Швецыяй. З апошняй Вялікае Княства Літоўскае вяло тады вайну, з тым каб здабыць для Жыгімонта бацькаву карону караля Швецыі. Канцлераў*

*дыпламатычны манеўр меў поспех.*

*15 студзеня 1609 г. падчас Варшаўскага Сойму Л Сапега, імкнучыся замацаваць пазіцыі Княства на ўсходзе, выказаўся за распачынанне шырокамаштабнай вайсковай кампаніі супраць Маскоўшчыны. У выніку двух этапаў ваенных дзеянняў, 1609—1613 і 1617—1618 гг. было падпісана Дзявулінскае замірэнне (1 снежня 1618 г.), паводле ўмоў якога Вялікаму Княству Літоўскаму вярталіся спадчынныя землі і гарады: Смаленск, Белы, Дарагабуж, Старадуб, Папова Гара, Чарнігаў, Трубчаўск, Сярпейск, Невель, Себеж, Красен, Ноўгарад-Северскі, Манастырскае Гарадзішча, Вялікасная воласць ды інш.*

*У 1623 г. Л.Сапега атрымлівае булаву вялікага гетмана. Лаўры аднак не прынеслі спакою. На яго плечы лёг увесь цяжар новай вайны са Швецыяй. У надзвычай складаных умовах, калі да варожага наступу далучыўся страшэнны мор, што ахапіў Вільню, Гародню, Берасце, Наваградак, Менск, Слуцак ды інш., Л Сапега фармаваў вайсковыя аддзелы, наймаў валанцёраў, аплочваючы іх паслугі з уласнае кішэні. Відаць, у многім дзякуючы ахвярнасці вялікага гетмана, Вялікае Княства Літоўскае здолела вытрымаць цяжар ваеннага ліхалецця і падпісаць у Альтмарку (снежань 1629 г.) мір са Швецыяй. Гэта быў, бадай, апошні штрых шматграннай палітычнай, вайсковай і дзяржаўнай чыннасці Л Сапегі.*

Іван САВЕРЧАНКА

і сунімаў заўзятасць,
і згодна
з законам напісаным
спраўляваўся
і анікога не крыўдзіў.

Але калі
будзе пакрыўджаны сам,
каб ведаў,
дзе абароны і лекаў
у крыўдзе сваёй шукаць.
Як адзін
рымскі сенатар другога
за тое ўпікаў,
што той
закону айчыны сваёй не ведаў,
гэтак усякі жыхар,
што сваёю
вольнасцю ганарыцца,
але не хоча
ні ўведаць, ні зразумець
закону,
якім абаронена вольнасць яго,
заслугоўвае ганьбавання.

І калі сорам
другому якому народу
законаў сваіх не ведаць,
то нам пагатоў —
бо маем
законы, што пісаны не чужой,
а сваёю моваю,
і заўжды
даведацца можам,
што трэба, зрэшты,
нам для адпору крыўды.

А так як не кожны
жыхар мог займець
Статут,
бо доўгі клопат
яго перапісваць самому,
сталася ў карыстанні
нястача Статутаў важкай.
Таму,
спрыяючы ў гэтай патрэбе
кожнаму жыхару
і ў спажытку
служачы нашаму гаспадарству,
наважыўся я на сябе
узяць,
не шкадуючы кошту свайго
і выдаткаў,





працу —
і, збор
нашых законаў у друк падаўшы,
дарогу лацвейшую,
шлях прасцейшы
да ведання іх
паказаць жыхарам
нашага гаспадарства.
Цяпер
кожны, калі захоча,
можа іх мець
у сваіх руках,
можа як след
карыстацца імі.

А вас,
міласці вашы,
прашу ад мяне прыняць
гэтую працу ўдзячна
і, маючы вольнасці,
што ўсебакова
законамі абаронены,
пільнавацца,
каб абіраліся і ў суды,
і ў трыбуналы людзі,
якія не толькі добра
дасведчаны ў нашых законах,
але і сумленне маюць,
і Бога баяцца;
якія б
дзеля спажытку свайго,
ласункаў
ды падарункаў,
на шкоду бліжнім,
законаў не перакручвалі,
але, простай
дарогаю ідучы,
трымаліся праўды святой
і людской справядлівасці
і захавалі
вольнасць,
якою мы цешымся,
у цэласнасці непарушнай.
З тым даручаю
гэтую працу маю
ласцы і міласці вашай
братэрскай.

*Са старабеларускай мовы ўзнавіў*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

МЫ

# Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



## Пра тое, як я з поўдня вяртаўся

## Пра тое, як я, Абрам Ісакавіч ды Ісак Абрамавіч з Рамонтам Капітальным пасябравалі

## Пра тое, як я ў Парыжы са спадарыняй Ф сустрэўся



# Пра тое, як я з поўдня вяртаўся

*Апавяданне*

У самую ноч апошнюю майго адпачынку на поўдні суверэнным страхоцце мне вялікае выпала. Пад вокнамі санаторнымі страляніна ўсчалася, порахам пацягло, венікам салдацкім запахла, а ў калідоры кот кантужаны зусім па-вясноваму заяўкаў

Жыў я ў пакоі двухложкавым, ды ложак адзін, як на тое, у тую ноч апошнюю парожні стаяў. Сусед мой трохтыднёвы ўвечары ў горад паехаў

Мукавоз ён вушасты, а не сусед мой. Запіўся недзе, загуляўся, аднаго мяне на ўсю ноч экстрэмісцкую пакінуў.

Дык вось, адзін я ў пакоі двухложкавым застаўся Густа сам сабе дрыготку наганяў, як той графін на тумбачцы фанернай.

Аднак жа не ўмлеў дарэшты.

Ложкам парожнім дзверы прыпёр, а сам у матрац паласаты загарнуўся і да ранку ў шафе рыплівай праседзеў — не задыхнуўся

Ноч, праўда, хутка мінулася.

Порах пад вокнамі развеяўся, пах веніка салдацкага таксама, і кот кантужаны ў калідоры не адгукаўся болей.

Радыё санаторнае супакоіла. Маўляў, нічога страшнага не адбылося — так, пастралялі крыху Але праз сцяну тонкую пачуў я, як нехта некаму сказаў, што раз уначы стралялі, то і ўдзень могуць, бо край жа паўднёвы, незалежны

Схапіў я тады сваю тэчку вандроўную і, суседа не чакаючы (самалёт у нас адзін!),— у аэрапорт махануўся. На яго, суседа свайго, нават раззлаваўся Вернецца пад самы абед, мукавоз вушасты, як ужо нё аднойчы вяртаўся, песеньку пра Сінгапур бананавы губамі варушыць будзе і ніякіх яму страхаў начных..

Таксіст дымнавокі, калі даведаўся, што з Мінска я, усміхнуўся радасна, дымнавока «Мінэск! Камарофка!»

Рана, вельмі рана ў аэрапорт я прыехаў. Самалёт ажно ўвечары, а скрозь на гадзінніках, куды ні зірну, яшчэ й дзевяці не насыпалася.

Мусіў тэчку сваю вандроўную ў багажню закінуць, а сам да піва надоўга прысунуцца.

Смажыла ж мяне надта.

Край малінавы, падумалася, уначы страляюць, катоў кантузяць, а ўдзень піва даюць.

Дык вось, п'ю сабе піва, пасля ночы акопнае, можна сказаць, адпачываю, рыбінай сухою губы выціраючы, ды слухаю, пра што гэта ў буфеце люд пасажырны слоўцамі вызваньвае. Чую, што пра тое ды гэтае вызваньвае, а найбольш дык пра бой начны пад вокнамі санаторыі маёй. Няхай сабе, думаю, гамоняць, улазіць не буду — толькі б самалёта дачакацца.

Піва дапіўшы, пратаптацца пайшоў Гадзіны са дзве таптаўся, нават пад кіпарысам на лаўцы напроці лякарні аэрафлотнае вочы зляпіў Не тое што паспаў, а так — санячка лёгкага паганяў... Паганяў гэта санячка лёгкага насупраць лякарні аэрафлотнае і зноў адчуў, што мяне на піва ломіць. У буфет вярнуўся, а там... А там — пасажыры новыя, а гамана старая і найбольш усё пра баталію начную, санаторную.

І што ж я чую раптам!

—Пашанцавала тым, хто ноччу гэтай у «Залатым беразе» жыў. Ой, як пашанцавала,— каўкнуў адзін бачканос рыжы, газецінай вуха тручы

«А чаго ж гэта пашанцавала?» — хацеў я да бачканоса прыцерціся з'едліва, але тут мяне

нешта ў палец указальны кальнула, ды так моцна кальнула, што я ледзьве куфаль не выпусціў Ну, не раўнуючы, як голка кравецкая! Палец пухнуць стаў, сінець, рунець і, як сказаў паэт,налівацца

І што б гэта быць магло, чаго я, да бачканоса рыжага прыслухоўваючыся, не заўважыў? Камар? Аса? Муха якаясь паўднёвая?

Настрой мой паблажэў адразу, у рулон руберойдны згарнуўся І нядзіва ж. Ноч у шафе пад стралянінаю праседзеў, і нічога. А тут на табе — палец ужо як і не палец, а мікрафон перанасны

Пайшоў я ў лякарню аэрафлотную рады якой пашукаць. Бачу· з лякарні санаторцы знаёмыя выходзяць, паперкі нейкія да грудзей цісмуць і пасміхаюцца сабе бесклапотна Заходжу гэта, вітаюся, палец мікрафонны паказваю, хачу растлумачыць праўдзіва, што кальнула ў буфеце нешта і сам не ведаю што А лекар перапыняе мяне голасам ласкавым

—Значыць, і вы з санаторыі «Бераг залаты»?

—Адтуль,— кажу, мала што пакуль разумеючы

Лекар далікатны пацікавіўся, як зваць мяне, куды лячу і які ў мяне адрас хатні. Усё, што я сказаў, ён запісаў у сваю талмудзіну шырокую.

—Напалохаліся ноччу, калі стралялі? — паспачуваў мне лекар, палец аглядаючы

—А няго ж,— шчыра прызнаўся я, згадваючы матрац паласаты

—І страляніна доўгаю была?

—Не такой ужо і доўгаю, але прыпякло крыху

—Я бачу, што прыпякло,— сказаў лекар і прафесійна націснуў на мой сіні, мікрафонны

Я войкнуў

—Не бойцеся. Костка цэлая,— супакоіў лекар,— куля толькі скуру абпаліла Ірынка (паклікаў медсястру), перавяжыце, а я пакуль заключэнне напішу.

Ірынка з бінтамі падплыла, а лекар тым часам на бланку афіцыйным заключэнне пагнаў, тлумачачы ветліва:

—Перад вамі прыходзілі ўсё больш стралянінай напалоханыя, а ў вас рана кулявая!

На мяне сорам наляцеў

Хацелася тут жа прызнацца, што ў мяне ніякая не рана кулявая, што я піва піў, але Але побач была Ірынка ў халаціку празрыстым, яе халацік празрысты лавандай пахнуў, і ад усяго гэтага ў мяне галава закружылася

—Вам блага? — захвалявалася Ірынка, нашатыр падносячы

—Не-не,— усміхнуўся я, успамінаючы таго бачканоса рыжага, што ў буфеце газецінай муха цёр і зайздросціў уголас такім, як я, хто ў ноч гэтую ў «Беразе залатым» па шафах перакочваўся

—Вось вам заключэнне медыцынскае,— заклапочана прамовіў лекар,— згодна гэтага заключэння ў пакоі начальніка аэрапорта вам выплацяць кампенсацыю.

—Якую кампенсацыю? — недаўменна спытаў я

—Вы, мусіць, не чулі гадзіну таму тэрміновае паведамленне нашага Урада Паўднёвага?

—Не, не чуў, бо спаў пад кіпарысам

—Усім адпачываючым, хто падчас нападу знаходзіўся ў будынку або на тэрыторыі «Берага залатога», выплочваецца кампенсацыя за прычыненую маральную шкоду А ў вас да ўсяго яшчэ і рана кулявая Дарэчы, усім нашым установам медыцынскім аддадзены загад дакументальна зафіксаваць кожны выпадак пашкоджання цялеснага

—?

—Кампенсацыя выплочваецца ў нашай валюце паўднёвай,—сказаў на заканчэнне лекар і загарнуў сваю талмудзіну шырокую.

Калі выходзіў я, ён шапнуў — Ірынцы, вядома. «Гэтаму больш заплоцяць, ён паранены .»

У пакоі начальніка аэрапорта паперку лекараву я паказаў прадстаўніку «Берага залатога» Ён паміж двух амонаўцаў сядзеў над разгорнутым дакументазборам санаторным і, адшукаўшы прозвішча маё, прамовіў задаволена:

—Забітых няма, усё больш напалоханыя, а з параненых — вы адзін!

—Вы пра ката забылі,— напомніў я

—Якога ката?





—Якога на калідоры кантузіла.

—Гэта чужы. Ён да нашае кошкі з санаторыі суседняе бегае...

Прадстаўнік адлічыў мне кампенсацыю — дзве банкноты па пяцьсот у валюце паўднёвай.

Я распісаўся ў графе каля пальца ягонага, выпіў яшчэ піва пасля ўдачы такое каларыйнае, на лаўцы пад кіпарысам знаёмым пасядзеў і што да чаго прыкінуў.

Але доўга што да чаго прыкідваць не давялося мне. Насупраць кіпарыса тармазы скіргатнулі, і з таксоўкі разам з таксістам дымнавокім выперся сусед мой мукавозны Пад каньячнаю мухаю, вядома. Бачу: пра Сінгапур бананавы пяючы, у пакой начальніка аэрапорта патрухаў Даведаўся хутка, дзе халява бліскае.

А таксіст побач са мною прысеў і стаў у мяне цаляць допытам мілітарным. Дужа цікавіла яго, дымнавокага, колькі на Камароўцы нашай аўтамат каштуе, колькі пісталет і колькі патроны...

Гамонка ў нас братняя завязалася, але яе, гамонку гэтую, мукавоз п'яны сапсаваў. Вярнуўся задыханы, злосны. Не далі яму, небараку, кампенсацыю, бо ноччу гэтай у санаторыі не начаваў ён На мой лад, і добра зрабілі, што не далі. За што ж даваць? Да ранку самага цешыўся недзе, страху й на грам не нажыўшы.

—Не пашанцавала табе,— спачуваю па-суседску,— а мне за ноч гэтую баявую ажно тысячу ў валюце паўднёвай чылікнулі. І не так ужо за ноч, як за палец паранены, куляй прабіты!

Пры словах «тысячу ў валюце паўднёвай» мукавоз вушамі, як торбамі пустымі, трэсці пачаў, а пры словах «палец паранены, куляй прабіты» ўжо таксіст капытнуўся Чамусьці галаву ўскінуў, як конь напуджаны.

Я прымоўк, небяспеку чуючы, а плячыма глыбей у кіпарыс палез.

—Тысячу! — застагнаў мукавоз.— Тысячу ў валюце паўднёвай!

—А што цябе казытнула гэтак? — здзівіўся я.— Ты ж усю ноч валачыўся недзе! Пра Сінгапур спяваў!

Але мукавоз тут мне такое вывернуў, сліну п'яную глытаючы, што ажно з кіпарыса на маю патыліцу голкі гарачыя пасыпаліся·

—А цябе таксама гэтай ноччу не было ў санаторыі! Ты ж са мной у горадзе быў!

Гузікам на грудзях маіх цесна стала, і шнуркі на чаравіках ад гневу праведнага задыхацца пачалі. Інтэлігентны я — гэта так! Але зараз, інтэлігентнасць мая невылечная, знікні! Дай мне таксама ў крык уехаць, каб ад няпраўды лютае адбіцца ды грошы сумленна заробленыя абараніць:

—Гэта мяне ў санаторыі не было?! Мяне?! А хто тваім ложкам парожнім дзверы падпіраў? А хто венікам салдацкім дыхаў? А хто ката кантужанага да самага ранку слухаў? А палец, куляй паранены, які ў дулю не складваецца!

Таксіст дымнавокі, зноў пачуўшы пра мой палец паранены, з лаўкі падхапіўся, але мукавоз не даў яму загаварыць, на мяне нападаючы·

—Брэшаш! Зараз не паланюся і начальства паклічу Яно абгрызе цябе, як тараніну!

І паклікаў вушасты

Прыйшоў прадстаўнік «Берага залатога», дакументазбор санаторны пад пахай трымаючы, і прыйшлі ўсё тыя ж амонаўцы два.

—Вы яму памылкова кампенсацыю выдалі,— паказаў на мяне дзесяцьмю пальцамі мукавоз ашалелы,— у ноч гэтую яго таксама ў санаторыі не было!

Прадстаўнік «Берага залатога» паперы свае на лаўцы акуратна расклаў, прозвішча маё хутка знайшоў і супакоіў мукавоза:

—Кампенсацыя выдадзена правільна. У журнале нашым зафіксавана прысутнасць спадара Дранько-Майсюка (дарэчы, Дранько-Майсюк — гэта прозвішча маё) у сваім пакоі падчас нападу баявікоў нявыяўленых.

—Гэта ён вахцёра падкупіў, і той адзначыў яго прысутнасць! — мукавоз ледзьве не плакаў, нагамі ў пяску паўднёвым блытаючы.

Але тут ужо таксіст не змоўчаў, выручыў:

—Он быль у сваей комнате. Я сам ево відэл.

У мукавоза вушы апусціліся

Здаецца, працверазеў нават

З таксістам сварыцца не захацеў і, не чакаючы, што на хлусню ягоную амонаўцы скажуць, скокнуў за кіпарыс некуды — хавацца пабег

Нічога, падумаў я, не схаваешся — я цябе і ў самалёце выхаплю.

А пакуль я думаў, прадстаўнік залатабярэжны пажадаў мне дарогі шчаслівае і са сваімі хлопцамі збройнымі ў пакой начальніка аэрапорта вярнуўся.

Сам-насам з таксістам застаўшыся, стаў я дзякаваць яму, піва прапаноўваць і яшчэ нешта такое дружбацкае.

—Э, нэт, піва нэ нада,— строга сказаў таксіст,— давай палавін кампенсацый!

—Як гэта палавін?!

—А так палавін і фсё. Ты ведзь тожа враль. Нікакой у тыбя не рана пулевой, патаму что стрэлялі ў санаторый патронамі халастымі. Пісталеты новыя правярялі. Адзін эфендзі турэцкі ў «Залаты бераг» прыехаль пісталеты прадаць. . Я там быль ноччу Знаю.

І таксіст паказаў мне пісталет — чорны такі, з зорачкай савецкаю збоку.

І мусіў даставаць я банкноту пяцьсотную ў валюце паўднёвай.

—Беру толька палавін. Астальной палавін ты заработаль чэсна... За маральны фшчэрб,— растлумачыў таксіст і ўсміхнуўся радасна, дымнавока...

У самалёце ж — не я мукавоза, а ён мяне выхапіў. Як толькі ўзляцелі, наваліўся на мяне з пляшкаю адкаркаванаю:

—Давай палавіну!

Мяне ажно да столі круглае падкінула — і яму палавіну! Што ж тады ад валюты паўднёвае застанецца?! Той, дымнавокі, хоць з пісталета дым пускаў, а гэты, п'янюга, што?!

—Не дам! — крычу мукавозу п'янаму, кулакі свае злосцю напаўняючы.

—Ну, тады самалёт бухну,— паабяцаў мукавоз і пачаў губамі пляшку лавіць.

Я ратавацца кінуўся ў закутак пілоцкі.

А там, у закутку пілоцкім, сцюардэска сіняя кліпсамі якраз пазвоньвала.

—Дык абяцаў самалёт бухнуць? — ажывілася сцюардэска сіняя.— Тады пра ўмовы ягоныя трэба даведацца.

І, як па пляжы лагодным, па праходзе ў глыб самалёта пашпіліла.

Ну, і я ўслед за ёю калыхнуўся — няёмка ж было кабетку гэтую вясёлую адну да мукавоза дапускаць. .

Падыходзім гэта, пляшку парожнюю абмінаючы, — аж мукавоз вушасты ў крэсле маім засынае ўжо. І засынаючы, песеньку пра Сінгапур бананавы старанна губамі вывярушвае.

—Сінгапур?! Далекавата! Але калі дазаправіцца ў Дубаі, то даляцець можна! — усклікнула сцюардэска сіняя і, траха не паваліўшы мяне, да камандзіра пабегла.

Задаволены, што рэшта валюты паўднёвае пры мне застанецца, я заняў крэсла мукавозава, а самалёт тым часам развярнуўся і паляцеў у Сінгапур бананавы.

24 ліпеня — 22 снежня 1992

# Пра тое, як я, Абрам Ісакавіч ды Ісак Абрамавіч з Рамонтам Капітальным пасябравалі

*Апавяданне*

Абрам Ісакавіч нада мною жыў, а Ісак Абрамавіч пада мною. Апошні год жылі, бо Туды назаўсёды ехалі і ўжо кватэры свае, Туды назаўсёды едучы, збіраліся сваякам любым перадаваць, аднак жа мусілі затрымацца крыху, бо ў наш дом яшчэ пабудовы сталінскае Рамонт Капітальны з'явіўся нечакана. У двары вагончык гатэльны паставіў з дошкамі негабляванымі ўсярэдзіне і вось інтэлігентна гэтак з'явіўся.

Дык вось, Рамонт Капітальны прыйшоў да ўсіх нас адначасова — на тое ж і Капітальны ён.

Абрам Ісакавіч уздыхнуў, гледзячы на вагончык гатэльны:

—Гэта, як егіпет.





І Ісак Абрамавіч уздыхнуў, туды ж сама гледзячы і пра той самы егіпет прамовіўшы.

А я не ўздыхнуў і нічога такога прамаўляць не збіраўся. Я да Рамонту Капітальнага, як да сябра новага, старанна прыглядацца пачаў. І спадабаўся ён мне, Рамонт Капітальны — вельмі спадабаўся. Уважлівы такі, клапатлівы і з позіркам быў ён не проста гастраномным, а даверліва-шчымлівым, нават лірычным нейкім. Пэўна, што памыліліся суседы мае дарагія Абрам Ісакавіч ды Ісак Абрамавіч, егіптам яго абзываючы Хаця я разумею іх. Калі Туды збіраешся і раптам затрымлівае што, то тады нават і Халімон пра егіпет успамяне.

Не адхіляючыся далей на Халімона, скажу: пасля яго, Рамонту Капітальнага, кватэра мая без падману ніякага ў версаль ператварылася Усё-усё было зроблена, усё пад шнур падведзена, пад ключ падагнана. Засталася драбяза пустая, ну драбязушка такая паштовая — газ падключыць засталося.

І ў Абрама Ісакавіча з Ісакам Абрамавічам свае версалі ад падлогі да столі зазіхацелі, таксама ўсё-усё было зроблена, усё пад шнур чыста выведзена. Праўда, і ў іх драбяза адна штэмпельная засталася — усё той жа газ непадключаны.

Ды ці бяда гэта, скажаце, калі ўсе кватэры нашыя ў версалі зіхатнуліся!

Не, не бяда, таму павесялеў я, і Абрам Ісакавіч з Ісакам Абрамавічам павесялелі таксама і пра егіпет не ўспаміналі болей. Натхнёна на газ выглядаць сталі.

Неяк Рамонт Капітальны, у дзверы далікатна пазваніўшы, спытаўся ў мяне:

—А ці ведаеце вы, што Беларусь нашая — дзяржава ўжо незалежная?

—Ведаю! — з гонарам адказаў я.

—А ведаеце, што з-за гэтага Расія газ адключыла?

Напалохаўся я, пачуўшы такое.

А тут суседы мае дарагія падышлі, Абрам Ісакавіч з Ісакам Абрамавічам, і не менш за мяне напалохаліся. Не за сябе, вядома,— за сваякоў сваіх любых, якім кватэры пакідаць збіраліся.

—Трэба рыхтавацца,— таямніча сказаў Рамонт Капітальны,—я вам зараз праводку для электраплітаў зраблю. На ўсякі выпадак...

—І газавыя пліты на электра памяняеце? — спытаўся я

—Не, не памяняю. Электраплітаў няма, а праводка будзе,—суцешыў усіх нас Рамонт Капітальны.

—Гэта ж сцены адрамантаваныя пашкодзяцца! — забедаваў я.

—Так, трошкі падзяўбу іх.

Шкада мне сцен сваіх версальскіх зрабілася, а Абраму Ісакавічу з Ісакам Абрамавічам сваіх, і таму не захацелася нам электраправодак пустых без электраплітаў ніякіх.

—Можа, пачакаем,— прапанаваў я,— можа, Расія яшчэ перадумае.

—Можа, і перадумае,— разважліва згадзіўся Рамонт Капітальны і шляхетна вырашыў пачакаць у мяне на кухні, пакуль Расія перадумае.

А заўтра ён чакаў, пакуль Расія перадумае, на кухні ў Абрама Ісакавіча, а паслязаўтра — на кухні ў Ісака Абрамавіча. А пасля зноў у мяне. І гэтак па чарзе.

Расія нешта доўга перадумвала, і мы такі добра паспелі пасябраваць з Рамонтам Капітальным.

Душа ў Рамонта Капітальнага была светлая, зусім датклівая. Я сказаў бы нават — патрыятычная была душа ў нашага Рамонта Капітальнага. Гэта я зразумеў, калі ён са слязою блакітнаю пра жонку сваю каханую расказваў, пра кабецінку сваю авантурную паведаміў, якая што толькі ні рабіла, якія штукі фінансавыя ні выкідвала дзеля таго, каб толькі з'ехаць з Беларусі незалежнае куды-небудзь Туды — за мяжу далёкую. Але ёй пакуль, небарацы, не шанцавала — то з грашыма, то з дакументамі нейкая там хвароба заўсёды выкручвалася. Аднак жа яна, спадніцу вандроўную высока задзёршы, апускаць яе і не думала — гэта значыць, надзеі не губляла і не адна мерылася з'ехаць з Беларусі, а з ім, Рамонтам сваім Капітальным, што быў закаханы ў яе па малаток самы. А ён ехаць не хацеў, не жадаў пакідаць назаўсёды свой вагончык гатэльны.

—Вы толькі падумайце... Пакідаць радзіму незалежную.. —казаў разгублена Рамонт Капітальны,— вы толькі падумайце...

І мы думалі, думалі пры ім, а найбольш думалі тады, калі заставаліся самі, калі Рамонт Капітальны вяртаўся ў свой вагончык гатэльны, каб крыху паспаць на дошках негабляваных.

Кожнага ранку, грэючы ці смажачы што-небудзь кіпяцільнікам фіялетавым, я з надзеяй глядзеў на пліту газавую, і тое ж самае рабіў нада мною Абрам Ісакавіч, а пада мною Ісак

Абрамавіч. І кожнага ранку да нас прыходзіў Рамонт Капітальны, і зноў драматычна расказваў пра сваю жонку любую, якая з роспачы неверагоднае згодна была жыць хоць у Бурундзі А мы, слухаючы, між тым усё чакалі, калі гэта Расія перадумае.

І, мусіць, мы доўга чакалі, бо зноў жа Абрам Ісакавіч уздыхнуў·

—Гэта, як егіпет

І Ісак Абрамавіч таксама ўздыхнуў і тое ж самае прамовіў

А я не ўздыхнуў і нічога такога прамаўляць не збіраўся Я спачуваў Рамонту Капітальнаму Гэта ж трэба, ён можа нізавошта апынуцца не ў якой-небудзь Зэльве заслонімскай, а ў Бурундзі бужумбурным! І жыві там як хочаш без вагончыка гатэльнага з дошкамі негабляванымі ўсярэдзіне.

Аднойчы, калі ён спаў, да яго з лямантам пляжным жанчына нейкая ўбегла, і мы здагадаліся, што гэта жонка ягоная, тая самая кабецінка няўседная, што так палымяна марыць пра замежжа далёкае. І яшчэ мы здагадаліся (вядома ж, меркавалі па вясёлым лямaнце пляжным), што ёй нарэшце пашанцавала, што ёй толькі што нешта дужа гарачае бліснула

Так яно й было.

Рамонт Капітальны, падняўшыся да нас, голасам трагічным паведаміў, што ўсе варыянты ранейшыя былі нічога не вартыя, а вось цяпер для жоначкі ягонай усё як мае быць збеглася. Для жоначкі ягонай і, мусіць, для яго самога. Адзін студэнт эфіопскі за два халадзільнікі «Мінск» узяўся перавезці іх Туды праз мора Чырвонае.

Суседы мае дарагія, пачуўшы навіну такую, ажно здрыгануліся

Рамонт Капітальны прызнаўся, што яшчэ не ведае, як яму быць, але жоначка быццам супакоіла, быццам сказала, што і Там ён застанецца Рамонтам Капітальным, нават са сваім вагончыкам асабістым, на якім слова «Беларусь» можна будзе напісаць.

—А ці можна Там слова такое на сваім вагоне пісаць? —раптам спытаўся ён з тугою заклапочанаю ў Абрама Ісакавіча з Ісакам Абрамавічам.

—Можна,— вельмі сумна адказалі яму суседы мае дарагія.

—Тады еду,— канчаткова супакоіўся наш Рамонт Капітальны

Канчаткова супакоіўся і больш на паверхі нашыя не падымаўся. З ранку да вечара невылазна сядзеў у вагончыку сваім. Мусіць, заняты быў ад'ездам спешным, зборамі

Да яго, дарэчы, некалькі разоў студэнт эфіопскі прыходзіў Аднаго разу яны пасварыліся, але тут жа, на двор выбегшы, памірыліся Нават вельмі прачула «Даставай, Яззп, гармонік» праспявалі, вярнуўшыся на дошкі негабляваныя

А мы тым часам яешні свае ўсё яшчэ кіпяцільнікамі смажылі і ў любую хвіліну былі ўпэўненыя, што Расія перадумае.

Аднак час ішоў, і кіпяцільнікі фіялетавыя псавацца пачалі, і зусім невядома, чым бы нашае чаканне гераічнае скончылася, каб гэта не паднялася да нас жонка Рамонту Капітальнага і без ніякага там лямaнту пляжнага ціха, ветліва спытала:

—Вы хочаце, каб награвальнікі вашыя дарэшты не сапсаваліся?

—Хочам, спадарыня! — адказалі мы гучна.

—А каб Расія перадумала, вы таксама хочаце?

—Таксама хочам!

—Тады давайце на два халадзільнікі мінскія!

Доўга па кішэнях не лазячы, адлічылі мы колькі сказана было і мелі рацыю поўную, бо амаль выбухова, ну праз паўгадзіны нейкія, з вагончыка свайго ўтульнага Рамонт Капітальны выйшаў, а за ім услед і студэнт эфіопскі выцягся. Яны разам, як піяністы якія, у чатыры рукі чорна-белыя нейкі шпунт за вагончыкам выбілі і газ да плітаў нашых сам па сабе падключыўся .

А неўзабаве з Абрамам Ісакавічам і Ісакам Абрамавічам я назаўсёды развітаўся

Цяпер нада мною жыве Якаў Саламонавіч, сваяк Абрама Ісакавіча, а пада мною — Саламон Якаўлевіч, сваяк Ісака Абрамавіча.

З суседзямі новымі я хутка сышоўся.

Збіраючыся за гарбаткаю вечароваю, мы дзеля спакою ўласнага часам угадаць збіраемся — а хто ж гэта хутчэй Туды дастанецца? Абрам Ісакавіч з Ісакам Абрамавічам, што на самалёце законна паляцелі, ці наш Рамонт Капітальны з жонкаю сваёю валацужнаю, што за два халадзільнікі мінскія па моры Чырвоным паплылі кантрабандна?

26 ліпеня 1992





# Пра тое, як я ў Парыжы са спадарыняй Ф сустрэўся

*Апавяданне*

Свет цяпер такі — конкурсны Толькі й гаворкі, што аб храстве жаночым ды аб шчасці, якое з храства гэтага выціснуць можна. Усе гавораць. А найбольш дык самі прыгажуні басавіта прамаўляюць. Чыя б ні была — польская ці руская,— кожная аб шчасці сваім панскажаніховым уголас тужліва марыць.

А што ж нашая прыгажуня, беларуская?!

І нашая прыгажуня, спадары дарагія, таксама тугою спавітая, таксама аб гэтым самым лёсе панскажаніховым шчыра маркоціцца.

Часам ёй шэпты чуюцца. То шэпты чыстыя, а то й зусім нячыстыя Шэпты нячыстыя прапануюць прыгажуні нашай па сцежках прайсціся, па якіх Наста Пабягунская бесклапотна гойсала. Маўляў, шчасце жаночае тут. А шэпты чыстыя раяць шчасцю гэтаму ў Паўлінкі павучыцца.

Не ведаю, спадары, як там польская ці руская, а наша прыгажуня абачлівасці хоць якой усё ж трымаецца і па сцежках Насты Пабягунскай так адразу — на згубу завушніц — не пусціцца Праўда, і на Паўлінку асабліва ўзірацца не будзе, бо што ёй Паўлінка цнатлівая з яе андаракам вечным, калі ўборы мсье Кардэна больш вабныя

Вагаецца прыгажуня нашая, усё выгадвае, да якога пінжака мужчынскага прыхінуцца, каб гэта льга было ў момант зручны з пінжака таго надзерці гузікаў залатых жменю поўную.

Шэпты шэптамі, а выбіраць, у каго падвучыцца крыху,—самой трэба.

І, нарэшце, выбірае яна.

Выбірае ў настаўніцы Натальку — каханку Машэкаву І ў выбары такім, вядома, рацыю мае поўную. Ці ж кепска, да Натальці практычнае сябе падстроіўшы, знайсці Машэку свайго?! Машэка дужы, даверлівы, з ім надзейна і, галоўнае, ён без памяці кахае. Выгода круглая, бо такога, даверлівага і закаханага, з часам вельмі лёгка можна і на пана багатага памяняць.

Праўда, Машэкава Наталька пана багатага не шукала. Пан сам яе вылавіў. Ну дык і што з таго? Нашай прыгажуні нават цікава іншы раз, не чакаючы, самой на пошукі панскажаніховыя кінуцца. Ну так, як гэта спадарыня Ф зрабіла, з якою выпадкова я ў Парыжы сутыкнуўся

Спадарыня тая ўжо й не спадарыня як быццам, а madame парыжская, але буду называць яе спадарыняй з пачуцця патрыятычнага, а таксама з пачуцця паэтычнага, бо перш за ўсё яна — русалка з берагоў Беразіны славутае.

Пра свой жа пошук удалы распавяла яна мне эпапею гісторыка-неверагодную, сюжэтам ажно ў 1812 год скіраваную.

Собіла ж было прапрадзеду яе выйсці на Беразіну марозную ў тым самым годзе 1812-ым, каб у 1991-ым, свайго машэку магілёўскага кінуўшы, спадарыня Ф у Парыж на скрут галавы паляцела..

Прапрадзед жа з дачкой сваёю — гэта значыць, з прабабкай спадарыні Ф — паўз Беразіну ішоў і раптам згледзеў, што конь французскі пры самым беразе паміж лёду праламанага тоне. Ну і, вядома ж, ратаваць яго кінуўся, ускораў накінуць на шыю конскую вяроўку і выцягнуў змучаную жывёліну з пасткі небяспечнае.

—А гэта што за корч такі?! — здзівіўся раптам, уцяпляючы каня кажухом сваім.

—Гэта ж пранец, тата,— падказала дачка.

Прапрадзед спадарыні Ф у гарачцы не заўважыў, што разам з канём выцягнуў і французскага кавалерыста, які паспеў ухапіцца за конскі хвост.

—Скідай кажух,— загадаў дачцэ,— і накрый пранца!

Задубелага кавалерыста ледзьве ўвалаклі ў хату і паклалі на лаву шырокую пад іконы самыя.

Да вечара ён ачуняў, крыху заварушыўся, але з ног да галавы ўсё адно яшчэ быў, як гічына прывялая.

Прапрадзед спадарыні Ф загадаў прабабцы ейнай накарміць госця, і тая накарміла француза капустай поснаю.

І назаўтра поснае было, і на паслязаўтра. Хворы з яды такое ажно дыхаў цяжка.

—Упаў ты на галаву маю, пранец,— уздыхнуў прапрадзед,—не квасам цябе, а мясам трэ на ногі ставіць.

Ён зламаў аб калена шпагу кавалерыставу і, сеўшы пры лучыне, пачаў рэшту ляза гастрыць.

Нагастрыўшы, растлумачыў французу·

—Вашыя, калі на Маскву пёрлі, швайку маю з цвіка знялі. Няма чым і парася закалоць.

Зірнуўшы на шпагу сваю, у швайку ператвораную, француз ажно да сцяны са слязьмі пякучымі адвярнуўся Так яму зброю зняважаную шкада стала!

А прапрадзед тым часам парасяці адзінага не пашкадаваў, закалоў яго зломкам шпагі нагостраным і француза хворага ўсю зіму доўгую карміў па-панску.

Паздаравеў француз, паспрытнеў і, вядома ж, уцяміў, у якія людзі цудоўныя ўбіўся ён. Ад удзячнасці вялікае ўсё намерваўся пацалаваць гаспадару ягоныя далоні карэлыя, ды той адпіхваўся абурана: адыдзі, пранец! Але француз не стамляўся ўдзяку сваю выказваць і неяк на мігі паказваць пачаў, што ён сына мае і вельмі б добра было, каб гаспадар адпусціў з ім у Францыю дачку сваю. Там бы дзеці іхнія і пажаніліся б.

Здагадаўшыся, пра што француз акрыялы малоціць, прапрадзед спадарыні Ф пасмяяўся толькі, і ўсё на гэтым.

Прыйшла вясна, а з ёю і развітанне шчырае.

Прапрадзед спадарыні Ф надакучлівага француза ў лапці абуў, світку новую даў, сала ў торбу ўкінуў і на захад паказаў —ідзі, пранец! І француз, паабяцаўшы, што ён усё ж даможацца, каб іхнія дзеці пажаніліся, пешкі пайшоў да Францыі далёкае, на ўсю Еўропу славячы селяніна беларускага. Заўсёды цяжка кавалерысту без каня, але дайшоў, дзякаваць богу, і без каня да хаты свае парыжскае і расказаў сямейнікам узрадаваным, хто яго выратаваў, хто яго мясам зіму доўгую карміў, хто ў лапці мяккія абуў, світку новую даў і сала на дарогу ў торбу глыбокую ўкінуў. Праўда, шкадаваў надта, што без каня вярнуўся (каня — дзіва што — пакінуў сабе прапрадзед спадарыні Ф) і што шпагу сваю каштоўную назаўсёды страціў. А пра жаданне ажаніць сына з дачкою выратоўцы свайго неяк шэптам невыразным паведаміў — ну як пра нешта самае нязначнае такое. А неўзабаве й зусім пра абяцанне сваё гарачае забыўся

Крыўдная гэта забыўлівасць, спадары дарагія, для ўсёй нацыі нашай незалежнае, таму й сказаць будзе не грэх, што памяць у французаў толькі тады моцная, калі іх з палонкі разам з канём выцягваеш.

Але слаба яны ведаюць нас, людзей балотных!

Вопыт спадарыні Ф засведчыў, што мы, калі толькі трэба, свайго не ўпусцім — і праз дзвесце гадоў рогі каму хочаш накруцім...

Турнуўшы машэку свайго магілёўскага, спадарыня Ф вельмі ж зацікавілася паданнем сямейным пра кавалерыста французскага. «Дык, значыць, абяцаў свайго сына з маёй прабабкаю ажаніць і не ажаніў, паразіт!» — справядліва абурылася спадарыня Ф і тут жа мудра разважыла, што абяцанне такое з-за даўнасці гадоў гінуць не павінна — няхай нашчадкі яго разлічваюцца!

Дзеля аднаўлення справядлівасці святое, яна старанна даследавала зломак шпагі і знайшла на ім надпіс прыцьмелы. Працёрла чужыя літары алеем дэфіцытным і, дзякуючы слоўніку французскаму, прачытала, што шпагу гэтую мужнаму афіцэру Б уручыў не хто-небудзь, а маршал Даву!

Ці трэба доўга здагадвацца, што афіцэр Б — ніхто іншы, як пранец забыўлівы, які забыўся на пачатку стагоддзя мінулага сына свайго пад страху магілёўскую пусціць.

Шанцуе ж і нам, бывае!

Займеўшы прозвішчы пэўныя, спадарыня наша вырашыла неадкладна дзейнічаць. Натхняючы сябе класікай роднай: «На беларускую дзяўчыну, калі тут праўду ёй аддаць, ніхто йшчэ каменем ня кінуў і не наважыцца кідаць»,— у Парыж папярэдзе сябе паскакала і пошукі бурныя распачала нежанатага прапраўнука мужнага афіцэра Б.

Адчуваю, спадары дарагія, з недаверам хочаце спытаць вы: ці знайшла спадарыня Ф прапраўнука нежанатага мужнага афіцэра Б?

Адкажу вам радасна: знайшла!

—І якраз нежанатага?! — з яшчэ большым недаверам перапытаеце вы.

—Якраз нежанатага! — выгукну я.

—І гэта быў сапраўды прапраўнук менавіта таго кавалерыста, што, бухнуўшыся ў Беразіну, паспеў за хвост конскі ўхапіцца?! — вашаму здзіўленню не будзе мяжы.

—Сапраўды, таго самага кавалерыста, спадары дарагія!

—Фантастыка дый толькі!!!

—А я пра што, спадары, вядома, што фантастыка! Можа, яшчэ спытаеце, што ён пасмяяўся з нашай спадарыні Ф і, чаго добрага, нават каменем у яе кінуў?

—Не, не будзем пытацца!.

Правільна, не трэба пытацца, бо прапраўнук афіцэра Б не пасмяяўся са спадарыні Ф і ніякім каменем не кінуў Які ні ёсць, а француз усё-ткі. Хоць і лупаты, але галантны З'яўленню спадарыні Ф быў дужа рады, а над кавалкам шпагі прапрадзеда свайго нават паплакаў крыху.

Спадарыня ж нашая, не чакаючы, пакуль ён слёзы вытра, пра абяцанне колішняе афіцэра Б нагадала, якое некаму ж з роду іхняга французскага выканаць патрэбна.

Малады француз не здзівіўся напаміну такому Ён запэўніў спадарыню Ф, што запазычанасць маральную продка свайго слаўнага возьме на сябе І тут жа са спадарыняй Ф заключыць кантракт шлюбны на два гады. Але... Але як толькі яна аплоціць кошт маёмасці канфіскаванай. І тут ён дастаў паперу даўнюю, на якой рукою мужнаю афіцэра Б былі ягоныя страты пералічаны: конь, сядло, шпага і батфорты.

Такія падлікі неславянскія абразілі спадарыню Ф. Якая там яшчэ маёмасць канфіскаваная? Якія там страты і кантракт фіцюлевы, калі абяцанне продкава спаўняць трэба, бо яно, абяцанне тое, і за тысячу гадоў не расцячэцца ў памяці магілёўскай вадою голаю!

З гарачкі справядлівае спадарыня Ф сама ў атаку кінулася: а хто заплоціць за швайку, з цвіка знятую, ды парася заколатае? А за світку новую ды лапці мяккія з салам на дарогу? Га?!

Пра капусту лосную сказаць не паспела, бо француз малады на калькулятары тут жа прыкінуў, што швайка, парася, світка, лапці і сала на дарогу — гэта дваццаць пяць працэнтаў ад той запазычанасці, якую спадарыня Ф павінна яму выплаціць. Ён, француз малады, велікадушна гэта ўлічвае, таму выплаты застаецца толькі семдзесят пяць працэнтаў

«А каб ты спрах, лупаты, з калькулятарам сваім!» —падумала спадарыня нашая і нават пашкадавала, што яе прапрадзед рухавы тады на Беразіну марозную папёрся. Няхай бы ўжо тануў і конь той французскі, і кавалерыст напалеонаўскі! Галава б цяпер спакайнейшая была...

Развіталіся ж, аднак, ветліва.

Было відаць, што француз малады ўсё ж упадабаў спадарыню Ф Ручку яе цалуючы, растлумачыў лагодна, што калі іхняя спрэчка фінансавая ўладкуецца і яны кантракт шлюбны заключаць, то спадарыня Ф гады са два пажыве ў гатэліку прыстойным, ні за што не плоцячы — ні за пасцель, ні за яду А ён, француз малады, будзе наведваць яе два разы на тыдзень. З кветкамі! Ну а пасля, пасля двух гадоў гатэльных, каханне іхняе ў яго дамку мацавацца будзе. Ну, як — сонечна?!

А чаму б і не сонечна, бо спадарыня Ф, зломак шпагі французу маладому не пакінуўшы, адступаць не намервалася. Не дзеля таго яна машэку свайго магілёўскага турнула і алеем дэфіцытным літары чужыя працірала, каб французіка гэтага лупатага з рук сваіх працавітых выпусціць? Не! Не дзеля таго! Таму зноў у пошукі бурныя самохаць укінулася і неўзабаве дарадчыка знайшла сабе разумнага — нейкага армяніна Г. Армянін Г эмігрантам быў нядаўнім і майстрам вялізным на ўсялякія штукі грашовыя.

Калі сустрэліся, армянін Г у настроі цудоўным быў, бо толькі што дваццаць тысяч пісталетаў Макарава, ажно ў Іркуцку здабытых, выгодна ў Алжыр перакінуў...

І дапамог зычліва бізнесмен каўказскі, хітрасці тыя камерцыйныя падказаў, якімі можна адразу ж паваліць француза маладога.

—Перш-наперш, трэба выставіць на аўкцыёне зломак шпагі,—параіў армянін Г,— адно толькі імя маршала Даву, на эфесе алеем дэфіцытным працёртае, грошы прынясе немалыя.

На грошы гэтыя трэба фірму ўтварыць франка-беларускую. Фіктыўную, вядома. Фірму, скажам, па вырабу мэблі з лазы. У Парыжы такая мэбля высока цэніцца. Дарэчы, а ці шмат расце лазы на берагах Беразіны?

—Шмат! — упэўнена адказала спадарыня Ф

—Ну, калі так, то фірму нашую назавём «Пераправа праз Беразіну» Для страхавітасці большай. Французскі бок яе буду прадстаўляць я. Беларускі, само па сабе, вы У Парыжы адкрыем філіял фірмы, а таксама рахунак падманны ў банку на вашае імя Рахунак, скажу вам, павінен адразу налічваць мільярдныя сумы. Гэта, вядома, клопат мой. Я страхаваць вас буду па ўсіх параграфах, але мушу папярэдзіць, што пяцьдзесят працэнтаў выручкі аўкцыённай — мой ганарар.

У спадарыні Ф не толькі ў галаве — нават у пятах усё закружылася, і яна згадзілася з такім тарыфам рабаўніцкім

—Калі так, то вашым праблемам канец! — задаволена прамовіў армянін Г — Мае людзі дастаткова артыстычна паведамяць французу вашаму, якую жанчыну, багатую і прыгожую, ён страціць можа, калі не адмовіцца ад тых міфічных сямідзесяці пяці працэнтаў за каня дохлага і сядло рванае і гэтак далей, а таксама калі з галавы не выкіне зневажальную для вас прапанову наконт кантракту шлюбнага. Так-так, зневажальную менавіта для вас — уладальніцы саліднай фірмы!

—І што ж далей? — усё яшчэ не верыла ў сваю зорку спадарыня Ф збянтэжаная.

—Даведаўшыся пра ваш рахунак мільярдны, ён сваімі ж рукамі раздзярэ паперку продкаву і без ніякіх там кантрактаў шлюбных будзе рукі вашай напрамілы бог прасіць. Французаў я ведаю! Дарэчы, вы самі яму кантракт прапануеце, натарыусам засведчаны.

—Вы пра што гэта? — напалохалася спадарыня Ф.

—Кантракт аб тым, што не толькі вы, але і ён, ваш муж, будзе валодаць маёмасцю вашай,— армянін Г фрывольна ўсміхнуўся і разважліва дадаў· — Мужчынам французскім надакучылі француженкі А славянкі ў Парыжы заўсёды цаніліся, асабліва багатыя. Верце майму слову шчыраму, неўзабаве ў нашай фірме «Пераправа праз Беразіну» з'явіцца раўнапраўны кампаньён — ваш муж законны. Так што віншую!

—А калі ён здагадаецца пра ўсё? — выказала сваю трывогу апошнюю спадарыня Ф.

—Я і мае людзі ўсё зробім, каб за першы год вашага жыцця сумеснага ён ні аб чым не здагадаўся А пасля . Ну, калі здагадаецца, то, па-нашаму кажучы, няхай на развод падае. У такім выпадку палова яго маёмасці за вамі застанецца. У вас з'явяцца рэальныя грошы і свабода. Можаце жыць тады весела і чакаць сапраўднага каханага. Аднак да разводу не дойдзе.

І што, спадары дарагія, зноў спытаеце: як напрарочыў армянін зычлівы, так і выйшла?

Абсалютна так — і з аўкцыёнам, і з фірмаю, і з палкімі залётамі француза маладога! Паперку продкаву ў адчаі невыносным ён ледзьве не на грудзях сваіх спаліў і ў адзін момант у мэры бліжэйшай спадарыню нашую ў madame сваюператварыў Пра кантракт шлюбны, ведама ж, і не гугукнуў болей. Захоплены новай перспектывай эканамічнай, з мэры бліжэйшай адразу ж скокнуў у кантору натарыяльную і там з радасцю невераемнай падмахнуў пагадненне выгоднае аб узаемных умовах валодання маёмасцю незлічонай спадарыні Ф.

Вось як пашанцавала, спадары дарагія, прыгажуні магілёўскай! А ўсё таму, што на Паўлінку цнатлівую доўга не ўзіралася ды з Настай разбэшчанай у цыркі не гуляла. Усё таму, што да Натальскі Машэкавай своечасова прыхінулася. Усё таму, што Натальку практычную ў павадыркі сабе выбрала!

Праўда, крыху няўтык з армянінам Г надоечы адбыўся.

На днях з Парыжа вестка сумная прыйшла, вестка такая —на аўкцыёне армянін Г выставіў зломак шпагі падроблены, і паліцыя ўжо кінулася шукаць праўдзівы зломак, а таксама і армяніна самога.

Ашалець можна!

Хаця свет наш цяперашні — конкурсны У ім і не такое вылупіцца можа

Спадзяюся ж аднак, што спадарыню Ф шаленства тое праміне, і француз малады ад яе не адлепіцца. А вось фірма «Пераправа праз Беразіну» без легальнага прыкрыцця армянскага, чаго добрага, ляснецца. А шкада, бо ў Парыжы надта ж любяць мэблю з лазы

7 снежня 1992 — 23 кастрычніка 1994



# Францішак Вядзьмак-Лысагорскі

ТЫ



*Францішак Вядзьмак-Лысагорскі (ён у капелюшы) гутарыць з супрацоўнікамі «Крыніцы».*

# Сказ пра Лысую гару

## *Пра аўтара і пра паэму: РАЗВАГІ І ДАСЛЕДАВАННІ*

## Гутарка з Францішкам Ведзьмаком-Лысагорскім

# Сказ пра Лысую гару

*Кананічны тэкст*

**Ад аўтара**

Праз пяць гадоў пасля таго, як дата 7.7.1975 засведчыла, што праца над «Сказам пра Лысую гару» завершана, я мусіў зноў вярнуцца да гэтай рэчы і трохі папрацаваць над ёй, каб нарэшце канчаткова паставіць кропку. Перачытваючы паэму, я ўбачыў, што ў ёй трэба зрабіць пэўныя скарачэнні і праўкі. З адлегласці ў часе стала відочна, што сёе-тое ў творы аказалася драбнаватым, занадта прыватным, такім, што пераключае сацыяльную сатыру на лад сямейна-літаратурнага капусніка. Прызна́юся, скараціць мне хацелася намнога больш, але я ўстрымаўся ад гэтага. Хай застанецца і трохі прыватнага! Усё-такі — дакумент свайго часу! Што ж датычыць правак — яны не шматлікія: перарабіў некаторыя строфы або радкі, пашукаўшы больш дакладны, як мне здаецца, паэтычны вобраз ці нават асобнае слова.

Францішак ВЯДЗЬМАК-ЛЫСАГОРСКІ

30 верасня 1980 г.

Раздзел першы

## ДЗЯЛЬБА

Наш век наогул вельмі тлумны,
Мы з гэтым звыкліся даўно:
Футбол, і бокс, і джаз бяздумны,
І п'янкі з сексам заадно.

Але такога крыку-гвалту,
Што цэлы дзень хістаў той дом,
Дзе не сабраў касцей гаўляйтар,—
Не чулі ў Мінску шмат гадоў.

Спачатку ціха паміж люду
Размовы-чуткі папаўзлі,
Што пад сады-гароды будуць
Даваць па лапіку зямлі.

Пасля, як заклік да атакі,
Як звон магутны вечавы,
Пранёсся кліч: «На сход, пісакі!
На сход, пісакі, хто жывы!»

«Дык значыць праўда, братцы? Дзеляць?»
І вось, штурхаючы народ,
Пабеглі аўтары і чэлядзь
У дом пісьменнікаў на сход.

Ляцелі жонкі, дочкі, цешчы,
Дядзькі і дзядзіны, швагры,
І хто з бальніцы мог уцекчы —
Джгаў — не дагналі дактары.

Усім здавалася: хто першы
Падыме голас на дзяльбе —
Той і адхопіць кус найлепшы
І тым узвысіць ён сябе.

Яшчэ ж глыбока ў сэрцы кожны
Хаваў надзею ўсіх надзей,
Што абразаць пачнуць заможных —
І ўдасца з іх урваць надзел.

Куды лацвей схапіць не пустку,
А ўжо дагледжаны гарод:
І хрэн гатовы, і капустку,
І нават бубкі на кампот.

Шамякін, праўда, быў спакойны:
Яму паспелі ўжо сказаць —
Адтуль, з гары: «У вас ніколі
Мы не дазволім абразаць!»

Сёй-той жа быў і азадачан:
А што, як гэта галыцьба
Расшкуматае нашы дачы?
Якая ж будзе тут дзяльба?

Але ўладальнікі фальваркаў
Дарма дрыжэлі па дамах:
Ніхто не думаў біць па карку,
На іх дабро рабіць замах.

Паўнюткі дом гудзеў, як вулей,
І нецярпенне ўсё расло,
Пакуль нарэшце не пачулі
Святую праўду «вешчых» слоў.

Адкрыў прафорг Шушкевіч веча:
— Сябры! Вы ведаеце, што?
Каля Заслаўя, на пустэчы,
Далі гародаў роўна сто!

Сябры! Паўстаў непераможны —
З-пад тоўшчы часу ў дзвесце год —

# БЛЯСК САТЫРЫЧНАГА СЛОВА

Нямногія народы свету маюць такую пакручастую, шматпакутную гісторыю, як рахманыя і вельмі ж пакладзістыя беларусы. І хто нам судзіў такую незайздросную долю? Нябёсы за нейкія невядомыя грахі? Ці мы самі зрабілі яе такой па сваёй тысячы разоў хваленай талерантнасці, якая дужа часта пераходзіць у недаравальную нядбаласць, няўменне ці нежаданне сур'ёзна клапаціцца пра сваю будучыню, намагчыся на нешта вартаснае дзеля яе? У мяне часам нават узнікае думка, што, можа, мы і зусім бы загінулі як асобны этнас, самабытны народ, каб нас не ратавала жывое слова смеху. Гэта менавіта яно прыходзіла нам на дапамогу тады, калі станавілася ўжо зусім нясцерпна. І мы выжылі, неяк мадзеем і сёння, праўда, раз за разам недаравальна ўпускаючы тыя шансы, якіе дае нам гісторыя. А фартуна — асоба капрызліва-пераменлівая. І не любіць яна лянівых, тых, хто не ўмее хуценька ды з падзякай за прапанаваныя дарункі, спаўна выкарыстаць прадстаўленыя магчымасці.

Але нашае ўменне смяяцца і тады, калі трэба было б плакаць, дазволіла нам стварыць багатую смехавую культуру, непасрэдна народную, фальклорную, і прафесійную. Наша літаратура яшчэ ў часы старажытнасці дала нам такія цудоўныя ўзоры сатыры, як «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча». У XIX стагоддзі нарадзілася славутая паэма «Тарас на Парнасе», якая ўжо даўно стала народнай. У XX стагоддзі, яшчэ ў самым яго пачатку і трохі пазней, выдатныя сатырычныя творы выходзілі з-пад пяра Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага. А якімі бліскучымі майстрамі сатырычнага слова былі ў нас Кандрат Крапіва і Андрэй Мрый, творчасць якога толькі цяпер паўнапраўна прыходзіць да чытача.

Сёе-тое з сапраўднай сатыры прарывалася ў друк нават у часы найбольш жорсткага разгулу сталінскага таталітарызму Гэта найперш крапіўоўская камедыя «Хто смяецца апошнім» з яе неўміручым «свінтусам грандыёзусам» Гарлахвацкім ды яшчэ з таксама бяссмяротным Тулягам, які сканцэнтраваў у сваім складаным псіхалагічным свеце многія рысы нашага нацыянальнага характару.

Кідаючы па неабходнасці самы беглы позірк на адметныя з'явы беларускай сатыры часоў таталітарызму, але ўжо не сталінскага, а пазнейшага, таго, што стаяў напярэдадні поўнага краху, не магу не згадаць шчодрыя россыпы з'едлівага смеху Рыгора Барадуліна, асабліва яго бліскучую «Баладу пра ашыйнік», якая адна гаворыць пра нашу бесхрыбетнасць як нацыянальную трагедыю больш за сотні навуковых трактатаў.

І ўжо ні з чым не параўнаны поспех выпаў у нас да долю сатырычнай паэмы «Сказ пра Лысую гару», якая з'явілася ў самым пачатку 70-х гадоў. Падпісана яна надуманым імем Францішка Ведзьмака-Лысагорскага. Зразумела, тады паэма трапіць у друк ніяк не магла. Але гэтая акалічнасць не толькі не перашкодзіла вядомасці твора, а наадварот, спрыяла ёй. Даўно заўважана, што якраз забароны больш за ўсё ўзмацняюць цікавасць да той ці іншай рэчы. І кнігі, мастацкія творы цалкам падпадаюць пад гэтую заканамернасць чалавечага ўспрыняцця.

«Сказ пра Лысую гару» ведала не толькі ўся наша інтэлігенцыя, якая хоць трохі цікавілася бела-

Кандзідаў лозунг: «Хай жа кожны
Капае сам свой агарод!..»

Тады ўскіпеў паэт з народа:
«Мне срам, потомку кузнецов:
Какие ж это огороды,
Коль без готовых огурцов?!»

Ды прыступілі ўсё ж да торгу,
Дзяльба пайшла сваёй чаргой,
І Валасевіч на прафорга
У наступ рушыў з качаргой:

— Дзялі, птамаць, сумленна й чэсна,
Бо калі будзеш махляваць —
Па голым чэрапе як трэсну —
Дык і пакоцішся, птамаць!..

Шушкевіч, глянуўшы з дакорам,
Парадак абвясціў такі.
—Спярша давайце пагаворым,
Пасля пацягнем жарабкі.

Антон Бялевіч, хоць і моргаў,
Рвануўся першы слова ўзяць
І на няшчаснага прафорга,
Рукой махнуўшы, крыкнуў· —Сядзь!

Я — не Шамякін і не Броўка!
Я не вазьму сабе грады!
Пакуль на свеце ёсць Дуброўка —
Яе пясняр я назаўжды!..

І так махнуў рукою бурна
І крутануўся так Антон,
Што па інерцыі з трыбуны
Пайшоў на публіку вінтом.

Ды ў той жа міг падняўся Ставер
(Ста-ры, іначай, вер-шаплёт).
Як кавялу, нагу адставіў
І даў фантазіі палёт·

Ў мяне ў любым раёне грады,
У кожнай вёсцы — свой народ!
Куды прыеду — там і рады,
Там і вядуць мяне ў гарод.

Там рэдзьку з хрэнам ем ад пуза,
Турнэпсы ўволю храбашчу,
А як налопаецца Муза —
Да ночы вершамі трашчу!

У баразне й начую часам —
І сніцца розная херня:
То Скрыпка з Эвентавым разам,
То нейкі Чавускі-Вірня!..

Тут Дзеружынскага заела.
— Я ж першы ў спеўніках стаю!
Мне балбатня ўжо надаела —
Лепш я вам песню прапяю!..

Тады змяніўся з твару Вітка,
Нервова шкелачкі працёр,
Яму, напэўна, стала брыдка,
Бо выйшаў ціха ў калідор.

«Ну і актыўнасць,— думаў горка,—
Такая зроду не была.
О, каб і творчая гаворка
На ўздыме гэтакім ішла!..»

І Лупсякоў, якога жонка
Прывалакла сілком на сход,
І ён адчуў сябе няёмка
І плітануў праз чорны ход.

рускай справай, нацыянальнымі праблемамі. Яго чыталі, пераказвалі, цытавалі па памяці фразамі і цэлымі кавалкамі школьнікі і студэнты, малодшыя навуковыя супрацоўнікі і дактары навук ды акадэмікі, рабочыя розных прафесій і сяляне. Словам, самыя розныя людзі ад так званых звычайных абываталяў з Камароўкі да інтэлектуалаў вышэйшай пробы.

Распаўсюджваўся твор у рукапісных і машынапісных копіях. Зрабіць іх было нескладана, бо першапачатковы тэкст займаў крыху больш за трыццаць старонак машынапісу.

І людзі тады ўжо не баяліся адказнасці за чытанне і пашырэнне такіх твораў. Мне не аднойчы даводзілася чуць, што таксісты амаль што адкрыта прадавалі самаробныя брашуры з тэкстам «Сказа» ў Кіеве і ў Маскве па тры рублі за экземпляр. На той час гэта яшчэ былі грошы — цана паўлітра гарэлкі.

Паэма актыўна рассылалася ці то самім аўтарам, ці, можа, яго добрымі памочнікамі (каштавала рассылка капейкі і, значыць, вялікім разарэннем не пагражала) у рэдакцыі газет і часопісаў, у навуковыя калектывы, на кафедры вышэйшых навучальных устаноў, а каму-нікаму і персанальна. Як персанальнае пасланне ў канверце, але, зразумела, без указання і прозвішча адпраўшчыка, я, напрыклад, атрымаў дапіску да «Сказа». У ёй аспрэчваліся дзве апошнія страфы, умоўна кажучы, кананічнага тэксту, тыя, дзе Вядзьмак-Лысагорскі з'едліва заначае, што ніхто — «ні крот Сцяпан Александровіч, ні кротус Генус Кісялёў» — ніколі не змогуць устанавіць ягонае сапраўднае імя. Гэтаму матыву цяпер даваўся новы паварот. Працытую частку той дапіскі, якая, наколькі мне вядома, нідзе не публікавалася:

І толькі ёсць адзін даследчык,
Які нідзе не спасаваў —
Сваю вучонасць так засведчыў,
Што ўсіх сваяцiл закасаваў

Далей мала прыдатны для цытавання пералік нібыта пакладзе-





З балючай скрухай на абліччы,
Спыняў сустрэчных: —Слухай, брат!
Яны ж мяне вар'ятам лічаць,
А дзе — вар'яты? Хто — вар'ят?..

Між тым, далёка ў заднім радзе
Сядзеў вядомы драматург,
І ясна ўсё было ў паглядзе,
Што думаў ён пра тлумны гурт.

«Чаго гавэнда гэта варта?
Увесь ваш крык — адна камедзь.
Такога хутара-фальварка,
Як мой — ніколі вам не мець!..»

Ды вось падняўся Хведаровіч —
Сівагаловы аксакал —
І песімістам нездаровым
Рэвалюцыйнны даў запал:

— Прашу, таварышы, паверыць,
Што калектыў — адзіны шлях,
І я пайду вам грады мераць
З чырвоным бантам на грудзях!

Я ў тундры марыў, як аб цудзе,
Што прыйдзе гэтакі дзянёк.
А тут — такая закусь будзе!
Свая цыбулька! Свой часнок!..

Як заўжды, з месца — Барадулін
Перагукнуўся думкай з ім:
—Да часнаку і да цыбулі
Патрэбен побач магазін!..

Ды гэту рэпліку паэта
Не ўчуў узнёслы Гаўрусёў·
— Мой агарод — мая планета!
А грады — глупства гэта ўсё!

Ну, каб узяў сабе Скапараў —
І я б адвёў калі душу.
А так — пакуль іх ускапаю,
Дык лепш паэму напішу!..

Макаль з Вярцінскім меркавалі:
«Спакусны ўвогуле раён!
І мы б не раз падначавалі,
Каб там адкрыўся пансіён...»

Тады падняўся ва ўсю веліч,
Пад пахай сціснуўшы саф'ян,
Паэт-вучоны Ніл Гілевіч —
Вялікі друг усіх славян.

— Мяне, браткі, хвалюе гэта
Не больш, чым Ставераў «сцішок»,
Хоць для сям'і і я штолета
Здымаю ў Купе катушок.

Дык там жа Нарач нас купае,
Як маці дзетак-галышоў.
Ды і кампанія якая:
Сам Танк, Лынькоў і Куляшоў!

А ў гэтым гамузе вялізным
Мяне й не ўбачаць і затруць.
Дый як жа будзе з камунізмам,
Калі ўсе грады пабяруць?..

Шушкевіч глянуў на гадзіннік:
Ці не даволі ўжо размоў?
— Сябры! Дык вывад наш адзіны:
Падзелім грады — і дамоў!..

І вось, штурхаючы ў гаворцы
Адзін другога пад бакі,
Наперад рынуліся творцы
Цягнуць на шчасце нумаркі.

ных на лапаткі літаратуразнаўцаў, якія ў розны час спрабавалі «вылічыць» аўтара «Тараса на Парнасе» і «Энеіды навыварат». Называюцца імёны тых жа С.Александровіча і Г.Кісялёва, а таксама С.Майхровіча, В.Барысенкі, В.Івашына, Ю.Пшыркова, М.Ларчанкі, І.Баса, М.Лазарука, А.Мальдзіса, І.Навуменкі, А.Лойкі і В.Рагойшы.

На ролю новага генія ад літаратуразнаўства вылучаецца вядомы сваімі спекулятыўнымі фантазіямі пра аўтарства «Тараса на Парнасе» і «Энеіды навыварат» П.Шаўцоў:

Вось калі ён не пройдзе міма,
Дык нейкіх год праз дваццаць сем
Раскажа ўсё, як пра Яфіма —
Тварца праслаўленых паэм.

Згаданы тут Яфім — гэта, канечне ж, Яфім Крупенька з так званага «сямейнага падання» П.Шаўцова, нібыта ягоны, шаўцоўскі, прадзед, міфічны беглы дзекабрыст, якому Шаўцоў намагаўся прыпісаць аўтарства нашых славутых сатырычных паэм XIX стагоддзя.

Такім чынам, вельмі сціплыя даследчыцкія магчымасці П.Шаўцова ў цытаванай дапісцы перабольшваюцца да неверагоднасці. Гэта наводзіць на думку, што той дадатак зыходзіў хутчэй за ўсё ад самога П.Шаўцова, быў напісаны кімсьці з беларускіх паэтаў па ягонай асабістай просьбе.

Тым не менш сама дапіска здаецца мне цікавай і вартай увагі, бо яна паказвае, як сапраўдны тэкст паэмы з цягам часу пачынаў абрастаць дадаткамі, дапаўненнямі, новымі раздзеламі, напісанымі рознымі аўтарамі. Пачыналася пераймание гатовага ўзору, твора сапраўды выдатнага.

Але падробкі, мусіць, ніколі не становяцца ўпоравень з арыгіналам. Так адбывалася і з працягамі лысагорскай паэмы. Яны ўсё больш і больш драбнелі, трацілі сапраўдны грамадзянскі пафас, уласцівы «Сказу», збіваліся на грубае камікаванне, вельмі прыкметнае ў новых раздзелах,

Цягнулі творцы і не зналі,
Б'ючы пярэдніх у каршэнь,
Што ўжо найлепшае паклалі
Арганізатары ў кішэнь.

Што быў усцешаны ўжо досыць
Увесь часопіс «Беларусь»:
Шаўня, Шыловіч, Гроднеў, Досін —
Магутны аўтарскі хаўрус!..

А ўвечар, позна да паўночы,
Навокал Лысае гары
Пісакі, вытрашчыўшы вочы,
Шукалі ўчасткаў нумары.

О, творчы пошук пад гарою!
Калі б у гуле нашых дзён
Свайго станоўчага героя
Шукалі так — які б быў плён!

**Раздзел другі**

## ПРАБЛЕМА

Адвеку знаюць у народзе,
Што калі гною не дасі,
То будзе пуста ў агародзе —
І бога нават не прасі.

Каб агародніна буяла,
Ва ўсю шугала на градзе —
Патрэбен гной. Ды і нямала.
А дзе ж узяць яго? Ну, дзе?

Загаравалі лысагорцы
Сярод няўгноеных палёў.
І прыгадалі ў скрусе творцы:
Які шчаслівец Кавалёў!

Яму кругом пашанцавала —
І тут пайшло ў яго на лад:
За свата выбраў генерала,
А ў генерала — шмат салдат.

Таму гарод не быў пустэльняй:
Абы прыходзіла пара —
Салдаты з поўнаю цыстэрнай
Так і газуюць да двара!

А паспрабуйце даць вы рады
Без генеральскае радні!
Ну, хоць ты сам кладзіся ў грады
І загнівай на карані!

Знайшлася першай паэтэса:
Сярод пустых яшчэ сядзіб,
На ейных сотках, побліз лесу,
Шпакоўня вырасла, як грыб.

«Раз аніхто з іх не даўмеўся —
Хай — дурні — бегаюць сюды.
Пакуль спахопяцца — за месяц
І гною будзе для грады...»

Тым часам іншыя шукалі:
Хто — чарназём, хто — буры торф,
Хто — проста смецце, хто — фекалій,
Каравякі збіраў прафорг.

І кожны Кучару зайздросціў
І дэталёва ўспамінаў,
Як той у цырку па-знаёмству
Браў угнаенне з-пад слана.

Як чуўся крытык вінавата

**што ўключаны ў другое, так званае поўнае выданне паэмы, якое стотысячным тыражом выйшла ў 1991 годзе. Гутарка ідзе пра раздзелы «Мужчынскі страх», «Пудзілы» і «Вялікі рух». Яны не толькі па сваім агульным узроўні відавочна слабейшыя за кананічны тэкст твора, але і яўна выбіваюцца з яго цэласнага, добра прадуманага сюжэтнага рэчышча, даюцца як неабавязковыя адгалінаванні ад асноўнай падзейнай плыні. Такія адгалінаванні можна прадаўжаць бясконца. І паяўляліся яны не адначасова з першапачатковым тэкстам, а пазней, прычым не ўсе адразу, а адзін за другім (распаўсюджваліся ў рукапісах).**

**Першапачатковы ж тэкст складаўся з чатырох раздзелаў («Дзяльба», «Праблема», «Будаўніцтва», «Так і зажылі») і заключэнння пад назвай «Замест эпілога». У такім выглядзе паэма і была надрукавана ў 1988 годзе.**

**Маё першае знаёмства з гэтым творам адбылося ў акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. Тады я ўжо з Акадэміі навук перайшоў на працу ў БДУ. Але сяброўскія адносіны з інстытуцкімі хлопцамі захоўваліся. Пазваніў дадому Віктар Каваленка і сказаў: хутчэй прыязджай. Больш нічога ён не тлумачыў. Але і так было зразумела, што адбылося нешта істотнае і цікавае. Вядома, я ўсё кінуў і паехаў. У інстытуцкім пакоі стаяў суцэльны рогат. Пры мне паэму яшчэ раз прачыталі. І зноў, ужо разам са мною, смяяліся ад душы. Асабліва смакавалі з'едлівыя радкі, якія датычыліся прысутных.**

**Потым, ужо трохі пазней, было калектыўнае чытанне ка кафедры беларускай літаратуры ў БДУ. Паэму туды прынёс Ніл Гілевіч, які тады працаваў на філфаку. Чытаў ён па-майстэрску, з вялікім смакам, але прысвечаныя яму радкі хацеў апусціць. Мы дружна закрычалі, што ніякіх пропускаў не трэба рабіць. Зноў жа пад агульны вясёлы смех і, вядома, трохі бянтэжачыся, Гілевіч прачытаў і тое, што пісалася пра яго.**

**Мне ў лысагорскай паэме, натуральна, адведзена**





І ў цыркача сярод двара
Пытаў: «Скажы, а ці багата
Ён валіць гэтага дабра?»

Цыркач скрывіўся, цыркнуў слінай
І даў блатмайстару адказ:
«Ты і за плечы не закінеш,
Што ён нахляпае за раз!..»

Адзін рэдактар меў удачу:
Купіць гуана бочку змог.
Прыпёр упоцемку на дачу
І начапіў цяжкі замок.

Тады, на сорам чалавеку —
Ад слаўных будняў убаку —
І ўзнік ганебны лозунг веку·
«Гаўно трымайце на замку!»

У звязку з гэтаю праблемай,
Якой жылі гаспадары,
Дыскусій шмат было й палемік
На схілах Лысае гары.

—Абы дзярмо!— аднойчы ўвечар
Сказаў Няхай і тут жа скіс.
Але пісаку запярэчыў
Удумны Сачанка Барыс.

— Ну, не кажыце: гной няроўны.
Найлепшы той, што зробіш сам.
Бо ён жа твой, уласны, кроўны,
Як твор, які ты напісаў.

Мне гной уласны найдарожшы
За ўсякі куплены другі,
Хоць, пэўна, добры гной у Прокшы,
І ў Лукшы, мабыць, не благі.

Ну, а вазьмі Шашкова з Гродневым?
Хто знае, што яны ядуць
І што за гной табе дадуць?
Якая вырасце гародніна?

Калі глядзець на ўсё цвяроза,
Дык можа ў іх і гной такі,
Як іх няякасная проза,
Дзе рост не ў клубень, а ў пукі.

Ну, каб замучыла мінтрэга,
То я б адзін-другі камяк
Узяў бы толькі ў Сані Шлега —
І то затое, што зямляк...

Тым часам творцы зразумелі,
Што ў паэтэсы выйгрыш ёсць,
І пачалі шпакоўні-келлі
На ўласных сотках ставіць скрозь.

Паколькі ўсе былі маэстры
І тэарэтыкі былі —
Пра адпаведнасць формы зместу
Не дбаць пры гэтым не маглі.

І кожны мучыўся маральна,
Часова ходзячы за куст:
Якой па форме прыбіральня
Павінна быць, каб чуўся густ?

Каб не пароў у вочы ўсякі,
Каму надарыцца зірнуць:
«Ну, вось — сучасныя пісакі,
А ад жыцця, бач, адстаюць!»

Бо што стандартная шпакоўня?
Даўно ўжо збрыдзела! Шаблон!
Ці ў ёй падумаеш спакойна
Над віратлівым бегам дзён?

**сціплае месца — адно чатырохрадкоўе:**

І Бугаёў хоць быў вядомы
Як летуценнік-кніжкаед,
Аднак не меншую стадолу
На ўскрайку выстукаў услед.

**Крыўднага я тут нічога не ўбачыў, а дакладнасць была поўная: стадолку я сапраўды паставіў на ўскрайку (на радзіме ў Крычаве дастаў так званы фінскі домік і, яшчэ трохі прыкупіўшы ўжо ў Мінску дошчак, зрабіў ладную двухпавярховую будыніну). Ускраек з прыгожым лесам зусім побач мне дастаўся таму, што ўчастак атрымліваў з вялікім спазненнем, калі зацішнейшыя пляцы былі ўжо даўно разабраны. А вызначэнне *ўслед* адлюстроўвала той факт, што я пачаў варушыцца, калі ў Навуменкі і Александровіча будаўніцтва ўжо кіпела ва-ўсю. І я ўжо ішоў за імі менавіта ўслед.**

**Увогуле мушу сказаць, што жыццёвыя рэаліі ў паэме вызначаюцца сваёй нявыдуманасцю. Яны падаюцца звычайна ў карыкатурна-жартоўным і часам гратэскным асвятленні, часта з яўнымі перабольшаннямі. Але на тое ж яна і сатыра, каб і нявыдуманыя, у аснове сваёй праўдзіва-жыццёвыя дэталі падаваць са знарочыстымі завастрэннямі і тымі зрушэннямі, без якіх камічны эфект рэдка дасягаецца. Тэарэтычна гэта вельмі зразумела. Тым больш пісьменнікам. Але калі справа датычыць цябе асабіста, калі з'едліва перабольшваецца нешта такое, што было ў тваім жыцці, дык тады і самае яснае тэарэтычнае разуменне дапамагае мала.**

**Я ж цешыў сябе тым, што атрымаў ад з'едлівага сатырыка намнога менш, чым іншыя лысагорцы. А што паэма ўвогуле бліскучая, сумнення быць не магло. І таму ахвотна згадзіўся напісаць невялічкую прадмову да першага выдання. Прапанову на гэты конт зрабіў галоўны рэдактар «Вожыка» Валянцін Блакіт Ён яшчэ папрасіў, каб я нікому не казаў, што паэма рыхтуецца да друку. І я сумленна маўчаў, пакуль твор не паявіўся ў кнігарнях і кіёсках.**

Не, тут стандарт — не суцяшэнне.
Нялёгка, як ты ні круці,
Архітэктурнае рашэнне
Такой будыніны знайсці!

Ды ўсіх абставіў Сіла Гусеў:
Зрабіў кабіну — будзь здароў!
Пачырванець ажно прымусіў
Прафесароў і дактароў

Ён форму ўзяў для туалета —
Што аж зайздросна паглядзець:
Як ёсць касмічная ракета,
Вось-вось гатовая ўзляцець!

І гэтай формы сэнс быў ясны:
Заходзь, садзіся і ўключай!
Ну, а ці быў там змест сучасны —
Ты ўжо, чытач, мне выбачай!

**Раздзел трэці**

## БУДАЎНІЦТВА

І грады ёсць, і прыбіральні,
І ўжо на градах узышло,
Але і ў позні час і ў ранні
Спакою творцам не было.

Ну, скажам, вырасце радыска.
А дзе гарантый плот і дрот,
Што сам з'ясі? Сусед жа блізка.
Залезе ў творчы агарод!

Ці ж прывыкаць да плагіяту
Хапугам розным уначы?
І калі ты не зробіш хату,
Дык як жа грады сцерагчы?

Сабаку й то патрэбна будка,
Каб ён не мок і не калеў,
І вось на ўчастку кожным хутка
Закрасаваў часовы хлеў

Але ў часовым — надта ж мулка!
Вунь калісь быў Часовы ўрад —
І той застаўся без прытулка,
Як далі выспятка пад зад.

Наш век суровы пэўнасць любіць,
А пэўнасць — гэта не хляўчук.
І дом з бярвенняў тут не зрубіш,
Бо адбяруць сякеру з рук.

Таму і кожны лысагорац
Пачаў мазгамі варушыць,
Каб як аполкаў дзе агорац,
Зляпіць хаціну і зажыць.

І неўзабаве стала ясна,
Што ўсе цюхцяі-цельпукі,
Калі датычыць справы ўласнай —
Ого, якія спрытнякі!

Здзівіла ўсіх актыўнасць Цвіркі:
Займеўшы ўласны чарназём,
Адолеў лёгка закавыркі
І самы першы згрукаў дом.

За ім услед маўчун Арочка
Падважваў плашкі пакрысе.
О, як ён важна, без сарочкі,
Выглёндаў з кульбай на страсе!

Няхай з Кірэенкам глядзелі

Між тым рэдактарава асцярога была зусім нялішняй. Тыя, каму ад Ведзьмака–Лысагорскага дасталося напоўніцу, вядома ж, не хацелі, каб паэма была апублікавана. Нават у суд пагражалі падаць. Яшчэ тады, калі толькі пачыналіся няпэўныя размовы пра публікацыю. Але ўсё неяк абышлося. Ды і што даў бы той суд? Пісьменнікі, тым больш лысагорцы, — людзі кемлівыя. І нават самыя пакрыўджаныя з іх добра разумелі, што суд толькі ўздыме новую хвалю цікавасці да твора. Калі ж паэма выйшла, яе адразу расхапалі і... сталі патроху забываць. Знік эфект забароненасці.

Сама ж ідэя публікацыі ўсё ж крамольнай паэмы выношвалася даволі доўга, прынамсі не адзін год. Помню, як «закідаў вуду» на гэты конт А.Кузьмін, у той час сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. Спецыяльным аўтобусам пісьменнікі вярталіся з Магілёва, дзе праводзілася выязднoе пасяджэнне прызідыума праўлення СП з удзелам партыйнага кіраўніцтва рэспублікі. Былі ўжо трохі на падпітку, бо такія пасяджэнні тады звычайна заканчваліся так званымі сяброўскімі абедамі ці вячэрамі. Мабыць, крыху ўзяў на зуб і А.Кузьмін, хоць асаблівай стараннасцю ў гэтых адносінах ён, здаецца, не вызначаўся. Ды партыйныя кіраўнікі мусілі ж і прыклад падаваць пісьменніцкай вольніцы, якой дазвалялася ў такіх выпадках куды большая свабода. Дык вось у час прыпынку на падзапраўку (не тэхнікі) на ўтульнай лясной паляне А.Кузьмін, не ведаю, ці ўсур'ёз, ці толькі выпрабоўваючы пісьменніцкую братву, а можа, трохі і палохаючы яе, прапанаваў: давайце надрукуем лысагорскую паэму, дазвол будзе. Пісьменнікі за гэтую прапанову не ўхапіліся. Наадварот, тыя з іх, хто быў у паэме закрануты найбольш, дружным хорам запярэчылі: не, ні ў якім разе. Кузьмін спрачацца не стаў, але быў задаволены, а як жа, паказаў сябе большым дэмакратам, чым самі пісьменнікі.

Наогул жа начальства паставілася да «Сказа пра Лысую гару», мяркуючы па ўсім, прыхільна.





На гэтых выскачак маўчком,
І ў Няхая душонка ў целе
Аж закруцілася ваўчком.

І ён як зух-ініцыятар
Ва ўсякай «творчай» барацьбе,
Зусім аднолькавыя хаты
Дастаў суседу і сабе.

Але сусед падумаў сціпла:
«Зраўняцца хатай — проста жах!»
І на бакір, у стылі «сціпла»,
Ён заламаў фацэтна дах.

Тым часам Хомчанка змікіціў,
Што маху даў, не ўзяўшы град.
Адзеў свой пракурорскі кіцель —
І зразу ўсё пайшло на лад.

Ён прыхапіў дзялянку хмызу
(Някепска знаць законаў дух!)
І дом — з падмурка да карнізу —
Урваў па часці бытпаслуг.

І ў Сергіевіча быў вопыт·
Былы калгасны старшыня,
Ён на драўніну ведаў попыт
І знаў, што тут — з агнём гульня.

Таму на самым касагоры,
Дзе пры дзяльбе дастаўся пляц,
З абломкаў шыферу агораў
Стракаты казачны палац.

Не па ранжыру, як у войску,
Але не горш, як каралі,
Шыловіч, Калачынскі, Вольскі
Свае хароміны ўзвялі.

Ля іх, не любячы дармшчын,
Рукамі ўласнымі, як маг,
Стары сталяр-чырвонадрэўшчык,
Адляскаў Звонак звонкі гмах.

Александровіч дом, як пуню,
Зрабіў, з паветкай заадно,
А каб выходзіў дым — прасунуў
Трубу як гаўбіцу ў акно.

І Бугаёў, хоць быў вядомы
Як апантаны кнігаед,
Аднак не меншую стадолу
На ўскрайку выстукаў услед.

А Куляшоў, мудрэц-прафесар,
Каб сотку лішнюю займець,
Прыгарадзіў кавалак лесу
І ў ім паставіў дом і клець.

Ды ўсе прафесары й дацэнты
Перад Навуменкам адным —
Былі як дробязныя цэнты
Перад далярам залатым.

Другі маштаб — другая марка:
Калі яму стаўлялі дом —
Тры дні вішчэла цыркулярка,
Чатыры дні звінела чарка,
І цэлых пяць сквірчэла скварка,
І кожны дзень вялася сварка,—
Былі Гамора і Садом!

Астрэйка, той, што ў сотнях песняў
Уславіў некалі будан,
За кожнай кроквай клікаў цесляў:
— Ну, злазьце, хлопцы, кроплю дам!

Стары празаік Аляксееў —

Хадзілі размовы, што нібыта і сам Машэраў (а ён тады кіраваў рэспублікай) паэму пахваліў, як быццам Максіму Танку і яшчэ аднаму паэту, свайму земляку, казаў, што твор добры. А калі пахваліў Машэраў, дык і яго падначаленыя з партыйнага кіраўніцтва мусілі пагаджацца. Таму ананімнага аўтара ўсур'ёз і не шукалі. Іначай знайшлі б яго, як міленькага, каб за гэтую справу ўзяліся прафесіяналы з ЦК ці КДБ. Гэта ж не «крот Сцяпан Александровіч» ці «кротус Генус Кісялёў». Магчымасці ў тых прафесіяналаў былі зусім іншыя.

Думаецца, Машэраву і ягоным падначаленым з верхняга эшалона ўлады вельмі імпанавала, што ў паэме высмейваюцца дачнікі, дачнае будаўніцтва, да якога Машэраў ставіўся вельмі насцярожана, казалі, што спрабаваў гэтае будаўніцтва ў сім-тым абмяжоўваць. Але ж дазвол ішоў з Масквы, якая санкцыяніравала, як тады называлася, садова-агародніцкія кааператывы. Словам, начальству падабалася, што «пісакі» самі сябе высмейваюць. З-за гэтага паэмай захапляліся і многія прадстаўнікі «нізоў».

А потым жа нават самая вострая крытыка тагачасных парадкаў у рэспубліцы (раздзел «Замест эпілога» з яго славутымі інвектывамі «Быў час, быў век, была эпоха») камуфліравалася характэрнымі для той пары спасылкамі на партыю, якая нібыта адна і стрымлівала разбуральныя працэсы ў нацыянальнай культуры, хоць менавіта яна ўсяляк падштурхоўвала і накіроўвала гэтыя працэсы, была іх сапраўдным ініцыятарам. Вось як гаварылася ў Ведзьмака-Лысагорскага пра катастрафічнае становішча беларускай мовы:

Ужо не раз раўло мяшчанства:
«Пара камісію ствараць!»
Па ліквідацыі няшчаснай,
Што ўсё не хоча паміраць.

Яны даўно былі гатовы
Ажыццявіць «святы» парыў —
Ліквідаваць дашчэнту мову
Якой Купала гаварыў

Калі б іх партыя хоць зрэдку
Не асаджала пугаўём —

Ён генерал сапраўдны быў:
Не ставіў хаты, град не сеяў —
Склеп-бомбасховішча зрабіў.

Паколькі проза не даецца,
Дык сакратар СП Ткачоў
Уцёк на ўчастак выдавецтва,
Сказаўшы: «Прэч ад стукачоў!»

Мікола-праведнік Аўрамчык
Якіхсьці хлопцаў прывалок —
Яны не дом яму, а храмчык
За тыдзень склалі да аблок.

Будаўнікоў тых незнаёмых —
Без намаганняў і турбот —
Ён адкрываў пасля імёны
У «Маладосці» цэлы год.

Калі ж свой церам Жычка ставіў,
Дык як нявольнікі-рабы,
Цягалі дошкі Чэрня й Ставер,
У крук згінаючы гарбы.

А бедны Матузаў на даху
Сядзеў і ў роспачы стагнаў:
«А ці не даў я, братцы, маху,
Што іх са службы не прагнаў?

Я ж сам адзін тут маракую —
Раблю будыніну сваю!
І хто з іх піша? Хто друкуе?
Каго я ўрэшце выдаю?..»

А Семяжон, прыдбаўшы ўчастак,
Апошні ўзяўся будаваць:
«Мая ж такая доля-шчасце:
Я ж і жаніўся ў сорак пяць...»

Ва ўсіх дамы, ва ўсіх палеткі,
І толькі ў беднай Палтаран
Стаяў хляўчук, сядзелі кветкі,
Ляжаў няволаны дзірван.

**Раздзел чацвёрты**

## ТАК І ЗАЖЫЛІ

І вось — пасёлак як пасёлак:
Гароды, вуліцы, дамы,
Сям-там драты у восем столак...
А як жа пішуцца тамы?

Пакуль змагу падкаравуліць,
Ці творыць хто, скажу вам так:
Я і па першых назвах вуліц
Адчуў фантазію пісак.

Гучалі назвы вельмі ёмка:
Астрэйкаў пляц, Ласіны рог,
Завулак Цвіркі, Няхаёўка
І Пракурорскі хутарок!

Але засведчу тут сумленна,
Што хоць ад цэнтра і ўбаку —
Было найболей ажыўлення
У Калачынскім тупіку.

Жыццё ішло сваім парадкам:
Хто на калёсцах пёр ваду,
Хто з жонкай корпаўся на градах —
Палоў драсён і лебяду.

Хто паліваў растворам дрэўцы,
Хто падстрыгаў-раўняў кусты,

Дык без указу без дэкрэту
Глынулі б бедную жыўём.

**Паэма і ў цэлым напісана вельмі вынаходліва і нават віртуозна, з выдатным майстэрствам. Маю на ўвазе і майстэрства палітычнай ды ідэалагічнай камуфляцыі, і ўласна паэтычную дасканаласць, калі слова ў паэтычным радку атрымлівае вялікую шматзначнасць і падтэкставую глыбіню, пераліваецца ўсімі фарбамі, месцамі ажно звініць ("Адляскаў Звонак звонкі гмах"), а то і набывае афарыстычную трапнасць, так неабходную для добрай сатыры. А якая безліч смехавых адценняў іскрыцца ў паэме, як здзіўляе тут гнуткасць з'едлівых інтанацый. Такая свабода, раскаванасць пісьма дасягаецца толькі вялікім натхненнем.**

**«Сказ пра Лысую гару» вырас на падмурку лепшых традыцый беларускай нацыянальнай сатыры, перш за ўсё на традыцыях, што ідуць ад «Тараса на Парнасе», і сам істотна ўзбагаціў гэтыя традыцыі, прынамсі больш чым пераканальна засведчыў іх плённасць, жывучасць. Нездарма ж ужо ў нядаўнія часы паявіўся цэлы шэраг новых, фактычна ананімных, сатырычных твораў, такіх, як надрукаваныя ў перыёдыцы паэмы «Ачмурэнне» Баркулаба Дамавіка-Крывіцкага, «Гэй, наперад! Гэй, назад!» Базыля Раскапэнды-Бабэцкага, або як неапублікаваныя вершаваныя гутаркі сатырычнага характару пра былых партыйных кіраўнікоў рэспублікі ад Слюнькова і Сакалова да Пячэннікава і Паўлава. У гэтых творах багата супярэчнасцяў, агульны ўзровень іх далёка не той, што ў лысагорскай паэме, дзе беларускае сатырычнае слова паказала свой сапраўдны бляск. Але ўсе яны выйшлі з той жа літаратурнай школы, што і гэтая выдатная паэма, і нясуць на сабе яе выразны водсвет. А твор, здольны выклікаць да жыцця цэлую літаратурную плынь, няхай сабе ў пэўным сэнсе і пераймальную, набывае асаблівую значнасць, а то і становіцца легендарным, як гэта адбылося са «Сказам пра Лысую гару».**

**Дзмітрый БУГАЁЎ**





А хто на сонцы лежма грэўся,
Жывот падціснуўшы пусты.

Пра славу марыў і пра дзевак,
З пакутнай думай на ілбе,—
Пакуль са станцыі вандзэлак
Прыцягне жонка на сабе.

О, тыя з горада візіты!
Як іх чакалі мужыкі!
А як прасілі: «Прывязі ты
Хоць недапітачак які!..»

Сябры прывозілі звычайна —
Напханы пляшкамі бавул,
І жонкі ў роспачы-адчаі
Крычалі «Гвалт!» і «Каравул!»

У гмаху Звонака піялы
Звінелі так, што чулі ўсе:
Не чай зялёны аксакалы
Смакталі ўсладыч пакрысе!

І ў будане лясным Астрэйкі
Не моўкла позна гамана!
На закусь там, як сімвал нейкі,
Была цыбуліна адна!

І ў Няхая на Няхаёўцы
З гаспадаровых рук штодзень
Сцяг паэтычны бралі хлопцы
І спалі ўпокат абы-дзе...

Таму Валоўшчынская крама
Амаль заўжды была пустой:
Пітва ніякага ні грама —
Хоць трупам ляж, хоць слупам стой!

Дык у сяле не без прычыны
Бурчалі злосна мужыкі:
«Ці не адпэндзіць нам, мужчыны,
Адсюль пісьменнікаў такіх?»

Ды і валоўшчынскія цёткі
Клялі іх, зведаўшы бяду:
«Не напаіць з балотца цёлкі —
Пісакі выбралі ваду!..»

Жыццё ж і дачніц турбавала.
Бывае, рана-ранічкой
Імчыць кабета з самазвала,
Уся — парыў і неспакой.

Суседка з хаты ёй насустрач —
Яшчэ спрасонку ў негліжэ:
— Чаго ты прэшся гэтак шустра?
Які кадук цябе глыжэ?

— Хачу зваліцца неўспадзеўку:
Адзін начуе мой стары,
Дык мо прыцёг якую дзеўку,
Каб іх цягалі дактары!

— Ну, калі мой прыпрэ дурніцу
На гэту Лысую гару —
Я падпалю на ёй спадніцу
І як жабоцьку раздзяру!..

Былі й паслугі для пісакаў,
Тут Янка Кучар — казначэй —
Збіраў узносы і не плакаў·
Усё на месцы, дык лягчэй.

І доктар Нэйфах, хоць і рэдка,
На соткі ўласныя імчаў,
Дзе толькі ўслон быў — раскірэка,
Нібыта ў клініцы тапчан.

# САТЫРА АЛЬБО ГРАТЭСК?

**Аўтар кароткай прадмовы да першага выдання «Сказа пра Лысую гару» Дз.Бугаёў дзесяць разоў паўтарыў эстэтычныя вызначэнні ацэнкі: сатыра, вострая грамадзянская сатыра, крапіваўская сатыра, з'едлівае сатырычнае асвятленне канкрэтных пісьменніцкіх фігур, урэшце, карыкатура і, чамусьці, жартоўна-сатырычнае асвятленне. Апошняе ёсць *contradictio in adjecto*— супярэчнасць паміж вызначэннем і аб'ектам, які вызначаецца. Вастрыня, з'едлівасць, грамадзянскасць адносяцца да сутнасці сатыры. Але жартоўнай, а тым больш сяброўскай сатыры няма і быць не можа. Наш вядомы крытык памыліўся, дакладней, не знайшоў часу, каб абдумаць катэгорыю камічнага, якая мае шмат граняў, і гэтыя грані не толькі зближаюцца і дапаўняюць адна адну, але часам і палярызуюцца, як гэта адбылося з гратэскам і сатырай.**

**На жаль, з лёгкай (я хацеў сказаць «скорай») рукі рэцэнзентаў сфармавалася недакладнае ўяўленне пра гэты яркі, карнавальна-гратэскавы твор як «вострую грамадзянскую сатыру» на «лысагорцаў», гэта значыць, на бальшыню сяброў пісьменніцкай арганізацыі, у тым ліку на аўтара прадмовы да першай, скарочанай публікацыі гэтага твора. А паколькі бясспрэчна, што «Сказ пра Лысую гару» ёсць аўтэнтычны**

Ён у пісак пытаў з дакорам:
— Часнок і хрэн на градах ёсць,
А дзе жэнь-шэнь? Дзе гэны корань,
Што вам прадоўжыць маладосць?

Ён клаў масцітых уздоўж лаўкі,
А немасцітых — на зямлі,
І сам насіў з балотца п'яўкі,
Каб кроў нядобрую пілі...

Турбот хапала лысагорцам!
Ішлі ў гарод і ў дзве рукі —
У пальцах — з гонарам і форсам —
Перацiралі камякі.

О, калі б так перацiралі
Свае радкі, свой кожны сказ —
Якія б плёны выраcталі
На творчым зябліве у нас!

А то прывыклі, марнатраўцы,
Паперу крэмзаць, абы з рук.
Не ганарару б ім, а трасцы
За той «цяп-ляп», што пруць у друк!

Але нашто ім дбаць пра творы?
Сядзі ды моркаўку грызі.
Гуркі, трускалкі, памідоры —
Хоць ты на выстаўку вязі!

Зірнеш — дык здзівішся: дарэмна
Такім ударнікам палёў
Дасюль не выдалі ні прэмій,
Ні лаўрэацкіх медалёў

Дарэчы, з прэміямі — туга.
Дайсці няпроста да вянца.
Па зачараванаму кругу
Яны ўсё ходзяць без канца.

Пакуль разы са два, не меней,
Яны абыйдуць гэты круг,
Дык будзь ты, браце, тройчы геній —
Не дачакаўшы, спусціш дух!

Пытанне гэтае — не жарты.
Вазьміце рэч, што пад рукой:
Вось гэты твор — што, ён не варты
Саліднай прэміі якой?

Ён можа больш сказаць народу,
Чым іншы збор у шмат тамоў.
Ды не хачу я ўзнагароду!
Мне б хоць жывым прыйсці дамоў!..

Хацеў, гавораць, паміж іншым,
Пытанне высветліць Няхай,
Чаму напхалі ў гурт чужынцаў
І хто зрабіў гэты пхай-пхай.

Магчыма, быў зямлёю гандаль
За кошт абдураных пісак?
Бо ці ж дакажаш розным гадам,
Што грэх за соткі браць ясак?

Былы рэдактар «ЛіМа» Горцаў
(Яму ўсё рэзаць тэкст карціць),
Як згледзіў зброд між лысагорцаў —
Рэзюмаваў· «Подсократить!»

Але падняўся новы вэрхал:
Усіх зваліла навіна,
Што нібы ёсць папера зверху —
І дачам з соткамі — хана!

Забедавалі небаракі:
— А мо хто выдумаў на злосць?
— А хто сказаў? — Ды сам Бураўкін!
— Ну, гэны знае ўсё як ёсць!..

пісьменніцкі твор яскравага індывідуальнага стылю, а не калектыўная фальклорызацыя, дык «сатырычнае» поле зроку ператварае яго ў нейкую сцэну з тэатра абсурду· выходзіць, што пісьменнікі «асатырылі» саміх сябе. Што яны смяюцца з саміх сябе, гэта відавочна. Але ж у такім выпадку перад намі гратэскавы смех карнавальнага тыпу, а не сатырычная атака на саміх сябе.

У той жа «Прадмове» ёсць спасылкі на гратэскавыя традыцыі ў беларускай літаратуры і графіцы: Дз.Бугаёў называе ананімныя «Энеіду навыварат» і «Тараса на Парнасе». Але зноў жа залічвае гэтую плынь да сатыры поруч з творчасцю «чыстага» сатырыка Кандрата Крапівы. Крапівоўская «Біблія» ёсць твор наскрозь ідэалагізаваны: здзеклівая «крытыка» Кнігі Быцця, яе «выкрыццё» з атэістычных пазіцыяў. Сатырычны смех не толькі ідэалагічны, але і партыйны і — як вынік сваёй канкрэтна-гістарычнай прывязкі — сацыяльна ангажаваны і адносны. Гратэскавы смех заўсёды універсальны, агульнанародны, амбівалентны, а не антаганістычны. «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат» не выкрываюць антычных багоў і герояў, а пераводзяць іх з неба на зямлю, з узроўню гераічнага і высокага на ўзровень штодзённага і камічнага.

Сутнасць гратэскавага, народна-карнавальнага паводле свайго паходжання смеху грунтоўна даследаваў Міхаіл Бахцін у манаграфіі «Творчество Франсуа Рабле и народная культура Средневековья и Ренессанса» (напісана ў 30-я гады, апублікавана ў 1965 г., перавыдадзена ў 1990 г.), урыўкі з якой друкаваліся ў гэтым часопісе. У мяне склалася ўражанне, што гэтую лепшую кнігу стагоддзя пра гратэскавы смех у нас прачыталі павярхоўна (за выключэннем уважлівых чытачоў), альбо зусім не чыталі. Праўда, М.Бахцін даследуе праблему народнага смеху на матэрыяле заходнееўрапейскай літаратуры і народнай карнавальнай культуры. Але гратэскава-карнавальныя традыцыі ў беларускім фальклоры даследаваліся ў





Адных адкрыта выклікалі
І прапаноўвалі аддаць,
Другім празрыста намякалі,
Каб адмаўляліся ад дач.

Ды зблытаць базіс з надбудовай
Ніхто з дасведчаных не мог.
Куды прасцей ад роднай мовы
Было б адмовіцца, дальбог!

Ужо ж не раз раўло мяшчанства.
«Пара камісію стварацъ
Пра ліквідацыі няшчаснай,
Што ўсё не хоча паміраць!»

Яны даўно былі гатовы
Ажыццявіць «святы» парыў —
Ліквідаваць дарэшты мову,
Якой Купала гаварыў

Калі б тых гіцаляў хоць зрэдку
Не асаджалі пугаём —
Дык без указу, без дэкрэту,
Глынулі б бедную жыўём.

Але на зло іх крыку: «Знішчыць!»,
З глыбінь народнага жыцця
Увысь ірвалася Янішчыц —
Палесся мілае дзіця.

**Раздзел пяты**

## МУЖЧЫНСКІ СТРАХ

Аднойчы ўвечары пісакі
Сядзелі гуртам ля цяпла.

(Чытач чакае рыфмы: фракі?
Вазьмі ж! Трымай, каб не ўцякла!)

Па абурэнню завугольным —
Усе змаганцы-левакі,
Яны і тут бруском крамольным
Вастрылі смела языкі.

Пабедаваўшы напачатку
Пра лёс індзейцаў папаго,
Унепрыкмет кульнулі кладку
Да лёсу ўласнага свайго.

— Ну, як у новым выдавецтве —
Крыху варушыцца Ткачоў?
Хоць і таптун, а мне здаецца.
Уцешыць скора чытачоў.

Змітрок падкінуў гэту тэму.
Ды Фёдар рэзнуў як нажом:
— А лысагорскую паэму
І ён не выдасць тыражом!

— Каму на шыю трэба пелька?
І ўсё ж ад сэрца адлягло.
Як гаварыў Тапчэўскі Фэлька:
«Саўсім не тое, што было!»

— Зусім другая атмасфера,—
Паддакнуў горача Кастусь.
— Калі йшчэ будзе і папера,
Дык кожны выдасць кніжак стус.

— У тым, старым, было ўжо звычкай:
Цікавы рукапісны том,
Перавязаўшы чорнай жычкай,
Даціснуць рыжым матузом.

Таму й ляжалі ў шафе мёртва —

нас, напрыклад, у маёй кніжцы «Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору» (Мн., 1989). Яе, здаецца, наогул не заўважылі. Вось і вынік: блытаюць супроцьлеглыя формы камічнага — сатыру і гратэск. А між тым асноўныя паняцці і метады гратэскавага смеху (гратэск, амбівалентнасць, карнавалізацыя, травестацыя) асвятляюцца ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (Т 1 — 5. Мн., 1984—1987).

Асноўныя прыкметы карнавальнага смеху — універсальнасць, накіраванасць не толькі на нізкае, але і на высокае, не толькі на «іх», але і на «я» і «мы», на таго, хто смяецца Гратэскавыя формы камічнага ўключаюць элементы сатыры, але толькі на перыферыі. Сатыра заўсёды сур'ёзная, часам злая, яна выкрывае, адмаўляе, але не ўзвышае. Гратэск заўсёды вясёлы, сцвярджальны, неадназначны, парадаксальны, адначасова рэалістычны і фантастычны, спалучае «натуралізм» жыцця з міфалагічным бачаннем свету. Сатыра адрасуецца антаганісту альбо ворагу, а гратэск звяртаецца да ўсіх, у тым ліку да сяброў і самога сябе. У дачыненні да «Сказа пра Лысую гару» гэтыя адрозненні маюць свой маральны аспект: бо разумны чалавек з пачуццём гумару ніколі не крыўдуе на карнавальна-гратэскавы смех.

Выдатныя пісьменнікі ад Рабле і Сервантэса да М.Булгакава і нашага Янкі Купалы — майстры гратэскавых формаў камічнага. А крыніцамі, якія жывілі іх творчасць, былі разнастайныя формы народнай культуры — абрады і чарадзейныя казкі, міфы, вясельныя і радзінныя песні, народны тэатр, прыказкі, прымаўкі ды прыпеўкі, пранікнутыя карнавальна-гратэскавым бачаннем свету. Урэшце, ёсць яшчэ тэатральнасць і драматызм традыцыйнага народнага побыту.

У гэтай традыцыі стварайся «Сказ пра Лысую гару». Ананімным яго можна лічыць толькі ўмоўна, канвенцыйна. Бо для тых, хто можа ідэнтыфікаваць паэтыку і стылістыку вядомых беларускіх

Хоць і не сунься і не лезь:
І адмысловы «баснік» Пётра,
І першакласны майстра Чэсь.

— Затое вуліцай зялёнай,
Зусім не ведаючы мук,
Ішоў пад «Езус пахвалёны!»
Алесь Сяргеевіч Шымук...

— Нялёгка з кніжкаю прабіцца
У цэх наборны да станка,
Калі рашае лёс тупіца
З нутром і мордай мясніка.

Яму б сякерай на базары
Рубіць цялячы перадок,
А ён рубіў паэтаў мары —
Крамсаў у кроў жывы радок!

Яму б пярэднік ды на бойню —
Скаціну токам забіваць,
А ён пралез ужо ў абойму —
Яго ўжо сталі «называць»!..

Вось так у гурце, пры цяпельцы,
Пісак патроху браў азарт.
І нават Ваня ў камізэльцы
Разгарачыўся не на жарт.

Вядома, гэта ж не з трыбуны —
Тут можна доблесць паказаць:
Не толькі зайчыкаў трыгубых,
А й кабана на мушку ўзяць.

Найбольш адвагі — аж праз меру —
Папёрла з кожнага, браткі,
Як узяліся штаб-кватэру —
Свой дом — разносіць на шматкі.

— У нашым доме штат бязладны:
Не ўспеўшы стаць кіраўніком,
Гардзіцкі звіс, як шар більярдны,
Загнаны ў лузу Рыбаком.

— Які більярд? Якая луза?
На зло пісьменніцкай сям'і,
Адзін зацяты член Саюза
На дваццаць год схаваў кіі!

— Э-э, тут цябе дапоўніць варта:
Ён не адразу іх схаваў,
Ён тры гады спачатку ўпарта
З кіёў скурацікі зрываў

— Зрываць аматараў нямала,
Дзе потны дух і дымны чад
Ад маладух-кабет бывалых
І ад сумніцельных дзяўчат.

— Калі б не Мар'я ды Тацяна,
Дык дом наогул зачыняй:
Удзвюх працуюць так старанна,
Хоць у прэзідыум прымай!

— Дый інжынер там пад дзвярыма
Тырчыць, браткі, не проста так.
— Ну, а фатограф гэны з Крыма?
На ўсё, што хочаце, мастак!

— Мяне трывожыць, што Шамякін
Ужо скарынку не грызе:
Жуе без смаку прэсны мякіш,
Нервова стоячы ў чарзе...

— Іван, апроч літаратуры,
Заняты іншым не на смех:
На дошцы шахматнай фігуры
Ён расстаўляе, як стратэг.

паэтаў, аўтар гэтага твора адносна лёгка «прачытваецца». Пачынаючы з «Уступу» і «Апошняга папярэджання» ён напоўнены народным смехам карнавальнага тыпу. Ёсць тут і гратэскі літаратурнага і сацыяльна-гістарычнага паходжання. Вось толькі некалькі страфаў: «Яшчэ глыбока ў сэрцы кожны // Хаваў надзею ўсіх надзей,// Што абразаць пачнуць заможных// І можна іх урваць надзел». Альбо вось класічны «раблезіянскі гратэск: «Ён форму ўзяў для туалета — // Што аж зайздросна паглядзець: // Як ёсць касмічная ракета,// Вось-вось гатова узляцець!» Люстэркавая паралель верху і нізу ды іх камічнае сумяшчэнне. А вось алюзія на класіку:

Сябры! Паўстаў непераможны —
З-пад тоўшчы часу ў дзвесце год —
Кандзідаў лозунг «Хай жа кожны
Капае сам свой агарод!..»

Яшчэ больш у паэме гратэскавых вобразаў, матываў і алюзіяў народнага, этнаграфічнага паходжання, у тым ліку прыёмаў народнай лаянкі і крыху завуаліраванага «брыдкаслоўя», але народнага, яскрава камічнага, а не сучаснага псеўдамадэрнісцкага, а па сутнасці ўзятага напракат люмпенскага «лексічнага набору» наскрозь агіднага зместу. Ёсць тут камічныя алюзіі на біблейскія («...Усюды чуткі папаўзлі,// Што наразаць гароды будуць// З абетаванае зямлі») і нацыянальна-вызвalenчыя («На сход, пісакі! На сход выходзьце, хто жывы!») матывы.

У «Сказе пра Лысую гару» ёсць свая гратэскавая тыпалогія «пісакаў-творцаў». Дарэчы, пісака-творца — прыклад амбівалентнага гратэскавага вобраза: у ім спалучаны высокі і нізкі аспекты працы літаратара. Аўтар добразычліва, па-народнаму смяецца не толькі з літаратараў-прагматыкаў, майстроў падладжвацца пад кан'юнктуру бытавую, але і з летуценнікаў, сучасных дон-кіхотаў. Смяецца ён і з самога сябе, пераапранаючыся пад настырнага ветэрана: «Бо як на грудзі перад вамі // Павешу ўвесь іканастас// Ды калі бразну медалямі — // Дык і кандрашка хопіць вас!..» Яшчэ адзін вясёлы гратэск:





Пусціўшы ў тыл каня-пралазу,
Ён пешкі выстраіў у рад
І спадзяецца, што адразу
Усім Іванам зробіць мат.

— Я чуў, як гледзячы на пешкі,
Першаразраднік Куляшоў,
Сказаў, не тоячы насмешкі:
«Ах, Ваня, зноў не тым пайшоў!»

— У гэтым, братцы, ёсць пагроза:
З такой гульні праз колькі год
Уся паэзія і проза
Папасці могуць у цэйтнот!

Чыталі ж «раман», як на востраў
Эстэт эстэтку перавёз,
Яна ж «цыцкой, як куля, вострай»
Прабіла там яго наскрозь.

Тры дні ганяла іх па лесе
Бабуля нейкая з вядром.
Як толькі з бускай ён палезе —
З кустоў «ату!» і медны гром:

«Там кран стаіць, а ты, кабета,
Любошчы ладзіш з халастым!»
Ох, да чаго ўсё смачна гэта
І як ідэйна — разам з тым!..

Цякла гаворка, трэскаў хвораст,
І раптам нехта ў грамадзе:
— Палундра!— крыкнуў на ўвесь голас.
— Марыля з скальпелем ідзе!

Мужчынскі страх — такая сіла,
Што не зраўняеш ані з чым:
Умомант вока падхапіла
І, як віхор, змяла мужчын.

Арочка трохі быў замешкаў,
Але пасля як даў ды даў —
Дык хоць і з кульбай-качарэжкай,
А нават Цвірку абагнаў.

А што Марыля за прычына?—
Карціць дазнацца чытачу?
Зусім прыстойная жанчына.
Марылю крыўдзіць не хачу.

Не сухарэбрына. Не плюндра.
Дай божа баба! Як абняць!
Чаму ж пісак змяла «палундра»?
Тут трэба толкам расказаць.

...Сівы паэт ішоў аднойчы
І стрэў Марылю ля грады.
— Які ў вас кветнік! Трэба ўночы
Залезці з ножыкам сюды!

Ён пакланіўся ёй прыветна
І губы ў трубачку стуліў,
І думаў: «Ах жа, як фацэтна
Я гаспадыню пахваліў!»

На камплімент яго на гэткі
Марыля скальпель падняла:
— Што? Ты мае парэжаш кветкі?
А гэта бачыў?— зараўла.

Раўнула — леў бы так не рыкнуў.
— Хутчэй бяжы адсюль, разак!
А то сцягну парткі, чырыкну —
І ад цурбэлка — толькі знак!..

Збялеў паэт, сказаў: «Вар'ятка!»
Ды як рвануў праз касагор,
Дык без аддыху, без аглядкі
Аж да Кальварыі дапёр.

голыя класікі ў лазні, па якіх «паэт-вучоны Ніл Гілевіч» звярае свой творчы рост і займае чаргу на Алімп.

Раздзел паэмы «Праблема» — суцэльны і, мабыць, тыповы ў літаратуры гратэск. Добра вядома, што «субстанцыя», на аснове якой робіцца арганічнае ўгнаенне, спрадвеку і, бадай што, ва ўсіх народаў сімвалізуе крайні «матэрыяльна-цялесны ніз» (тэрмін М.Бахціна). Яна ж — ключавое слова ў шматлікіх варыяцыях народнай лаянкі і шырока выкарыстоўваецца ў класічным творы Ф.Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль». Але ў «нізіне» практычнага жыцця, хоць бы ў тым жа дачным агародніцтве, без гэтага «нізу» не будзе і «верху»: карысная расліна не падымецца ад зямлі, не загляне сваімі кветкамі ў неба. І вось, калі раптам сотні тысяч гараджан сталі агароднікамі ды садаводамі, непазбежна ўзнікла «гавённая» ліхаманка. Яна захапіла і «лысагорцаў», бо, вядома ж, пісьменнікі і тыя, што каля іх,— таксама жывыя людзі, да таго ж здольныя захапляцца донкіхоцкімі праектамі.

Цалкам на гратэскавых вобразах народнага бытавога смеху грунтуюцца раздзелы «Мужчынскі страх», «Пудзілы» і «Вялікі рух».

Пагаджаючыся з Дз.Бугаёвым наконт таго, што аўтар паэмы свабодна карыстаецца фантазіяй і выдумкай (гэта — элементарна), лічу патрэбным удакладніць ягоную выснову пра перабольшванні «жартоўна-сатырычнага асвятлення». Пра несумяшчальнасць жарту і сатыры я ўжо казаў. Дабаўлю, што лысагорскія гратэскі — не толькі плён пісьменніцкай фантазіі. Сёння іх нямала ў рэальным жыцці. Ужо сама гэтая дачная ліхаманка — жывы гратэск. Як грыбы пасля дажджу, вакол вялікіх і меншых гарадоў выраслі «храміны», пазбаўленыя жывога дыхання альбо напоўненыя жыццём прывідным і падпольным. Відавочна, што сёння гэтая дачная шарварка ёсць нейкая гратэскавая сублімацыя рэлігійнай свядомасці: народ гарбее на сваіх «сотках» якраз у дні святыя паводле юдзейскай і хрысціянскай традыцыяў.

А там на сцежачцы бетоннай,
Супроць апошняга двара,
Ён ледзь не стукнуўся ў Антона —
Шчаслівай долі песняра.

— Чаго так прэшся ашалела?
— Ой, нават сорам гаварыць:
Марыля Яськава хацела
Мне ... аперацыю зрабіць.

— Дурная! Гэта ж не пазногаць,
Што зрэзаў — чорт яго бяры!
А тут чарахнеш — дык не змогуць
Назад прышыць і дактары.

— Зямлі не чую я пад сабою!
Ой, што за баба, што за злосць!
Антоська, цупні ты рукою
Вышэй-ніжэй, ці ўсё там ёсць?

Антон хацеў спачатку стукнуць
За гэткі жарт — але стрываў.
— А што ты сам не можаш цупнуць?—
Нясмачна сплюнуўшы, спытаў.

Аднак не толькі што згадзіўся,
А й паказаў належны спрыт —
Захватна цупнуў і здзівіўся:
— Ого, сабака! Як капыт!

— То дзякуй богу, дзякуй богу!—
Паражахнуўся небарак.
— Хадзем з нагоды лыкнем троху —
У жонкі ёсць наліўкі гляк...

Пазней, калі хто кпіў з паэта,
Яго аж кідала у жар:
— Яна ж не проста вам кабета!
Яна — стары ветэрынар!

У Смалявічах з малалецтва
Яна лягчала ўсіх кныроў!
Дык што ёй мне зрабіць калецтва?
Чырыкне раз — і будзь здароў!..

Пра гэта доўга гаварылі
І нават прымаўка пайшла:
«Паэт, сыйдзі з вачэй Марылі,
Пакуль інструмант не ўзяла!..»

**Раздзел шосты**

### ПУДЗІЛЫ

Усім вядома, што няроўна
На свеце ласку дзеліць бог:
У Змітрака ў гародзе — поўна,
А ў Васіля — пустыр-аблог.

Яно й не кожны аднолькова
На ласку божую глядзіць:
Васіль усцешан і кукалем,
Што на аблозе тым сядзіць.

Мацней за ўсіх аграрнік Міша
Маліўся клубню на градзе.
(А ўсе мы знаем, як ён піша
І як на службе рэй вядзе!)

Яшчэ раса ляжыць на травах —
Сахор у рукі ён бярэ
І ў модных чунях-гаўнадавах
Кампост рыхтуе на двары.

Напрацаваўшыся да млосці,
Ён адпраўляецца ў абход

Як сказаў адзін знаёмы мне мастак: гэтыя нашыя дачы любяць *гарбатую бабу* Варта дадаць: і гарбатага мужыка таксама. А дачныя гмахі будаваліся і выжываюць, як правіла, на аснове падпольнай эканомікі: праз дзялкоў, малых і «вялікіх» блатмайстараў.

У паэме ёсць дакладна спісаны з натуры малюнак: «...каравякі збіраў праформ». І сёння збірае. Не толькі праформ, але і адстаўныя палкоўнікі, якія ўжо не камандуюць салдацікамі, былыя міністры і былыя партакраты, якія не ўвайшлі ў камерцыйныя структуры, пісьменнікі альбо іх жонкі і цешчы. І «вялікі рух» за хрэнаразвядзенне — таксама рэальнасць. Нядаўна адзін амерыканскі беларус сказаў мне: з усіх беларускіх тавараў найбольшым попытам у ЗША мог бы карыстацца хрэн. Не расце наш горкі корань на перакультуранай амерыканскай глебе!

*P.S.* Мой паважаны калега Дзмітрый Бугаёў назваў свае нататкі пра лысагорскую паэму «Бляск сатырычнага слова». Спадзяюся, што чытач прачытае іх з улікам маіх паправак. Фармальную логіку ў нас грунтоўна штудыявалі даўно — недзе аж у XVII—XVIII стст. у кантэксце так званай неасхаластыкі. А цяпер робім лагічныя памылкі: частку прымаем за цэлае. У нашым выпадку сатыру — за ўсё камічнае. Між тым без фармальнай і дыялектычнай логікі немагчыма эстэтыка. У тым ліку эстэтыка практычная — эстэтычная ацэнка быцця і мастацкай культуры.

Сёння асаблівае значэнне набываюць логіка і дыялектыка гратэску. Бо гратэск, з'яўляючыся часткаю камічнага, у постмадэрнізме выходзіць са сваіх традыцыйных «камічных берагоў», ахоплівае сферы містычнага і трагічнага, з «высокага» боку; брыдкага і раздробленага, з другога, «нізкага» боку.

Уладзімір КОНАН





І аж заходзіцца ад злосці,
Як зазірне ў чужы гарод.

«Ну, вось, ты бачыш: у Арочкі,
Хоць вершы кволыя пляце,
А гарбузы ляжаць, як бочкі,
Як на дражджах усё расце!

І ў Жоры вунь качан, як цэбар,
Як Мысліўцова галава.
А тут ад крыўды плакаць трэба:
Ссячэш качанчык — фунты два!..»

О, як бы шчыра быў ён рады,
Калі б ва ўсіх, каму «дано»,
Пасохлі й выпетралі грады,
А з імі й творчасць заадно!..

Вось так і вучанаму Яську
І ў думках мроіцца і ў сне,
Што ён адзіны варты бляску
«За дасягненні ў галіне...»

Таму калег з саней агульных
Ён выштурхоўвае плячом
І едзе гэтакім культурным
Інтэлігентным дзеячом!

А каб ідэй яго зыходных
Ніхто не здолеў агаліць —
Давай на «ўсходніх» і «заходніх»
Адзінакроўны гурт дзяліць...

Ах, Яські, Яські! І калі вы
Паразумнееце, дальбог?
Калі замест культурнай нівы
Наўсцяж раскінецца аблог?

Калі ўзбуяе пустазелле,
Як на гародзе ў Васіля?
Ах, Яські, помніце: пахмелле
Вам будзе страшнае пасля!..

Аднак жа вернемся на соткі.
Цяпер я сцісла раскажу,
Як на чацвёрты год усё-ткі
Кроў пралілася за мяжу

Так, так, не думайце, што жартам.
Аднойчы жонка песняра
Успёрла свой «масквіч» азадкам
На край суседняга двара.

А двор з вагончыкам-прычэпам
(Не ўсе ў харомінах жывуць!)
Належаў майстру таго цэха,
Што белетрыстыкай завуць.

Была на дачы толькі цешча —
Яна і крыкнула ў акно:
— Ты што па ягадах таўчэшся,
Каб табе кішкі патаўкло!

— Заткніся, пудзіла, не шастай,
А то вагончык падчаплю —
Перацягну на свой участак
І прыбіральняю зраблю!

Старая куляй на падворак:
— Ты — матля, матля без мазгоў!
Прыедзе з Мінску зяць мой скора —
Не сабярэш тады зубоў!

— Мне злічыць зубы твой рахітык?
Збаюся я падкілаша?
Як ушчамлю яго між лытак —
Дык тут жа й вылезе душа!..

# 1537 ВЯСЁЛЫХ РАДКОЎ

У Біблii ёсць усё. Апрача... гумару. Тварэнне свету ўпершыню — рэч, пэўна, адказная і занадта маштабная. Тут больш дарэчы эпічныя адносіны. Гасподзь Бог дазволіў сабе ўсміхнуцца толькі на шосты дзень. Калі ляпіў з гліны Чалавека. Нас з вамі. Вось дзе ён даў волю свайму пачуццю гумару: прырабіўшы велікану кірпаты нос, а малышу — вялізазную глюгу, даўшы прыгажуну розуму малавеле, а якому-небудзь карапету — напоўніцу.

На сёмы дзень Першатворца, як вядома, адпачываў, і пачуццё гумару дасталося ў спадчыну нячысціку. З таго часу і павяліся на Беларусі ахвочыя да жартаў над простым людам дамавікі і гуменнікі, балотнікі і вадзянікі, лазнікі, лазавікі, кладнікі, лясуны, палявікі, начніцы, шэшкі, паветрыкі, ведзьмакі. На Лысай гары, непадалёк ад Менска, знайшоўся адзін такі Францішак Вядзьмак-Лысагорскі: незаўважаны, непазнаны нікім, усё падгледзеў і геніяльна ўзнавіў у сваёй знакамітай паэме.

Зрэшты, падчас першага чытання (тады словы гэтыя ўжываліся без асаблівага палітычнага падтэксту) «Сказа пра Лысую гару» мала хто ўспрыняў усур'ёз імя аўтара. Няхай сабе будзе Францішак

Ніякай цешчы немагчыма
У гэткім выпадку стрываць.
— А твой здыхляк хіба мужчына?
Праз храпы лёгкія відаць!

Узвыла матля:— Ах, пачвара!—
І кіпцюрастай пяцярнёй
Так распісалася на твары,
Як бы прайшлася бараной.

— Вось так ляпей, старая торба!
І я — пісьменніца цяпер.
А каб прызналі мой аўтограф —
Бяжы да доктара — завер!..

Старая ўзлезла на падножку
І, каб свой гонар апраўдаць,
Як Галілей, гукнула зноўку:
— А ўсё-ткі лёгкія відаць!..

Без сведак быў ужо закончан
Іх дыялог вясновым днём:
Трасло з сярэдзіны вагончык
Так, што хадзіў ён ханянём...

Ах, май, чытач, спагаду ў сэрцы
І вельмі строга не судзі,
Калі суседка ды суседцы
Зняла заўчасна бігудзі.

Бо хоць вось так жывуць парнасцы
І ўжо клянуць патроху лёс,
Аднак жа гэтай самай трасцы
Другому хочацца да слёз.

Нашто ўжо вунь Калеснік Янка —
І той да ісціны дапёр:
Калі ў нутро ўлятала шклянка —
Па градах плакаў, як бабёр.

Дзівак! Яму з ягоным ростам
Ляпей бяды не набываць:
Ён не падумаў, як няпроста
Гарод уласны вартаваць.

Каб ад таго, што добра ўродзіць,
Зладзюгаў розных адвучыць —
Там ледзь не ў кожнага ў гародзе
Страшыдла-пудзіла тырчыць.

Па гэтых пудзілах, дарэчы,
Зусім не цяжка распазнаць,
Хто, дзе, калі і што на плечы
Любіў ці мусіў апранаць.

І хто апратку чым забрудзіў,
І нават чым пасля змываў,
Хто сам калісьці добра пудзіў
«Злачынцам» спуску не даваў...

Канешне, мала знойдзеш грозных
Цяпер на пудзілах адзнак.
Часцей за ўсё — у латках розных
Лірычна скроены пінжак.

Калі б па пудзілах сказалі
Характар творчасці адчуць —
Амаль усе ўвесь век пісалі
Рамансы, сумныя чуць-чуць.

І ўсё ж хоць пудзілы на градах
Не вельмі страшныя былі,
А рыфмахвата-тэмакрада
Злавіць аднойчы памаглі.

Ён позна вечарам п'яненькі
Пасёлкам сунуўся сваім
І раптам бачыць: волат нейкі
Стаіць у цемры перад ім.

Вядзьмак-Лысагорскі! Слых беларусаў прызвычаены да падобных псеўданімаў: Сымон Рэўка з-пад Барысава, Адзін з «парнаснікаў», Антось з Лепеля, Ігнат Булава з-пад Турава, Тарас Палясоўшчык, Пётра Снітка Русцягоў, Полацкі, Палескі, Прусінаўскі, Пружанскі... Тым больш што аўдыторыя падабралася якраз такая, што складалася з літаратуразнаўцаў-прафесіяналаў, навукоўцаў акадэмічнага Інстытута літаратуры.

У наваствораным на пачатку 70-х гадоў сектары тэорыі літаратуры сышліся не толькі чыстыя тэарэтыкі: Алесь Адамовіч, Навум Перкін, Іван Ралько, Міхась Мушынскі, Васіль Жураўлёў, Эльвіра Мартынава, Іван Шпакоўскі, Альфрэд Матрунёнак. Зазірнуў і застаўся Віктар Каваленка, Серафім Андраюк, Вячаслаў Чамярыцкі, Мікола Прашковіч... Іншыя, зазірнуўшы і пачуўшы радок-два крамольных вершаў, знікалі: далей ад грэху! А наш найвучонейшы сакратар, які славіўся тым, што ў любой неспадзяванай сітуацыі заставаўся вялікім гумарыстам, атрымаўшы па пошце экземпляр паэмы, хутчэй схаваў яго ў сейфе. На шчасце, ананімны аўтар здагадаўся даслаць на адрас нашай установы два экземпляры, і адзін з іх трапіў у рукі бібліятэкаркі Маі Барташэвіч; звычайная жаночая цікаўнасць, а ўрэшце і разуменне унікальнай каштоўнасці гэтага дакумента не дазволілі ёй схаваць твор. Слухачы падыходзілі, і чытанне, спыніўшы на паўслове, пачыналі нанова. Аўдыторыя была спецыфічная, усе ведалі герояў твора і жыва ўспрымалі кожную страфу, кожны радок, весела пераглядваліся ў адпаведных мясцінах, паўтараючы асобныя выразы і словы. Адамовіч, Перкін, Мушынскі час ад часу падавалі дасціпныя рэплікі, паглыбляючы атмасферу небывалага яднання і адзінадушша шаноўнай грамады. Падыходзілі яшчэ супрацоўнікі і паведамлялі пра тое, што паэму чытаюць у Доме друку, у Саюзе пісьменнікаў, у рэдакцыях газет, часопісаў, выдавецтваў. А нехта самы дасведчаны інфармаваў, што супрацоўнікі ЦК, сабраўшыся ў сектары літаратуры, наладзілі падобнае ж чытанне ўголас. У заключэнне пачуліся два-тры асмя-





Хоць быў і п'яны лысагорац,
Але ад страху скамянеў.
— Гэй, ты чаго?— падаў ён голас,—
— За што ты хочаш біць мяне?

Між тэмакрадаў я не горшы,
Я злодзей рангу вераб'я:
Калі мне вельмі трэба грошы,
Я не клюю буйней рубля.

Ты б паглядзеў, якія страты
Дзяржаве чыняць «каршуны»:
У дактары і ў кандыдаты
Пралазяць з крадзеным яны!

А што я рыфму спёр ва Уладзькі,
Дык ён і сам іх недзе ўкраў!
Адзін жабрак павесіў лапці
Сушыць на плот — другі забраў...

Ну, што ж, відаць, пра гэта ўбоства
Пара аформіць рэзюме:
Страшней няма самазабойства,
Чым вось такое — на дзярме.

Калі, таварыш Грыша-Міша,
Мяне ты ў госці пазавеш —
Я не спытаю: што ты пішаш?
Я запытаю: чым жывеш?

Ты зубы мне не загаворыш.
Ёсць дыялектыкі закон:
Дзярмом жывеш — дзярмо і творыш.
(А натварыў — дык выкінь вон!)

Бяда не ў тым, што ты не промах
Напхацца бручкай неўпамер,
А ў тым, што ў Музы у вантробах
Завёўся страшны салітэр.

Памрэ — і пудзілам у трантах
Паставяць дзеці на граду.
Уся бяда у тым, што сам ты
Не лічыш гэта за бяду.

Раздзел сёмы

## ВЯЛІКІ РУХ

Так, толькі ён — Алесь Яскевіч,
Спасцігшы эры нашай дух,
Сумеў дадумацца і скеміць,
Як разгарнуць вялікі рух.

Хадзіў ён неяк на дасвецці
Сярод сядзіб сяброў сваіх
І хоць упоцемку — прыкмеціў:
Як добра хрэн расце ва ўсіх!

І праняла яго здагадка:
А што, каб творчасці ўзамен,
З усёй энергіяй на градках
Мы пачалі разводзіць хрэн?

Былі б на выручку надзеі:
Той хрэн вазілі б прадаваць,
Хто піша ў нас не для ідэі,
А каб капейчыну ўварваць.

Каб рух такі мы разгарнулі
І ўсе адчулі ў хрэне смак —
Мы б гэтым самым адвярнулі
Ад пісаніны шмат пісак!..

Сваю ідэю ён назаўтра
У штаб пісьменнікаў занёс.

лелыя галасы — прапаноўвалі перадрукаваць тэкст. Я тут жа падахвоціўся гэта неадкладна зрабіць на інстытуцкай машынцы, што бяздоглядна стаяла ў адным з пакояў. Заўважыў бакавым зрокам, як дзіўна глянулі некаторыя з калег на юнага энтузіяста: а ці ведае ён, што ўсё гэта азначае і якія могуць быць зроблены адсюль высновы? Хвала Богу, ведаў, але дрэнна ўяўляў. Думалася, што ўся тая брыда, якая як брудная пена ўсплыла на паверхню пасля паразы «пражскай вясны» (паводле тэрміналогіі аўтара паэмы: «блазны», «кажаны з руціны коснай», «культурнасытыя мяшчане», «марнатраўцы», «пустадомкі», «стукачы», «тарбахваты», «пэцкалі» і інш.), нармальных людзей абыходзіць стараной. Як аказалася неўзабаве, ахвотнікаў тыражаваць твор знайшлося нямала: пра паэму даводзілася чуць ад самых розных людзей, якія, калі і ведалі нешта пра пісьменніцкі побыт, то хіба толькі вядомую эпіграму пра Петруся Броўку, што «піша лоўка». Твор пра лысагорцаў набыў усенародную папулярнасць.

Натуральна, што было ўзнята пытанне аб публікацыі. Рыхтавалі дзеля гэтага адпаведную глебу, перадаючы адно аднаму «пад сакрэтам» чутку, што «сам Машэраў» выказаўся «за». У стане «герояў» паэмы ўсчаўся перапалох, не меншы, чым падчас дзяльбы дачных участкаў: у адпаведныя аддзелы ЦК ішлі паасобку і цугам, пісаліся пратэсты, просьбы, абвяржэнні, якія з часам занялі асобную шафу. У «калідорах» Дома літаратара («дзе, не стаўшы пад вянец, калісьці сам гаўляйтар Кубэ аддаў бясслаўна свой канец») настойліва выпрацоўвалася «грамадская думка», што гэта брудны пасквіль на беларускіх літаратараў, які не адпавядае сапраўднай рэальнасці. Сёй-той грозіўся выкрыць ананіма і падаць на яго ў суд за абразу і дыскрэдытацыю «высокага звання савецкага пісьменніка». На аўтара тут і там расстаўляліся «воўчыя пасткі» ў выглядзе абяцанак шчодрага ганарару, нават літаратурнай прэміі. Спрабавалі сыграць на натуральным жаданні кожнага пісьменніка быць славутым. Дзёрзка пыталіся адно ў аднаго: «А гэта не ты часам аўтар?»

Там ухапіліся з азартам —
Адзінадушна і ўсур'ёз.

— Склікайце пленум,— буркнуў лідэр,
Хай гуртам вырашыць актыў...
Мужык учэпісты Дайліда
«Мыслю» падаў у калектыў:

— Каб зацікавіць лепей хрэнам
І новай справе даць размах —
Я раю вам правесці пленум
У лысагорцаў у гасцях.

— Цудоўна! Пленум на прыродзе!
На выязным і п'ецца лепш!..
І вось праз тыдзень па дарозе
Няспешна рухаўся картэж.

У галаве — чатыры «волгі»,
За імі — рафікі ўпадскок,
А замыкаў картэж той доўгі
Сакратароў бранявічок...

На традыцыйную палянку,
Дзе ладзіць сходкі Гарулёў,
Як старажыл, вясёлы зранку,
Праўленцаў гурт Няхай прывёў.

Кароткі ўступ зрабіў намеснік:
— Мы дапусцілі ў працы крэн.
Нам трэба ўрэзаць прозу, песні
І частку сіл пусціць на хрэн.

Раней, чым прымем пастанову,
Узгоднім думкі ў добры час.
Давай, Змітро, пачні размову·
Ты самы смелы сярод нас.

Змітрок рыўком прайшоў наперад,
Адкашляў хрыпку на хаду
І з развароту, без паперак,
Абрынуў шквал на грамаду·

— Ну, што скажу я? Хрэн у вершах
І хрэн у прозе — хрэн адзін.
А ў манаграфіях навейшых
Мы і такога не дадзім.

І калі мусім мы заняцца
Праблемай хрэнаразвіцця,
Дык гэта — скажам шчыра, братцы,—
Не ад вясёлага жыцця.

Зайдзіце самі ў дзень суботні
З кнігарні прама на базар
І параўнайце, што ахвотней
Бяруць: ці хрэн, ці наш тавар?

Ахвотней хрэн купляюць жонкі!
Хрэн проста з рук ірвуць яны,
А калі корань тоўсты, ёмкі —
Дык не пытаючы цаны!..

Таму я згодзен з прапановай:
Чым кніжкі дохлыя тварыць,
Дык лепш з плантацыі хрэновай
Даваць хоць нейкую карысць...

І тут жа ўстаў Арочка з кульбай,
Усхвалявана сапучы:
— А калі ўвесь надзел пад бульбай?
І паўкаша ў адным карчы?

Кароткай рэплікай Дзюбайла
Ссадзіў Арочку з капытоў:
— І так, бульбянікі, нядбайна
Нагадавалі жыватоў!

**Іван Дзмітравіч Ралько, вядомы вершазнаўца, падахвоціўся распачаць самастойнае даследаванне. Захоплены модным у тыя часы структуралізмам, ён спадзяваўся вылічыць аўтара з дапамогай фармальнага метаду, метрыкі, рытмікі, частотнага слоўніка і г.д. Але аўтар быў няўлоўны. Што да Сцяпана Александровіча і Генадзя Кісялёва, якіх пад заслону прыкмеціў Вядзьмак, бо менавіта яны ў той час актыўна шукалі аўтараў ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», то гэтыя слынныя даследчыкі ведалі з вопыту: толькі час, калі аціхнуць страсці і будуць даступнымі архівы, у тым ліку і асабістыя, прыадкрые таямніцу імя аўтара. Зрэшты, ёсць шмат нерасшыфраваных загадак мінулага: «А хто пісаў паэму гэту, і дзе тварыў ён, і калі — Навечна канула ў Лету, І толькі бурбалкі пайшлі». Пакуль што можна высоўваць толькі версіі: тэкст дае такую магчымасць.**

**Магчымасць гэта фенаменальная — адначасова вельмі шырокая і вельмі вузкая, жорстка абмежаваная шматлікімі агаворкамі, умовамі, вымогамі. Што да шырыні абсягаў, то ў кола магчымых прэтэндэнтаў на аўтарства лёгка ўваходзяць не толькі сябры Саюза пісьменнікаў, але і ўсе пішучыя. Зманлівае ўражанне, якое суправаджае заўсёды сапраўды таленавітыя творы, што такое пішацца без асаблівага намагання, і на гэты раз падвяло многіх. Па руках неўзабаве пайшлі падробкі, дадаткі да паэмы і г.д. Вонкава многія з іх нагадвалі арыгінал, але нязменна фальсіфікацыю выдаваў з галавой змест, калі які-небудзь «пэцкальабармот», падладзіўшыся пад стыль «Сказа», бэсціў «добрыя імёны бездапаможнаю хлуснёй». Увесці ў зман грамадскасць не ўдалося: вяршыні творчасці паддаюцца толькі натхненню, а натхнёным можна быць толькі чыстаю, святою праўдаю, недаступнаю дробным літаратурным хуліганам і зламыснікам. Аб гэтым сведчыў дадатак да першых чатырох раздзелаў, дасланых асобнаю ратаю тым жа шляхам у пэўныя ўстановы: замест наяўных 795 радкоў паэма ў канчатковым выглядзе налічвае 1537 вясёлых радкоў. У лісце ад 7 ліпеня 1975 года**





— Ты на каго намёкі робіш?—
Зірнуў Сцяпан з-пад акуляр.
— Вядома, хрэн — зусім не дробязь,
Але ж і талент — божы дар.

Калі ўжо трэба гэта мера —
Ёсць выйсце іншае яшчэ:
Паслаць на хрэн пенсіянераў —
Усіх, хто выпісаўся ўшчэнт!..

Тут узарваўся Асіпенка:
— Сматрэ якей пенсіянер!
Другі — як ссохлая апенька,
А ў пісанні дае прымер!..

Тады з радоў, з канца аднекуль,
Падняўся рыжы здаравяк,
Падобны вельмі на Дайнеку,
А на Дайліду — аніяк.

Паколькі быў ён незнаёмы,
Усе рашылі: прадстаўнік.
І стала ціха-ціха ўмомант·
Ну, як жа ён у справу ўнік?

І гаркнуў рыжы:— Пустадомкі!
Спыніце гэту балбатню!
Бо як вазьму цурбэлак ёмкі —
Як пацукоў вас разганю!

Пакуль пустою гаварыльняй
Вас тлумяць лекары навук —
Няздары з п'янай камарылляй
Свае тамы здаюць у друк!..

Сказаў — і тут жа з касагору
Спакойна рушыў у сасняк.
Нібы прыбіты громам, форум
Не мог апомніцца ніяк.

Намеснік зекрыў на Ляксея
І мармытаў:— Адна Вярба,
Адна Вярба ў нас так умее...
Рух праваліўся — нам труба!

Ляксей уставіўся ў Гамолку:
— Хто гэта збэсціў нас, скажы?
Ты знаеш нашу ўсю суполку:
Ці ён пісьменнік, ці чужы?

Устаў Гамолка, дзядзька порсткі,
І ўсіх, як доўбняй, аглушыў·
— Паэт Францішак Лысагорскі!
Калі хлушу — каб я так жыў!

— Вядзьмак?!— жахнуліся праўленцы.
— Вядзьмак?!— азваліся кусты.
Ва ўсіх затрэсліся каленцы,
Ва ўсіх раскрыліся раты.

Народ знямеў Але праз хвілю:
— Дагнаць! Дагнаць!— узняўся крык.
— Злавіць і збегаць па Марылю:
Хай зробіць гаду чык-чырык!..

— Дагнаць і ўзяць пад ногаць гніду!
Намеснік грукнуў кулаком.
— Даверым місію Дайліду:
Вярнуцца толькі з Ведзьмаком!

— А дзе вы бачыце Дайліду?—
Гукнуў нясвіжскі пасланец.
— А той вунь, чырванню наліты?
— Во гэны? Гэна ж Мыслівец!

Намеснік зіркнуў на Гамолку
І тут жа коршунам уссеў·
— Ты што ў Саюз нагроб без толку?
Як на адзін капыл усе!..

**Францішак Вядзьмак-Лысагорскі ставіў кропку: «Праца завершана, больш не паявіцца ні радка. Калі што будзе выходзіць пад маім імем, як нібыта дадатак да паэмы,— не вер: ніякага дачынення да яго я мецьне буду. У чым і запэўніваю цябе». Тым, хто і пасля гэтай заявы прэтэндаваў на чужую славу, нічога не заставалася, як публікаваць нібыта-паэмы ў стылі і манеры «Сказа», падводзячы чытача як бы незнарок да вельмі пэўных высноў аб таямніцы аўтарства. Але ў аўтсайдэра місія вядомая — плесціся ззаду і падбіраць тое, што засталося. Надрукаваная гады два таму ў газеце «Звязда» паэма «Ачмурэнне», падпісаная па вядомаму ўжо ўзору імем Баркулаб Дамавік-Крывіцкі,— апошняя па часе спроба ўзяць зналёту парнаскія вяршыні народнасці, якая пры больш блізкім назіранні выдае ўстарэлую безнадзейна сацрэалістычную накіраванасць яе аўтара, што напінаецца быць «бацькам нацыі».**

**Як бачым, «натхнёныя нікчэмнай зайздрасцю» прэтэндэнты хапаліся за справу не з таго канца. Здаецца, вось яна, формапасудзіна, і ўлівай у яе любы змест. Але выказанае ўголас слова выяўляе не толькі пажаданае, але і прыхаваныя намеры: яно помсціць аўтару, які намагаецца ўціснуць яго ў пракрустава ложа хлусні, траціць сваю змястоўную глыбіню і пачынае гучаць ненатуральна, натужна, надламана. Вядзьмак-Лысагорскі добра ведаў гэты непарушны закон мастацкай творчасці і не дужа палохаўся магчымай падмены: «Го, колькі ёсць іх, тарбахватаў, Таўстых кішкой, пустых душой, Што ўласнай славы малавата, Дык смоллю ліпнуць да чужой». Яго абурала спроба аддаць «на глум паскудніку» жывую праўду часу, абылгаць слаўныя імёны. Чытач паэмы лёгка заўважае, што імёны многіх сапраўдных беларускіх пісьменнікаў, нашых сучаснікаў, адсутнічаюць у тэксце «Сказа». А гэта І.Мележ, В.Быкаў, Я.Брыль, А.Адамовіч, П.Панчанка, М.Танк і інш. І дарэмна мастакі-афарміцелі «Бібліятэкі «Вожыка», дзе ўпершыню была апублікавана масавым накладам паэма, узнавілі на старонках гэтага выдання аблічча некаторых з гэ-**

— А дзе Дайліда?— Бачыў сведка,
Як сёння ўранку, сам не свой,
Без чаравікаў, у шкарпэтках,
Ён пёр на Слуцак пехатой.

— Гардзіцкі ёсць?— У хрэнаводаў
Для кніжкі інтэрв'ю бярэ.
— Ну, а Рыбак?— На агародах
Дзесь выступае па Бюрэ.

— Заві хоць Ставера-халеру!
— Няма таксама, як на грэх:
Пакавыляў мяняць кватэру,
Каб барыша ўзяць за паверх.

Намеснік вылаяўся з гора:
— Ну, і работнічкі ў мяне!
Які ты з імі рух разгорнеш?
І тут правал па іх віне!..

І ён зрабіўся сумны-сумны:
— Цяпер праклятьі той Вядзьмак
З усіх нас выцягне гізунды,
Ох, і паздзекуецца ўсмак!..

Чыгрынаў чмыхнуў раззлавана:
— Не разумею — што за страх?
Пішыце добрыя раманы —
Ні чорт не ўшчуне, ні алах!

Пасля чамусьці глянуў раптам
На фотамайстара Крука:
— Ці ты хоць пстрыкнуў апаратам?
Схапіў на плёнку Ведзьмака?

— Ды не, таварышы праўленцы,—
Сказаў, збянтэжыўшыся, Крук.
І ў гэты момант Татур лейцы
У кіраўніцтва вырваў з рук.

—Хоць праваліўся рух ганебна,
Ды ў гонар сходкі выязной
Нам дзербануць усё ж патрэбна.
Прашу, таварышы, за мной!..

І з крэктам, стогнучы, з адышкай,
Усе палезлі на гару,
Дзе між кустоў, пад самай вышкай,
Быў разасланы ўжо абрус.

І хоць з гары амаль да Мінска
Былі відаць шанхаі дач —
Ім асляпіла вочы «Пліска»,
Бо кожны з іх быў закладач.

Як зазірнулі дружна ў шклянку —
За хрэн схапіліся скарэй.
— Ах, гэткі рух звялі на п'янку!—
Сказаў, смакуючы, Андрэй.

— Пазбавіць закусон прыправы —
Што з песні выкінуць рэфрэн.
Для нашай справы, як для стравы,
Патрэбны перац, соль і хрэн!..

— Сачы за гэным, за нясвіжскім,—
Шапнуў суседу гаспадар,—
Каб ён не свіснуў пляшку «Плїскі»,
Як у Нясвіжы — «Сонцадар».

— Я, проша пана, не для варты:
Я — на будоўлі інжынер!
— Ты естась гіцаль, ніц не варты!
Ты — фуражыр і кватар'ер!

— Но, но, пся крэў, не надто глосьно!
Не велькі пан ты тутай сам!..
Сп'яна прамовіў хтосьці злосна:
— А ўсё ж Вядзьмак патрэбен нам!..

тых выдатных пісьменнікаў. Імёны іншых жа слаўных нашых творцаў (А.Куляшоў, У.Караткевіч, Р.Барадулін, А.Вярцінскі, В.Вітка, А.Макаёнак, П.Макаль, Г.Бураўкін, М.Лупсякоў, В.Палтаран, В.Адамчык, Я.Янішчыц) ужываюцца часцей за ўсё ў гумарыстычным кантэксце, які не кідае цень на іх грамадскую і літаратурную рэпутацыю, а выяўляе адно аўтарскую сімпатыю і пачуццё замілавання. Аднак гэты ідэйны і стылёвы пласт паэтычнага зместу твора, які сведчыў аб пазітыўнай мастацкай праграме аўтара, не адразу заўважаецца на фоне захапляючай камедыйнай інтрыгі, якая стала ядром зместу. І героі яе — зусім іншыя нашы пісьменнікі, імя якім сапраўды — легіён: «Пісакаў — тры разы па сто. А колькі з іх крамзоліць-піша? А калі піша, дык пра што?»

Так, паэтычны фарс твора Францішка Ведзьмака-Лысагорскага ў выкрыцці негатыўных з'яў у літаратурным жыцці грамадства, якое падышло да парога свайго маральнага распаду і духоўнай дэградацыі. Аб гэтым сведчыла многае тады: зварочванне так званай «касыгінскай» эканамічнай рэформы, наступленне на адваяваныя ў часы «адлігі» свабоды, агрэсіўныя атакі ў друку прыхільнікаў сталінізму на А.Сахарава, А.Салжаніцына, В.Быкава, А.Адамовіча, У.Караткевіча, В.Адамчыка і, адпаведна, здрабненне, абмяленне і паступовае знікненне грамадзянскасці ў нашай літаратуры. Невядомы аўтар у новых гістарычных стасунках працягваў, па сутнасці, справу сваіх вялікіх папярэднікаў. Несумненнае яго, у прыватнасці, творчае сваяцтва з Канстанцінам Вераніцыным, аўтарам «Тараса на Парнасе». Яднае іх пафас адмаўлення ілжэлітаратуры, пастаўленай на службу дзяржаўнаму афіцыёзу, і яе найбольш адыёзных прадстаўнікоў. Блізкая ў іх і творчая гісторыя, тая ж самая змушаная акалічнасцямі літаратурнага побыту ананімнасць.

О, Муза, Муза! Клёцкі ціскаць —
Хіба на гэта трэба дар?
Дакуль жа ты нам будзеш тыцкаць
Пяцікапеечны тавар?

Тварыць маштабна, моцна, ярка





Тут Караткевіч рухам звыклым
Насупраць сонца ўзняў бакал:
— Дык і давайце, хлопцы, лыкнем
Мы за здароўе Ведзьмака!

Вядома, праўда вочы коле,
Ды без яе, скажу вам я,
Нічога людскага ніколі
Не выйдзе з нашага рая.

Пакуль не станем як належыць
Цаніць сумленнасць у сабе —
Вядзьмак не кіне нас драпежыць:
Не гэты — іншы дадзяўбе!..

Калі й апошні высах келіх,
Не давяраючы нагам,
З гары, як дзеці на партфелях,
З'язджалі ўсе пад шум і гам.

Сукі калолі ў бок, як пікі,
Сухія шышкі дралі брух...
І гэта быў хоць не вялікі,
І хоць уніз — а ўсё-ткі рух!

**Раздзел восьмы**

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Ну, вось і ўсё маё сказанне,
І кропку ставіць мне пара.
Пара сказаць на развітанне:
Бывай жа, Лысая гара!

Але магчыма, што нашчадкі,
Як прачытаюць гэты сказ,
Не змогуць вырашыць загадкі:
А што за век быў? Што за час?..

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Сёй-той прыкінуў, што панчоха —
Зусім не кепскі ідэал;

Калі арлы ляцелі ў космас —
Ім крылы зорамі пякло,
А кажаны з руціны коснай
Насілі харч сабе ў дупло;

Калі здрабнелі нават блазны
І ўжо ніякі скамарох
Не мог дзвярыма ў гневе бразнуць
І маску зняць з сябе не мог;

Калі ў кампаніі парою
Не зразумець было, хоць плач,
Хто лезе чокацца з табою:
Ці лепшы сябар, ці стукач.

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі гадаў інтэлігент:
Чаму стандартны выпіўоха
Вылазіць часам на прэзент?

Калі сёй-той крычаў пра брацтва,
А сам ірваўся з капытоў,
Каб як мага вышэй прабрацца —
Далей ад шэранькіх братоў;

Калі ў сталіцы беларускай
Культурна-сыты мешчанін
Лічыў грамадскаю нагрузкай
Язык «тутэйшым» прышчаміць;

Калі другі артыст народны

Табе ўжо сілы нестае.
Ты — як базарная гандлярка,
Што кроп пучкамі прадае.

Грамадская і літаратурная сітуацыя будзе больш зразумелай, калі прыгадаць, што рабілася ў савецкай літаратуры, пачынаючы з 1930-га года. Паводле сведчання Кузьмы Чорнага, якое гэты таленавіты празаік са зламаным таталітарызмам лёсам адважыўся пакінуць толькі ў апошнія дні свайго жыцця ў дзённіку, у беларускай тагачаснай літаратуры тых, хто сапраўды мог лічыцца беларускімі пісьменнікамі, а не пасмешышчам, налічвалася не больш дзесятка. Ударнікі ад станка і сахі, што прыйшлі на змену рэпрэсаваным крымінальнай сістэмай талентам, шпарка зніклі са старонак літаратурных выданняў з двух дзесяткаў названых тым жа К.Чорным імёнаў сучасны чытач наўрад ці ведае хоць аднаго. Створанае з вельмі пэўнай мэтай ідэалагічнага кантролю літаратурнае міністэрства пад назваю СП СССР і яго рэспубліканскія філіял СП БССР збірала пад сваім дахам усіх, хто так ці інакш прычыніўся да друкаванага слова, і нагадвала тым самым звычайны савецкі калгас, дзе панаваў прынцып: адзін з сошкай, а сямёра з лыжкай. Аўтар-ананім заспеў час, калі, паводле яго слоў, «літаратуру і мастацтва, Што ўзносяць сэрцы да вяршынь, Тысячаногі спрут мяшчанства У петлях хоча задушыць». Як вынікае з тэкста паэмы, ён таксама не пазбаўлены дзіцячых хвароб часу ў дабратворную волю кіруючай партыі, якая нібыта «зрэдку асаджала пугаўём» тых, хто гатоў быў глынуць жыўём «бедную родную мову», якой «Купала гаварыў». Але проста быць разумнікам заднім лікам, сёння, калі многае адкрылася, што старанна прыхоўвалася за «чалавекалюбівымі» лозунгамі і заклікамі!

У сваім неспатоленым жаданні звесці творцу з вяршынь літаратуры на дол (як паляўнічага Тараса з боскага Парнаса ў воўчую яму-пастку) тая самая партыя і прыдумала слынныя дачныя кааператывы, якія выдаваліся як прывілея для асабліва набліжаных і давераных. Тое, што

Не знаў і двух народных слоў,
Затое меў тут харч нязводны
І ўволю цешыўся з аслоў.

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, засвоіўшы «сю-сю»,
Дыпламаваная цыцоха
За «модай» гналася ва ўсю.

Калі й пісьменніцкія жонкі
Ад «моды» праглі не адстаць,
А іх «рабяты і рабёнкі»
Бацькоў не ўмелі прачытаць,

Калі й тэатр падупалы
Даніну «модзе» аддаваў,
А цень вялікага Купалы
З труны тым часам уставаў,

Хадзіў-блукаў ля падаконня,
Прасіў: «Браток! Хоць уначы,
Хоць ад кашмару, хоць спрасоння
На роднай мове закрычы!..»

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі без культаўскіх гужоў
Настала ў думках «суматоха» —
І сніўся Модэлю Яжоў!

Калі звалілі з трона Броўку,
А цераз нейкі год-другі
Вярнуць на трон хацелі б зноўку —
Нанова выбраць у багі,

Калі не ўмелі дэталёва
У справу ўнікнуць і рашыць,
Таму з брандсбойта Кавалёва
Ўзяліся «Полымя» тушыць,

У наступ рынуліся пешкі,
Лілі ваду за чанам чан —
І задымілі галавешкі
У вочы бедным чытачам..

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі ў СП сакратароў
Хоць і было залішне троха,
Ды кіравалі — будзь здароў!

Калі ў бюро па прапагандзе
Дзеяч, збаёдаўшы літфонд,
Наладзіў выездамі гандаль,
Каб мець штодзённа выпівон;

Калі з сваім радком паршывым
Сапселы Скрыпка ўсюды лез,
А графаман-бядак Вяршынін
Ішоў яму наперарэз;

Калі да Прокшы «ЛіМ» даехаў,
Але ніхто не гараваў,
І Ул.Няхамкін, ён жа Мехаў,
Адзін газетай кіраваў;

Пасля і Прокша ў лібералы
Па прастаце сваёй уліп,
І Ваня з Федзем паднабралі
П'янчуг і невукаў у «ЛіМ»...

Ды паспрабуй ты праўду ляпнуць —
Цябе стаўкуць на груцу ўраз!
Як кажа Ставер: «Тамбу-ламбу,
Глядзіш — і спёкся папуас!»

Аднак жа хопіць! Больш ні слова,
Мне адпачыць даўно пара.
Бывай жа, брація, здарова!
Да стрэчы, Лысая гара!



А хто пісаў паэму гэту,
І дзе тварыў ён, і калі —
Навечна канула у Лету —
І толькі бурбалкі пайшлі!

## ДАДАТКІ ДА ПАЭМЫ

### 1. Хто адкрые аўтара

Як толькі «Сказ» мой паявіўся —
Тады ж вучоных легіён
На пошук аўтара пусціўся:
«Вядзьмак? Не чулі. Што за ён?

Няўжо зялёны пачатковец
Сягнуў да гэткай вышыні?
Ну, не! Такая выпадковасць
Неверагодна ў нашы дні!

Дык што ж выходзіць? Дзед старэчы
Пісакам крыкнуў «Каравул!»?
Панове! Творца гэтай рэчы —
Ні аксакал, ні саксаул.

Адкрыцця аўтара не зробіць —
Хоць зад натрэ да мазалёў —
Ні крот Сцяпан Александровіч,
Ні кротус Генус Кісялёў!

І толькі ёсць адзін даследчык,
Які нідзе не спасаваў —
Сваю вучонасць так засведчыў,
Што ўсіх сваціл закасаваў:

Узяўшыся самааддана,
Зняў фігавы лісток з Адама,

На яйцы пасадзіў Сцяпана,
Уткнуў Івану кацатыг,
Генадзю выгнаў матыліцу,
З Рагойшы выкруціў сырыцу,
Пад нуль Майхровіча пастрыг,
Лазарука падсек пад корань,
Уздзеў Ісідара на шворан,
Расшкуматаў Юльяна ў пух,
Прыпёр Івашына да сценкі,
Спусціў кальсоны з Каваленкі
І земляку прамыў каўбух
І нават з Лойкі выбіў дух!

Вось калі ён не пройдзе міма,
Дык нейкіх год праз дваццаць сем
Раскажа ўсё, як пра Яфіма,
Тварца праслаўленых паэм.

1975

### 2. Першае папярэджанне падробшчыкам

Прабеглі дні, мінулі тыдні,
Няўгледна месяцы імчаць,
А нашы крытыкі, як злыдні,
Пра мой праўдзівы сказ маўчаць.

Вунь непісьменнага Аверку
Дык неразумнай пахвалой
Ужо засыпалі даверху —
Ужо схаваўся з галавой.

А што чакаць ад марнатраўцаў?
Не знойдзеш праўды ні на грош —
Ні ў тым, што пэцкае Кудраўцаў,
Ні ў тым, што квэцае Ярош.

Зацішша, сумнае зацішша!

---

з гэтай задумы атрымаўся звычайны «пхай-пхай», нечуваны ва ўсім вялікім свеце, апрача хіба толькі як у Кітаі, можна было лічыць непрадугледжанымі выдаткамі добрай справы ажыццявіць высокі лозунг аб адзінстве літаратуры з жыццём народа. Даўняя мара любога ідэалагічнага чыноўніка аб тым, каб творцы за дробнымі гаспадарчымі клопатамі (як адхапіць лепшы лапік зямлі, як танней збудаваць на ім дамок, дзе ўзяць гною, каб нешта вырасла, як засцерагчы ўраджай ад звыклых да плагіяту-крадзяжу суседзяў-пісак і г.д.) занядбалі на сваё высокае прызначэнне быць голасам народнай праўды, амаль што здзейснілася на асобнай тэрыторыі пад назвай Лысая гара. Зразумелы сарказм Ведзьмака-Лысагорскага, які на свае вочы бачыў гэтае марнаванне Божага дару, дадзенага амаль кожнаму без выключэння лысагорцу: «О, калі б так пераціралі Любы радок і кожны сказ, Якія б дулі выраслі На творчым зябліве у нас! А то прывыклі, марнатраўцы, Паперу крэмзаць, абы з рук... Не ганарару б ім, а трасцы За той «цяп-ляп», што пруць у друк». Чытача якраз і ўражвае гэтая гратэскна-камічная дэманстрацыя ўсёй ілжывасці і бессэнсоўнасці формаў, у якіх адбываецца штодзённае жыццё-быццё людзей з талентам, на каго народная большасць звыкла пазіраць з надзеяй на заступніцтва і на пракараванне блізкае будучыні. Яго ўрэшце бянтэжыць гэтае ледзь не свядомае адгароджванне лепшых прадстаўнікоў народа ад думкі, уласцівай амаль кожнаму з жывых, пра безвыходнасць трагічнага «чалавечага лёсу», якая і надае лепшым літаратурным творам патрэбную глыбіню і змястоўнасць. Чытача ратуе смех, які стаў самым галоўным і самым прыкметным героем гэтага твора. Зніжаючы высокае і парадыруючы нізкае, выварочваючы падзеі, што адбыліся з лысагорцамі, на левы бок, пераапранаючы сваіх герояў у звычайную сялянскую сярмягу, аўтар паэмы паказвае анамальнасць, хімерычнасць жыцця, у якім звыкла бытуюць не самыя горшыя з нашых сучаснікаў. Пры ўсім гэтым сакральнае ў нацыянальным жыцці беларусаў (высокія ўяўленні аб сапраўдным прызначэнні літаратуры, культуры, мовы і інш.) ніяк не ставіцца Лысагорскім пад сумненне. Наадварот, яго голас набывае ў адпаведных мясцінах эпічнае гучанне і пафас філасофскіх разваг:

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі ў СП сакратароў
Хоць і было залішне трохі,—
Ды кіравалі — будзь здароў!

Калі звалілі з трона Броўку,
А цераз нейкі год-другі
Вярнуць на трон хацелі зноўку —
Нанова выбраць у багі...

Той час, той век, тая эпоха напрыканцы свайго гістарычнага існавання. Ранейшыя багі, бажкі, ідалы скінуты са сваіх п'едэсталаў. А на іх месца прыходзіць нармальнае разуменне аб шматстайнасці, плюралістычнасці чалавечага быцця, здаровае рэалістычнае ўяўленне аб сапраўдным месцы мастацкай літаратуры ў жыцці народа. І хаця працэс гэты далёка не завершаны, сёння несумненна, што ў яго пачатку знаходзіўся рэкрэацыйны, узнаўляльны, ачышчальны смех Францішка Ведзьмака-Лысагорскага, смех, які напаўняе нас жыццёвай сілай і здаровай цікаўнасцю да ўсяго новага, што нясе імклівы ход часу.

Ну, а што ж «Сказ пра Лысую гару», гэтае тварэнне свабоднага духу, гэтае сучаснае ўзнаўленне нацыянальнай травесційнай традыцыі, поўнае адраджэнскай энергіі і светлага захаплення Божым светам? Будзем, як усе дваццаць год, што мінулі з часу ўзнікнення гэтага выдатнага твора, чакаць, калі яго нарэшце заўважаць крытыкі («А нашы крытыкі, як злыдні, Пра мой праўдзівы сказ маўчаць»). На жаль, крытыкі, як тое бачна з раздзела «Вялікі рух», захоплены той жа мітуснёй, што і астатнія лысагорцы. Чытач жа застаецца ў цвёрдым перакананні, як, дарэчы, і сам аўтар твора, што «Ён можа больш сказаць народу, Чым іншы збор у шмат тамоў...»

Міхась ТЫЧЫНА

Пісакаў — пэўна, сотні тры.
Але ці шмат з іх час запіша
Хоць кандыдатамі ў майстры?

О, Муза, Муза! Клёцкі ціскаць —
Хіба на гэта трэба дар?
Дакуль жа будзеш ты нам тыцкаць
Пяцікапеечны тавар?

Тварыць маштабна, моцна, ярка
Табе ўжо сілы не стае.
Ты — як базарная гандлярка,
Што ўкроп пучкамі прадае.

Я — паўтарацца не аматар,
Але і змоўчаць не магу:
Фальсіфікатар-плагіятар
Рашыў падставіць мне нагу.

Заўчора стала мне вядома,
Што нейкі пэцкаль-абармот
(Янкоўскі скажа: «Пустадомак!»)
Пусціў свае падробкі ў ход.

Нікчэмнай зайздрасцю натхнёны,
Пад стыль падладзіўшыся мой,
Ён бэсціць добрыя імёны
Бездапаможнаю хлуснёй.

Катэгарычна пратэстую!
Пакуль жыву на свеце сам —
Я праўду чыстую, святую
На глум паскудніку не дам!

Няўжо ён думае, зламыснік,
Што ў зман грамадскасць увядзе?
Ды трыста раз ён дробна дрысне,
А гэткай рэчы не складзе!..

Го, колькі ёсць іх, тарбахватаў,
Таўстых кішкой, пустых душой,—
Уласнай славы малавата,
Дык смоллю ліпнуць да чужой.

Ад гэткіх праўды не чакайце!
Таму я вам і гавару:
Чытайце, з розумам чытайце
Мой «Сказ пра Лысую гару»!

1973

**3. Другое і апошняе папярэджанне падробшчыкам**

Літаратуру і мастацтва,
Што ўзносяць сэрцы да вышынь,
Тысячаногі спрут мяшчанства
У петлях хоча задушыць.

А я ў камуны сімвал веру,
Якому век не змізарнець,
І тому спруту-ненажэру
Я аб'явіў вайну на смерць.

Вайна на смерць!.. А нейкі пэцкаль
Пустыя смешыкі свае
З дзяшовай прымессю эстэцкай
За сказ мой гнеўны выдае.

Таму хачу я папярэдзіць
Апошні раз: канчай, махляр,
Мазгі падробкамі вярэдзіць —
Набудзь у працы ўласны твар!

А ўсім даследчыкам я раю:
Сядзіце, гніды падшчамя,
І дайце дзякуй, што хаваю

* * *

АБ ІСНАВАННІ «ЛЫСАЙ ГАРЫ» я даведаўся, як і заўсёды пра розныя цікавыя навіны, звязаныя з літаратурным жыццём Беларусі і ў прыватнасці Менска, ад Рыгора Барадуліна. Ён мне пазваніў і ў штодзённай нашай размове спытаў: «Ну, а «Лысую гару» ты ўжо прачытаў?» Праз некаторы час далі мне надрукаваны на машынцы экземпляр — здаецца, той жа Барадулін. Між іншым, забягаючы наперад,— прачытаўшы, я спачатку падумаў, што ён яе і напісаў. Але потым, пазней, больш уважліва чытаючы і аналізуючы тэкст, я прыйшоў да высновы, што гэта ўсё–ткі не Барадулін. Я, канешне, хацеў бы памыліцца, я б хацеў, каб некалі высветлілася, што гэта ўсё–такі ён. Але, я паўтараю, мне здаецца і па сённяшні дзень, што гэта не ён.

Дарэчы, гэта рэч злая, нягледзячы на тое, што там няма абразы. Вобразы персанажаў намаляваны так, што гэта не шарж, гэта карыкатура. Карыкатура не зласлівая, карыкатура мастака, які не прагне гвалту над асобай. Злая, але вельмі дасціпная, вельмі таленавітая. Якая ў мяне прэтэнзія да гэтай паэмы? Яна мае не літаратурны, а, так бы мовіць, грамадска–палітычны характар. Такая паэма не магла нарадзіцца не ў савецкай дзяржаве. Таму што яна ў аснове сваёй нясе адмаўленне прыватнай уласнасці. Гэта ў многім сатыра на ўласніка, на чалавека, які хоча мець сваю прыбіральню, каб ніхто з гэтай прыбіральні не забіраў ягонага дабра...

Мая прэтэнзія да гэтай рэчы палягае на тым, што аўтар таксама быў носьбітам такога светапогляду. Увогуле там высмеяны і характары, і нейкія рысы, якія народжаны дзіўным гібрыдам савецкага часу. «Лысая гара» — што гэта? Гэта ж мурашнік, гэта наш сацыялістычны мурашнік, у якім кожнаму выдалі сваю нішу, і яны там мітусяцца... Ну і, канешне, калі гаварыць пра характарыстыкі проста літаратурных канкрэтных персанажаў, там усё абсалютна трапна, аб кім бы ні зайшла размова. І знешні выгляд, і манера паводзін, і творчасць... Як ні дзіўна, дастаткова часам трох–чатырох радкоў, каб было ясна, што піша, як піша і чым дыхае нейкі персанаж. Улада ж насцярожылася і нават напалохалася, таму што ствараўся — можа,





Сваё сапраўднае імя.

Бо як на грудзі перад вамі
Павешу ўвесь іканастас
Ды калі бразну медалямі —
Дык і кандрашка хопіць вас!..

А чытачам замест «бывайце»,
Як і раней, я гавару·
— Чытайце, з розумам чытайце
Мой «Сказ пра Лысую гару»!

1975

**Дарагі чытач!**

**Паэма «Сказ пра Лысую гару» нарэшце закончана цалкам. Калі ты маеш толькі асобныя часткі, для арыентацыі напамінаю табе агульны план гэтага твора:**

**Ад аўтара.**
**1. Дзяльба.**
**2. Праблема.**
**3. Будаўніцтва.**
**4. Так і зажылі.**
**5. Мужчынскі страх.**
**6. Пудзілы.**
**7. Вялікі рух.**
**8. Замест эпілога.**
**Дадаткі да паэмы:**
**Хто адкрые аўтара.**
**Першае папярэджанне падробшчыкам.**
**Другое і апошняе папярэджанне падробшчыкам.**

**Праца завершана канчаткова, больш не паявіцца ні радка. Калі што будзе выходзіць пад маім імем як нібыта дадатак да паэмы — не вер: ніякага дачынення да яго я мець не буду. У чым і запэўніваю цябе.**

Францішак **ВЯДЗЬМАК-ЛЫСАГОРСКІ**

упершыню за дзесяцігоддзі існавання літаратуры — прэцэдэнт падцэнзурнай рэчы, якая ходзіць па руках, як некалі хадзіла «Гора ад розуму» па Расіі. І найбольш дальнабачныя, найбольш адукаваныя партыйныя начальнікі разумелі, што сёння — гэта, а заўтра — яшчэ нешта... Вядома, яны не маглі не заўважыць, што гэта вельмі нацыянальная рэч. Хоць яна лаяльная, хоць яна ўвогуле народжана савецкім часам, але сам нацыянальны момант не мог іх не напалохаць, таму што настолькі ўсё было глыбіннае, настолькі народнае, настолькі выяўляла здаровы сэнс... І яны зрабілі такі ход: яны вырашылі яе абясшкодзіць. Я не памятаю, хто з сакратароў ЦК першы сказаў: «Ну і што? чытаюць — і няхай людзі чытаюць, а мне падабаецца, я чытаў і рагатаў». Гэта было сказана ці то на нейкім партактыве, ці то на нейкай калегіі, а потым трапіла ў друк.

Аб тым, што «Сказ» сапраўды значная з'ява, а не проста нейкі эпізод літаратурнага жыцця, сведчыць тое, што з'явіліся падробкі, з'явіліся працягі: першы, другі, трэці... Але пры ўсёй таямнічасці гэтых працягаў, пры ўсёй літаратурнай спрактыкаванасці іх — усё–такі гэта было не тое. Як усякая падробка, гэта ўжо другі гатунак. Я не буду называць прозвішчы, не хачу, але вось у працягах можна было пазнаць, хто піша. Аўтарам ужо не давалася тое майстэрства, каб растварыць сябе, сваю асобу ў гэтым эпасе. І пачаліся звядзенні асабістых рахункаў, дадаваліся новыя персанажы.

Магчыма, гэта калектыўная творчасць. Таксама, як «Тарас на Парнасе» напісана не адным чалавекам. Але, на маю думку, калі параўноўваць, то там гэта адчуваецца, а тут ураженне ўсё–такі аднаго аўтара. Нейкая адна хваля, яна не разбіваецца на шэраг хваляў... Вядома, я тут магу памыліцца. Бо два, тры, чатыры чалавекі з вялікім пачуццём гумару маглі, канешне, стварыць уражанне адной хвалі...

Гэту рэч — хоць яна напісана на высокім узроўні паэтычнай культуры,— я ўпэўнены, не мог напісаць чалавек гарадскога выхавання. Паэт ці паэты, якія напісалі «Сказ пра Лысую гару»,— сялянскага паходжання. Я перакананы. Гэта людзі, якія добра ведаюць вёску. Я, напрыклад, чалавек гарадскі, таму мне і ў галаву не магло прыйсці напісаць нешта падобнае...

Валянцін ТАРАС

## *З Табой:*

# З Францішкам Ведзьмаком-Лысагорскім гутарыць «Крыніца»

Напрыканцы мінулага года «Крыніца» сустрэлася са знакамітым аўтарам, імя якога, стаўшы амаль легендарным, усё роўна да гэтага часу застаецца загадкай,— з аўтарам «Сказа пра Лысую гару» Францішкам Ведзьмаком-Лысагорскім. У памяшканні рэдакцыі ў нас з ім адбылася даволі-такі «драматургічная» размова, якую з нязначнымі скарачэннямі як завяршэнне і падагульненне «лысагорскай» публікацыі падаём нашым чытачам.

**«КРЫНІЦА»:** Вас у свой час не «дасталі» ні цэкоўскія функцыянеры, ні кэдэбэўскія дэтэктывы, ні саматужныя «шнуркі», але на дварэ ўжо іншы век, іншы час, іншая эпоха, ці не пара Ведзьмаку-Лысагорскаму адкрыцца і вялікімі літарамі ўпісацца ў гісторыю беларускай літаратуры? Бо «Сказ пра Лысую гару», як і сам той час, які так адмыслова ў ёй выяўлены, усё больш становіцца гісторыяй.

**ВЯДЗЬМАК-ЛЫСАГОРСКІ:** Ну, па-першае, я скажу, што і «Крыніца» мяне яшчэ не «дастала». Наогул, Ведзьмака-Лысагорскага ўжо ніхто не зможа «дастаць», апрача яго самога. Толькі тады, калі ён згодзіцца прызнацца і праліе на самога сябе, як казаў адзін дужа ідэйны вучоны муж тых гадоў, «святло неабвержаных фактаў», тады можна будзе ставіць кропку на ўсёй гэтай «крымінальнай» гісторыі...

**К.:** А цяпер — шматкроп'е?

**В.-Л.:** Па-другое, персанажы «Лысай гары» не засталіся ў мінулым. Я з імі сяды-тады сустракаюся, і калі б яны ведалі пэўна, што Вядзьмак Лысагорскі — гэта я, мне трэба было б перасяліцца калі не на іншую планету, то на іншую гару Словам, Вядзьмак-Лысагорскі не можа ідэнтыфікавацца ні з кім з «ныне здравствующих» пісьменнікаў, і са мной — таксама, у мяне сваё імя, у Ведзьмака-Лысагорскага сваё.

**К.:** Для нас галоўнае не ідэнтыфікацыя, а тое, што Вядзьмак-Лысагорскі жывы і што з ім можна ўступіць у дыялог Давайце пойдзем ад адваротнага: вы не Вядзьмак-Лысагорскі, але на час гаворкі бераце на сябе яго ролю, а мы, у сваю чаргу, бяром на сябе ролю «Крыніцы» Згадзіцеся, калі быць лагічна дакладнымі, то і мы не з'яўляемся самой «Крыніцай», а толькі, працуючы ў штаце рэдакцыі, прадстаўляем яе.

**В.-Л.:** Бачу, што з вамі можна згаджацца. Згаджаюся.

**К.:** Ну вось і добра То і пачнём. Скажыце, ці ўсё ў «Сказе» ваша?

**В.-Л.:** Як кажуць, было маё — стала ваша Праўда, узнікалі некаторыя прэтэнзіі на

# З Лысай гары -- у змагары

**Калі пазванілі з «Крыніцы» і прапанаавалі сказаць колькі слоў пра «лысагорскі сказ», я аж здрыгануўся — ікнулася так, як пасля добрай учарашняй п'янкі. Бо і па сёння не разумею, хто і па чыёй наводцы спрабуе ўблытаць мяне ў некалі закрытую для друку, але існуючую ў рукапісе «лысагорскую справу», якую на пачатку 1988 года абнародаваў, вывалакшы на свет божы, часопіс «Вожык». Ні для кога ж не сакрэт, што да Саюза пісьменнікаў я ў той час ніякага дачынення не меў, да «Сказа пра Лысую гару» — тым болей. Апроч усяго, гарэлкі ні з кім з лысагорцаў не піў — ні да вядомага «цвярозага» ўказу, ні пасля яго. Што тычыцца аўтараў паэмы, тут я па-праўдзе чуў многае, але ж каб кожнаму сустрэчнаму выдаць іх — дудкі, пашукайце каго іншага! Хай сабе ў нас сёння і галоснасць, аднак я ж не зусім дурань, каб не разумець: час цяпер такі няроўны, што ад яе яшчэ таму-сяму, крый божа, прыйдзецца і загаласіць.**

**І таму, перш чым узяцца за пяро, на ўсякі выпадак шчыльна захінуў фіранкі ў кабінеце, адключыў тэлефон і размарозіў халадзільнік — і толькі тады пачаў успамінаць...**

**Яшчэ раз перачытаў шаснаццаціпалосны суботні нумар «Чырвонай змены» ад 30 студзеня 1988 года, падпісаны мной як намеснікам рэдактара (у тым хіба што і ўся мая «віна», якая далучыла да сённяшніх мемуарыстаў). Гэты нумар, мабыць, так бы і за-**





аўтарства і ў іншых нашых паэтаў, але яны былі марнымі, ды і зыходзілі не ад іх саміх, а ад калялітаратурных шэрлак холмсаў

**К.:** І з чаго ж усё пачалося?

**В.-Л.:** З дзяльбы! Шушкевіч дзяліў несправядліва!. Нездарма і сын яго на той самы цвік напароўся.. Смяюся А пачалося ўсё на той самай Лысай гары. Пры чарцы, пры сале ды нязмушанай гамане. Той — радок, іншы — радок.. і складалася гэтая байка пра саміх сябе... Аднак, чарка пусцела і натхненне прападала. Узяўшы той калектыўны пачатак, я і вырашыў давесці справу да ладу Работа захапляла і давалася лёгка, пісалася нязмушана, на адным дыханні, бо на пачатку і думкі не было крамольнай, каб пускаць гэта ў свет. Пісалася як бы для сяброўскага чытання, для вузкай застольнай кампаніі .. А выйшла з часам вось як!

**К.:** Калі перадрукоўвалі і рассылалі «ў свет», боязі не было, што вылічаць і замардуюць, калі не дзяржаўныя служкі, то свае, паэмныя героі?

**В.-Л.:** Ну, як вам сказаць. Я пралічваў найгоршыя варыянты. Мабыць, для вас будзе навіной, што «Сказ» друкаваўся на якой бы вы думалі машынцы?— на цэкоўскай А для таго, каб адхіліць небяспеку з боку ўладаў, зрабіў у паэме некалькі рэверансаў у іхні бок... Добра ведаючы стылістыку найбольш яркіх паэтаў гэтага жанру, стараўся, наколькі мог, скарыстаць іхні творчы вопыт Хоць боязь пэўная была і, як вы здагадваецеся, яшчэ ёсць і сёння Але што падштурхнула — гэта характар. Ёсць у мяне даўняя звычка да розыграшаў...

**К.:** Ці не было аўтарскай аглядкі пры напісанні на нашы вядомыя ананімныя творы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»?

**В.-Л.:** Але мая паэма і не пнецца, каб неяк да іх дацягнуцца Гэта, як казаў Аркадзь Куляшоў, чысты раёшнік. Дарэмна ёй надаюць такое значэнне. Яна і цікавая і зразумелая толькі ў пісьменніцкіх колах, і калі б там героямі не былі самі літаратары, то вядомасць гэтага майго дзецішча сталася б іншаю. Тут закрануты значныя імёны, адным — на злосць, другім —на пацеху Найбольш удалым лічу раздзел «Вялікі рух».

**К.:** Тут ужо нам давядзецца бараніць «Лысую гару» ад самога Ведзьмака-Лысагорскага: і зусім «Лысая гара» не «раёшнік», і цікавая не толькі самім пісьменнікам, і не адзін раздзел у ёй удалы Не напускайце лішняга туману, а лепш скажыце, што запомнілася па першым розгаласе паэмы?

**В.-Л.:** Помню, як, сабраўшы натоўп людзей, чытаў паэму Алесь Асіпенка. Людзі клаліся ад смеху Ну і я разам з імі... Хоць не-не, а думалася, у што мне можа выліцца гэты смех. Альбо прыязджаю на бацькаўшчыну, а брат расказвае, як з мяне смяюцца вяскоўцы, і пытаецца, хто гэта, маўляў, так пакпіў з цябе ў паэме, бо там, як помніце, згадваецца і мая асоба. І смех, і грэх! Але ж канспірацыя патрабавала ахвяры

А то помню, паехалі мы выступаць па бюро прапаганды беларускай літаратуры ў Навапольскі тэхнікум, што пад Мінскам, разам з Кучарам і Хведаровічам. І яны завялі нечакана гаворку пра паэму. І што цікава, Кучар ( а ў «Лысай гары» пра яго вунь як сказана!..) — пры-з-

**стаўся шэраговым, нічым адметным не пазначаны, каб не яго шаснаццатая (апошняя!) паласа, дзе звычайна змяшчаўся традыцыйны «чырвоназменаўскі» выпуск сатыры і гумару «Гарчычнік». На гэты раз ён быў не зусім традыцыйны, бо цалкам прысвячаўся на той час сапраўды гістарычнай (я не баюся гэтага «партыйна-з'ездаўскага слова) падзеі — выхаду ў «вожыкаўскай бібліятэцы» доўгі час перадаваемага з рук у рукі «Сказа пра Лысую гару», аўтар (ці аўтары?) якога схаваліся пад псеўданімам Вядзьмак Лысагорскі.**

**З «вожыкаўцамі» мы размяшчаліся на адным чацвёртым паверсе Дома Друку, акрамя таго, наш «Гарчычнік» нярэдка быў агульным сатырычна-гумарыстычнам цэхам для нашых і іхніх аўтараў, і таму пра тое, што вядомы кожнаму, хто хоць нейкім чынам звязаны з літаратурным асяродкам, «Сказ» неўзабаве абрушыцца на газетныя кіёскі, мы ўчулі (хай сабе і пад вялікім сакрэтам), бадай аднымі з першых. Пакурваючы ля акна на адным і тым жа доўгім калідоры, не праміналі пацікавіцца: ну, калі ўжо? І чулі ў адказ: вось-вось. Скажу шчыра: то былі сапраўды хвалюючыя дні — мы іх нават адлічвалі як секунды перад стартам касмічнага карабля. Гэта сёння, праз гады, калі галоснасць сягнула наперад (няхай яе, існай, усё ж няма па-ранейшаму), нашы перажыванні могуць здацца нявартымі выедзенага яйка. Тады ж, калі кампартыя рэспублікі з яе галоўным ідэалагічным штабістам Савеліем Паўлавым яшчэ цвёрда трымала «прэсавыя» лейцы, а служкі галоўліта пільным вокам сачылі за кожным, на іх думку, вольным словам, усе мы разумелі: выхад паэмы пра Лысагор'е — значны прарыў да свабоды друку, сур'ёзная прабоіна ў сцяне маўчання.**

**І вось, нарэшце-такі, той дзень настаў. Дзіўна, але пра яго ў горадзе ўведалі многія. Кніжку яшчэ не завезлі ў кіёскі, а ля іх ужо тоўпіліся шматлікія жадаючыя набыць «Сказ». І бралі валізкамі — як бульбу. Асабліва — самі**

наў вартасць паэмы Хведаровіч жа —пляваў на аўтарскую «антынароднасць» Гілевіч пры мне адмаўляўся ад нарачанскай лазні, а Танк, аднак, тут жа пацвярджаў, што лазня была — цёр яму ўсё-такі спіну Ніл Сямёнавіч...

Вось так, смеючыся ды злуючыся, неўзабаве забыліся і на выяўленне самога аўтара. Я думаю, гэтага выяўлення тады не жадалі, як «злева», так і «справа». І добразычліўцы, і зloснікі. А гэтая ананімнасць, як ні парадаксальна, і не давала паэме кануць у Лету Не-не ды і ўзнікала ў галовах: хто ж, чорт яго падзяры, аўтар гэтай эпапеі?!

Як бы там ні было — ананімшчык, пакуль што жывы і збольшага здаровы, без сінякоў і ўзнагародаў, перад вамі

**К.:** А вы адкрыйцеся дарэшты, і мы вас, далібог, вылучым на званне народнага. Як ніхто іншы Вядзьмак-Лысагорскі гэтага заслугоўвае. А то раптам аб'явіцца аўтар-самазванец? Бо, вунь, на каго толькі не паказваюць!

**В.-Л.:** У мяне ўсё даўно падрыхтавана: і рукапісныя аўтарскія арыгіналы, і завяшчанне на гэты конт, і дзеці ведаюць, а цяпер — і вы... Праўда, з папярэдняй дамоўленасцю «не выдаваць» да пэўнага часу Дарэчы, можаце давесці да ведама сваіх чытачоў, што менавіта — і толькі!— у часопісе «Крыніца» неўзабаве адбудзецца самавыкрыццё і падрабязнае прызнанне Ведзьмака Лысагорскага. Словам, споведзь. Падрыхтаваны ўжо «выбуховы матэрыял».

**К.:** Неўзабаве. Як гэта хутка?

**В.-Л.:** Патрывайце яшчэ..

**К.:** Колькі ж можна?.

**В.-Л.:** Мне і самому абрыдла хавацца за спінамі Вялюгіна, Макаля, Аўрамчыка, Барадуліна, Гілевіча, Астрэйкі, Няхая.. Хочацца паказаць людзям свой праўдзівы твар. І як бачыце, не такі ён ужо «ведзьмакоўскі»..

**К.:** Што ж — дзякуй. Верым. Чакаем. Разам з чытачамі

*P S.*

**К.:** У апошнім нумары за мінулы год газета «Свабода» надрукавала пачатак паэмы «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт», падпісаны вашым найменнем — Вядзьмак Лысагорскі.

Па ініцыятыве генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь супраць аўтара паэмы ўзбуджана крымінальная справа. Цяпер эксперты і следчыя вылічваюць ды вырашаюць, хто такі Вядзьмак Лысагорскі

Скажыце, ці не маеце вы дачынення да гэтай рэчы?

**В.-Л.:** Я адкажу так: маё найменне перастала належаць адно толькі мне, і тое, да чаго я і не маю дачынення, мае дачыненне да мяне. Як бачыце, «Лука Мудзішчаў» — таксама.

---

**пісьменнікі, героі паэмы; відаць, не хацелася, каб праўда пра іх «нелітаратурныя» справы дайшла да ўлюбёнцаў–чытачоў.**

**«Чырвонка», якая на той час разам з «ЛіМам» ішла ў фарватэры больш–менш дэмакратычнай прэсы, безумоўна ж, не магла абмінуць такую важную падзею. На той, ужо згаданай мной шаснаццатай паласе, якраз і быў змешчаны водгук на «Сказ пра Лысую гару» тагачаснага пашага рэдактара Валерыя Плюскова пад псеўданімам Я.Забалотны. Гэта, калі не памыляюся, быў першы водгук у прэсе на «вожыкаўскі» падарунак чытачам. «Сказ пра Лысагор'е і лысагорцаў,— адзначалася ў рэцэнзіі,— па сваёй будове просты, як шыла, і такі ж, як шыла, нязручны для захоўвання ў мяху». Аднак, бадай, галоўным было тое, што тут жа, побач, публікаваўся яшчэ адзін раздзел з «лысагорскай» паэмы — «Вялікі рух» аб актуальнай праблеме хрэнаразвіцця на пісьменніцкіх сотках, які ўвойдзе потым у другое, поўнае (ці поўнае толькі?) выданне ананімнага твора, што ўбачыць свет праз тры з нечым гады.**

**Мы ведалі, што «Вялікі рух» — не адзін раздзел, які «выпаў» з першага выдання, акрамя таго, адчувалі, што знойдуцца ў Ведзьмака Лысагорскага і паслядоўнікі, і таму, каб падкрэсліць свае здагадкі, напрыканцы «Вялікага руху» напісалі «Працяг, можа, будзе». Перачытваю зараз гэты з хітрынкай радок — і ў саркастычна–з'едлівым, хай сабе і даволі простым слове «можа» мне яскрава бачыцца той змагарны час за свабоду прэсы. Гэтае «можа» — як задзірысты выклік тагачаснай бальшавіцкай цэнзуры, гатовай спыніць галоснасць.**

**А ў тым нумары, дзе быў змешчаны водгук на лысагорскую паэму, «Чырвонка» вітала з'яўленне новага маладзёжнага часопіса «Крыніца». І ў гэтым таксама было нешта сімвалічнае. Свабодная прэса пашырала свае абсягі.**

**«Быў час, быў век, была эпоха...»**

**Анатоль ЗЭКАЎ**





# БЫЎ ЧАС, БЫЎ ВЕК, І ЁСЦЬ... ЗАГАДКА

**Відаць, не знойдзеш у нашай літаратуры твора, які б у апошнія два–тры дзесяцігоддзі так, як гэты, змог завалодаць думкамі і душамі людзей, да сённяшняга дня не пакінуў хваляваць іх сваёй загадкавасцю і таямнічасцю, мастацкай заглыбленасцю. І праўдай, надзённасцю. Хіба не прадбачыў тады, на пачатку 70–х, Францішак Вядзьмак–Лысагорскі той дачны бум, які ўспыхнуў у нашы дні? Чысцюткая праўда. Можа, толькі крышку «старамоднымі» могуць здацца разважанні наконт таго, што «...панчоха — зусім не кепскі ідэал». Цяпер, дзякуючы інфляцыі, ніхто ўжо не збірае грошай у панчоху, а стараюцца ў асабнячок–катэджык укласці, бо панчоху могуць мышы згрызці, а на камяніцу зубоў не набярэшся. Праўда, на іх «загарэўся» зуб у нашага прэзідэнта, але ж ці хопіць уладнай сілы, каб узяць штурмам харобміны, што неўпрыкмет для простага вока ў неба ўпёрліся, здзіўляючы люд вежамі, як байніцамі?..**

**Дык вось, ёсць у нас такі твор, якому наканавана стаць суддзёй нашых духоўных, маральных і... амаральных учынкаў. А прачуў я ўпершыню пра яго дзесьці напярэдадні VI з'езда пісьменнікаў Беларусі, вясною 1971 года. Памятаю, у рэдакцыях раптам загаманілі: «Сказ пра Лысую гару, сказ пра Лысую гару». А што гэта такое — не ведаў. Бо чыталі паэму часцей за ўсё цішком, без лішніх вачэй і вушэй. Кажуць, хтосьці разаслаў яе па рэдакцыях, а парачку экземпляраў і ў само ЦК падкінуў. Яшчэ чуў, што нібыта Максім Танк, які на той час быў першым сакратаром праўлення СП Беларусі, заўважыў, пасміхаючыся: «Мне можна на з'ездзе справаздачнага даклада не рабіць, Вядзьмак–Лысагорскі пра ўсё за мяне сказаў». Як бы там ні было, а чарговы з'езд праходзіў пад уражаннямі з'яўлення гэтага твора: «Як хто спецыяльна да з'езда напісаў».**

**Я асабіста займеў «Сказ пра Лысую гару» пазней. Паэма хадзіла па руках, але каб ахвотна хто даў яе каму перапісаць ці перадрукаваць, такога не было, мне здаецца. Баяліся, каб не згінула ці не трапіла ў «патрэбныя» рукі, дзе маглі б запытацца: «Адкуль у цябе, хто даў?» Пабойваліся ўсё ж яе перад высокім домам ды КДБ, пабойваліся за праўду, за вастрыню праблем, узнятых у ёй. Асабліва — моўнай. А праўды ніхто з «тузоў» чуць не хацеў, і казаць — таксама.**

**Калі не здраджвае памяць, экземпляр паэмы, такі нягеглы, надрукаваны без беларускіх «і» і «ў», мне прынесла ў рэдакцыю «Бярозкі», дзе я тады працаваў, Тацяна Гарэлікава. З цвёрдай умовай, што не збэйсаю, вярну. Застаўся я ў рэдакцыі ў той дзень, сеў за машынку і двума пальцамі адстукаў яе. У трох экземплярах. Адзін з іх паслаў на вёску свайму сябру – паэту Валодзю Бабкову, а другі ахвяраваў той жа Тані — за добрую ласку. Дый выглядаў ён болей прыстойна, чым яе «арыгінал». Ад мяне паэма трапіла ў рукі Міхася Зарэмбы — перабралася ў рэдакцыю «Піянера Беларусі». Потым пайшла далей. І сапраўды, я ледзь не страціў яе. Цяпер у маім архіве захоўваецца той экземпляр, але даволі зашмальцаваны, зацёрты. Дзякуй «Вожыку»: ён шэсць гадоў таму адважыўся выпусціць «Сказ пра Лысую гару» асобнай кніжкай. І, на маю думку, добра зарабіў на гэтым — яшчэ вышэй узняўся яго прэстыж ці рэйтынг, як кажуць цяпер. Першы тыраж кніжкі разляцеўся імгненна, у той жа самы дзень. Памятаю, я абшастаў увесь Мінск, і толькі ў адным з прывакзальных кіёскаў да сваёй вялікай радасці нарваўся на яе. Узяў адразу дзесятка паўтара. І сабе, і знаёмым падарыць. Бо займець «Лысую гару» жадалі нават сябры з Украіны. Памятаю, узяў я кніжкі ў кіёску, а за мною стаяў маладжавы дзяцюк. Паглядзеў на мяне і здзіўлена–зацікаўлена кіўнуў на стос у маіх руках: «Што гэта за кніжка? Пра што яна?»**

**«Як пісьменнікі дачы будуюць»,— не схітраваў я. Ведаў, гэта прыдасць цікавасці, ён абавязкова купіць кніжку. І тады яна, магчыма, трапіць далёка за межы сталіцы. Так яно і сталася: той дзяцюк забраў астатнія з паўдзесятка кніжак і пашыбаваў да вакзала. Гэта было пазней, а тады, на пачатку яе з'яўлення...**

**Ёю зачытваліся ўсе, цытаваліся строфы, цэлыя старонкі, бо, лічы, кожны радок у ёй — афарызм, крылаты выраз. З часам я і сам мог расказаць яе пры нагодзе амаль усю па памяці. Усім падабаўся гумар, сатырычная з'едлівасць, а галоўнае — вастрыня, праўдзівасць, трапная характарыстыка персанажаў. Можа, хто з лысагорцаў і крыўдаваў, ды многія, мне здаецца, шкадавалі, што не змаглі трапіць у паэму, што іх не заўважылі, абышлі. Хто калі іх спамяне, а так яны былі б героямі славутага твора, якому, мусіць, жыць ды жыць!**

**Некалькі разоў чуў, як наша незабыўная Жэня Янішчыц з усмешкаю, якая была толькі ў яе, паўтарала радкі, што тычыліся яе асобы. Памятаеце?**

Але назло іх крыку «знішчыць!»
З глыбінь народнага жыцця
Увысь ірвалася Янішчыц —
Палесся мілае дзіця.

**Адчувалася, што ёй асабліва падабаўся апошні радок. Яго яна вымаўляла з нейкай асаблівай замілаванасцю і цеплынёй.**

**З часам Вядзьмак–Лысагорскі як бы стаў народным заступнікам, абаронцам справядлівасці. Праўда, не заўсёды гэта рабілася цывілізаваным (як цяпер любяць прамаўляць) чынам, бо да яго славы, да яго імя прымазваліся людзі нячыстыя сумленнем, ці, дакладней кажучы, — ананімшчыкі. Памятаю, зазірнуў неяк у прыёмную СП, які яшчэ знаходзіўся ў доме, «...дзе, не стаўшы пад вянец, калісьці сам гаўляйтэр Кубэ аддаў бясслаўны свой канец», і да якога потым дабраўся «стваральны» дух ЦК партыі. З кабінета выйшаў Максім Танк, і Таццяна Кузьмінічна раптам падала яму паперыну: «Яўген Іванавіч, што адказаць на гэта пісьмо з Масквы?» Той спыніўся, прабег ліст, спытаў у сваю чаргу: «А хто гэта такі Вядзьмак–Лысагорскі?» Таццяна Кузьмінічна пасяшалася на выручку: «Ды гэта ж той, што «Лысую гару» напісаў».**

**«А–а–а,— не ўстрымаўся, каб не зарагатаць Максім Танк. Больш, мусіць, ад таго, што нечакана гара з плячэй звалілася. — Напішыце, што ў нас такога пісьменніка няма, што гэта — ананімка». Аказваецца,**

хтосьці напісаў у Саюз пісьменнікаў СССР скаргу на нашае Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. А яе, скаргу гэтую, як тады вялося (пэўна, і цяпер яшчэ вядзецца), вярнулі туды, адкуль і прыйшла, разбірайцеся, рэагуйце самі.

Дзе б мне ні давялося ў свой час выступаць, і райкомаўцы, і настаўнікі, і студэнты часта падступаліся з такім пытаннем: «А хто напісаў «Сказ пра Лысую гару»? Першым, відаць, хацелася пачуць такую навіну і хутчэй давесці па інстанцыі да вышэйшых і гэтым яшчэ раз даказаць сваю пільнасць і адданасць, астатнім жа было цікава, мабыць, з чыста філалагічнага інтарэсу. У іх свядомасці «Сказ пра Лысую гару» асацыіраваўся з тымі ж славутымі «Энеідай навыварат» і «Тарасам на Парнасе», над чыёй таямніцай білася не адно пакаленне даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, каб высветліць іх аўтарства. Здаецца, не так даўно пошукі далі плён. Што не скажаш пра гэты твор, пра нашу «Лысую гару».

Дык хто ж усё-такі аўтар яе?

Памятаю, спачатку яе аўтарства прыпісвалі Анатолю Вялюгіну. Ды, напэўна, гэтыя здагадкі развеяліся пасля аднай размовы Анатоля Сцяпанавіча з першым сакратаром ЦК КПБ П.М.Машэравым. Як землякі-віцябляне, яны былі ў блізкіх адносінах. Дык вось, Анатоль Вялюгін аднаго разу нібыта сказаў Машэраву: «Пятро Міронавіч, не верце чуткам, «Сказ пра Лысую гару» не я напісаў». Той жа адказаў спачувальна: «А шкада, Анатоль Сцяпанавіч, што не вы аўтар такога твора».

Мне ж асабіста думалася, што «Лысую гару» (будзем казаць так) напісаў Анатоль Астрэйка. Вялюгін — вялікі майстар мастацкага слова, але не гумарыст і не сатырык. Другі ж, можна сказаць,— наадварот: ён аўтар не менш знакамітай паэмы «Прыгоды дзеда Міхеда». Тым болей, што сам Анатоль Астрэйка не хаваў часам сваёй прыналежнасці да аўтарства «Лысай гары». Аднаго разу завітаў ён на радыё, у літаратурную рэдакцыю. Папрасіўшы пазычыць грошай у Валянціна Мыслійца, ці то жартам, ці то ўсур'ёз прыгразіўся: «Не дасі — і пра цябе дапішу ў «Лысай гары»... Мне ж чамусьці думалася, што гэты твор хутчэй за ўсё — калектыўны: Астрэйку маглі дапамагчы Рыгор Няхай і Антон Бялевіч, яго сябры-таварышы. Да таго ж, яны мелі там, на Лысай гары, дачы, усё самі добра бачылі, назіралі. А не пабачыўшы на свае вочы ўсяго — наўрад ці перадасі тамтэйшую будоўлю гэтак дакладна, ва ўсіх дэталях. Праўда, былі сумненні ў інтэлектуальных здольнасцях аўтара «Лысай гары», бо менавіта гэтымі якасцямі, апроч усяго, вызначаецца паэма.

Успаміналася таксама імя Петруся Макаля. У што я таксама чамусьці мала верыў і веру.

Мая думка памянялася цалкам са з'яўленнем у друку рамана Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». Калі я прачытаў яго сатырычна-гумарыстычныя раздзелы з гэтага знакамітага твора, чамусьці цвёрда паверыў: «Ён, і толькі ён аўтар «Сказа пра Лысую гару». Ведаючы яго па шматлікіх гумарыстычных зборніках, я і раней падумваў пра Ніла Гілевіча, а з выхадам «Родных дзяцей» — здаецца, пераканаўся канчаткова. Чаму? Ды паглядзіце самі, супастаўце іх: тыя ж сарказм, досціп, інтэлектуальны абсяг, майстэрства, нават рыфмы, улюбёныя слоўцы, накшталт «плюндра»... Калі Анатоль Астрэйка — нябожчык, то аўтар «Сказа», мяркуючы па ўсім, у добрым здароўі (і дай Бог яму здароўя на доўгія гады!). Сведчанне гэтаму — другое, поўнае выданне «Сказа пра Лысую гару», куды ўвайшло некалькі новых раздзелаў, якіх не было у першым выданні, ліст у рэдакцыю «Вожыка». Кніжка выйшла ў 1991 годзе. Як сцвярджаецца аўтарам у лісце, усяго ў паэме 1537 радкоў, а раней было надрукавана толькі 795. Праца над новымі раздзеламі была завершана ўлетку 1975 года. І, звяртаючыся да чытачоў, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі заўважыў: «Праца завершана канчаткова...»

Вясною адзін з кіраўнікоў нашага СП Уладзімір Паўлаў дакляраваў, што, магчыма, на XI з'ездзе стане вядома імя аўтара «Сказа пра Лысую гару». Усе чакалі разгадкі таямніцы. Але сенсацыі не адбылося. Пра што ён і сказаў з трыбуны з'езда. Відаць, аўтар сам не пажадаў рассакрэціцца. Значыцца, ён існуе, жыве сярод нас, мае канкрэтнае імя, а не славуты псеўданім.

Хоць, мяркуючы па ўсім, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі чалавек сціплы, не падкі да вядомасці і славы, ды ўсё ж, на мой розум, прыемна займець лаўры і пры жыцці, а не пасля.

А можа, і добра зрабіў, што не прызнаўся: стала б менш адной таямніцай. Без іх жа, таямніц, асабліва ў літаратуры, і жыць менш цікава. Ці не праўда?

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# Вакол Лысай гары

Спачатку — прыказка.

Недзе а сярэдзіне пяцідзесятых Алесь Асіпенка, які тады быў старшынёй мясцовага камітэта юнацкіх і дзіцячых газет і часопісаў, што атабарыліся ў новым будынку ЦК ЛКСМБ, сабраў нас і абвясціў, што ў Крыжоўцы, пад Мінскам, можна атрымаць зямлю пад дачы. Надзелы вялікія, аж па дванаццаць сотак, месца прыгожае, зручнае, недалёка ад чыгуначнай станцыі. З цягам часу можна пабудаваць такую-сякую хацінку, пасадзіць сад, гарод... Адным словам, падавайце, хлопцы, заявы.

Адказам нашаму клапатліваму старшыні быў выбух маладога здаровага рогату. Дача... Для нас у той час гэта слова азначала нешта абсалютна нерэальнае і недасягальнае, як нябесныя зоркі. Яно больш пасавала высокаму начальству, што раскатвала ў шыкоўных лімузінах, сівагаловым акадэмікам, урэшце рэшт народным пісьменнікам, мастакам, артыстам, але ж не такім галадранцам, якімі былі мы. Большасць з нас — маладыя журналісты, пачаткоўцы-літаратары, людскіх кватэр не мела, туліліся з жонкамі ды дзецьмі па прыватных кутках, па бараках ды камуналках, ці нам было марыць пра нейкія там уласныя дачы! Заробак мізэрны, ганарар... адна толькі назва, што ганарар. Вядома, хораша было б пажыць на ўлонні прыроды, у спакоі і цішыні, пабадзяцца са сваімі думкамі па лесе, папрацаваць за ўласным пісьмовым сталом, але ж дзе там... Дзякуй Богу, хоць не прыватная, а, так сказаць, грамадская, у гэтым сэнсе прадуха ў нас мелася: шчаслівая мясціна, куды за сімвалічную плату ты мог уцячы з мінскага тлуму, калі ўдавалася адпрасіцца ў рэдакцыі, і пажыць на ўсім гатовым, як пан, у асобным пакоі, і называлася тая шчаслівая мясціна Каралішчавічы, дом творчасці Саюза пісьменннікаў. Чаго ж яшчэ хацець!

Дарэмна наш мудры старшыня, зямля яму пухам, пераконваў нас, блазноту, што нічога зараз і рабіць не трэба, галоўнае —узяць пляц, пакуль даюць (што само па сабе было нечым неверагодным; усе ведаюць, як неахвотна надзялялі бальшавікі людзей зямлёй, забраць, адрэзаць — вось на гэта яны былі спецыялісты!), уваткнуць восенню дзесятак дрэўцаў, кусты агрэсту, парэчак — няхай растуць. А пабудавацца можна і праз пяць гадоў, і праз дзесяць, калі самі трошкі станем на ногі. Прапанова Яўгена Курто прадоўжыць гаворку ў буфеце была прынята аднагалосна, а калі ўлічыць, што там прадавалі гарэлку, каньяк і нават «сухача», знайшліся ў нас тэмы больш цікавыя і надзённыя.

Але даруйце, я трохі ўхіліўся ад тэмы. Дык вось, выдзелілі па кавалку зямлі Саюзу і выдавецтву. Побач, метраў за сто адзін ад аднаго. І для нас, членаў Саюза, якія працавалі ў выдавецтве, устала праблема: куды несці заявы. Вырашыў яе Мікола Ткачоў, жонка якога, Ганна Іларыёнаўна, працавала ў нас карэктарам. «Хадземце, хлопцы, на выдавецкае поле,— сказаў ён.— Мы ў Саюзе бясконца бачымся, адно аднаму надакучылі, хоць на дачы адпачыць».

«Сказ пра Лысую гару», так сказаць, засведчыў гэты факт.

У выдавецтве праблем з зямлёй не было: участкаў намералі куды больш, чым мелася жадаючых іх узяць. А вось у Саюзе пісьменнікаў дзяльба адбывалася якраз так, як апісана ў першым раздзеле паэмы.

І цяпер самы час перайсці ад прыказкі да казкі.

Паэма «Сказ пра Лысую гару» з'явілася недзе на самым пачатку 1972 года. Дату вызначыць лёгка па такіх вось радках:

Але Прокша ў ліберала
Па прастаце сваёй папаў
«ЛіМ» у Прокшы адабралі...

Паглядзіце ў «ЛіМе», калі Л.Прокша саступіў сваё рэдактарскае месца Хв. Жычку, і ўсё стане зразумела. А чаму на пачатку года? Таму, што ў красавіку 1972 г. было створана выдавецтва «Мастацкая літаратура», яго першым дырэктарам стаў М.Ткачоў. У паэме ж ён яшчэ падаецца як сакратар СП. Пры неймавернай дакладнасці кожнага, нават самага дробнага эпізоду, аўтар, вядома, не прамінуў бы гэта адзначыць.

Дык вось, будзем лічыць, што недзе на пачатку 1972 года ў нас у рэдакцыі дзіцячай літаратуры зазваніў тэлефон. Трубку падняў загадчык рэдакцыі У.М. Шахавец. Ён доўга і ўважліва слухаў, прыціснуўшы яе да вуха, і па твары ў яго блукала ўсмешка. А потым ён зарагатаў. Ніколі ў жыцці я не бачыў, каб Уладзімір Міхайлавіч так смяяўся. Чалавек ён быў хутчэй сухаваты, стрыманы, чым смяшлівы. А тут... У яго на вачах выступілі слёзы, ён пачырванеў, як бурак, і толькі стагнаў ад смеху: «Ну і лайдакі!..», «Гэта ж трэба, га!»

Здзіўленыя, мы моўчкі абступілі свайго шэфа. Новы анекдот? Але ж дужа доўгі. І наогул тады ўжо анекдотаў па тэлефоне не расказвалі, паціху вярталіся часы, калі за неасцярожнае слова можна было моцна паплаціцца: пачатак застою, або «запою», як цяпер гавораць; пі, але язык трымай на прывязі. Нарэшце Шахавец паклаў трубку.

—Хлопцы,— выціраючы слёзы, сказаў ён,— сёння ў «ЛіМе» з поштай атрымалі ананімную паэму. Подпіс: Вядзьмак Лысагорскі», адраса няма. Называецца «Сказ пра Лысую гару». Хлопцы, гэта нешта геніяльнае, нешта накшталт «Тараса на Парнасе». Трэба збегаць перапісаць, пакуль «мастацтвазнаўцы ў цывільным» на яе руку не наклалі.

Не памятаю, хто пабег у «ЛіМ», але ў той жа дзень мы мелі машынапісную копію паэмы. Кожную прачытаную старонку подбегам неслі ў машбюро, і там машыністка Любачка, адклаўшы ўсе справы, перадрукоўвала яе на тоненькай паперы ў дзесяці экземплярах і вяртала нам назад.

Аказалася, што атрымаў паэму не толькі «ЛіМ», невядомы аўтар дасылаў яе і ў іншыя газеты, і ў Саюз пісьменнікаў, і нават, пагаворвалі, у «Белы дом» — у ЦК. І пайшла, паляцела яна па Беларусі, выклікаючы не толькі смех, але і горкія думкі пра час, пра век і пра эпоху, у якую мы жывем, і пра нас саміх.

Мы ў рэдакцыі, як і ўсе іншыя чытачы паэмы, доўга думалі і спрачаліся, хто яе магчымы аўтар. Адно было зразумела і не выклікала сумнення: яго трэба шукаць сярод самых таленавітых, самых бліскучых беларускіх паэтаў, чалавек нават сярэдніх здольнасцяў збудаваць такі гмах, населены дзесяткамі і дзесяткамі людзей, напоўнены высокімі думкамі і з'едлівым сарказмам, трапнымі назіраннямі і абагульненнямі, не зможа. Хто ж ён, выдатны летапісец «Лысай гары»? Па зразумелых прычынах шукаць яго хацелася сярод саміх «лысагорцаў»: у паэме столькі падрабязнасцяў і найдакладнейшых дэталяў «дачнага» жыцця, што таму, хто не варыўся ў тым жа котлішчы, яны, здаецца, проста не маглі быць вядомыя. Ну адкуль старонні чалавек мог ведаць, што

Аўрамчык з Герчыкам і Жычка —
Як бабруйчане-землякі —
У бабруйчан вядома звычка —
З радзімы вывезлі дамкі...

Мы ж гэтую «акцыю» ну ніяк не афішавалі перад грамадскасцю!

Вядома ж, ён мог пачаць размовы пра ўдачлівага празаіка, які

Купіць гуана бочку змог
Прыпёр упоцемку на дачу
І начапіў цяжкі замок.

Што гаварыць, «ганебны лозунг веку» быў тады на вуснах ва ўсіх.

Мог старонні чалавек, нават проста завітаўшы да прыяцеляў у госці, угледзець на адным з участкаў прыбіральню, падобную на ракету,— было і такое. Мог даведацца выпадкова — усе мы гэта ведалі, — як адзін крытык

... ў цырку па знаёмству
Браў угнаенне з-пад слана.

Ну, яшчэ сёе-тое мог мімаходзь убачыць і пачуць. Але ж у паэме такіх дэталяў — сотні, і ўсе яны не прыдуманыя, усе, як кажуць, «мелі месца» ў жыцці. «Пісьменніцкага вымысла», пра які піша Дз. Бугаёў у сваёй прадмове да першага, «вожыкаўскага» выдання «Сказа», там не так і багата. І калі пагадзіцца, што ўсе гэтыя падзеі і акалічнасці дакладна мог ведаць толькі той, хто сам прайшоў усю «апупею» дачнага будаўніцтва і жыцця, дык атрымліваецца, што са спісу магчымых аўтараў трэба выкрасліць якраз тых, чые прозвішчы ўзнікалі ў свядомасці, ледзь ты пачынаў чытаць твор. Не бралі дач на Лысай гары Р.Барадулін, А.Вялюгін — яны атрымалі ўчасткі куды пазней, на «Узгор'і-2», Ул. Караткевіч, А.Вярцінскі, П.Макаль, Г.Бураўкін, А.Бялевіч... Сярод кандыдатаў на аўтарства называлі А.Зарыцкага — нехта ўспомніў, здаецца, той жа Шахавец, што ў маладосці Аляксей Аляксандравіч грашыў любоўю да розыгрышаў і напісаў некалькі жартаўлівых паэм пра тагачасную літаратурнае жыццё. Але ж нават уявіць было немагчыма, каб А.За-

рыцкі ўвёў у сваю паэму некаторых хлопцаў, што рабілі свае самыя першыя крокі нават не ў літаратуры, у журналістыцы, — ён і прозвішчаў іхніх не ведаў, заўсёды паглыблены ў сябе, у сваю творчасць. Называлі А.Астрэйку, Р.Няхая, П.Звонака... Усе яны — паэты, бясспрэчна, таленавітыя і ведалі не толькі падрабязнасці дачнай «адысеі», але і ўсіх, хто пазначаны ў паэме, бо, па з'едліваму выразу Янкі Брыля, некаторыя з нашых «маладых» толькі пісалі, як пачаткоўцы, пілі ж, як класікі, а хлебасольныя «аксакалы» любілі моладзь... Але ад кожнага радка твора веяла такой звонкай маладой сілай, такой задзірлівасцю, такой непавагай да дзьмутых літаратурных «аўтарытэтаў», што ў аўтарства бітых-перабітых камуністычным ладам людзей верылася слабавата. І наогул, ці не абывацельскае глупства, шаноўнае спадарства,— усе нашы саматужныя разважанні пра тое, што трэба вывучаць жыццё, усебакова і дакладна ведаць тое, пра што пішаш? Можа, у сапраўднага таленту зусім іншыя меркі? Можа, яму дастаткова нешта пачуць, нешта ўбачыць, за нешта зачапіцца, зацікавіцца — а астатняе надыктуе сэрца?! Бо колькі ж у нас энцыклапедычна адукаваных пісьменнікаў, а колькі выдатных твораў? Так вось...

Адным словам, чым больш мы ламалі галовы над тым, хто ж хаваецца за псеўданімам «Вядзьмак Лысагорскі», тым больш мацнела адчуванне прарочай праўды заключных радкоў «Сказа пра Лысую гару»:

А хто пісаў паэму гэту,  
І дзе тварыў ён, і калі —  
Навечна канула у Лету —  
І толькі бурбалкі пайшлі.

Была, праўда, адна ўстанова, якая, каб ёй толькі намякнулі, «вылічыла» б аўтара імгненна. Вазьміся яна за справу, ужо назаўтра тры чвэрці секцыі паэзіі добраахвотна прызналіся б у сваім аўтарстве. Праўда, складаней было б з чарнавікамі, але і не такое фабрыкавалі. Ды тая ўстанова не ўмяшалася: аўтар зрабіў усё, каб гэтага не здарылася.

Помніце горкія радкі пра мяшчанства, якому куды прасцей было б адмовіцца ад роднай мовы, чым ад дач?

Яны даўно былі гатовы  
Ажыццявіць святы парыў —  
Ліквідаваць дашчэнту мову,  
Якой Купала гаварыў.  
Калі б іх партыя хоць зрэдку  
Не асаджала пугаўём...

Ён што, не ведаў, бедны, што партыя — і ёсць самы злосны, самы подлы ганіцель «Мовы, якой Купала гаварыў»? Ведаў, вядома ж, ведаў. Паэт ёй, як галоднаму сабаку, костку кінуў: на, жары, толькі не чапляйся. Толькі дай людзям прачытаць пра тое галоўнае, што складае змест паэмы. І бліскуча дасягнуў сваёй мэты.

У час адной з паездак па рэспубліцы, якую так любілі наладжваць для творчай інтэлігенцыі партыйныя лідэры,— з юшкай на беразе ракі або возера, з п'янкай да самай раніцы (вядома ж, за кошт калгасаў ды саўгасаў, што прымалі «дарагіх гасцей»), зайшла гаворка пра паэму: чаму б яе не выдаць? «А што, — адгукнуўся сакратар ЦК па прапагандзе Кузьмін,— і выдавайце, мы пярэчыць не будзем. Там супраць партыі і савецкай улады — ніводнага слова. Толькі ў якім святле паўстанеце перад простымі людзьмі вы самі, пісьменнікі?..»

Прыкідваўся сакратар; зусім не дурны чалавек, ён выдатна разумеў сатырычную накіраванасць паэмы. Але фармальна сапраўды ўсё было чыста: ніхто іншы, як партыя, асаджала пугаўём драпежнае мяшчанства. І «Сказ пра Лысую гару», магчыма, і сапраўды можна было з яго блаславення выдаць. Але перапалохаліся літаратурныя генералы: і праўда ж, што скажуць людзі пра «інжынераў чалавечых душ», якія выведзены ў паэме зусім не анёламі з белымі крылкамі!

І праляжаў наш выдатны твор аж да 1988 г., калі вятры перабудовы выдзьмулі яго з прыватных архіваў і падаравалі Беларусі.

Дарэчы, адсутнасць друкаванага тэксту зусім не перашкаджала неверагоднай папулярнасці выдатнага твора сучаснасці. У той час па пуцёўках Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры СП я шмат бадзяўся па рэспубліцы. І дзе б ні сустракаўся з чытачамі — у заводскіх цэхах і на калгасных фермах, у студэнцкіх інтэрнатах, у бібліятэках, у вайскоўцаў і нават у тых, хто быў пазбаўлены волі па суду, — усюды ў мяне пыталіся пра «Лысую гару». Грамадская цікаўнасць да паэмы была вялізнай, неверагоднай, з ёю не мог параўнацца ніводны тагачасны твор, адзначаны самымі высокімі прэміямі і ўзведзены халуйскай крытыкай у ранг класічных і геніяльных. Людзі не ведалі большай часткі герояў «Лысай гары», не разумелі намёкаў, там і сям зашыфраваных мясцін, але адчувалі сатырычны запал паэмы, разумелі, што яна выходзіць далёка за межы апісання элементарнага факта: пісьменнікі, як, дарэчы, тысячы і тысячы іншых працоўных, атрымалі па чатыры соткі зямлі пад сады-гароды. Атрымалі — і атрымалі, здаецца, пра што тут пісаць-гаварыць. А вось пра што:

Але, магчыма, што нашчадкі,  
Як прачытаюць гэты сказ,  
Не змогуць вырашыць загадкі:  
А што за век быў, што за час.

Прайшло крыху больш за дваццаць гадоў, і мы, азіраючыся назад, разумеем, што

Быў час, быў век, была эпоха,  
Калі, наеўшыся ў адвал,  
Сёй-той прыкінуў, што панчоха —  
Зусім не кепскі ідэал.

.........................

Калі ў кампаніі парою  
Не зразумець, ну хоць ты плач,  
Хто лезе чокацца з табою:  
Ці шчыры сябра, ці стукач.

.........................

Калі ў сталіцы беларускай  
Культурнасыты мешчанін  
Лічыў грамадскаю нагрузкай  
«Язык тутэйшы» прышчаміць.  
Калі другі артыст народны  
не знаў і двух народных слоў,  
Затое меў тут харч нязводны  
І ўволю цешыўся з аслоў.

Вось такі быў час, быў век, была эпоха... Але чаму ж — была? Яна, эпоха наша, такой і засталася, і не скончыўся яшчэ крывавы век. Куды яны падзеліся, народныя артысты, якія не ведаюць і двух народных слоў? А мяшчанства, што імкнулася «ліквідаваць дашчэнту» беларускую мову? Пагля̀дзіце, якое яно стала гарластае ды нахабнае, якое ваяўнічае ды непрымірымажорсткае! Зламалася пугаўё, якім хоць для выгляду яго некалі асаджалі. Самы б, здаецца, раз узяць тое пугаўё ў рукі Вярхоўнаму Савету, дык жа і ў ім правіць баль тое самае мяшчанства, на якое паставіў сваё вечнае кляймо Вядзьмак Лысагорскі. На вялікі жаль нават першы народны — а Лукашэнка ніколі не забывае гэта падкрэсліць: «народны» — прэзідэнт рэспублікі ўпарта цураецца роднае мовы ў сваіх шматлікіх выступленнях, звернутых не да рускага, дарэчы,— тут і пытанняў не было б,— да беларускага народа.

«Культурнасыты мешчанін» — з'ява жывучая, Дэкларацыяй аб незалежнасці яго не ліквідуеш, для гэтага патрэбны гады і гады цяжкай работы па абуджэнні нацыянальнай годнасці, нацыянальнай самасвядомасці, глыбокае разумення свайго месца ў кантэксце сусветнай суполкі. Нічога не зробіш — нам трэба яшчэ дарасці да лозунга: «Лепш быць галодным, ды вольным!» Прыбалтаў, суседзяў нашых, якія адгукнуліся на яго ўсёй душой, ён ужо і накарміў, а мы так і будзем і галодныя, і зацугляныя, пакуль не зразумеем, што нам ёсць за што змагацца, ёсць што адстойваць. Пакуль насельніцтва не стане народам.

Неверагодная гэта рэч — «Сказ пра Лысую гару». Колькі было пакрыўджаных паэмай, колькі лічыла сябе глыбока абражанымі... Што ж, аўтара і сапраўды дыпламатам не назавеш, ён рэзаў праўду-матку, часам даволі балючую для самалюбства некаторых творцаў. Але ж вось дзіва: не менш крыўдавалі і тыя, хто ў паэму не трапіў. Гэта была абраза найвышэйшая: калі ўжо цябе Вядзьмак Лысагорскі не заўважыў, значыць, ніякі ты не літаратар, а так... нешта прыблізнае. Як быццам прозвішча ў паэме давала права на бессмяротнасць... А можа, і сапраўды давала?..

Вось я перачытваў «Сказ», калі пісаў гэтыя нататкі, і раптам з жахам заўважыў, як многа тых, хто там названы, ужо няма сярод нас, як неверагодна многа... Хацелася бясконца цытаваць паэму, але я баяўся — не закрануць бы зняважліва светлай памяці людзей, якіх добра ведаў. Яны ж былі — з усім добрым і кепскім, што ім уласціва, — былі, а сёння і сапраўды некаторых можна згадаць толькі таму, што пра іх напісана ў паэме. Жыццё кароткае, мастацтва вечнае...

Усё знікла, усё адышло ў нябыт: і самыя смешныя, і самыя з'едлівыя характарыстыкі, і падзеі, якія некалі здаваліся значнымі, нікога не цікавяць. А паэма «Сказ пра Лысую гару» жыве. І не толькі дзякуючы «абагулена-тыпізаванай размове пра некаторыя нашы заганы» (Дз. Бугаёў), за гэты час заганаў стала куды болей, а, відаць, таму, што яна — радок нашай неўміручай гісторыі, дзе няма нічога лішняга, бліскучая старонка айчыннай літаратуры, стаўшая ўпоравень з класічнымі творамі мінулага, таму што яна — само жыццё, складанае і супярэчлівае, схопленае і навек замацаванае ў жывым народным слове нашым таленавітым суайчыннікам.

І якая ўрэшце розніца, хто хаваўся за гучным псеўданімам.

Міхась ГЕРЧЫК

# ЗАГАДКА ВЕКУ

Аднойчы ў рэдакцыю часопіса «Полымя», дзе я тады працавала літсупрацоўнікам у аддзеле прозы, сярод іншых лістоў і газет пошта прынесла даволі аб'ёмісты канверт з рукапісам. Карэспандэнцыя, як заўсёды, была пакладзена на стол сакратару рэдакцыі Алесю Бачылу, добраму паэту і сумленнаму чалавеку, спакойнаму, вытрыманаму. Праз нейкі час мы адчулі заклапочанасць, павышаны рух сярод нашага начальства. Бачыла бегаў у кабінет да нашага рэдактара Паўла Кавалёва, устрывожаны Павел Кавалёў у кабінет, дзе сядзелі Алесь Бачыла і Алесь Русецкі — намеснік рэдактара. Хутка яны зачыніліся і пачалі нешта ўголас чытаць.

Невядома якім чынам, але да нас, звычайных работнікаў часопіса «Полымя», дайшло, што ў рэдакцыю пошта прынесла ананімную паэму, і вось, там яе чытаюць. Некаторыя нашы супрацоўнікі памкнуліся былі ў той кабінет, каб таксама паслухаць незвычайны твор, аднак туды нікога не пусцілі. Няйначай галоўны рэдактар, які страшэнна баяўся высокага начальства, спужаўся таго, што было напісана ў паэме і, па звычцы таго часу, вырашыў схаваць гэта ад людзей.

Але, як той казаў, шыла ў мяшку не схаваеш, і праз некалькі дзён стала вядома, што экземпляры гэтага твора трапілі не толькі ў рэдакцыю часопіса «Полымя», але і ў іншыя рэдакцыі, у выдавецтва, у Саюз пісьменнікаў і нават у ЦК, што пра яе ведае ўжо ўвесь Мінск, усе чытаюць, усе рагочуць. Наша начальства ўбачыла, што пакуль за чытанне паэмы нікога не арыштавалі, нікога не звольнілі з работы, так што хаваць ад нас гэты твор, мабыць, няма сэнсу. І наладзілася калектыўнае чытанне.

Усе мы сабраліся ў кабінеце, дзе сядзелі Алесь Бачыла і Алесь Русецкі; Бачыла паклаў перад сабою лісткі, надрукаваныя пад капірку, можа, які энны экземпляр, і пачаў чытаць. Хутка мы ўсе хапаліся за жываты ад рогату, ад смеху цяклі слёзы з вачэй, кожны радок прыводзіў нас у захапленне.

Паэма называлася «Сказ пра Лысую гару». У ёй паказвалася жыццё нашай пісьменніцкай арганізацыі, маляваліся вобразы некаторых пісьменнікаў, ды так трапна, так дасціпна, з такім гумарам, а дзе і сарказмам, што мы, ведаючы ўсіх гэтых людзей, не маглі не захапіцца тонкай назіральнасцю аўтара.

Сюжэтам паэмы стаў надзел пісьменнікаў агародамі на пляцы, што называўся «Лысая гара». З паэмы вынікала, што колькі ні білася партыйнае кіраўніцтва, каб выкараніць з душы савецкага чалавека пачуццё ўласніка, прывучыць да калектыўнасці і ў рабоце, і нават у асабістым побыце, забіць гэтае пачуццё аказалася немагчымым. Як толькі далі вузкую шчылінку, адтуліну, яно вырвалася вонкі, затапіўшы ўсе іншыя жаданні.

Успамінаючы той час, прыгадваецца, што на першым часе ЦК спрабавала змагацца з гэтым антыкамуністычным настроем, асабліва гневаўся Пётр Міронавіч Машэраў, ён наогул катэгарычна выступаў супроць усякай там прыватнай уласнасці. Некаторых пісьменнікаў-камуністаў пачалі выклікаць у той высокі дом і ставіць пытанне рубам — альбо прыватны агарод, альбо кладзі партыйны білет на стол. Шмат хто з камуністаў разумеў, што без агарода, як і без сумлення, пражыць можна, а вось без партыйнага білета ўжо хоць жывым кладзіся ў труну, ты ўжо нябожчык, а не чалавек, і ад тых дач-агародаў некаторыя паадмаўляліся.

Ды хутка гэты жорсткі падыход мінуў. Можа, у тым высокім доме спахапіліся — а раптам знойдуцца такія, што выберуць агарод замест партбілета, тады сораму не абярэшся. І яшчэ — ужо тады наша сельская гаспадарка дыхала на ладан, можа, нехта падказаў Пятру Міронавічу — няхай гэтыя пісакі хоць бульбы самі сабе навырошчваюць, а так — сядзяць на нашым карку.

Так альбо іначай, але зямлю паміж пісьменнікамі падзялілі і тыя пачалі завіхацца на сваіх сотках. Працавалі так старанна, з такой любасцю, як можна працаваць толькі на ўласнай, на сваёй зямлі, як можна клапаціцца толькі пра сваё.

Аўтар «Сказа пра Лысую гару»

глядзіць на ўсё гэта з вялікай ironіяй, ён робіць для сябе і для нас адкрыццё — слабыя, шэранькія літаратары аказаліся самымі спрытнымі на сваіх надзелах. Навыперадкі адзін перад адным пачалі яны будаваць дамы, угнойваць зямлю, садзіць агароды. Абыякава ставячыся да сваіх літаратурных практыкаванняў, тут яны шчыруюць да сёмага поту, пераціраюць у пальцах кожную грудку зямлі.

О, калі б так пераціралі
Любы радок і кожны сказ,
Якія б дулі выраслі
На творчым зябліве у нас!—

усклікае аўтар паэмы.

Іранізуючы над клопатамі «агароднікаў» і нават высмейваючы іх, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі паказвае і жыццё творчага саюза, з якога іранізуе не менш дасціпна. Ён абураецца тым, што ў выдавецтве даюць шырокую дарогу шэрым творам і ставяць заслон творам таленавітым, што пісьменнікі не клапоцяцца пра родную мову, якая гіне ў іх на вачах, калі мяшчане

... даўно былі гатовы
Ажыццявіць «святы» парыў —
Ліквідаваць дашчэнту мову
Якой Купала гаварыў...

Вясёлая, дзе-нідзе фрывольная паэма, задача якой, на першы погляд, была ў тым, каб высмеяць слабасці некаторых беларускіх пісьменнікаў, мела, аднак, вельмі глыбокі сэнс. У ёй малявалася эпоха, якую потым назавуць застойным часам. Калі ніхто не адважваўся сказаць тое, што думаў, ды і думаць шмат хто развучыўся, калі сказаць хоць долю праўды можна было хіба вось так — ананімна. І аўтар «Сказа пра Лысую гару» ўжо не з гумарам, а з болем зазначае, што ён піша пра эпоху,—

Калі сёй-той крычаў пра брацтва,
А сам ірваўся з капытоў
Каб як мага вышэй прабрацца —
Далей ад шэранькіх братоў

Калі ў сталіцы беларускай
Культурнасыты мешчанін
Лічыў грамадскаю нагрузкай
Язык «тутэйшы» прышчаміць.

Хіба не вельмі актуальна гучаць гэтыя радкі і сёння?

Так ці іначай, барацьбу сярод пісьменніцкай брацii за свой, уласны, агурок ананімны аўтар звязвае з бездухоўнасцю, якая, дарэчы, не сёння пачала на нас наступаць, звязвае з крывадушшам, якое выхоўвалася ў тыя «застойныя» часы, калі з трыбуны людзі гаварылі адно, а паміж сабою, ціхенька, другое, калі партыйным білетам прыкрываліся паклёпнікі, зламыснікі, калі сумленнага, шчырага чалавека можна было абылгаць і ніхто не прыходзіў яму на дапамогу, як не прыйшлі на дапамогу ў тыя гады Карпюку, Бачылу, якія адважыліся зрабіць заплыў супроць цячэння.

Ды паспрабуй ты праўду ляпнуць,—
Цябе сатруць на́ груцу ўраз!
Як кажа Ставер: «Тамбу-ламбу,
Глядзіш — спёкся папуас!...»

Дачыталі паэму да канца, нарагаталіся — і тут устала пытанне: хто аўтар? Францішак Вядзьмак-Лысагорскі — псеўданім, хто за ім хаваецца?

З паэмы вынікала, што гэты «Вядзьмак» мала таго, што вельмі таленавіты паэт, да таго ж глыбока адукаваны, эрудыраваны чалавек, хутчэй за ўсё — ён не малады, бо ў паэме ёсць пра гісторыю Саюза пісьменнікаў, пра старэйшых яго членаў. Уражвала, як глыбока ведаў аўтар людзей, пра якіх пісаў, іх характары — без такога глыбокага ведання не здолеў бы ён так дасціпна іх абмаляваць. І яшчэ — як шмат у паэме падрабязнасцяў з жыцця лысагорцаў, іх мог падгледзець толькі чалавек, які сам там жыве.

І пачалася варажба. Першымі трапілі пад падазрэнне Алесь Звонак, Анатоль Астрэйка, Рыгор Няхай, яны таксама мелі агароды на Лысай гары і ўсё ведалі пра сваіх суседзяў. Але Звонак, Астрэйка, Няхай катэгарычна адмаўляліся ад аўтарства, акрамя таго, яны самі трапілі ў паэму, і не ў самым прывабным выглядзе. І наогул, канкрэтных доказаў, што яны — аўтары, не мелася. Потым называліся імёны Рыгора Барадуліна, Анатоля Вялюгіна, але па разважанні і гэтыя прозвішчы ставіліся пад сумненне.

А інтэлігенцыя Мінска гудзела, усе чыталі «Лысую гару», перапісвалі яе ад рукі, распаўсюджвалі. Хутка яна стала вядома па ўсёй рэспубліцы, трапіла і ў Маскву, да людзей, звязаных з Беларуссю. Усе прызнавалі, што паэма геніяльная, але аўтарства ніяк не маглі ўгадаць, а сам аўтар не адкрываўся. Можа, таму, што не хацеў нажываць ворагаў — ён шмат каго зачапіў з пісьменніцкай брацii, ды і ад начальства можна было ўсяго чакаць, як-ніяк, ён раскрытыкаваў эпоху.

А начальства пакуль, здаецца, не злавалася, а можа, рабіла выгляд, што не злуецца. І там чыталі-перачытвалі паэму, і там рагаталі. Можа, пабытовыя падрабязнасці засцілі ад высокага начальства глыбінны змест твора? Ва ўсякім разе, хадзіла пагалоска, што на нейкім з прыёмаў адзін наш слынны паэт пачаў апраўдвацца перад Пятром Міронавічам Машэравым, што, маўляў, дарэмна яму прыклейваюць аўтарства «Лысай гары», не ён яе напісаў, і Пётр Міронавіч нібыта сказаў: «Ну і дарэмна, паэма выдатная».

Хутка ў твора «Сказ пра Лысую гару» з'явіліся паслядоўнікі, адна за адною пачалі з'яўляцца падробкі, нібыта таго самага аўтара, Францішка Ведзьмака-Лысагорскага. Але з-пад покрыва адразу, як той казаў, вылазілі асліныя вушы. Падробкі не мелі той дасціпнасці, гумару, выглядалі груба скляпанымі, увогуле замест дасціпнасці пераважала ў іх грубасць.

Зрэагаваў на гэтыя падробкі і аўтар «Лысай гары», ён прасіў чытачоў не верыць аўтарам, якія падрабляюцца пад яго, і тут жа выдаў новыя раздзелы паэмы, пазначаныя такім жа талентам, дасціпнасцю і смеласцю.

Але хто ж ён, той аўтар?

Сам Францішак Вядзьмак-Лысагорскі ў заключным раздзеле свайго твора піша, што:

Адкрыцця гэтага не зробіць —
Хоць зад натрэ да мазалёў —
Ні крот Сцяпан Александровіч,
Ні кротус Генус Кісялёў

Але мы не верылі, не можа быць, думалі мы, каб застаўся невядомы наш сучаснік, таленавіты паэт, ён альбо сам аб'явіцца, альбо крытыкі раскапаюць яго імя — па стылі, па ўжыванні пэўных слоў, па тэксце, па адносінах да пэўных асоб, па таленце.

Але імя яго сапраўды нібыта канула ў Лету. Прайшло ўжо больш дваццаці гадоў з часу напісання паэмы, а прозвішча аўтара дасюль невядомае. Праўда, некаторыя пісьменнікі хваляцца — «А я ведаю», але ці мала хто і што можа сказаць, афіцыйны аўтар «Сказа пра Лысую гару» не названы, а кожны год усё глыбей хавае яго імя. Ужо шмат хто з герояў паэмы адышоў у нябыт, пройдзе яшчэ крыху часу, і ўсе мы апынемся там, у лепшым свеце, а паэма ўсіх нас перажыве і будзе жыць, пакуль будзе гучаць беларускае слова, беларуская мова. І доўга яшчэ будуць гадаць — хто ж аўтар гэтага выдатнага твора?

**Лідзія АРАБЕЙ**





# «Быў час, быў век, была эпоха...»

Як вядома, ананімная паэма «Сказ пра Лысую гару», паэма пікантная, у машынапісным варыянце пайшла да чытача ў самым пачатку 70-х гадоў. Доўгі час да яе славы, да славы майстра, стараўся прымазацца са сваімі падробкамі нейкі рамеснік, фальшыватворца. Нарэшце ў 1988 годзе «Бібліятэка «Вожыка» дала магчымасць займець паэму (у яе сапраўдным выглядзе) нават тым, хто, можа, пра яе ў свой час і не чуў. Гэтаму спрыяў немалы наклад выдання, а яшчэ і дадатковае выданне, пры цане дзесяць капеечак за паасобнік. Масаваму чытачу, мабыць, і не сніўся такі дарунак... Амаль праз трыццаць гадоў пасля выхаду з-пад пяра твор выйшаў у свет. Але ён доўга не мог трапіць у друк не таму, што, як пісаў у прадмове вельмі шаноўны крытык і літаратурны даследчык Дзмітрый Бугаёў, ва ўмовах застою «ніяк не заахвочвалася вострая грамадзянская сатыра...» У тых жа ўмовах (хаця яшчэ ці ў тых, а не горшых, калі пасля першай адлігі таталітарны рэжым леанідаільічоўскай пары ўзмацніў сваю пільнасць), толькі трошкі пазней з поспехам ішла ў тэатры імя Янкі Купалы апрабаваная ў друку крапівінская «Брама неўміручасці», адзін з узроўняў якраз вострай грамадзянскай сатыры. Што ж да апублікавання «Сказа пра Лысую гару», то, думаю, ажыццёўлена яно не з патрыятычных пачуццяў і нават не з любові да смеху, да іроніі (такая любоў у грамадстве яшчэ, мусіць, у эмбрыяльным стане), а ў пагоні за сенсацыяй... Са здзіўленнем заўважыў: Бугаёў сцвярджае, быццам і ананімнасць паэмы абумоўлена тым жа застоем. Гэта ў той час як твор па самой сваёй прыродзе — ананімны, інакшым ён не мог быць і не можа стаць, нягледзячы ні на якія змены ў грамадстве. І ці варта тут даводзіць: *ні тады, ні цяпер* чытач нічога не страціў, што пад імем Ведзьмака Лысагорскага схаваны сапраўдны аўтар.

«Сказ пра Лысую гару» я ўпершыню прачытаў, калі пачаў працаваць у выдавецтве «Мастацкая літаратура»,— напрыканцы 1972 года. Ці, можа, трошкі пазней — у 1973 годзе. Прынесла паэму, здаецца, Вера Сямёнаўна Палтаран. Мне, прыхільніку гумару і сатыры, імпанавала такая з'ява, тым больш што ананімнай паэмы ў нас вельмі ж даўно не было. Хачу згадаць, што ў той час надакучалі надта сумныя і даволі аднастайныя, ідэалагічна-халуйскія матэрыялы і даклады пра пісьменнікаў і нярэдка шэранькія, бяздарныя творы тых жа пісьменнікаў. Былі ж, вядома, і выключэнні, але гаворка не пра тое. З'яўленне «Сказа пра Лысую гару» радавала хоць бы таму, што ўбачылася магчымасць твора альтэрнатыўнага, кажучы па-сучаснаму.

Пра значэнне паэмы скажуць рана ці позна вучоныя мужы. Як я разумею, яна — па-за рэчышчам літаратурнага працэсу, у яе — сваё — аўтаномнае!— жыццё, свой — адметны! — статус.

Дзе-нідзе адчуваецца, што зыходнаю для аўтара была пралетарская пазіцыя, тут нават з добрым зместам ужываецца слова «партыя». Для ананімнага твора ідэалагічная падкаванасць, тым больш перастрахоўка, і *тады* былі зусім лішнія, асабліва калі ўлічыць, што *сказ* ствараўся надоўга.

Часта ў паэме дасціпна абыгрываюцца рэаліі, вядомыя ў колах літаратараў факты. Амаль уся яна — іранічная, саркастычная, тут падаюцца партрэты ці штрыхі да партрэтаў часам проста пацешныя, з лёгкай усмешкаю, а іншы раз — і сакрушальныя. Аднак сяды-тады ў ёй сарказм мяжуе з добраю спагадай:

Ва ўсіх дамы, ва ўсіх палеткі,
І толькі ў беднай Палтаран
Стаяў хляўчук, сядзелі кветкі,
Ляжаў нявораны дзірван,

а часам і з такою замілаванасцю:

... З глыбінь народнага жыцця
Увысь ірвалася Янішчыц —
Палесся мілае дзіця.

Пра «Сказ...» можна гаварыць доўга. Але трэба сказаць галоўнае: ён створаны не на пацеху абывацелю — ён дадзены патрыётам роднай літаратуры, мовы, культуры, нашай гаротнай нацыі — для глыбокага ўсведамлення таго стану, у якім апынуліся. Можна ганарыцца мастаком, які дзесяткі гадоў таму даў такую трапную характарыстыку таталітарнаму рэжыму, намаляваў карціну страшэннага стану недухоўнасці, маральнай спустошанасці.

Калі гадаюць, хто ж аўтар паэмы, я заўсёды дзіўлюся, бо, калі ты чытаеш беларускую літаратуру, ведаеш, хто на што здатны, хто за што змагаецца, аніякай загадкі тут няма. Але ці трэба называць аўтара, калі гэтага не хоча ён сам? Магчыма, калі-небудзь ён родным дзецям ці ўнукам, ці ўвогуле нашчадкам даверыць адкрыць тайну...

Я рады, што аўтар «Сказа...» жывы. Ён засведчыў, што звычайным чатырохстопным ямбам можна тварыць цуды, валодаючы дасканала пяром, любячы і ведаючы народнае слова, зычачы Бацькаўшчыне лепшае долі, а яе сынам і дочкам — нацыянальнае годнасці, духоўнага багацця. Запытаецеся: а матэрыяльнага дабрабыту?.. Безумоўна, і яго, ды пры адной умове — каб той дабрабыт не паглынуў нашай духоўнасці. Здароўя аўтару і здароўя нацыі — фізічнага і духоўнага!

**Васіль ЖУКОВІЧ**



МАГЧЫМА, Я БЫЎ АДЗІН З ПЕРШЫХ, хто пачуў, што пішацца паэма пра лысагорцаў — пісьменнікаў, якія ўзялі сабе дачныя ўчасткі на няўдобіцы непадалёку ад вёскі Малая Валоўшчына (Мінскі раён). Збіраючыся неяк на электрычку, я запрасіў у дарогу і суседа Рыгора Няхая — ён якраз выходзіў са свайго дачнага доміка.

—Не, я начаваць буду тут,— сказаў Рыгор Восіпавіч.— Мы ж паэму пішам пра ўсіх нас, лысагорцаў... Анатоль Астрэйка, Алесь Звонак і я... Сёння збор...

Рыгор Восіпавіч загадкава ўсміхнуўся, ну а я... Што мне заставалася рабіць? Пажадаў творцам удачы і, не надаўшы асаблівага значэння словам Рыгора Няхая, пакіраваўся на станцыю Зялёнае.

Успомніў я Рыгора Няхая і тыя словы пра паэму аб лысагорцах,

што сказаў ён мне, калі аднойчы Іван Чыгрынаў прынёс у рэдакцыю «Полымя», дзе я тады працаваў у аддзеле прозы, перадрукаваны на машынцы «Сказ пра Лысую гару». Прачытаўшы твор уголас, мы, хто на той час быў у рэдакцыі, вядома ж, пачалі абмяркоўваць, хто можа быць аўтарам паэмы. Я прыгадаў словы Рыгора Няхая, якія ён сказаў з паўгода назад.

—У Рыгора Няхая вельмі ж неахайны радок,— заўважыў хтосьці з прысутных.

—Але ж ён не адзін пісаў... Ды і калі напісанае трапіць да добрага рэдактара-паэта, асабліва, калі ён захоча звесці са сваімі нядобразычліўцамі рахункі...

Мае намёкі зразумелі. Рыгор Шкраба нават, помніцца, сказаў:

—А гэта можа быць... Той, на каго вы намякаеце, нядаўна ў інтэрв'ю заявіў, што працуе над паэмаю... Ці не «Сказ пра Лысую гару» ён меў на ўвазе?..

Сёй-той не згаджаўся са мною, гаварыў, што паэму мог напісаць Ніл Гілевіч. Запыталі ў Рыгора Барадуліна, які зайшоў у рэдакцыю, магло ці не магло такое быць. Рыгор Барадулін рашуча пакруціў галавою.

—Паэма арыгінальная... Ды і матэрыялу Гілевіч не ведае...

Паэма мела поспех. Яе чыталі, перапісвалі, перадрукоўвалі. І, вядома ж, дапрацоўвалі. Кожны на свой лад. Адно скарачалася, другое дадавалася. Пайшлі рознага роду «працягі» — толькі ў маім архіве іх сабралася каля дзесятка. Але гэта было пасля. Тады ж аўтарства паэмы цікавіла многіх. Як-ніяк, быў закрануты гонар не так знакамітых, як амбітных людзей. Ды і думкі, як на той час, выказваліся месцамі крамольныя. Асабліва ў той частцы, дзе гаварылася пра беларускую мову. Той чалавек, каму я прыпісваў сааўтарства ці рэдагаванне паэмы, не-не ды і падыходзіў да мяне. Працавалі ж мы разам у тым самым «Полымі». Яго цікавіла — чаму я прыпісваю яму ўдзел у стварэнні паэмы. Даваўся прывесці доказы. Перш за ўсё, я засяродзіў увагу на мове. Яна віцебская, а дакладней, сенненская... Далей. У той час мала хто ведаў, што Саня (Алесь) Шлег — мой аднавясковец. Гэта безумоўна ведаў мой калега па працы ў «Полымі» — сааўтар ці рэдактар паэмы, бо Шлег быў яго зяцем. Ніхто б не ўспомніў і Горцава, а мой калега — сааўтар ці рэдактар паэмы — успомніў — працавалі ж разам на кінастудыі. Ды і пра Алеся Кучара, які браў у цырку гной, хто б здагадаў, калі б не жылі ў адным доме і вокны сааўтара ці рэдактара паэмы не выходзілі на цырк... Было там і іншае, што выдавала майго калегу па працы ў «Полымі» з галавой — надта ж паслядоўна ён расстаўляў акцэнты — зводзіў рахункі з усімі сваімі непрыяцелямі — з У.Мехавым, напрыклад, П.Кавалёвым, К.Кірэенкам і г.д.

Мой калега, слухаючы мяне, усміхаўся, аднак свайго ўдзелу ў стварэнні паэмы не адмаўляў. Але і не прызнаваўся, што мае да напісання паэмы хоць якое дачыненне.

На адным з прыёмаў я міжволі стаў сведкам адной размовы. Яе пачаў вядомы мне чалавек — мой калега па працы ў «Полымі», сааўтар ці рэдактар «Сказа пра Лысую гару». Падышоўшы да П.М. Машэрава, ён прызнаўся, што яму прыпісваюць аўтарства ананімнага твора, які ходзіць па руках.

—Але я такіх бы перaтрымак, як ёсць там, не дапусціў бы,— пачаў ледзь не біць сябе ў грудзі перад кіраўніком беларускіх камуністаў ён.

—Ператрымкі не страшныя,— сказаў, хітра ўсміхаючыся, Пётр Міронавіч.

Бачылі б вы, з якім смакам пасля гэтых слоў П.М. Машэрава выпіў ці не поўны фужэр гарэлкі «рэабілітаваны» сааўтар ці рэдактар «Сказа пра Лысую гару»!

Аўтарства паэмы прыпісвалі і Аркадзю Куляшову. Але ён неяк, калі мы ехалі ў Маскву і сядзелі ў кампаніі, сказаў грэбліва:

—На пісьменнікаў, асабліва беларускіх, чаго толькі не навешваюць. Знарок, каб прынізіць, абсмяяць. І каб я да такога далучыўся... Не!

Чуў я, быццам рука і яшчэ аднаго вядомага паэта пахадзіла па гэтай паэме, перш чым яна была пушчана ў «людзі». Магчыма і гэта, чаму аднаму з галоўных сааўтараў ці рэдактараў паэмы і здалося, што там ёсцьператрымкі.

Вось бадай і ўсё, што можна сказаць пра гэтую паэму. Хоць... Ехалі мы, пісьменнікі, з нейкага чарговага семінару, якія праводзіліся ў бытнасць у кіраўніцтве П.М. Машэрава даволі часта, — вярталіся ў Мінск. І невядома чаму размову пра «Сказ пра Лысую гару» завёў А.Т. Кузьмін — шматгадовы галоўны ідэолаг партыі, маўляў, у ЦК не супраць, каб паэму надрукаваць. Але з ім не згадзіліся пісьменнікі — героі паэмы. Довады іх зводзіліся да аднаго — пакольку ўсе мы выступаем у паэме пад сваімі сапраўднымі прозвішчамі, то няхай і аўтар (аўтары) здымуць тогу ананімнасці... Так сказаць, выступім усе на роўных...

Барыс САЧАНКА

# Сказ пра «Сказ»

Са «Сказам» я пазнаёміўся ці ў 1968-м, ці ў 69-м годзе, калі вучыўся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, а жыў і працаваў у Полацку. Не памятаю, на зімовай ці летняй сесіі мой аднакурснік і сябра Уладзімір Анісковіч, у кого дома, дзе я заўсёды жыў у час сесій, паказаў і даў пачытаць аддрукаваны на машынцы «Сказ пра Лысую гару». Першае пачуццё, якое ахапіла мяне, як толькі прачытаў твор, гэта нейкая незразумелая радасць, нейкае акрыленне. Потым мы з Валодзем удвух чыталі і чыталі гэту паэму і з кожным разам знаходзілі ў ёй усё большую і большую асалоду. Чытала твор і Валодзева жонка Вера і суседзі — добрыя і надзейныя Валодзевы сябры, звычайныя рабочыя людзі, і ўсе не толькі смяяліся, але былі акрылёныя праўдай, якая і далёкім ад пісьменніцкага жыцця людзям была зразумелай і блізкай. Вядома, у той час паэма распаўсюджвалася толькі паміж самымі блізкімі і надзейнымі сябрамі. Валодзя перад маім ад'ездам дамоў перадрукаваў твор і аддаў мне, вядома, з умовай, што буду з ім асцярожны.

Прыехаўшы дамоў, у Полацк, я даў пачытаць паэму сваім сябрам, супрацоўнікам, як і я, газеты «Сцяг камунізму», надзейным сябрам Герману Кірылаву, Кастусю Жарнасеку і Навуму Гальпяровічу. Усе прынялі яны яе з вялікім хваляваннем і радасцю. Радасцю не толькі за цудоўны твор, але і за праўду ў ім, за смеласць, патрыятызм невядомага аўтара. Мы размножылі паэму, перадалі надзейным сябрам.

У той час я пісаў вершы, гумарэскі, друкаваўся ў газетах і часопісах, лічыўся полацкім пісьменнікам. І таму аднойчы, прыехаўшы з нейкай нарады сакратар па ідэалогіі Полацкага РК КПБ, калі выклікаў мяне па рэдакцыйных справах, спытаў, ці трапляў да мяне «антисоветский подпольный пасквиль «Сказ пра Лысую гару». Я вельмі спалохаўся, падумаўшы, што ён даведаўся, хто прывёз у Полацк крамолу. Я сказаў, што той крамолы ў вочы не бачыў. Але чуць пра яе чуў у Мінску.

—Если попадется где, то принеси мне.

Я зразумеў, што Полацк яшчэ не рассакрэціўся, і паабяцаў абавязкова прынесці. Пазней пра паэму загаварылі паўсюль. Але начальства чамусьці адносілася да яе стрымана, казалі, што сам Машэраў аднёсся лаяльна, і гэтая лаяльнасць перадалася ўсім партчыноўнікам. Сапраўды, паэма «Сказ пра Лысую гару» нічога антысавецкага не мела і не мае, наадварот — зрабіла кампліменТ партыі, што яна адзіная клапоціцца пра нацыянальную культуру, пра родную мову.

Як трагічна гучаць гэтыя словы для сённяшняга дня! Сапраўды, у тыя часы Кампартыя Беларусі хоць для адчэпнага, хоць і для адводу вачэй нагадвала пра беларускую мову і культуру, калі «раўло мяшчанства». Цяпер — жах! Не мяшчанства раве, не цёмныя людзі, якія за кавалак каўбасы гатовы прадаць і маці родную, а равуць некаторыя высокія дзяржаўныя мужы, народныя дэпутаты, нейкі Народны рух Беларусі, куды ўваходзіць і новая партыя камуністаў, і, як паказаў першы тур выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, маюць прыхільнікаў з гулькін нос, усяго нейкіх чатыры працэнты з малюсенькім хвосцікам. І аб'яўляюць сябе гэтыя чатыры працэнты цэлым народам. Няўжо ўсе астатнія 96 працэнтаў не народ? Можа, сапраўды гэта ў будучым здабытак новых неакамуністычных Курапатаў, ці славуты «лагерны пыл».

І не бяскрыўдную «камісію стварацъ» патрабуюць, а грозны рэферэндум, разлічваючы, што даведзены імі і іхнімі прыспешнікамі народ да голаду, прываблены сумніцельнымі расейскімі прысмакамі, заадно праглыне і родную мову.

Дзіўна, але і ў тыя часы, калі і партыя і яе чыноўнікі скрозь пальцы, калі не сказаць лаяльна, глядзелі на «Сказ пра Лысую гару», калі яе ў рукапісе прачытаў амаль увесь беларускі народ і нават калі дазволілі галоснасць, ніхто і не падумаў, не адважыўся надрукаваць твор. І толькі калі ў 1986 годзе галоўным рэдактарам у часопіс «Вожык» прыйшоў пісьменнік Валянцін Блакіт (В.У. Болтач), дарэчы, былы работнік ЦК КПБ і не зусім радавы, адразу сказаў мне па сакрэту, што ў дадатку да часопіса «Бібліятэцы Вожыка» будзем выдаваць «Сказ пра Лысую гару». Сказаў гэта па сакрэту не таму, што баяўся, а каб пра гэта не праведалі ў другіх рэдакцыях і не надрукавалі раней за нас.

Не надрукавалі, не апярэдзілі. «Сказ пра Лысую гару» ў прыгожа афармленай «Бібліятэцы Вожыка» ідзе нарасхват у кіёсках! Нябывалы тыраж для таго часу, а для сённяшняга — і больш таго — 60 тысяч экземпляраў — раскуплены за лічаныя дні. А ў рэдакцыю ідуць і ідуць пісьмы, званкі не толькі з Беларусі, але і з Расіі, з Украіны з просьбамі: як і дзе здабыць «Бібліятэку «Вожыка» са «Сказам пра Лысую гару»? Даводзілася дадрукоўваць яшчэ адзін тыраж. Такім тыражом не разыходзіліся на Беларусі нават рускамоўныя кнігі. Вось, таварышы камуністычныя народнарухаўцы,— гэта быў сапраўдны народны рух за родную мову, за сапраўдную праўду! З самага пачатку з'яўлення на свет «Сказа пра Лысую гару» пачало цікавіць не толькі кампетэнтныя органы, але і чытачоў: хто ж аўтар? Хадзяць розныя здагадкі, розныя чуткі. Адны мяркуюць, што Анатоль Астрэйка ці Антон Бялевіч, другія адрасуюць аўтарства Анатолю Вялюгіну, Рыгору Барадуліну, Нілу Гілевічу. Але і да сённяшняга дня Вядзьмак Лысагорскі не аб'явіўся, не адшукаў яго самы кампетэнтны вышук нават з былога КДБ. Хаця ім, казалі, нават зацікавіўся быў Машэраў. Нібыта на банкеце з нейкай важнай нагоды ён запытаўся: «Так кто же написал «Лысую гару»?— і нібыта паглядзеў ці на Анатоля Астрэйку, ці на Антона Бялевіча. Нехта з іх тады адхрысціўся:

—Пётр Міронавіч! Не я...

—А жаль,— сказаў Машэраў.— Хорошая вещь.

Гэта, можа, і праўда. Бо адсюль, мусіць, была і тая лаяльнасць тагачаснага начальства да паэмы.

Я ж асабіста схіляюся да думкі, што аўтар — Ніл Гілевіч. Калі не адзін, то ў садружнасці з некім. На гэтую думку наводзіць яго раман у вершах «Родныя дзеці» ды і многія гумарыстычныя вершы. А калі ў архівах надоўга захаваюцца розныя бухгалтарскія дакументы, то будучыя шукальнікі аўтара «Сказа пра Лысую гару» могуць натрапіць на мяне. Так-так, на мяне — Івана Стадольніка, дакладней, на маё прозвішча. І гэта ніякі не жарт. Справа ў тым, што, выпускаючы ў свет у «Бібліятэцы Вожыка» «Сказ пра Лысую гару», на трэцяй старонцы вокладкі рэдакцыя паставіла ў жартаўлівай форме ультыматум аўтару, што калі ён не з'явіцца да 10 чысла наступнага месяца, калі выйдзе кніжка, то ганарар будзе перададзены Беларускаму фонду культуры, які кіруе Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў. Вядома ж, аўтар, як і трэба было чакаць, не з'явіўся. Я, як адказны сакратар, склаў ведамасць і панёс у бухгалтэрыю. Вядома ж, усе 500 рублёў ганарару былі пералічаны Беларускаму фонду культуры.

Намеснік галоўнага бухгалтара адразу ўгледзела крамолу:

—Как это вы начисляете Белорусскому фонду культуры без согласия автора, как его там... товарища Ведьмака Лысогорского?

Я кажу, што аўтар невядомы, што гэта нейчы псеўданім, паказваю надрукаваны ў кніжачцы «ультыматум».

—Ничего знать не хочу. Нужно собственноручное заявление автора.

Як я ні даказваў, як ні пераконваў, што гэта бязглуздзіца нейкая,— нічога не дапамагло. Пайшоў да галоўнага бухгалтара, той паказаніў у ЦК КПБ, як быць? У рэшце рэшт вырашылі, што я напішу заяву ад імя Ведзьмака Лысагорскага, сам падпішуся. І тады пераведуць ганарар фонду. Я так і зрабіў.

Таму, карыстаючыся момантам, звяртаюся да будучых даследчыкаў «Сказа пра Лысую гару»: калі знойдзеце ў архівах заяву Ведзьмака Лысагорскага за маім подпісам, то ведайце, што я не аўтар цудоўнага твора, а толькі аўтар бязглуздай заявы, якую я вымушаны быў напісаць пад націскам бязглуздай бюракратыі.

«Сказ пра Лысую гару» — гэта твор не толькі пра нейкі момант з жыцця беларускіх пісьменнікаў. Гэта твор пра тагачаснае жыццё крыху прывілеяваных людзей. Пра ўсё тое, што сёння мы бачым у жудасна гіпертрафіраваным выглядзе. І «Сказ пра Лысую гару» павінен стаць амаль што настольнай кнігай беларуса, ды і не толькі яго. На жаль, яго нават не вывучаюць у школах. А ён жа сучасны і таленавіты працяг славутага «Тараса на Парнасе». Ён жыве і будзе жыць у ганаровым суседстве з ім, з «Песняй пра зубра», з «Энеідай навыварат». Я веру, што некалі знойдуць і аўтара, знойдзе новае пакаленне, якое ўжо сёння пачынае ўсведамляць сябе нацыяй, беларусамі.

Іван СТАДОЛЬНІК

# ЗАГАДКА, ЯКУЮ НІХТО ПАКУЛЬ НЕ АДГАДАЎ...

Хто напісаў «Сказ пра Лысую гару»? Адкуль і калі з'явіўся Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, які падпісваецца пад гэтым творам? Ніхто на гэтыя пытанні не мог адказаць на працягу ўжо больш дваццаці гадоў ні ў чытацкім асяроддзі, ні ў шматлікім гурце саміх беларускіх пісьменнікаў. Але некаму ж з іх — канкрэтнаму чалавеку — непасрэдна належыць аўтарства паэмы, напісанай на высокім мастацкім узроўні. Як яго завуць — Янка, Васіль, Рыгор, Анатоль, Пятрок? Нельга пакуль назваць канкрэтнае імя.

Розныя ёсць здагадкі, версіі... Але дакладнага сцверджання, што гэта напісаў не нейкі прыдуманы Вядзьмак, а вядомы ўсім нам зямляк,— няма і пакуль не прадбачыцца. І становіцца дзіўным для ўсіх нас — і пісьменнікаў і шматлікіх чытачоў: няўжо гэта так і не здолеем мы ўстанавіць сапраўднае імя аўтара паэмы? Некаторыя нашы вучоныя-філолагі, даследчыкі літаратуры, у прыватнасці, Генадзь Васільевіч Кісялёў, называюць ужо аўтара «Тараса на Парнасе» — беларускай эпічнай паэмы, якая лічылася ананімнай амаль паўтара стагоддзя, а тут — чытаем твор, напісаны ў нашы дні, аўтар ходзіць паміж нас, жыве, працуе разам з намі (альбо зусім нядаўна жыў, працаваў), а мы не можам даведацца, хто ён такі...

Не варта пераказваць змест «Сказа пра Лысую гару», які ведаюць, чытаюць і перачытваюць сотні, тысячы людзей у розных вёсках, гарадах Беларусі і нават за яе межамі. Аднойчы я стаяў у чарзе па білет у касе аэрапорта, а побач са мной апынуўся афіцэр нашых узброеных сіл, капітан па званні. Даведаўшыся, хто я такі, ён тут жа сказаў мне: «Таварыш пісьменнік, ці не можаце Вы падараваць мне паэму пра Лысую гару?» На вялікі жаль, у мяне не аказалася з сабой названага твора, і я не змог выканаць просьбу вайсковага чалавека.

Часам у далёкіх ад сталіцы мясцінах у канцы літаратурнай сустрэчы падыходзіць да цябе незнаёмы чалавек і пытае: «А чаму Вы не расказалі, як вашы сябры-пісьменнікі жывуць на дачах, ці правільна пра гэта напісана ў паэме пра Лысую гару?» У адказ пачынаеш расказваць пра ананімную паэму, пра тое, як яна з'явілася на свет, а пра аўтара яе зноў жа нічога сказаць не можаш. Хто аўтар — гэтым пытаннем цікавіліся не толькі пісьменнікі, а і тыя, хто стаяў над імі, людзі з партыйнай наменклатуры, нават высокае яе кіраўніцтва. Сцвярджаюць, што гэтым пытаннем у сваю бытнасць зацікавіўся і сам Пётр Міронавіч Машэраў. У той самы час, калі толькі з'явіліся ў спісах першыя лісткі паэмы і былі разасланы па ўсіх установах у Мінску, трапілі нават у ЦК КПБ, праходзіў чарговы з'езд беларускіх пісьменнікаў. У перапынку ў вестыбюлі вялікай залы сабралася некалькі дэлегатаў пісьменніцкага форуму. Тут зайшла гаворка пра паэму Гаварылі рознае. Пётр Міронавіч уважліва слухаў, што гавораць пісьменнікі, некалькі хвілін стаяў моўчкі, пакурваючы сваю папяроску, потым звярнуўся да свайго земляка — блізкага сябра яшчэ з юнацкай пары — Анатоля Вялюгіна:

—Кажуць, Анатоль Сцяпанавіч, што гэта ты напісаў «Сказ пра Лысую гару». Адчуваецца твая рука...

Анатоль Вялюгін, які заўсёды гатовы адказаць на любое пытанне, аж пачырванеў ад нечаканасці, потым шчыра сказаў:

—Ды што Вы, Пётр Міронавіч! Хто гэта Вам мог сказаць? Я ніякіх адносін да Лысай гары не маю...

—А шкада. Вельмі добра напісана. Маглі б прапанаваць на літаратурную прэмію, — з усмешкай падкрэсліў партыйны кіраўнік.

За дакладнасць такой размовы не ручаюся. А што гэта менавіта так было — сцвярджаюць і сёння многія яе сведкі.

Спашлюся яшчэ на адну размову з вядомым нашым беларускім пісьменнікам — Аляксандрам Яўгенавічам Міронавым, якая адбылася ў мяне асабіста з ім на яго дачы ў Кактэбелі летам 1990 года. Я прыйшоў да яго перадаць прывітанні ад сяброў з Мінску. Мы сядзелі ў альтанцы, гаманілі пра многае. І тут таксама гаворка зайшла пра «Лысую гару».

—Аляксандр Яўгенавіч!— звярнуўся я да субяседніка.— Вы шмат дзе пабывалі за свой век, сустракаліся з рознымі людзьмі. Гавораць, што Вы ведаеце дакладна, хто напісаў «Сказ пра Лысую гару»?

Міронаў паглядзеў на мяне не так здзіўлена, як хітравата, бліснуў іскрамі сваіх карых вачэй, памаўчаў крыху, потым нечакана для мяне сказаў:

—Ведаю, але не скажу. Даў слова не гаварыць. І проста не магу. Гэта будзе здрадніцтва з майго боку блізкаму сябру, які пакінуў добрую памяць пра сябе...

Я не стаў больш задаваць ніякіх пытанняў. Але ў думках пачаў здагадвацца, каго мог мець на ўвазе Аляксандр Яўгенавіч. Калі ён сказаў, што не можа выдаць тайну перад памяццю блізкага сябра, я падумаў пра нашага незабыўнага, выдатнага паэта — Анатоля Пятровіча Астрэйку: з ім Міронаў некаторы час пасля вайны жыў нават у адной кватэры, а пасля яны часта сустракаліся, дзяліліся многім у жыцці. Астрэйкі не стала 23 жніўня 1978 года. А «Сказ пра Лысую гару» пачаў распаўсюджвацца ў народзе яшчэ на пачатку сямідзесятых. За восем гадоў жыцця і актыўнай творчай працы такі паэт мог зрабіць многае, нават прыкласці сваю руку да напісання ананімнай паэмы, бо гэтая рука адчувалася ў многіх радках, падобных на яго паэзію.

Падумаўшы так пасля размовы з Аляксандрам Міронавым, я прыгадаў многія свае асабістыя сустрэчы з Анатолем Астрэйкам, якія адбываліся пасля вайны вельмі часта, да апошніх дзён яго жыцця.

Гэтыя сустрэчы найчасцей праходзілі ў так званым «астрэйкавым будане» — у яго кватэры на пятым паверсе вялікага дома. У госці да Анатоля Пятровіча «не з пустой кішэняй» прыходзілі яго задушэўныя сябры — Антон Бялевіч, Рыгор Няхай, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Корбан, многія былыя воіны, партызаны, ну, і, безумоўна, аўтар гэтых радкоў. Там заседжваліся нярэдка да самай ночы. Гамана ішла пра ўсё, што каго цікавіла. Астрэйка быў незвычайна вясёлым чалавекам, з дасціпным гумарам, часта расказваў нам пра свае партызанскія былі, чытаў шмат яшчэ не апублікаваных, нікому не вядомых вершаў. Можна было толькі добра прыслухацца — адразу ўловіш той рытм, тыя паэтычныя асаблівасці, якімі былі напісаны першыя раздзелы «Лысай гары».





Не раз ён чытаў нам сваю партызанскую гумарэску, напісаную, як ён казаў, у будане, у перапынку паміж баямі. Яна нідзе ніколі не друкавалася, але запомнілася мне на ўсё жыццё. Вось яе дакладныя радкі, за выключэннем двух-трох слоў, якія ўзноўлены па памяці:

Я не знайшоў такога штабу,
Дзе б там гарэлкі не было,
Дзе б не ласкаў начальнік бабу —
Сабе на радасць, мне на зло.

Скрыпяць матрацы і падлогі,
А ты адзін сядзі, гаруй:
Каму так весялосці многа,
Астрэйкі ж — толькі смех пачуй.

Але не вельмі я сумую,—
Хай перацешацца яны.
Як-небудзь я перазімую,—
Сваё вазьму пасля вайны...

Заўважце — той самы размер, тая ж рытміка, такі ж баладны склад, якімі вызначаюцца радкі ананімнай паэмы:

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Той-сёй прыкінуў, што панчоха —
Зусім не кепскі ідэал.

Чытач можа запярэчыць, спасылаючыся на тое, што кожны паэт-прафесіянал здольны падрабіць свае радкі пад любы стыль і памер верша, напісаць так, як былі напісаны творы іншымі паэтамі.

Такую думку дапускаў і я ў сваіх разважаннях. Але, пакінуўшы па-за ўвагай астрэйкаўскія радкі, я вырашыў праверыць увачавідкі, хто можа з нашых паэтаў, нават маіх блізкіх сяброў, напісць так, альбо прыблізна так, як напісаны ўвесь тэкст «Лысай гары».

І вось, калі яна выйшла асобным выданнем у бібліятэцы «Вожыка» ў першай палове 1988 года, я напісаў «Ліст Ведзьмаку Лысагорскаму» і паслаў яго ў рэдакцыю часопіса. У маім лісце была выказана шчырая, сардэчная просьба да аўтара-ананімшчыка, каб ён не хаваўся пад псеўданімам, а прызнаўся ў сваім аўтарстве.

О, Лысагорскі наш Вядзьмак!
Навошта выбраў псеўданім
І колькі год таемнна так
Усё хаваешся пад ім?
Не для асобных жа імён
Пісаў паэму — так ці не?
І мо гасціў ты колькі дзён
Сам у Астрэйкі ў будане?
Скажы нам, як цябе завуць,
Ці ты стары, ці малады?
Ў турму цябе не забяруць,
Як у трыццатыя гады.
Мы разам будзем на сяўбе,
Каб сеяць вечнасць з дабрынёй.
Дадзім прэмію табе
З тваю «Гару» велічынёй.
Калі б раскрыўся з першых пор
І не адбіўся ты ад рук,—
Даўно даследвалі б твой твор
Ці Кісялёў ці Казбярук...

Я знарок крыху адступіў ад таго вершаванага памера, якім напісана «Лысая гара». Але не выпадкова я намякаў на Анатоля Астрэйку і яго блізкіх сяброў. Аўтарам паэмы, разважаў я, можа быць зусім іншы паэт, з якім я не быў у блізкіх адносінах, але ж павінен хто-небудзь адгукнуцца з нашай шматлікай пісьменніцкай арганізацыі.

Заканчваючы свой вершаваны ліст да Ведзьмака Лысагорскага, я шчыра прасіў яго:

Прымі і ад мяне прывет!
Пасланне ж гэта не хітро
Пісаў такі ж, як ты, паэт
І, мажа, сябра твой — Пятро.

Ліст мой доўга, каля года, ляжаў у рэдакцыі без адказу. Я ўжо страціў надзею на яго друкаванне. Нават пакрыўдзіўся на вожыкаўцаў. Але дарэмна. Праз некаторы час у «Вожыку» з'явіўся адказ Ведзьмака Лысагорскага на мой ліст пад агульнай назвай: «Перапіска Пятра Прыходзькі з Ведзьмаком Лысагорскім». Ва ўступным слове ад рэдакцыі было сказана: «Вядзьмак Лысагорскі даведаўся, што ў «Вожыку» ляжыць ліст, яму адрасаваны. Ён зацікавіўся ім, папрасіў прачытаць па тэлефоне, што мы і зрабілі. Аднак з адказам ён не спяшаўся. А Пятро Фёдаравіч усё хваляваўся пра лёс свайго твора. Вядзьмак пазваніў яшчэ раз, калі мы ўявілі прэмію яго імя, сказаў, што адказ будзе. І вось нарэшце!»

У сваім адказе, змешчаным на старонцы «Вожыка» на пачатку 1990 года, Вядзьмак Лысагорскі пісаў мне:

Дарагі сябрук Пятро!
Сапраўды я бываў
Там, дзе ты сваё дабро
Здабываў між дачных траў
Дзе вялі ў размовах тон —
Памянуць мне дазволь —
Незабыўны наш Антон
І Астрэйка Анатоль.

Толькі ты мяне дарма
Уздымаеш да нябёс.
Мне гісторыя сама
Дыктавала тайны лёс,
Каб не ведалі, каму
Сыпаць здзекаў ці адзнак.
Вось і выбраў я таму
Клічку гэткую — Вядзьмак.
Бо ўзялі б іначай верх
стаўклі мяне нашчэнт
І навуменкаўскі клерк,
І шамякінскі агент...

Прачытаўшы апошнія два радкі, можна было б задумацца — хто з нашых пісьменнікаў выказваў такія крыўды ў адносінах да вядомых аўтараў многіх раманаў, аповесцяў. Але гэтай справай хай займаецца хто-небудзь іншы. Я імкнуўся ўлавіць тую шчырасць і непасрэднасць, з якімі былі адрасаваны мне радкі. Далей Вядзьмак Лысагорскі шчыра прызнаваўся:

Не хаваюся я, не,
Не ўцякаю за гумно.
Проста мне і ў будане
Добра ўсё, як ёсць, відно.
І дарэмна з буданоў
Клічаш ты мяне ў Саюз —
Ох, баюся я, што зноў
Атрымаецца канфуз.
Хоць не зломак і здароў,—
Не такі я маю зад,
Каб каго з сакратароў
Ссунуць з цёпленькіх пасад...
Хай для добрых слоў і спраў
Ім дае здароўе бог
Я ж яшчэ не ўсё сказаў
І зрабіў не ўсё, што мог

Адказ Ведзьмака Лысагорскага быў памерам большы за мой ліст яму. І можна было заўважыць простаму чытачу, што напісаны ён іншым вершаваным складам у параўнанні з тэкстам паэмы. Можна было толькі здагадвацца, хто напісаў гэтыя радкі: чалавек, магчыма, пакрыўджаны за тое, што яго не прынялі ў Саюз пісьменнікаў, ці мае нейкую непрыязь да яго кіраўніцтва. Адчувалася не тая рука, якая ўпэўнена, цвёрда пісала з першага да апошняга радка ў паэме. Я мог падумаць, што адказ на мой ліст Ведзьмаку Лысагорскаму пісаў хтосьці з аўтарскага актыву самой рэдакцыі часопіса «Вожык», альбо нехта з яе супрацоўнікаў, сярод якіх ёсць нядрэнныя гумарысты і могуць напісаць не горш ананімнага аўтара, прыкрыўшыся тым жа псеўданімам. Толькі, паўтараю, у дадзеным выпадку адчувалася іншая рука, зусім другі стыль.

Нельга было не заўважыць і яшчэ аднаго жыццёвага факта. За надрукаваныя матэрыялы ў часопісе належыць кожнаму аўтару атрымаць адпаведны ганарар, вы-

ступіў ён пад сваім прозвішчам ці пад псеўданімам. Вось тут мне прыйшла ў галаву думка: «Нарэшце я засяку, даведаюся, хто пісаў мне адказ, калі буду распісвацца ў ведамасці...» Але нічога з гэтага ў мяне не атрымалася. Прозвішча Ведзьмака Лысагорскага і яго сапраўднага імя ў ведамасці не аказалася. Канспірацыя зрабіла сваю справу. Нікога з вожыкаўцаў нельга было западозрыць у аўтарстве напісанага і надрукаванага мне адказу. Пытаў я ў свайго добрага сябра, супрацоўніка «Вожыка» — Уладзіміра Правасуда — вядомага гумарыста — можа, ён ведае, хто пісаў адказ,— і той кляўся, што не мае ніякіх доказаў, што гэта быў чалавек з вожыкаўскага актыву...

Калі «Сказ пра Лысую гару» выйшаў асобнай кніжкай у бібліятэцы «Вожыка», на апошняй старонцы яе быў змешчаны «Ультыматум Ведзьмаку Лысагорскаму». У ім ад рэдакцыі было сказана:

«Калі пятага чысла наступнага месяца не з'явішся з пашпартам і чарнавіком паэмы па ганарар, то ўжо шостага чысла пералічым яго ў фонд культуры, якім кіруе тав. Чыгрынаў І.Г. «Вожык».

Хто ведае, колькі і калі было пералічана грошай у фонд культуры. Вядома дакладна адно — ніхто гэтага ганарара з аўтараў не атрымліваў і не мог атрымаць, бо ні адзін чалавек з чарнавіком паэмы не з'явіўся ў бухгалтэрыю, а каб хто і з'явіўся, яго тут бы проста абсмяялі.

Якраз у той час Вядзьмак Лысагорскі не толькі не маўчаў, не таіўся, а наадварот — адточваў сваё вострае сцісло, і праз месяц-два з'явіўся дадатак да знакамітай паэмы. Зноў ён апынуўся ў рэдакцыі «Вожыка». І ў 1991-м годзе выйшла ў яго бібліятэцы поўнае выданне з дадаткам і эпілогам «Сказа пра Лысую гару». Тут чытачы маглі заўважыць шмат новага, але вельмі падобнага на тое, што было раней у адносінах да прафесіянальных паэтычных якасцяў.

Ніхто з нашых літаратурных крытыкаў і саміх паэтаў не сумняваецца, што гэты твор напісаны таленавітым чалавекам. І сёння чытачы толькі ўдзячныя пакуль невядомаму Ведзьмаку Лысагорскаму за тое, што ён закрануў у сваёй паэме многія балючыя пытанні нашага быту.

У апошнім выданні «Сказа» ў раздзеле «Замест эпілога» аўтар катэгарычна заяўляе:

Ну, вось і ўсё маё сказанне,  
І кропку ставіць мне пара.  
Пара сказаць на развітанне:  
Бывай жа, Лысая гара!  
Але магчыма, што нашчадкі,  
Як прачытаюць гэты сказ,  
Не змогуць вырашыць загадкі,  
А што за век быў, што за час?

Раздзел гэты, як і дадатак да паэмы, напісаны вельмі ярка, прасторна, у той жа танальнасці і тымі ж паэтычнымі прыёмамі, якія заўважаліся ў паэме з першых яе раздзелаў. З дзён іх з'яўлення на свет прайшло больш за дваццаць гадоў. За гэты час не стала ў нашай пісьменніцкай сям'і выдатных паэтаў Антона Бялевіча, Анатоля Астрэйкі, Уладзіміра Корбана, Генадзя Кляўко, Анатоля Вялюгіна і іншых майстроў паэтычнага слова, якія — няма сумнення — маглі прыкласці руку да напісання паэмы пра Лысую гару. А яна, бачыце, яшчэ папаўнялася, працягвалася далей пасля іх смерці. Выходзіць, што аўтар яе — не адзін чалавек. Маглі прыкласці руку і многія з тых — і старэйшых і маладзейшых — нашых паэтаў, якія і сёння актыўна працуюць у паэзіі, радуюць сваіх чытачоў новымі творамі. Паэтычнаму майстэрству Ведзьмака Лысагорскага не ўступіць ні Пятрусь Макаль, ні Анатоль Вярцінскі, ні старэйшына нашай паэтычнай гвардыі Алесь Звонак, ні тым больш нашы народныя паэты Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч... Нікога з названых і неназваных паэтаў я не магу канкрэтна западозрыць у аўтарстве паэмы пра Лысую гару. З такім жа поспехам я мог бы назваць і сябе, хоць, шчыра прызнаюся, ніякіх намаганняў да ўдзелу ў гэтай справе не прыкладаў. Але хачу саслацца яшчэ на адно меркаванне, якое выказала рэдакцыя «Вожыка» ў сваёй прадмове да публікацыі «Перапіскі з Ведзьмаком Лысагорскім». Яна была змешчана на поўнай старонцы часопіса ў дзесятым нумары за 1991 год пад рубрыкай «Тэма для дысертацыі».

«Нейкая таемная загадка,— піша рэдакцыя,— разгадка якой дастойная кандыдацкай дысертацыі і права ўступлення ў члены Саюза пісьменнікаў чарговай сімпатычнай аспірантцы...»

Вядома, «Вожык» гэта напісаў для гумару. Але тут доля праўды ёсць. Адкрыць сапраўднае імя аўтара «Сказа пра Лысую гару» — справа гонару не толькі для «чарговай сімпатычнай аспіранткі», але і для сталага, вопытнага даследчыка літаратуры. І той, хто адкрые сапраўднага творцу паэмы нашага часу — жывога ці мёртвага,— варты будзе значнай узнагароды. А, можа, хутка надыдзе такі дзень, калі аўтар альбо яго сведка з'явяцца перад намі ў сваім сапраўдным абліччы і скажуць: «Вось гэта мы — віноўнікі доўгай таямніцы. Гэта мы давалі вам такую загадку. Цяпер яна разгадана...»

Хто б ні быў аўтар «Сказа пра Лысую гару» — ён зрабіў вялікую справу.

Пятро ПРЫХОДЗЬКА  
12 верасня 1994 г.

# БЫЎ ЧАС, БЫЎ ВЕК...

Калі гаварыць пра аўтарства «Лысагорскай паэмы», то я глыбока пераканаsucc, што гэта мог і змог быць, як і аўтар другой, даўнейшай ананімнай паэмы «Тарас на Парнасе», толькі «мугілёўскі» хлопец. Вазьміце таго ж «Тараса...», вазьміце бліжэйшых — Максіма Гарэцкага, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна... і вазьміце «Лысагорскую паэму», параўнайце. Вы ўбачыце, што між імі вельмі шмат агульнага. Маю на ўвазе слова, мову, яе стылістыку, яе гранічна-чыстую адкрытасць, яснасць, зразумелую кожнаму беларусу, дзе б ён ні жыў — ці то ў Смаленску, у Бранску, у Вільні ці Беластоку, ці на той жа «Мугілёўшчыне». Яе метафарычнасць, натуральную вобразнасць.

Неардынарны палясоўшчык трапляе на Парнас, да багоў, і не адчувае там сябе ні лішнім, ні безгалосым, хоць яму быццам бы багі і права на гэта не давалі. Болей таго, ён пасмеў крытыкаваць багоў, жартаваць з іх. Так і аўтар «Лысагорскай паэмы» крытыкуе багоў, толькі не нябесных, далёкіх, а жывых, зямных, аднаго кіўка пальца каторых было дастаткова, каб сцерці гэтага «палясоўшчыка» ў парашок.

І гэты савецкі палясоўшчык знаходзіць класічную формулу «Быў час, быў век, была эпоха...», па наіўнасці надаючы ёй формулу мінулага часу, думаючы, што пажаданне светлага дня — гэта ўжо і формула рэальнасці... Жыццё даказала, што гэта далёка не так.

У кожнага чытача сваё прачытанне паэмы, кожны знойдзе ў ёй сваё, хаця далёка не кожны зразумее ўсю дакладнасць і глыбіню канкрэтных рэалій, якія ляглі ў аснову твора. Таму ў свой час я быў катэгарычным праціўнікам шырокага тыражыравання паэмы.

У паэме надта шмат «далікатных», можна сказаць, інтымных момантаў з жыцця пісьменнікаў, якія для тых, хто ведае ўсю іпастась гэтага пісьменніка, успрымаюцца, як і трэба ўспрымаць,— з доляй разумення і гумару, для тых жа, хто не ведае канкрэтнай асобы і ўсяго, што стаіць за ёй, маглі ўспрымацца як яшчэ адзін доказ нацыянальнай недасканаласці творцаў: «Посмотрите, они смеются над всеми, а сами, сами-то...»

А ўвогуле паэма з'явілася ў добры час і для аўтара, і для чытача. Гэта была пара, калі аўтар перастаў баяцца сказаць свае слова, а чытач перастаў баяцца смяяцца. Хоць значная рызыка была і ў аднаго, і ў другога. Але скажам: усё нараджаецца ў свой час.

Я тады працаваў адказным сакратаром «Маладосці». Неяк прыходжу на службу, праглядаю пошту, ускрываю канверт з паметкай «Маладосці», але без зваротнага адрасу. У канверце было некалькі, можа, шэсць, можа, болей лісткоў папяроснай паперы з аддрукаваным на машынцы тэкстам. Вершы. Пачаў чытаць — і зачапіўся, захапіўся. Прыйшла Вера Сямёнаўна Палтаран — прачыталі і з ёй. Потым прыйшлі яшчэ нехта — прачыталі і з імі. Цікава!.. Аўтара няма, не падпісаўся. А якая праца праароблена і як здорава!..

Раптам званок. З аддзела культуры ЦК КПБ. Гаворыць сам загадчык аддзела, Станіслаў Антонавіч Марцалеў. «Говорят, у вас есть какая-то поэма?» — «Ёсць, але мы яшчэ не паспелі...» —«Нельзя ли нам познакомиться с ней?» — «Дык мы ж...» —«Ничего, мы вам вернем...»

Само сабой зразумела, што ў рэдакцыю той экземпляр ніхто не вярнуў. А шкода. Той экземпляр, які прайшоў усе паверхі высокага дома і, па ўсім, меў шмат паметак на палях, шмат што мог бы расказаць і сёння.

Але калі ісці далей за ідэяй «Крыніцы», то я падаў бы і сваю: стварыць фонд аўтара «Лысагорскай паэмы».

Аўтар як быццам бы і ананімны, але ж ён наш сучаснік, болей таго, можа, яшчэ жывы і, можа, не зусім здаровы. А наш справядлівы клопат, каб ён пражыў як найдаўжэй. У «Вожык» па ганарар за свае кніжкі ён не з'явіўся, і гэта можна проста растлумачыць: не хацеў «засвечвацца», хацеў застацца ананімам.

Але ж і ананіму хочацца есці! Значыць, трэба пашукаць тую формулу, каб ён мог атрымаць свой зароблены ганарар і змог, пры жаданні, застацца самім сабой, ананімам. Урэшце, можна было б набыць і ўручыць пуцёўку куды-небудзь на Поўдзень, дапусцім, у тую ж літаратурную Ялту. Ва ўсякім выпадку, калі б ідэя стварэння фонду знайшла падтрымку, то ў якасці нейкай сціплай цаглінкі ў падмурак гэтага фонду я б з радасцю ахвяраваў ганарар за гэтыя радкі.

Можна глядзець і далей. Калі аўтар «Лысагорскай паэмы» і пры наяўнасці такога фонду не абзавецца, то гэтыя грошы можна будзе скарыстаць для падтрымкі маладых і незалежных аўтараў, у жылах якіх цячэ кроў непакоры і супраціўлення стандартам, якімі б маналітнымі і абкатанымі яны ні былі.

Анатоль КУДРАВЕЦ

# МАЛЕНЬКІ ШЭДЭЎР

«Сказ пра Лысую гару», можна сказаць, беспрэцэдэнтны, больш таго, унікальны выпадак у нашай сучаснай літаратуры. Такія вось з'явы здараюцца, пэўна, адзін раз у стагоддзе. І не таму, што гэта самы выдатны, самы таленавіты, самы найлепшы твор з усіх тых, што друкаваліся ў перыёдыцы, пад імёнамі аўтараў, якіх мы ведаем па іншых кнігах, як паэтычных, так і празаічных. Не сакрэт, што па мастацкіх вартасцях з'яўляліся рэчы больш моцныя і больш дасканалыя, з глыбейшым пранікненнем у сутнасць тых ці іншых з'яў і падзей. Але справа тут зусім у іншым. «Сказ...» вылучаецца не толькі таленавітасцю, але і сваім ананімным паходжаннем. Гэта безымянны твор, ці правільней будзе сказаць, твор-бязбацькавіч, твор-найдзён, хаця сказаць вось так пра чалавека, значыць, у нейкай ступені незаслужана абразіць яго. І тым не менш, «Сказ...» — ананімны твор. Не, ён не знойдзены ў архівах, не падабраны дзе-небудзь у дарожным рукзаку пасля якой-небудзь трагічнай катастрофы. У яго маецца родзіч ці родзічы. І, трэба думаць, не простыя, не наіўныя, ва ўсякім разе не навічкі ў літаратуры. Дзякуючы ім, у паэме хапае залатога запасу фальклорнага, па-народнаму ёмістага і далікатнага досціпу, гумару, сарказму, з'едлівасці, а таксама своеасаблівага погляду, своеасаблівых адносін да фактаў, рэчаў, з'яў і падзей і нават да свайго часу, што характэрны для твораў вось такога сатырычна-парадыйнага жанру, які набліжаецца да народных сказаў-аповедаў і нейкім чынам нават да паданняў.

Як жа нарадзіўся гэты твор, што падштурхнула ананімнага аўтара ці групу аўтараў узяцца за пяро і звярнуцца менавіта да гэтай формы творчай самарэалізацыі? Прычын дзеля гэтага было мноства. І першая, як мне здаецца, тая — крытычна зірнуць на тагачасную рэчаіснасць, прытым не праз вобразы звычайных працаўнікоў — калгаснікаў альбо рабочых — ці, напрыклад, служачых, а зірнуць праз наш, так сказаць, элітарны асяродак грамадства, якім з'яўляюцца пісьменнікі, — гэтыя своеасаблівыя прывадныя рамяні партыі. Трэба адразу ўдакладніць, што пісьменнікаў заўсёды чамусьці лічаць той часткай інтэлігенцыі, якая знаходзіцца ў прывілеяваным становішчы. Дык вось, паказаць гэтых людзей: іх клопаты і хваляванні, праблемы і

надзеі, у рэшце рэшт, атмасферу ўсяго творчага саюза — вось няпоўны пералік таго, што трэба было «зачапіць» пяром. А тут яшчэ, як кажуць, падвярнулася пад руку такая выгодная і зручная тэма — падзел садова-дачных участкаў сярод членаў пісьменніцкай арганізацыі, забудова гэтых участкаў, зямельныя турботы. Нельга не заўважыць, што ў той час да ўсялякага роду дачнікаў ставіліся неяк падазрона і нядобразычліва, як да хутаран ці кулакоў. Што ні кажыце, а дала аб сабе знаць больш чым паўвекавая ідэалагічная накачка — лепш «наша», чым «маё»! Да ўсяго пагаварыць пра адносіны пісьменнікаў як пра ўласнікаў, пра іх асабістае жыццё, прывычкі, добрыя і адмоўныя якасці характару, паводзіны ўвогуле — усё гэта было ў нейкай ступені крамольнай, забароненай справай. А, як вядома, забаронены плод вельмі жаданы і прыцягальны. Ці не таму і захадзіла, заснавала, забегала пяро па белым аркушы паперы.

Пра пачатак працы над «Сказам...» мне думаецца так. Камусьці з паэтаў цюкнула ў галаву напісаць жартоўныя радкі пра свайго калегу, магчыма, нават суседа па ўчастку, які надта ж мядзеў на ўчастку, можа, нават больш, чым за пісьмовым сталом пад час працы над чарговым творам, паэмай альбо раманам. Напісаў страфу, дзьве — і выявілася, што яны не толькі няблага гучаць і стасуюцца да тэмы, але ў іх маецца яшчэ нешта больш значнае, чым было задумана раней. А таму праца паспяхова рушыла наперад. Творца ці група творцаў напала, што называецца, на сваю залатую жылу. Перачытваючы паэму, мне здаецца, што строфы пісаліся як бы жартам, экспромтам, маўляў, гэта не сур'ёзная праца, а ўсяго-наўсяго твор як бы для хатняга ўжытку, г.зн., чытання, каб пасмяяцца ўдосталь і ўхвоту. І як ні дзіўна, вось пры такой як бы неабавязковай, напаўабыякавай працы і стаўленні да свайго занятку, калі ў творчы працэс сам па сабе інтуітыўна ўключаецца ўвесь творчы патэнцыял аўтара,— з-пад пяра і выходзяць выдатныя рэчы. Прыкладна так, як мне здаецца, і былі напісаны «Сказ...» Паглядзеў аўтар ці паглядзелі аўтары на твор і, як сказаў А.Твардоўскі ў сваёй знакамітай паэме: «Сам баец глядзіць са страхам, што зрабіў ён незнарок».

Пасля напісання паэмы справа мне бачыцца прыкладна такім чынам. Устала пытанне: як з ёй быць і што рабіць? Аддаць у друк? Пра тое, каб яна пабачыла свет, не даводзілася і думаць, не тое што заводзіць гаворку, дзе б там ні было. Яе ніхто не падпусціў бы да друкарскага станка і на гарматны выстрал. Па-першае, паэма была на той час крамольнай. Хто гэта мог дазволіць, каб у творы пасквільнага характару высмейвалася цэлая пісьменніцкая арганізацыя, на якую апіраўся настолькі, наколькі гэты было можна, партыйны апарат? Па-другое, у паэме столькі трапілася не тое што нецэнзурных выразаў, але, скажам так, вольнасцяў, што яе трэба было правіць ад пачатку да канца. У выніку ад твора засталіся б рожкі ды ножкі.

Але ж і трымаць паэму на сталее ці ў шафе не мела аніякага сэнсу. Яна проста-такі гарэла, прапальвала стальніцу, прасілася на людзі і ў людзі. Але як і якім чынам яе абнародаваць? Пад імем аўтара ці аўтараў? Прызнацца ў аўтарстве, значыць, наклікаць бяду на сваю галаву. Ад каго? Яна магла абрынуцца, пачынаючы ад ЦК і канчаючы тымі, пра каго было не вельмі далікатна сказана ў творы. Зрэшты, магло стацца і так, што Саюз пісьменнікаў аб'явіць: дыскрэдытавана ўся пісьменніцкая арганізацыя! А там недалёка і да суда! Відаць, па гэтай прычыне было вырашана надрукаваць паэму на машынцы і разаслаць па рэдакцыях газет Разлік быў дакладны і апраўданы. Які гул прайшоў па Дому друку, калі паэма з'явілася на сталах рэдактараў газет! Здаецца, ім пад рукі сунулі сама меншае бомбу. Гаварылася, як аб нейкай правакацыйнай акцыі. Узняўся неверагодны ціхі вэрхал. Кожнаму хацелася прачытаць крамольную паэму. Яна ціхом разыходзілася па руках. Давалі толькі тым, каго добра ведалі і давяралі. Мне не шанцавала. У каго я ні пытаўся, адказвалі: не, не маем. Відаць, асцерагаліся за сваю рэпутацыю, працу. Зрэшты, вось так адказалі не толькі мне. Дзейнічаў закон перастрахоўкі. Масла ў агонь падліў супрацоўнік КДБ. Як сказаў мне адзін літаратурны мэтр, кадэбісты як быццам звярнуліся да П.Машэрава і паабяцалі адшукаць аўтараў крымінальнага твора за лічаныя дні. Па машынапісе можна лёгка знайсці сцяжынку да таго месца, адкуль вылецела паэма. Але, дзякуй Богу, у П.Машэрава хапіла розуму рашуча адхіліць паслугі супрацоўнікаў гэтай установы. А гэта ўжо нешта ды значыла.

На гэтым хваля ўзрушанасці, здаецца, пачала ападаць, уваходзіць у берагі ціхамірнасці і спакою. Праўда, за «нелегальнай» і ананімнай літаратурай сачылі, як ніколі. Бо пасля з'яўлення «Сказа...» пасыпаліся іншыя творы, што былі падобны больш на падробку, чым на самастойныя рэчы.

Узнікае пытанне: хто ж аўтар «Сказа...»? На маю думку, гэты твор пісалі некалькі чалавек: два, тры! Не менш! Чаму? Ды гэта бачыцца па фактуры паэмы, па яе насычанасці рознымі дэталямі, псіхалагічнымі падрабязнасцямі і разнастайнасцю характарыстыкі персанажаў, як знешнімі, так і ўнутранымі. Гэта першае, што прыводзіць на думку — аўтар у «Сказа...» не адзін. Немалаважная і наступная акалічнасць. Твор набыў такую папулярнасць, мае і меў такі рэзананс у чытацкай публікі, з якім не зраўняецца ні адзін твор, ні адзін зборнік любога, якога б ён ні быў рангу, паэта. Дык вось, калі б «Сказ...» напісаў адзін аўтар, то далібог, ён не ўтрымаўся б, не саўладаў бы з сабой, а прылюдна і ўголас заявіў бы: «Таварышы, усё тое, што я напісаў дагэтуль, глупства. А вось «Сказ...» я лічу сваім галоўным творам, тым творам, да якога я ішоў гадамі, а таму прашу забыць пра тое, што я пісаў раней, і лічыць мяне аўтарам гэтай паэмы!» Упэўнены, што так бы яно і было на самой справе, калі б аўтарам «Сказа...» быў адзін чалавек. Бо гэта, як бы хто і што ні думаў, а маленькі шэдэўр, у нейкай ступені раўназначны «Тарасу на Парнасе». І за яго можна надаваць творцу, калі б ён, паўтараюся, быў адзін, званне народнага паэта. Але гэты твор, пэўна ж, пісалі некалькі чалавек, таму няма асаблівай патрэбы заяўляць ці аб'яўляць, хто і як ствараў гэтую паэму. Яно і зразумела! Славу паміж сабой не дзеляць, яе можна толькі заслужыць Бо нікчэмны гэта занятак — дзяліць тое, што не паддаецца ні вазе, ні меры. Няхай жа твор і застаецца ананімным! Я ўпэўнены, калі б раптам аб'явіліся аўтары гэтай унікальнай паэмы, яна адразу многае страціла б.

Не, не трэба адкрывацца аўтару ці аўтарам гэтага маленькага шэдэўра, якая б спакуса ні падштурхоўвала іх зрабіць гэтакі захад. Няхай «Сказ пра Лысую гару» застаецца ананімным творам! Ад гэтага ён толькі выйграе, будзе паранейшаму прыцягальным, цікавым і загадкавым!

Васіль МАКАРЭВІЧ





# Як камень з гары

Перад тым як сказаць слова пра паэму «Сказ пра Лысую гару» і выказаць сякую-такую думку, мушу спыніцца вось на чым. Беларуская літаратура так званага нядаўна дакастрычніцкага перыяду (а гэты перыяд сягаў у даўніну далёкую, аж да знікнення з палітычнай карты Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і «повелительного указа» рускай царыцы Кацярыны аб забароне беларускай мовы) мела нямала ў сваім набытку твораў ананімных — «размоў», «лістоў», «зваротаў». Яны былі і раней, але асабліва развіццё набылі пасля згаданых акалічнасцяў. У мінулым стагоддзі з'явіліся паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», пра аўтарства якіх і сёння навукоўцы ломяць коп'і. Такія творы, як слушна заяўляе ў прадмове да першага выдання «Сказа пра Лысую гару» (1988 г.) Дзмітрый Бугаёў, з'яўляліся, калі «...ніяк не заахвочвалася вострая грамадзянская сатыра, плённае адкрытае развіццё якой магчыма толькі тады, калі грамадства шчыра клапоціцца пра сваё духоўнае здароўе і мае мужнасць глядзець у вочы самой суровай праўдзе».

Той жа лёс і ў «Лысай гары».

Вядзьмак Лысагорскі зусім правільна засведчыў: «Наш век — наогул вельмі тлумны». Словы, як і многае што са «Сказа», сталі крылатыя. Дададзім, што на сённяшні час век стаў шмат у чым падобны на разбойны, і наўрад ці тут ёсць перабольшанне.

Ну а хіба ён не быў такім на працягу ўсяго савецкага часу — ад першых канцлагераў — праз «год вялікага пералому», калектывізацыю з яе раскулачваннем і высылкамі мільёнаў людзей, 37-мы, вайну, касмапалітаў, урачоў-забойцаў і г.д. і да т.п.? У згаданы «век» скрозь ухвалялася ананімка. Хоць ананімка-данос і ананімная паэма, наогул літаратурны твор — неба і зямля.

Дык вось, пачатак 70-х гадоў. Самае ўваходжанне ў сілу перыяду застою, самае набіранне ім вышыні, хоць сёння бачна — глыбіні ў прорву Кволая хрушчоўская адліга, не нагрэўшы, змянілася замаразкамі новай «пяцізоркавай» эпохі Брэжнева, ганення на дысідэнтаў, праследавання, псіхушак і высылак іншадумцаў. І ўсё ж першыя промні адлігі, якой бы яна ні была, пацягнулі паваломкай слязы скамянелы лёд таталітарызму. Мозг, што прачнуўся, нельга было зноў прымусіць спаць або маўчаць перад самымі строгімі наступствамі для яго. Па ўсёй велізарнай тагачаснай краіне пайшоў самвыдат — альманахі, успаміны, дакументы, творы прозы і паэзіі. Ён з рук у рукі перадаваўся верным з верных, адданым з адданых. Перадрукоўваўся, перапісваўся. Натуральна, многія перапісчыкі рабілі памылкі, дадавалі нешта ад сябе, скажаючы арыгінал і тым наносячы яму шкоду. Але справа ўсё ж выйгравала. Як заўсёды, на добрым, патрыятычным грэлі рукі несумленныя, абароцістыя людзі, як сёння сказаць — бізнесмены, а тады — спекулянты, прайдзісветы, «прадаўцы ідэй». І ўсё ж, як ні парадаксальна, але і яны рабілі нейкую карысць у гэтай справе, а менавіта — тыражыравалі самвыдат. Таксісты ў Маскве, напрыклад, прадавалі тую ж самую «Лысую гару» Ведзьмака-Лысагорскага. Ды і не толькі маскоўскія таксісты, а шмат хто на неабсяжных прасторах былога Саюза.

Аднаго разу, як пішуць у пачатку займальных рэчаў, пайшла сярод творчага люду пагудка. Амаль шэптам, амаль па сакрэту: у рэдакцыі газет і часопісаў прыйшла ананімная паэма. У якія? Ды, кажуць, ва ўсе. Хоць некаторыя рэдактары напачатку не прызнаваліся, а найбольш абачлівыя і пільныя — лахі пад пахі, ды — у ЦК. Вось, так і так... У нас ужо ёсць, пахмурна адказвалі наверсе. У тых, наверсе, быў яшчэ свой верх. А чуткі данеслі, што паэму «Сказ пра Лысую гару» нейкага Ведзьмака Лысагорскага атрымаў і самы-самы. Было з чаго спахмурнець! Нагледзелі, прамаргалі. Канешне ж, гэта пісаў прафесіянал. Каб у нашым Саюзе пісьменнікаў, у якім дзень і ноч клапатаў Броўка і іншыя адданыя таварышы, ды такое ўтварылася? Вось табе і «абы ціха». Што ж будзе, што будзе?

Першая рэакцыя вялікіх і больш начальнікаў — абурэнне, непаразуменне, гнеў! Як гэта так, хто пасмеў, «не испросясь»? Неадкладна знайсці і далажыць! У «Маладосць», расказвалі, таксама завітаў прадстаўнік нейкай нявысветленай, але, канешне ж, дзяржаўнай установы, якому трэба было пацікавіцца партфелем рэдакцыі, паглядзець, хто і як піша, ці значны прыліў маладых сіл, ці няма манаполіі старэйшых. А значыць, пакажыце ўсе рукапісы. Шукаў адказны ўпаўнаважаны след машынкі, на якой была надрукавана паэма, па памяці «сличал», як гаварыў Райкін, шрыфт. Ды не знайшоў ні ў «Маладосці», нідзе. Вялікі канспіратар Вядзьмак Лысагорскі не даўся ў рукі, канспіратарам аказаўся здатным.

А хто пісаў паэму гэту,
І дзе тварыў ён, і калі —

над гэтым і сёння гадаюць. Пра яе аўтара яшчэ няма даследаванняў, вучоных дысертацый, але, відаць, з'явяцца.

Паэму давалі чытаць на гадзіну, на дзве, на вечар. Свой — свайму. А ў другога свайго быў яшчэ свой. А ў апошняга — таксама. Некаторыя чыталі і перадрукоўвалі адначасова. «Сказ пра Лысую гару» неўзабаве перастаў быць манаполіяй не толькі адказных рэдактараў, але і самога ЦК. Спадзяюся, усім вядома, што паэма напісана на матэрыяле выдзялення і будаўніцтва пісьменніцкіх дач. У ёй няма выдуманых персанажаў. Яна магла быць і застацца самай звычайнай бытавой паэмай з канкрэтнымі характарамі, звычкамі, схільнасцямі, слабасцямі яго ўладальнікаў. Прачытаў і, пасміхнуўшыся, адклаў убок. Але ў ёй прачытваўся і «час», і «век», і «эпоха», норавы, звычкі, парадкі, у якіх існавала грамадства, заклапочанае выжыць, дагадзіць, дастаць... нават дзярмо.

Пасля першага ажыятажу настаў пэўны час як бы зацішша, калі ўсе ці амаль усе як бы прыталіся, прымоўклі, чакаючы, што будзе далей. Цяпер, здаецца, усіх займала адно: хто напісаў, ці знайшлі аўтара, а калі знайшлі, то што яму будзе?

Але пасля таго, як пра «Сказ...» ухвальна выказаўся «сам» П.М. Машэраў, у многіх паэтаў звaліўся камень з душы і страх з сэрца. Гэта, як кажуць, давала індульгенцыю на прызнанне, жыццё паэмы. І тут пачалося другое яе прачытанне. Многія з «герояў» былі, відаць, пакрыўджаны, што не ў тым святле пададзены, а многія раптам убачылі, што абыдзены ўвагай Ведзьмака Лысагорскага. У першапачатковы варыянт дапісваліся строфы або выкідваліся. Пачалося новае жыццё «Сказа», не лепшае, вядома. Ён уважаваў «расплыўся», страціў былую афарыстычнасць, спрошчваўся. У другім выданні, што выйшла ўсё ў той жа

«Бібліятэцы «Вожыка» ў 1991 годзе, Вядзьмак Лысагорскі, які назваў ужо поўнае сваё імя «Францішак Вядзьмак-Лысагорскі» ў такой вось транскрыпцыі, ужо вымушаны быў зрабіць «Уступ да другога, дапоўненага выдання» з «Апошнім папярэджаннем да псеўдааўтараў і зваротам да чытача ў канцы кніжкі. У ім ён пісаў: «Калі што будзе выходзіць пад маім імем, як нібыта дадатак да паэмы,— не вер: ніякага дачынення да яго я мець не буду. У чым і запэўніваю цябе. 7 ліпеня 1975 г. Францішак Вядзьмак-Лысагорскі».

Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, можа, сам на тое не спадзяючыся, падахвоціў на напісанне ананімных мастацкіх твораў не аднаго творцу. Гэтая кампанія, калі можна па-бюракратычнаму сказаць, працягваецца і па сённяшні дзень. Хоць часы быццам бы і змяніліся, але мала хто памяняўся ў высокіх крэслах. Пакуль што больш мяняюцца шыльды. Таму пра знікненне ананімнага мастацкага твора, у прыватнасці паэмы, гаварыць рана, а можа, і зусім гэта лішне — мяняецца ўклад жыцця, а чалавечы характар не мяняецца. Так што — тварыце!

І твораць.

Назаву дзве цікавыя публікацыі ў газеце «Звязда». Першая — паэма «Ачмурэнне» Баркулаба Дамавіка-Крывіцкага. Ён напісаў згаданы твор, як пазначана ў газеце, у 1989—1992 гадах. Надрукаваў 10 кастрычніка 1992 года. Эпіграф: «Пакуль смяёмся з сябе, мы жывыя і здаровыя». У слове «Ад рэдакцыі» сказана: «Наш аўтар... сягнуў сваім радком ажно на палітычны Парнас».

Што ж, хто пра што больш ведае...

Допіс рэдакцыі мае дачыненне, думаецца, і да паэмы-размовы Базыля Раскапэнды-Бабэцкага «Гэй, наперад! Гэй, назад!», якую праз год (14 кастрычніка 1993 года) надрукавала ўсё тая ж газета.

Трэба назваць і іншыя творы, якія не сустракаў у друку, але пра якія ведаю. Гэта паэма «Увасхрэшэнне», пазначанае напісаннем: лістапад 1987 — люты 1988, красавік 1990; і паэма на гэты раз Ведзьмака Лысагорскага-Меншага, якая апавядае пра час, калі ў ЦК КПБ «... Пячэннікаў Валера ідэолагам пайшоў»; і паэма «Як мяне ад «Талакі» адваджвалі», пад якой падпісаўся яшчэ адзін ананімны аўтар — Паўлюк Задзірасты.

Заўважана, калі ў гаспадарцы чалавека ўсё дагледжана, сабрана да кучкі, нічога не прападае, то гаспадарка моцная, а гаспадар — руплівец. Трэба і нам паруплівіцца, каб нічога, вартае ўвагі, не прапала, не знікла. Маю на ўвазе выданне дзвюх кніжак. У адной сабраць бы і выдаць «Энеіду навыварат», «Тараса на Парнасе», «лісты», «гутаркі», «прамовы»... У другой — «Сказ пра Лысую гару», «Ачмурэнне», «Гэй, наперад! Гэй, назад!», лепшыя са згаданых мной іншых паэм і тыя, якія існуюць, але пра якія я не ведаю, якіх не чытаў. Урэшце, тут могуць быць неістотныя разыходжанні ці папраўкі, але кнігу сучасных ананімных паэм хацелася б мець.

*P.S.* У дакладзе на апошнім, 11-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі намерваўся, называючы набыткі паэзіі апошняга часу, зрабіць, між намі, маленькую сенсацыю — прынародна назваць аўтара «Сказа пра Лысую гару», папрасіўшы падняцца, паказацца народу Францішка Ведзьмака-Лысагорскага. Папярэдне ён нібы і згадзіўся. Пасля адмовіўся, сказаўшы, што ў яго ўсё сабрана (маюцца на ўвазе чарнавікі), пранумаравана і падшыта ў папку. Надыдзе час — і ўсё будзе перададзена ў літаратурны музей...

Уладзімір ПАЎЛАЎ



ПАЭМА З'ЯВІЛАСЯ, па-мойму, недзе паміж 70—72 гадамі. Я яшчэ працаваў у беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. Я помню, мне ў рукі трапіў рукапіс «Сказа пра Лысую гару». Прыйшоў я ў «Маладосць». Аказваецца, гэтая паэма даўно была ўсімі прачытана, а я і не ведаў, працуючы ў Аэрафлоце. Я тады папрасіў Мікалая Якаўлевіча Аўрамчыка, які тады загадваў аддзелам паэзіі ў часопісе «Маладосць», ці можна мне пачытаць. Ён мне даў стары экземпляр, які ледзь можна было разабраць. Доўга я яе чытаў, нават уголас, сваім тэхнікам на Аэрафлоце — так мне падабаўся «Сказ». Чытаў я, помню, едучы ў калгас на бульбу, у аўтобусе. Узяў мікрафон і чытаў уголас, а людзі слухалі. Многа я ведаў на памяць. Нават іншы раз, калі ездзіў выступаць ад Бюро прапаганды, я чытаў урыўкі гэтага «Сказа».

Я па-іншаму цяпер гляджу на «Сказ». Тады ён здаваўся мне гумарыстычным і даволі добразычлівым творам у адносінах да пісьменнікаў. А цяпер, калі прайшлі гады, я бачу, што гэта — вострасатырычны твор.

Відаць, гэта як працяг «Тараса на Парнасе», «Энеіды навыварат». Ён у гэтым радзе. Адно шкада, што ён не надрукаваны не ў час. Чаму тады ён не быў надрукаваны? Можа, таму, што там Шамякін і іншыя вялікія людзі крыху зачэплены. Я дзівіўся і думаў: чаго аўтар неназваў сваё прозвішча? Каб я напісаў такі «Сказ», я б і ў той час не пасаромеўся, нават ганарыўся, што я напісаў.

Неяк мы стаялі ў Саюзе пісьменнікаў з Макалём і ён мне гаворыць: «Вось у Польшчы »Сказ пра Лысую гару» выдалі, а ў нас не...» Я кажу: «Пётр Міхайлавіч, дык віншую!» Ён мне працягнуў руку, а потым адхапіў яе назад. А хто аўтар, я не ведаю. Калі я чытаю, напрыклад, дадаткі да «Сказа», мне чуецца, як вымаўляе тое напісанае Ніл Гілевіч. А ў асноўным тэксце — хто яго ведае. Можа, калектыўны твор?

Уладзімір СКАРЫНКІН

# ГЛЫТОК ПРАЎДЫ

Плынь літаратурнага жыцця тады была спакойнай, нібы падпарадкоўваючыся дэвізу аднаго з пісьменніцкіх лідэраў: абы ціха...

І нават ад чарговага свайго з'езда майстры слова не чакалі нічога сенсацыйнага. Але, як ні дзіўна, сенсацыя ўсё ж адбылася: у той час, калі дакладчык чытаў свой доўгі і нудны рэферат, аздоблены абоймамі імёнаў, дзе кожнаму паводле заслуг вызначаны свой парадкавы нумар (як вязням ГУЛАГа!), загадзя зацверджаны адпаведнай інстанцыяй, у зале па радах хадзіў рукапіс, да якога прагна прыпадалі дэлегаты, зусім не слухаючы, што вяшчалася з высокай з'ездаўскай трыбуны... Пакуль тады нікому не вядомы дагэтуль Вядзьмак Лысагорскі са сваім «Сказам пра Лысую гару» трыумфальна ўваходзіў у беларускую літаратуру. Ці ж гэта не парадокс: так званы застойны час, які мы сёння дружна лаем, нарадзіў твор, што ўскалыхнуў грамадскую думку, як ні адна кніга мастацкай літаратуры эпохі галоснасці! Папулярнасць «Сказа пра Лысую гару» сярод пісьменнікаў лёгка зразумець: у персанажах паэмы яны бачылі саміх сябе, свае адлюстраванне, няхай нават і не ва ўсім прывабнае, што натуральна выклікала гарачыя спрэчкі. Але чаму ўсё-такі твор выйшаў за рамкі пісьменніцкага асяроддзя, стаў вядомым па ўсёй рэспубліцы і нават за яе межамі? Цэнзурны прэс тады быў настолькі моцны, што любое мастацкае слова, якое, мінаючы яго, даходзіла да чытача, успрымалася як глыток праўды, як глыток свабоды.

Партрэты знакамітых пісьменнікаў, якія настаўнікі і вучні бачылі ў школьных хрэстаматыях, газетах і часопісах, раптам паўсталі ў жывым увасабленні: аказваецца, «інжынеры чалавечых душ» маюць свае заганы і слабасці, яны такія ж грэшныя людзі, як і ўсе астатнія... І гэта радавала радавога чытача.

«Сказ пра Лысую гару» напісаны добрай беларускай мовай, многія яго радкі пазначаны трапнасцю характарыстык персанажаў, сатырычнай з'едлівасцю ў адносінах да пэўных літаратурных фігур. Аднак не будзем перабольшваць яго мастацкіх якасцяў. Аўтар «Сказа пра Лысую гару», працягваючы традыцыі класічных ананімных твораў «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат», у пэўнай меры нават раўняючыся на іх, падрабляецца пад мужычка-прасцячка, здольнага трапна заўважыць, жывапісаць, але ж не засяроджваецца на вострых праблемах жыцця, не абцяжарваць сябе роздумам. Што гэта? Хітрынка — адна з рыс беларускага нацыянальнага характару? Магчыма, і так.

А тое, што да гэтага часу не раскрыта таямніца аўтарства «Сказа пра Лысую гару», не робіць гонару нашым літаратурным крытыкам, якія ўмеюць спрытна спаборнічаць у стварэнні панегірыкаў двум-тром апрабаваным «класікам» і не жадаюць бачыць багацце непаўторных індывідуальнасцяў нашых пісьменнікаў.



Але, як бы там ні было, «Сказ пра Лысую гару» ўжо стаў здабыткам гісторыі беларускай літаратуры, за што шчыры дзякуй Вядзьмаку Лысагорскаму і тым яго паслядоўнікам, якія (кожны ў меру свайго таленту) стваралі працяг яго знакамітай паэмы. Яшчэ тады, калі пільныя рупліўцы ідэалагічнай чысціні глушылі замежныя радыёгаласы, па адным з іх мне ўдалося пачуць твор «Роздум ля парадных брамы», у якім аўтар сатырычным пяром дакранаўся да балючых праблем жыцця беларускага тэатра. Паведамлялася, што гэты твор выдадзены асобнай кніжачкай у Злучаных Штатах Амерыкі. Такім чынам Вядзьмак Лысагорскі зрабіў крок за акіян! Справа яго жыве.

Пятрусь МАКАЛЬ

# Аб тысячаногім спруце мяшчанства

Як хутка бяжыць час!

І хто б мог падумаць, што неўзабаве можна ўжо адзначаць і своеасаблівы юбілей — 20-годдзе з дня... Ледзь не напісаў — выхаду ў свет, надрукавання паэмы Францішка Ведзьмака-Лысагорскага «Сказ пра Лысую гару». У тым-то і справа, што ніводная рэдакцыя, ніводная друкарня, хоць мелі — ды напэўна ж мелі!— тэксты гэтага «Сказа», так і не асмеліліся даць твору паліграфічную пуцёўку ў жыццё. Што зробіш, «быў час, быў век, была эпоха» такія, дзесяцігоддзі вынішчэння народнай культуры, мовы, духоўнага ўціску інтэлігенцыі не прайшлі так сабе, не шчабоўкнулі ў Лету бясследна. У душах многіх людзей трывала ўкіпцюрыўся вірус страху. Паводка абмяшчаньвання затурканага народу, здавалася, затапіла ўсё і ўсіх.

І ўсё ж, і ўсё ж... Не ўсе трымалі за ідэал «панчоху», не ўсе толькі тое і рабілі, што «насілі харч сабе ў дупло». «Сказ пра Лысую гару» ўзварухнуў балота інтэлігенцкага мяшчанства і разбудзіў тых, хто стаміўся ваяваць за чалавечае ў чалавеку і прыдрамаў. Гэта быў і шок: як асмеліўся Вядзьмак выставіць на людскія вочы пісьменніцкае жыццё-быццё з сярэдзіны?! Ды яшчэ столькі ўсякага непрывабнага выкласці, так едка высмеяць! У тую эпоху застою нібы падзьмула свежым ветрам. Як хапалі мы гэты азон! Нібы тыя рыбы, выкінутыя на бераг...

Не памятаю ўжо, хто даў мне тады машынапісную копію «Сказа» з наказам: «Толькі ж заўтра і вярні!» «Пракаўтнуў» я яго адным духам, як той квас-бярозавік, што дастаецца халодненькі са склепа ў задушлівую спёку. І смяяўся, і рагатаў: колькі ў паэме знаёмцаў, колькі неназваных ці напалову, з намёкам, названых творцаў, раздзетых бязлітасным Ведзьмаком да галізны, чаго не асмельваліся зрабіць крытыкі. Захапіў мяне і літаратурны ўзровень твора, ён здаўся вельмі высокім, ледзь не класічным. Паэма ўспрымалася тады на фоне некаторых траскучых твораў нязвыкла, незвычайна, і выпусціць яе з рук было немагчыма.

Стукаў на машынцы да глыбокай начы, двойчы перагнаў тэкст з некалькімі капіркамі. Не думалася тады, што ў кожнай машынкі ёсць свае асаблівасці, свой «почырк», свае літары-калечкі, па якіх можна было, калі б гэта была вялікая крамола, лёгка знайсці і машынку, і яе гаспадара (было ж яшчэ зусім нядаўна перад тым, што і машынку, і ўзор яе друку трэба было рэгістраваць у органах!). Пакінуўшы сабе і сваім блізкім для чытання, для гісторыі адзін экземпляр, астатнія параздаваў знаёмым і сябрам. Думаецца, што і сябры не сядзелі, склаўшы рукі, а таксама перапісвалі і раздавалі, і дзякуючы гэтаму «самвыдату» паэма хутка разляцелася па Беларусі, трапіла ў бліжняе і далёкае замежжа. Яна зажыла сваім жыццём не толькі ў асяроддзі інтэлігенцыі, работнікаў культуры, навукі, служачых, але пайшла і па вёсках, на заводы. Памятаю, як адзін старшыня калгаса, знаёмячы гурт пісьменнікаў з вялізным жывёлагадоўчым комплексам, адказваючы на пытанне: як вы спраўляецеся з «адыходамі вытворчасці», пачаў раптам чытаць на памяць з лысагорскай паэмы: «Ну, не кажыце: гной няроўны. Найлепшы той, што зробіш сам. Бо

ён жа твой, уласны, кроўны, як твор, які ты напісаў». І ў гэты час хітранька паглядваў на нас — як рэагуем? І, папрасіўшы прабачэння за адступленне ад тэмы, расказваў аб калгасных справах далей.

Шмат было перагаворана пра паэму і не толькі ў пісьменніцкім асяроддзі. Колькі было ўзаемных роспытаў, колькі выказвалася здагадак, меркаванняў! Хто напісаў? Хто аўтар? І ці адзін ён, мо цэлая суполка працавала? І хоць Вядзьмак–Лысагорскі папярэджваў, што «адкрыцця гэтага не зробіць — хоць зад натрэ да мазалёў — ні крот Сцяпан Александровіч, ні кротус Генус Кісялёў», называлі розныя прозвішчы: Бялевіч, Астрэйка, Вялюгін, Аўрамчык, Гілевіч, Караткевіч. Кожны аўтар версіі выказваў сваё «за» і «супраць», але так і не змаглі прыйсці да нейкай высновы. Сам я схіляўся да таго, што аўтарам можа быць Ніл Гілевіч. Вельмі ж шмат задзёру і бескампраміснасці, добрага гумару і едкай, пякуча–крапіўнай сатыры. Усё гэта я знаходзіў і ў іншых гумарыстычных і сатырычных творах Гілевіча, не кажучы ўжо пра стылёвыя асаблівасці — у многіх месцах яны былі тоесныя. І нічога, што Ніл Сямёнавіч і сябе вывеў у творы: маўляў, для маскіроўкі зроблена, вядомы прыём. Падтрымаў мяне ў гэтым перакананні Алесь Ставер, якога Вядзьмак часта памінае ў творы. Неяк, будучы карэспандэнтам–арганізатарам бюро прапаганды мастацкай літаратуры, Ставер узяў мяне для выступленняў аж за сто кіламетраў ад Мінска. І амаль усю дарогу туды і назад мы прагаварылі пра «лысагорскую паэму». Сказаў Ставер прыкладна так мне: «Гілевіч да нас у інтэрнат яшчэ студэнтам заходзіў, мы былі тады ўжо добра знаёмыя... Памятаеш радкі з раздзела «Дзяльба»? «Ды ў той жа міг падняўся Ставер (ста–ры, іначай, вер–шаплёт), як кавялу нагу адставіў і даў фантазіі палёт...» Дык вось гэта —«Як кавялу, нагу адставіў...» ён мне яшчэ тады гаварыў!»

У «Каралішчавічах» (настальгія ў мяне па гэтым пісьменніцкім Доме творчасці, па той дамашняй атмасферы і ўтульнасці, якія там панавалі) у час вячэрняй прагулкі я прывёў Гілевічу Ставерава выказванне–здагадку, думаў — злаўлю, прыцісну фактам, «выкрыю». Але дзіва што выкрыеш! Не памятаю ўжо дакладна, якімі словамі–довадамі ён абвяргаў мае і Ставеравы доказы, але... адбіўся, адмахнуўся, не прызнаўся.

Можа, і не ён. Але колькі б пісак на яго месцы палічылі б за гонар выпнуць грудзі, пацешыць сваё самалюбства, гонар: «Я! Я напісаў, толькі ты нікому пакуль што не кажы...»

Шмат тады хадзіла па руках (дый цяпер ходзіць!) «працягаў», «дапаўненняў», «уставак» да «Сказа пра Лысую гару», многія з іх я чытаў. Але адчувалася, што ўсё гэта ўжо не тое, падробка і ёсць падробка. Гэтыя падробкі («пустыя смешкі») не раз выклікалі рэзкую водпаведзь Ведзьмака–Лысагорскага: «Фальсіфікатар–плагіятар рашыў падставіць мне нагу»; «Няўжо ён думае, зламыснік, што ў зман грамадскасць увядзе?»; «Канчай, махляр, мазгі падробкамі вярэдзіць — набудзь у працы ўласны твар!»

«Вожык» у сваёй бібліятэцы тройчы выдаў «Сказ пра Лысую гару», але гэта здарылася ўжо у наш час. Здаецца, больш ніхто з выдаўцоў не пайшоў на гэта. А дарма: «Сказ» зойме сваё пачэснае месца ў гісторыі беларускай літаратуры.

Павел МІСЬКО

# На Лысай гары -- без перамен

Давялося і мне паспытаць саюза–пісьменніцкага «хлеба». Два з палавай гады працаваў адказным сакратаром у штабе на Фрунзе, 5. Адказваў я, як і ўсе мае папярэднікі, за пратаколы, планы, паездкі, сходкі, юбілеі, пахаванні. Пра ўсё гэта напісаны дзённік, які ніколі не перачытваў. Хай паляжыць.

Адзінае скажу, тая «эпоха» для мяне стала «біноклем», у які, здаецца, здолеў разгледзець пасобныя постаці, нашу творчую суполку, «сяброўскія» ўзаемаадносіны, дбанне сейбітаў мудрага і вечнага пра літаратуру і свае кніжкі.

Што найбольш крыўдзіла? Смелых рэдка сустракаў. І шчырых. От, між сабой шчэпяцца, патузаюцца, надуюцца. Ды й то, не за гонар пісьменніцкай арганізацыі, не за ўмалотнасць літаратурнага палетка, а за прэміі, узнагароды, пасады, кватэры, агароды. Карацей, як у паэме, «у пальцах з гонарам і форсам — перацiралі камякі».

О, калі б так перацiралі
Любы радок і кожны сказ,
Якія б дулі вырасталі
На творчым зябліве у нас!

Гэтая страфа Лысагорца, відаць, і ёсць эпіцэнтр паэмы. Яна тычыцца і сённяшніх маладых творцаў, якія па–свойму ўваходзяць у рынак, упадабалі іншамаркі, камерцыю «купі–прадай», заморскае піва.

Мне, як новаму лысагорцу, вельмі зразумелы выбар Ведзьмаком месца падзей. Сапраўды, на садова–агародных градах адбываецца, калі зірнуць вокам гумарыста–сатырыка, амаль гістарычныя дзеі. Адзін з ранку да вечара выстуквае–выгруквае сваю шпакоўню, а там з году ў год — ні гнязда, ні яек, ні птушанят. Другі дзярэ пырнік, шчэпіць да дзічак садавіну, а ў агародзе — ні ягад, ні яблык. Трэці сядзіць на другім паверсе хаты, выседжвае творчыя яйкі, а заадно цікуе, хто і калі, на якой машыне, да каго і наколькі пад'ехаў, а тады, як баба, расказвае пра гэта ля тэлефоннай будкі. Чацвёрты выгульвае сабаку і такое пра яе баіць, што пачынаеш верыць: цюцька разумнейшы за гаспадара...

А ў гэту эпоху закалыханага адраджэння ўсё меней і меней пішацца і выдаецца кніг для дзяцей і моладзі, чытачы перастаюць заходзіць у бібліятэкі, разбураюцца дзіцячыя садкі і дзіцячыя душы. Чарнобыльская зона адымае ў людзей надзею, пачалося выміранне нацыі. Ці можна «інжынерам чалавечых душ» у гэткі трывожны час адседжвацца ў акопах?

Во дзе сюжэт для новай паэмы. Ды хто напіша, мудра і праўдзіва, як гэта зрабіў аўтар «Сказа пра Лысую гару»?

Хто ж ён, той адчайны смяльчак, які напачатку сямідзесятых узварушыў сваім з'едлівым гумарам усю пісьменніцкую брацію? Меркаванняў пра аўтарства безліч. Адзін пісьменнік казаў мне, што дакладна ведае аўтара паэмы. Але ён пабажыўся ніколі і нікому не прагаварыцца. Уяўляю, як цяжка хадзіць яму з такім пікантным сакрэцікам.

Я ж не маю ніякіх звестак пра Лысагорскага Ведзьмака. Таму з лёгкасцю выкажу свае асабістыя меркаванні.

У паэме згадваюцца 65 прозвішчаў самых розных пісьменнікаў Беларусі. Калі б Макаёнак быў паэтам, то я б паверыў, што гэта ён «усдавіў» лысагорцаў. Ён умеў так шчыра жартаваць і смела надсміхацца, як, можа, ніхто. Скардзіцца яму аднойчы Шамякін:

—Андрэй, зайздрошчу я бацьку–Дзюма. Колькі раманаў напісаў! А колькі ў яго баб было! Калі і як паспяваў?

Макаёнак усміхаецца:

—Ваня, хіба Дзюма столькі ў прэзідыумах сядзеў, як ты...

Але ж «Сказ» — справа рук і розуму паэта. І я перакананы, што нехта з тых паэтаў, хто ўпамінаецца ў паэме, і ёсць аўтар. Ён абавязкова напісаў у творы і пра сябе, каб не змаглі адкрыць тайну аўтарства «ні крот Сцяпан Александровіч, ні кротус Генус Кісялёў».

І яшчэ. Мне чамусьці верыцца, што такі твор пісаўся калектыўна. Мне ўяўляюцца два «кааператывы». Адзін маглі скласці паэты–франтавікі, чыстыя і праўдзівыя. У іх балелі сэрца і душа, што для сяго–таго ў Саюзе пісьменнікаў «панчоха — зусім не кепскі ідэал», «а кажаны з руціны коснай насілі харч сабе ў дупло».

Адным словам, прычын для горкіх роздумаў было шмат. І ў Астрэйкавым будане, дзе «не моўкла позна гамана», дзе былі «каністра тары, кус карэйкі, ну, і цыбуліна была», маглі нараджацца неўміручыя страфы пра дзяльбу дач, агародныя праблемы і творчы імпэт.

Другі «кааператыў» мне ўяўляецца такі: Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі. Паэты — ад Бога. А смеласці — не пазычаць. Гэта ж яны ў час вялікіх ганенняў на Васіля Быкава адважыліся заступіцца за яго, напісалі пісьмо ў ЦК. Цяпер зноў чуем нападкі на народнага пісьменніка Быкава: ад самога Лукашэнкі да салдаціка–амонаўца. Але хто цяпер абароніць Васіля Уладзіміравіча?

А па тым часе маладыя і азартныя заступнікі бачылі, як топчуць літаратуру, як топчуцца вакол сваіх праблем пісьменнікі, і яны адгукнуліся паэмай пра Лысую гару. Мог напісаць твор і адзін з трох згаданых паэтаў, але натхнёны і заручаны падтрымкай аднадумцаў.

Паэма жыве! Яна — урок усім нам. У ёй — праграма для творцаў, хто ідзе ў шэрагу барацьбітоў за вольную і незалежную Беларусь.

Уладзімір ЛІПСКІ



ГЭТА БЫЛА СЕНСАЦЫЯ. Больш, чым сенсацыя. Па тых часах, калі з'явілася паэма, гэта быў, бадай што, літаратурны цуд. Хоць, спачатку, магчыма, сапраўдная вартасць паэмы нікім востра не ўсведамлялася. Аднак і пры першым знаёмстве ўзнікала адчуванне нечаканай навізны. Хутчэй за ўсё, калі быць больш дакладным, не гэтак навізны ў літаральным сэнсе гэтага слова, колькі адчуванне звароту ў сучаснасць нечага ўжо напалову забытага ці страчанага, але вельмі неабходнага літаратуры. Што і зразумела цяпер. На фоне тагачаснай паэзіі, пераважна афіцыйна надзьмутай, самаарыентаванай на падцэнзурнае існаванне і таму ў многіх выпадках не зусім шчырай нават у сваім лепшым высакародным пафасе, паэма ўносіла ў літаратуру свежы струмень. І гэта адчувалі ўсе. У «Сказе пра Лысую гару» была жыццёвая праўда і адкрытасць паэтычнага маўлення, даведзеная дзе–нідзе да гратэску. Жыццёвая праўда яе зместу заключалася не ў тым, што беларускія пісьменнікі пад сваімі сапраўднымі імёнамі і прозвішчамі паказваліся ў смешным, іранічным, а не то і ў злёгку сатырычным асвятленні. Урэшце, калі добра ўчытацца ў тэкст паэмы, то можна заўважыць, што пісьменніцкія фігуры, пры ўсёй канкрэтнасці імёнаў і пры ўсёй трапнасці індывідуальна–псіхалагічных характарыстык, усё ж даволі ўмоўныя, а дзе–нідзе і выпадковыя. З такім жа поспехам на іх месцы ці побач з імі маглі аказацца іншыя — з тых, хто выслізнуў з–пад зоркага вока ананімнага аўтара. Атмасфера праўдзівасці выступала з усіх сэнсавых сітавін тэксту твора. Гэта была іншая эстэтыка, якая прадчувала сябе ў недалёкай будучыні. Іншая — але разам з тым некалі добра знаёмая, якая прадвызначыла важнейшую рысу ў аблічны нацыянальнай літаратурнай традыцыі. На мой погляд, эмацыянальна–стылёвая аўра «Новай зямлі» Якуба Коласа густа ахутвае паэму. Магчыма, якраз у гэтым, у моцнай вывяве нацыянальнай паэтычнай традыцыі, асноўная прычына таго, што паэма з цяжкасцю паддаецца перайманню. Кажуць, што былі ўпартыя спробы пасля знаёмства з беларускай паэмай стварыць нешта падобнае на мясцовым матэрыяле і на Украіне, і ў Расіі, і ў іншых рэспубліках, але без поспеху.

Паэма адразу стала карыстацца вялікай папулярнасцю сярод усіх пластоў насельніцтва Беларусі, а таксама сярод прыезджых з іншых рэспублік. Ніводзін твор, нават з самых выдатных, не меў такога хвалюючага, ажыятажнага чытацкага запатрабавання, як паэма «Сказ пра Лысую гару». «Чытаў?» «Чыталі?» — толькі і чулася вакол.

У Інстытут літаратуры, памятаецца, паэма прыйшла па пошце, надрукаваная на тонкай, як некалі казалі, «папяроснай» паперы. Магчыма, прыслаў сам аўтар. Калі гэта так, мы бясконца ўдзячны яму. А калі не ён, то мы рады падзякаваць тому чалавеку, які палічыў, што ўсё–такі Інстытут літаратуры такая ўстанова, якая не павінна доўга заставацца ў няведзенні адносна апошніх наватарскіх літаратурных падзей. А з'яўленне паэмы сапраўды было наватарскай падзеяй. Пачалося таемнае, пасутнасці падпольнае, тыражыраванне паэмы на пішучых машынках усіх інстытутаў Акадэміі.

Праўда, неафіцыйнаму распаўсюджанню паэмы ніхто і не перашкаджаў. Паэму ахвотна чыталі і ў партыйных установах, цішком, сам–насам захапляліся. Відаць, у вышэйшых партыйных інстанцыях была пэўная насцярожанасць да ананімнай паэмы. З аднаго боку, партыйным работнікам як быццам і падабалася, што пісьменнікі, гэтыя задавакі, якія схільны абагаўляць сваю прафесію, лічыць яе «пасланнем неба», паказаны ў зніжаным асвятленні, зведзены да звычайных абывацеляў з інстынктам хцівасці. Але, з другіх меркаванняў, было і боязна адобрыць паэму: а раптам нейкаму разумніку захочацца гэтакім чынам узяцца і за партыйнае кіраўніцтва. Дарэчы, пазней сапраўды хадзілі па руках паэтычныя машынапісныя лісты з даволі ўдалай спробай высмеяць самыя адыёзныя фігуры ў партыйнай уладзе рэспублікі. Ці належалі яны тому ж самаму аўтару, цяжка сказаць. Нешта падобнае дзе–нідзе ўгадвалася.

У той час ідэалогію ў рэспубліцы ўзначальваў сакратар ЦК КПБ, вы–

датны чалавек А.Т. Кузьмін. Ён вельмі прыхільна паставіўся да паэмы і, кажуць, прапаноўваў надрукаваць яе. Але гэтай акцыі, як маглі, супраціўляліся некаторыя пісьменнікі, чые імёны згадваліся ў паэме. І дарма. Паэма нашмат гадоў пазней усё ж была надрукавана ў літаратурным дадатку да часопіса «Вожык» (па ініцыятыве яго рэдактара Валянціна Блакіта) даволі вялікім як для Беларусі тыражом з адабральнай, вясёлай, але тактоўнай прадмовай вядомага крытыка Дзмітрыя Бугаёва, таксама «лысагорца», прозвішча якога згадвалася ў паэме нароўні з іншымі. Я не сказаў бы, што пасля публікацыі паэмы аўтарытэт пісьменнікаў, якія сталі яе «героямі», нашмат панізіўся. Хутчэй наадварот. Сапраўды, хто на «драбязу» і ардынарнасць стане звяртаць увагу?

Трэба сказаць, што адносіны шырокай чытацкай публікі да паэмы выявілі даволі высокую літаратурную культуру гэтай публікі. Факт з'яўлення паэмы мала кім успрымаўся як хуліганскі ўчынак ці непатрэбшчына. У паэме бачылі нешта вясёла-сур'ёзнае. На самой справе, твора падобнага жанру і зместу ў беларускай паэзіі, бадай што, не было за ўвесь пасляваенны час. Быў гумар — часцей за ўсё не вельмі смешны, была сур'ёзнасць — пераважна даволі сумная. А ў «Сказе пра Лысую гару» гумар і сур'ёзнасць неяк надта ўдала падсвечваліся адно адным.

Паэма безумоўна зойме значнае месца ў гісторыі нацыянальнай літаратуры як з'ява ў нейкай меры дысідэнцкага характару, накіраваная ідэйна перш за ўсё на пісьменніцкае асяроддзе, а праз яго — на ўсё тагачаснае грамадства з яго маральным двуаблічнам і няшчырасцю, з невысокай унутранай культурай. «Сказ пра Лысую гару» робіць гонар беларускай літаратуры, бо праз гэты твор у яе хапіла мужнасці паглядзець на саму сябе без ідылічнай прадузятасці.

Гэта быў унутрана-інстынктыўны пратэст супраць халодна-мрамарнай глянцавітасці ў паэзіі, супраць усё больш відочнай страты ёю жывых сувязяў з рэчаіснасцю.

Праўда, трэба прызнаць, што паэма сёння ў нейкай меры ўжо страціла факталагічную актуальнасць. Рынычныя адносіны перавярнулі дагары нагамі многія ранейшыя ўяўленні пра рэаліі жыцця. Аднак маральны і грамадзянскі пафас гэтага твора застаецца надзвычай надзённым.

Пра аўтарства паэмы ў літаратурных колах рэспублікі вялося і вядзецца шмат гарачых вусных спрэчак (пісьмовых выступленняў не прыгадваю). Хто ён — скрытны, загадкавы і смелы? На мой погляд, калі аўтар сам не хоча аб'явіцца, шукаць яго не варта. Гэта не зусім этычна. Хоць, думаецца, для дасведчанага і прафесійна падрыхтаванага крытыка-літаратуразнаўцы ўстанаўленне аўтарства даволі вялікага твора, напісанага ў нашы дні, не складае асабліва цяжкай праблемы. Гэта не «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Праблема толькі ў тым, каб заняцца ёю. Але ці трэба? У прынцыпе ж праблема вырашальная. Безумоўна, аўтар паэмы — таленавіты імітатар. Аднак якім бы дасканалым ні быў яго талент у гэтай галіне, у даволі значным па аб'ёме творы не маглі не выявіцца тыповыя асаблівасці яго творчай манеры, агульны тонус і стыль яго папярэдняй паэзіі. Тут той след, які абяцае прывесці і да асобы аўтара. Хоць аўтар залішне саманадзейна, як на мой погляд, у эпілогу паэмы кінуў нібы выклік усяму беларускаму літаратуразнаўству, выказаўшы ўпэўненасць, што аўтарства паэмы не будзе ўстаноўлена ніколі (а, магчыма, ён гэтага якраз і хоча):

А хто пісаў паэму гэту.
І дзе тварыў ён і калі —
Навечна канула у Лету —
І толькі бурбалкі пайшлі.

Адкрыцця гэтага не зробіць —
Хоць зад натрэ да мазалёў —
Ні крот Сцяпан Александровіч,
Ні кротус Генус Кісялёў.

Думаецца, што ягоны выклік некалі будзе прыняты.

У мяне асабіста таксама ёсць нейкія меркаванні адносна аўтарства. Праўда, без праведзенага спецыяльна даследавання нельга цешыць сябе надзеяй, што яны хоць бы прыблізна не памылковыя. Тым не менш я ўпэўнены, што аўтар паэмы з ліку самых таленавітых беларускіх паэтаў, які добра ведаў нейкім чынам усе дачныя пісьменніцкія справы ў падрабязнасцях і разам з тым валодаў унутранай свабодай паглядзець на ўсё яшчэ і збоку, з аддаленай маральнай дыстанцыі, не будучы сам умешаным у дачную «эпапею». Думаецца, адсюль таксама можна весці разгадку аўтарства.

Віктар КАВАЛЕНКА

# Прадукт сістэмы

Лысая гара, Лысая гара... Цяпер і я маю тут дачу, калі можна назваць дачай гэтыя чатыры няпоўныя соткі з нейкім, падобным на хату, збудаваннем. Далучыўся, інакш кажучы, да герояў знакамітага «Сказа пра Лысую гару», створанага невядомым аўтарам больш за дваццаць гадоў таму назад, недзе на пачатку 70-х. Я тады працаваў у аддзеле культуры ЦК КПБ на пасадзе інструктара і стаў адным з першых чытачоў гэтага твора, дасланага аўтарам нават сюды, на самы кіраўнічы «верх». «Верх» прачытаў, твор спадабаўся — і не толькі сваёй бясспрэчнай таленавітасцю, але і, што не менш важна, антыпісьменніцкай скіраванасцю. Паміж пісьменнікамі і партыйным ЦК заўсёды ў той ці іншай форме існавалі супярэчнасці. Праблема даўняя і універсальная: мастак і ўлада. Васіль Быкаў на гэты конт сказаў так: «Відаць, творца асуджаны на сталае супрацьстаянне з Уладаю. Для сумленнага мастака гэта, мабыць, непазбежна...» ("ЛіМ". 1992. 7 лютага.) У «Сказе...» такога супрацьстаяння не было — аўтар стаяў у цэлым на баку Ўлады, і яго сатыра не выходзіла за межы «прынцыпу партыйнасці». І калі А.Вялюгін (пайшла чутка, што аўтар ён) апраўдваўся перад П.М.Машэравым, што, маўляў, не ён пісаў, той напаўжартам, напаўсур'ёзна адказаў: «Ну и зря». Было гэта, помніцца, на адным з тагачасных выязных пісьменніцкіх семінараў.

Што непакоіць аўтара «Сказа...»? Што ён хоча сказаць?

Яму здаецца, што «лысагорцы» больш увагі ўдзяляюць уласным агародам, чым творчай, пісьменніцкай справе.

О, калі б так перацiралі
Любы радок і кожны сказ,
Якія б дулі вырасталі
На творчым зябліве у нас!
А то прывыклі, марнатраўцы,
Паперу крэмзаць, абы з рук,
Не ганарару б ім, а трасцы
За той «цяп-ляп», што пруць у друк.

Святая прастата!— хочацца сказаць. Хіба ў тым выяўляліся прыкметы творчага крызісу беларускай літаратуры ў 70-я гады, што пісьменнікі займелі сякія-такія агароды? Карэнні крызісу — у іншым, у самой сістэме, якая адлучыла мастака ад паўнаводдзя жыцця, рэгламентавала яго творчы пошук. Вынікі гэтага крызісу мы перажываем да сённяшняга часу.

Хто ж аўтар? Не ведаю. Перабраў многіх, у тым ліку і Алеся Звонака, угледзеўшы ў «Сказе...» нешта супольнае з паэтычнай манерай гэтага выдатнага нашага майстра: дасціпнасць слова, лёгкасць радка, валоданне партрэтным штрыхом. А.Звонак адказаў мне лістом, у якім адмаўляўся ад аўтарства: «... разумею Ваш намёк, але, на вялікі жаль, не я аўтар «Сказа пра Лысую гару», аб чым магу толькі шкадаваць». Не варта шкадаваць, Пётр Барысавіч, хоць я і згодзен з Вамі: «Сказу...» сапраўды нельга адмовіць у таленавітасці партрэтных вобразаў і характарыстык, але гэта ўсё ж такі нейкая зласлівая таленавітасць, якая ставіцца да чалавека залішне прадузята і аднабакова...

Тым не менш, «Сказ пра Лысую гару» належыць беларускай літаратуры і літаратурнай традыцыі — ён, думаецца, застанецца як сведчанне пра своеасаблівасць таго часу і таго «лысагорскага» чалавека. «Быў час, быў век, была эпоха...»

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ



Я САМАЎПЭЎНЕНА ВАМ ЗАЯЎЛЯЮ, што я вылічыў з дакладнасцю да міліметра, хто аўтар «Сказа пра Лысую гару». Прозвішча я вам ягонае не назаву, але сцяжыначку да яго пакажу. Па-першае, аўтара трэба шукаць сярод герояў гэтага твора. Ён іх так добра ведае не толькі па сходах у кафэ Дома літаратараў, калі дватры чалавекі збяруцца і пачынаюць перамываць адзін аднаго... Францішак Вядзьмак-Лысагорскі адабраў самае вострае, самае дасціпнае, самае нязлоснае, а грацыёзнае, нават, я сказаў бы, дасціпна-гжэчнае. У «вожыкаўскай» прадмове да «Сказа» спасылаюцца на ананімную паэму «Тарас на Парнасе», але ж гэты твор ідзе ад рускай сатырычнай літаратурнай традыцыі. Нездарма там і Пушкін, і Гогаль прыйшлі на Парнас.

Гэтая паэма напісана чалавекам, які добра ведае польскую сатырычную літаратуру, польскую фрашку. Адтуль гэта ідзе, з польскім досціпам і гжэчнасцю.

Аўтар жыве сярод лысагорцаў і пра кожнага ведае, што робіцца ў яго на гэтай Лысай гары. І, дарэчы, ёсць тут, у паэме, некаторыя рэчы закансперыраваныя. Вы ніколі не здагадаецеся, што за празаік сказаў: «Гаўно трымайце на замку!» Такога празаіка не знойдзеце. Той, хто вам скажа, што гэта не празаік, хто вам назаве прозвішча Кірэенкі, што гэта ён бочку прыпёр,— той ведае сапраўдную патаемнасць гэтай паэмы, ён прагаворыцца і сам не заўважыць, як і мне прагаварыўся. Я падумаў бы пра Грышу Барадуліна. Ягоная «Смаргонская акадэмія» — гэта проста адзін да аднаго «Мышэйда». Я некалі, не думаючы, што нехта будзе мяне распытваць пра Лысую гару, запытаўся ў Барадуліна пра «Мышэйду» — кажа, не чытаў, не ведаю. Па-мойму, прыкінуўся. Але таксама відаць, што не Грыша аўтар «Сказа», бо на Лысай гары ў яго, здаецца, маёнтка няма...

Мяне трошкі збянтэжыў тагачасны заключны раздзел «Сказа», дзе аўтар раптам пачаў размахваць чырвоным сцягам. Прычым, у гэтым размахванні ёсць і падвох. Вось тая страфа, дзе гаворыцца, што каб не партыя, дык мова памерла б. Гэта ж перакрут, адкрыты перакрут Тут адкрытая мана, адкрытая хлусня, адкрытая ліслівасць — не аўтарская, не свая. Гэта да таго няпраўда, што кожнаму відаць, і нават той самай партыі, таму самаму Машэраву, не дурны ж ён быў, ён бачыў і ён чуў ад пісьменнікаў, што з-за ЦК мова памірае. Так што падману тут не было, гэта нават не сацыялістычны рэалізм, а пярэварацень, дзеля таго, каб паказаць, хто ж сапраўдны магільшчык мовы. Толькі наўрад ці вам нехта скажа так пра гэта, як я сказаў. Але той, хто вам скажа, што цяпер бы, мусіць, гэты аўтар напісаў інакш, вось той і ёсць аўтар. Неаўтар будзе папракаць, што пісаў пра партыю.

Той, хто вам больш накідае фактаў, як хто рэагаваў, як улады рэагавалі,— гэта таксама прыкмета аўтара, бо аўтар заўсёды ўспрымае з вялікай зацікаўленасцю, хто што скажа...

Я чуў, калі паэма гэтая грымела ў першыя часы, быццам Пётр Міронавіч сказаў: «Каб не мацяршчына, дык нават і друкаваць можна». Значыць, на заключны раздзел клюнуў.

Калі хто вам раскажа пра тое, як у ЦК шукалі аўтара, нават хто займаўся гэтай справай, калі хто раскажа, як з органаў прыходзілі шрыфты машынак у рэдакцыі правяраць, — звярніце ўвагу на гэтага чалавека як на патэнцыяльнага аўтара.

Многія пісьменнікі ўвойдуць у гісторыю літаратуры толькі дзякуючы гэтай паэме. Аўтар дагэтуль баіцца, што разарвуць. Людзі ж страшна помслівыя, асабліва тыя, што сядзяць пры ўладзе. Я адчуваю, што яму карціць прызнацца, але і хочацца, і колецца...

Трошку яго бянтэжыць заключны раздзел, каб не прыйшлося апраўдвацца. Як некаторым пісьменнікам за свае «паслухмяна-падданыя» творы. Хай бы ўжо лепш не апраўдваліся. Ну было, напісалі, хто не пісаў!

Так што аўтара я даўно і добра ведаю. Але з пэўных прычын называю вам яго вусна, як бы па сакрэту, і вядома, не для друку. Будзеце гутарыць з ім — упэўніцеся ў слушнасці маіх меркаванняў.

Георгій КОЛАС



Я АТРЫМАЛА ГЭТУЮ ПАЭМУ ПА ПОШЦЕ. І, як высветлілася, яе атрымалі адразу некалькі чалавек, амаль адначасова. Павінна сказаць, што гэта было ашаламляльнае ўражанне. Па-першае, таму, што было свежа, прыгожа і шчыра напісана. Па-другое, вельмі дасціпна. Па-трэцяе, праўдзіва. І па-чацвёртае, гэта было ў тым рэчышчы нашай агульнай зняважлівай ацэнкі дачаў, маёмасці, машын... Тады, помніцца, у літаратуры існаваў якраз вось гэты стэрэатып: дача, машына, грошы,

увогуле — не вартае ўвагі пісьменніка. І таму клопаты людзей, якія атрымалі на Лысай гары свае чатыры ці пяць сотак, сапраўды вельмі дасціпна высмейваліся. Праўда, той-сёй выказваў іншую думку, што пры ўсім тым, гэта было цікава чытаць, але тым не менш, у тых клопатах пісьменнікаў пра свой кавалачак зямелькі была не хцівасць уласніка, а, па-сутнасці, адвечная туга селяніна па зямлі. Пісьменнікі першага пакалення былі сялянскімі дзецьмі, і таму ва ўсіх гэтых клопатах па ўладкаванні праглядвалася менавіта тое, пра што калісьці напісаў Чэхаў у сваім славутым апавяданні «Крыжовник». Чалавек дабраўся нарэшце да нечага свайго, што належала толькі яму і што ніхто ў яго адабраць не мог, гэты кавалачак зямлі быў непарушны. Дарэчы, магу сказаць, што калі праз 15 ці 12 гадоў давалі ўжо новыя ўчасткі зямлі, дамагліся чатырох гектараў для будучых пісьменнікаў, то, па-мойму, першыя, хто выбіраў зямлю і атрымаў самыя лепшыя кавалкі, былі тыя самыя праўдалюбцы, якія некалі не атрымалі той жа зямлі. Таму што паэма паэмай, а ў жыцці гэта выглядала так, што тыя, хто атрымаў усё-ткі гэтыя чатыры соткі, прыходзілі на гэтыя соткі ўлетку, разводзілі свой агрэст, сядзелі пад вішанькай ці ліпкай сваёй; а праўдалюбцы, тыя, хто адмовіўся, скрыгаталі зубамі і самі марылі пра такі ж утульны куточак. І таму яны самыя першыя атрымалі. Дарэчы, калі мы ўжо атрымлівалі на Лысай гары свае надзелы, то не было ніякага «обличительного» пафаса, а было нармальнае жаданне мець нейкі кавалак, куды можна пайсці ад гарадскога тлуму. Для мяне і сёння гэтыя чатыры соткі, якімі я валодаю, гэта, перш за ўсё, сімвал не чагосьці матэрыяльнага, а сімвал кавалка цішыні, калі ні пад табой пяці паверхаў няма, ні над табой нікога няма. І я проста там адпачываю, як і ўсе.

Я была ў захапленні ад «Сказа», таму што гэта сапраўды прафесійна, моцна напісана. Радок гнуткі, круты, там нічога лішняга няма. Гэтая паэма шырока разышлася ў народзе, і дзе б я ні была, дзе б я ні выступала, нават у самай глухой вёсачцы, абавязкова нехта яе цытаваў. І мне здаецца, што яна яшчэ спрацавала вось на што: яна прапагандавала, па-першае, наогул усіх пісьменнікаў. А па-другое, яна як бы аддзяляла палову ад зерня, таму што тыя, хто добра пісаў, яны, хоць і іранічна былі паказаны ў паэме, але без страшэннай з'едлівасці, якая аж раз'ядае. Вы ж паглядзіце, што там пішацца пра некаторых... Як былы рэдактар «ЛіМа» Горцаў высмейваецца! Той жа Жычка, які некалі творы Быкава шпурляў на стол і крычаў: «Забярыце ад мяне гэтую варожую прапаганду!» — ён тут так і высмейваецца. Тут усе прыпячатаны як яны ёсць! А вось паглядзіце, як лагодна пішацца пра Палтаран. А Жэня Янішчыц!..

Імёны пісьменнікаў набывалі пэўны кантэкст І многія пасля проста бралі ў сельскіх бібліятэках іхнія творы, каб паглядзець, што гэта за пісьменнік, што ён напісаў. Гэта была свайго роду прапаганда. А народ заўсёды зразумее, разбярэцца. І таму вельмі добра прымалі паэму, бо гэта ў традыцыях беларускай літаратуры, той жа «Энеіды навыварат», таго ж «Тараса на Парнасе», таго гумару, які бурліў нават у самыя страшныя сталінскія гады. Паэма паслужыла прыкладам для мноства іншых ананімных паэм. Гэта быў першы моцны, свежы, энергічны штуршок у раней забароненую вобласць ананімна-жартоўна-іранічнай літаратуры. Можна ўспомніць яшчэ дзесятак ананімных паэм, якія былі ўжо пасля «Сказа» і якія пісаліся пад Ведзьмака Лысагорскага. І нават былі спробы звесці нейкія рахункі пісьменнікаў адзін з адным, але ўжо ні адзін з іх не дацягваў да ўзроўню «Лысай гары», усё гэта былі бледныя копіі. Хоць некаторыя былі і не благія.

Я думаю, што аўтар «Сказа» альбо Рыгор Барадулін, альбо Анатоль Вялюгін. А можа, яны разам напісалі. Дарэчы, пра гэта ўвесь час гавораць, але яны не прызналіся... Думаю, што калі будзе садраны флёр таямнічасці, паэма нешта страціць. Ёсць у тым, што яна застаецца пакуль што ананімнаю, свой шарм, сваё зачараванне. І мне здаецца, што, можа, і не трэба, каб мы даведаліся, у рэшце рэшт, хто аўтар.

Вольга ІПАТАВА

# ШЛЯХ ДА ЧЫТАЧА

Пра існаванне крамольнай паэмы, што нелегальна распаўсюджваецца ў рукапісах, даведаўся, здаецца, у 1978 годзе, працуючы ў Гродзенскім абкаме партыі. «Навіну» прывёз з нейкай нарады ў ЦК сакратар абкама Аляксандр Іосіфавіч Ульяновіч і «доверительно» паведаміў, што паэму чытаў сам Машэраў і надта ж рагатаў, ніякіх канкрэтных установак па нейтралізацыі няма, аднак... Ужо тое, што паэма не друкуецца, а распаўсюджваецца нелегальна, лічылася найвялікшаю крамолай.

—Ты таўчэшся сярод творчага люду, то мо дастанеш экземплярчык,— папрасіў Аляксандр Іосіфавіч, калі мы засталіся тэт-а-тэт у яго кабінеце, і на мой запытальны позірк дадаў: — Не як для сакратара абкама... Мне чыталі вытрымкі — і ведаеш, здорава, жывот надарвеш...

Неўзабаве пад вялікім сакрэтам і пад умову, што зраблю лішні экземплярчык, я атрымаў на адну ноч пятую ці мо дзесятую копію на тонкай папяроснай паперы. Копія мела процьму арфаграфічных памылак, скажэнняў беларускіх слоў — адчувалася, што машыністка альбо не ведала зусім, альбо вельмі кепска ведала беларускую мову.

Паэма літаральна ўскалыхнула мяне. Да глыбокай ночы правёў за машынкай. Шкадаваў, што пад рукою не аказалася тонкай паперы і даводзілася абмяжоўвацца толькі пяццю экземплярамі.

Канечне, тады і ў галаву не магло прыйсці, што праз дваццаць гадоў гэты настуканы ледзь не адным пальцам экземпляр мне будзе наканавана падпісваць у друк...

Назаўтра раніцой другі ці трэці экземпляр паклаў перад Ульяновічам.

—Сядай, пачытаем разам,— прапанаваў сакратар.

Мне было надзвычай цікава, якая рэакцыя будзе ў ідэалагічнага сакратара, і перш за ўсё да эпілога. Ён чытаў уголас і смяяўся да слёз. Нарэшце дайшоў да эпілога. Смех памяняўся на задуменнасць, нават насцярожанасць. Дачытаўшы да канца, запытаў:

—У цябе ёсць яшчэ экземпляр?





—Ну, ёсць...— добрасумленна прызнаўся я, не ведаючы, куды ён хіліць.

—Ладна, тады пакінь гэты мне, а свой дай Соні (сакратарка), хай ціхенька, неўпрыкмет зробіць закладку, і аддасі мне. Толькі нікому — ні гу-гу. Тут нашы маскоўскія землякі прасілі...

Праз два гады, калі вучыўся ў Маскве, не раз даводзілася сустракацца ў неафіцыйнай абстаноўцы з масквічамі гродзенскага разліву, што займалі значныя пасады на іерархічнай наменклатурнай лесвіцы. Усе яны былі ў захапленні ад «Сказа», пад настрой у застоллі маглі дэкламаваць цэлыя раздзелы.

З вышыні часу сёння нават дзіўна, чаму гэты выдатны твор так доўга чакаў свайго часу да друкарскага станка.

«Быў час, быў век, была эпоха...» І якое магло мець значэнне, што рэч безумоўна таленавітая, што ад яе ў захапленні нават высокапастаўленыя чыноўнікі з самых высокіх ідэалагічных ведамстваў! Існавала сістэма з жалезнымі канонамі і прынцыпамі, у якой правілы не маглі мець ніякіх выключэнняў. Усялякая нелегальшчына атаясамлівалася з антысавецчынай, ідэалагічнай дыверсіяй, пасквілянствам. Нават калі гэта былі не санкцыяваныя вярхоўнымі ідэалагічнымі жрацамі творы класікаў марксізму-ленінізму. Што тады казаць пра напоўнены нацыянальным духам «Сказ пра Лысую гару»! Не такія наіўныя былі апантаныя цэрберы канонаў і правілаў, каб за знешняй бачнасцю падтрымкі партыйнай лініі на выкараненне дробнаўласніцкіх настрояў, лёстачкамі ў бок кіруючай і накіроўваючай, накшталт «калі б іх партыя хоць зрэдку не асаджала пугаўём», не заўважыць існага сэнсу «Сказа», не разумець, што гэтыя знешнія лёстачкі аўтар адпускае, каб не надта шчыравала ўсёдасведчанае КДБ у пошуках заканспіраванага аўтара. А дай санкцыю на друкаванне «нелегальшчыны» нават разумны і ўсясільны Машэраў ці ліберал Кузьмін, іх тут жа на кускі разарвалі б пільныя цэрберы, каб выслужыцца, прасунуцца на іерархічнай лесвіцы.

Мо нават сёй-той і рашыўся б на дазвол публікацыі. Але без эпілога. Каб звесці «Сказ» да бытавой хохмы, выставіць ненавісных пісак голенькімі. Ды зрабіць гэта было немагчыма — «Сказ» самвыдатам дайшоў да шырокага чытача, і падобныя купюры выклікалі б непрадказальную рэакцыю. А з пісьменніцкім асяроддзем партыйная наменклатура і заігрывала, і пабойвалася яго. Дый пісьменніцкае асяроддзе зусім неадназначна ставілася да паэмы. Былі моцныя настроі, быццам публікацыя кіне цень не толькі на шаноўных аўтараў, але і на ўвесь Саюз пісьменнікаў, на ўсю беларускую савецкую літаратуру. Як ні дзіўна, але падобныя настроі бытавалі не столькі сярод услаўленых Ведзьмаком «герояў», колькі сярод тых, каго Вядзьмак не «ўславіў». Пэўна, з-за зайздрасці...

А мо гэта добра, што «Сказ» гэтулькі часу прабыў забароненым плодам, які, як вядома, заўсёды салодкі, што ў значнай меры садзейнічала яго папулярнасці. Але твор такога ўзроўню і маштабу не мог вечна існаваць на правах нелегала. Ён мусіў стаць літаратурным фактам, мусіў быць уведзены ў афіцыйны літаратурны ўжытак, заняць належнае яму пачэснае месца ў нашай літаратуры і культуры. Гэта разумелі бадай усе.

А для мяне было яшчэ ясна: не даруюць ні сённяшнія, ні будучыя чытачы галоўнаму рэдактару «Вожыка», калі твор з'явіцца не ў сатырычным, а ў нейкім іншым выданні.

Трэба было разлічыць усё да дробязяў, каб не накалоцца на надводныя і падводныя рыфы. Хоць на двары была перабудова, галоснасць, хоць у маскоўскіх выданнях пачалі з'яўляцца творы, напісаныя ў стол, у нас ледзь не ўсе газеты друкавалі-перадрукоўвалі выпечаныя на кухні вядомых ведамстваў бліны тыпу «Пена на хвалях перабудовы», вар'яцеў у шальмаванні любой жывой думкі адыёзны афіцыёз «Политсобеседник», па-ранейшаму прэсу трымаў на жалезнай аброці знакаміты Саўка Паўлаў. Словам, на Беларусі была тады эпоха, як трапна ахрысціў Алесь Адамовіч, антыперабудовачнай Вандзі.

Да майго намеру друкаваць «Сказ» загадчык літаратурнага аддзела Леанід Гаўрылкін паставіўся з найвялікшым энтузіязмам, праўда, выказаўшы сумненне, ці ўдасца, ці не нарвемся на вялікі скандал. Як паставяцца да публікацыі самі «лысагорцы», асабліва ўдовы? Ці не зацягаюць па судах?

Шчыра кажучы, менавіта гэта непакоіла больш за ўсё. У ведамстве Пячэннікава, адкуль я не так даўно збег, ведаў, на якія кнопачкі-рычажкі націснуць, каб не ўзнікла вялікага шуму. Але калі падымуцца лысагорцы, асабліва ўдовы, заваляць ЦК пісьмамі — тут не здабраваць.

Дамовіліся з Гаўрылкіным неўпрыкмет празандзіраваць у пісьменніцкім асяроддзі. Абсалютная большасць, з кім удавалася пагаварыць, былі альбо рашуча «за», альбо не супраць, каб «Сказ» з'явіўся ў адкрытым друку, хоць выказвалі сумненні і скепсіс у магчымасці публікацыі.

Каб не дражніць гусей, рыхтавалі публікацыю ў глыбокім сакрэце. Спачатку ведалі толькі ўдвух з Гаўрылкіным. Рашылі спыніцца на першым кароткім варыянце, паколькі ні ў мяне, ні ў Леаніда Гаўрылавіча, як і ў многіх пісьменнікаў, не было ўпэўненасці, што другі поўны варыянт — не падробка пад Ведзьмака Лысагорскага. Пад рукамі мелі 5 ці 6 копій-варыянтаў, узятых быццам бы для перадруку ў розных пісьменнікаў. Тэксталагічная работа прайшла даволі гладка — копіі-варыянты не мелі істотных адрозненняў. Прозвішчы трох «герояў», да якіх Вядзьмак выказаўся даволі абразліва, рашылі заштрыхаваць кропачкамі-пропускамі, як і некалькі не надта цэнзурных слоў у тэксце. Забягаючы наперад, скажу, што як толькі выйшла кніга, адзін з «заштрыхаваных» прыйшоў да мяне і заявіў: «Братачка, ты пакрыўдзіў мяне. Усе ведаюць, што там маё прозвішча. Няўжо ты не ведаў, што я, сатырык, усё зразумею»... Два другіх не выказвалі жадання расканспірыравацца, і ў другім поўным выданні мы так і не змаглі ўважыць просьбу сатырыка.

Сталі думаць пра ўступнае слова — традыцыйнае для кніжак «Вожыкаўскай бібліятэкі». Рашылі, што зрабіць яго павінен нехта з літаратуразнаўцаў. Віктар Каваленка заявіў, што з ахвотаю ўзяўся б напісаць сам, але па тактычных меркаваннях лепш, каб зрабіў яго нехта з герояў-лысагорцаў, і параіў Дзмітрыя Бугаёва. Дзмітрый Якаўлевіч напісаў бліскучае слова літаральна за дзень ці два.

Для канспірацыі па графіку мы рыхтавалі зусім іншую кніжку, і калі наступіў тэрмін здачы ў вытворчасць, паклікалі нашых штатных мастакоў Анатоля Гармазу і Аляксандра Каршакевіча, паставілі задачу аформіць «Сказ пра Лысую гару» на працягу адной ночы. Хлопцы ўзяліся за работу з найвялікшай радасцю, і ўжо назаўтра паклалі на стол макет, вокладку і больш за паўсотні малюнкаў-ілюстрацый да паэмы.

У пачатку снежня 1987 года кніжку заслалі ў набор.

Але як мы ні сакрэтнічалі-канспіраваліся, як кажуць, шыла ў мяшку не ўтоіш. Папаўзлі чуткі-

пагалоскі. Мы адказвалі ўхіліста: маўляў, падумваем, рашаем, вагаемся, а як вы глядзіце, калі выпусцім.

Чытачы чакалі публікацыі.

Быў званок і з ЦК.

—Гэта праўда, што ты сабраўся друкаваць у сваім часопісе «Лысую гару»?

—Не, у часопісе друкаваць не буду,— добрасумленна прызнаўся я.

—Глядзі там, а то ўсялякія чуткі ходзяць.

Прыняўшы цвёрдае рашэнне друкаваць, я адразу адверг магчымасць першай публікацыі ў часопісе, кожны радок якога папярэдне прыдзірліва праглядаўся галоўлітаўскім цэнзарам. Ведаў парадкі: калі не ўдасца знайсці фармальную, зафіксаваную ва ўсёмагутным «Перечне», зачэпку, каб не завізіраваць, тут жа імгненна будзе дакладзена ў ЦК — і справа безнадзейная. «Бібліятэчку», у якой па статусу друкаваліся толькі апрабаваныя ў перыёдыцы творы і, натуральна, прайшлі цэнзуру, а ідэнтычнасць тэкстаў ускладвалася пад адказнасць рэдактара, надзвычай загружаныя літаўскія цэнзары кантралявалі толькі выбарачна, а паколькі за многія гады не было ніякіх заўваг, то ўвогуле аддалі пад адказнасць галоўнага рэдактара. Гэтая адтуліна і была выкарыстана. У пачатку новага 1988 года добра аформленая кніжачка з'явілася на прылаўках кіёскаў «Саюздруку».

У мяне тады пыталіся і не верылі, што ўсё абышлося без сучказадзірынкі. Абышлося. Але з вельмі дасведчаных крыніц (а наколькі гэта адпавядае сапраўднасці, усё не было зручнага выпадку запытаць у Максіма Танка) мне вядома: калі паклалі на стол сакратару ЦК Пячэннікаву кантрольны экземпляр кніжачкі і растлумачылі, што прыпыніць ужо немагчыма, той быў у страшэнным гневе. Загадаў паклікаць старшыню Саюза пісьменнікаў Максіма Танка, каб заручыцца думкай і падтрымкай СП.

Яўген Іванавіч і асабіста, і ад імя Саюза пісьменнікаў рашуча падтрымаў і ўхваліў факт выхаду кніжкі ў свет. Навальнічныя хмары над маёю галавой імгненна рассеяліся, а «Сказ пра Лысую гару» атрымаў афіцыйную прапіску ў нашай літаратуры, пачаў сваё сапраўды трыумфальнае шэсце. Першы тыраж у 30 тысяч асобнікаў быў змецены з прылаўкаў літаральна за дзень, другі, дадатковы,— таксама. Потым была публікацыя ў кніжцы «Вожык смяецца», якая тут жа стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Затым у «Бібліятэцы «Вожыка» з'явілася 100-тысячным тыражом другое поўнае выданне.

На ім дазволю сабе спыніцца ў звязку з праблемай аўтарства «Сказа пра Лысую гару», якая хвалюе многіх.

Друкуючы жартаўлівы ультыматум у першым выданні, мы, вядома, і не спадзяваліся, што Вядзьмак заявіцца з чарнавіком паэмы па ганарар. І ўсё ж ціўкала нейкая маленькая надзея: мо раскрыецца, калі пранясло, кажучы па-руску, «взыграет авторское тщеславие» пасля такога трыумфу. Калі, канечне, жывы.

Праз нейкі час у рэдакцыю прыйшло пісьмо. Дазволю сабе прывесці падрабязныя вытрымкі, паколькі яны могуць быць карыснымі для даследчыкаў і цікавымі для чытачоў. Падзякаваўшы за выданне кніжкі, звяртаючыся да Вожыка, аўтар піша:

«Прызнаюся, што выданнем некаторых раздзелаў з маёй паэмы ты і абрадаваў і расчараваў мяне.

Гэтая паэма па меры яе напісання дасылалася ў пэўныя ўстановы некалькімі ратамі. Спачатку былі дасланы першыя чатыры раздзелы і «Замест эпілога» ў незакончаным выглядзе. Дарэчы, ты і выдаў якраз гэтыя раздзелы і «Замест эпілога» без апошніх 22 радкоў.

Пазней некаторыя іншыя раздзелы з гэтага твора таксама дасылаліся ў тыя ж установы. Цалкам паэма была закончана ўлетку 1975 года і з маім развітальным лістом да чытачоў была таксама даслана ў тыя ж установы. У маім развітальным лісце да чытачоў сказана, што паэма складаецца з раздзелаў: Уступ да другога, дапоўненага выдання. Апошняе папярэджанне. І. Дзяльба. 2. Праблема 3. Будаўніцтва. 4. Так і зажылі. 5. Мужчынскі страх. 6. Пудзілы. 7 Вялікі рух. Замест эпілога.

Усяго ў паэме 1537 радкоў. А ты надрукаваў толькі 795 радкоў.

Мяне як аўтара вось чаму не задавальняе скарочаная публікацыя гэтай рэчы.

Сярод чытачоў распаўсюдзіліся падробкі пад паэму, нават цэлая пахабная, з брыдкімі словамі частка і яшчэ адзін раздзел, якіх я нагул не пісаў і да якіх не маю ніякіх адносін. Пра што ў свой час заявіў ва «Уступе да другога, дапоўненага выдання» і ў «Апошнім папярэджанні».

Пасля выдання тваёй кніжкі ў рэспубліканскім і ва ўсесаюзным друку з'явіліся выказванні чытачоў аб гэтай рэчы. А як можна меркаваць аб творы, які цалкам яшчэ не надрукаваны? Разам з тым тваё выданне раздзелаў з паэмы «Сказ пра Лысую гару» стала літаратурным фактам, і не сёння дык заўтра непазбежна ўзнікне пытанне аб неабходнасці выдання паэмы.

А па якім экземпляры выдаваць яе?

Вядома ж, не па скарочаным, што выйшаў у тваёй бібліятэчцы, а па сапраўдным арыгінале з маім развітальным лістом да чытачоў. Рукапіс гэтага арыгінала распаўсюджаны сярод чытачоў.

Дарэчы, нават газета «Чырвоная змена», якая гэтак хораша пракаменціравала тваё выданне некаторых частак паэмы, згарача пачала друкаваць раздзел «Вялікі рух» (па-мойму, адзін з найбольш удалых раздзелаў твора), паабяцаўшы чытачам прадоўжыць публікацыю, але чамусьці так і не выканала свайго абяцання.

Мяне пакрыўдзіла і тое, як ты перакруціў маё прозвішча. У тым жа развітальным лісце да чытачоў напісана, што маё імя і прозвішча: Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. А ты зусім апусціў маё імя, адвольна ўтварыўшы яго з першай паловы майго прозвішча.

Улетку 1989 года ты надрукаваў пад маім прозвішчам вершаваны адказ Пятру Прыходзьку на яго зварот да мяне. Цябе нехта ўвёў у зман. На самой справе ніякага адказу я не пісаў і не збіраўся пісаць, паколькі да гэтага часу надрукаваны толькі некаторыя раздзелы з маёй паэмы, а не ўвесь твор цалкам.

Ты ўстанавіў свае штогадовыя прэміі і намякнуў, што называеш іх у гонар майго прозвішча. Братка, не хавай мяне ў зямлю жыўцом. Я звычайны смяротны. А ты ж ведаеш, чым заканчваліся ў нас увекавечанні людзей пры іх жыцці?»

Што гэта? Містыфікацыя ці сапраўды Вядзьмак? Адчуваецца яго стыль, хоць і ў прозе; дасведчанасць і адна дэталька, пра якую мог ведаць хіба толькі сам Вядзьмак, — наша вожыкаўская містыфікацыя перапіскі з Пятром Прыходзькам, якую прынялі за чыстую манету і Прыходзька, і ўся пішучая брація.

Потым былі кантакты і пісьмова, і праз пасрэднікаў, і вусна. Ён паставіў умову: адкрыецца толькі пасля таго, як паэма будзе надрукавана цалкам. Паэма надрукавана цалкам, праўда, без тых 22 радкоў — яны датычаць мізэрных будзённых саюзпісьменніцкіх спраў, проста псуюць, зніжаючы грамадзянскае, эстэтычнае дый паэтычнае гучанне цэнтральнага раздзела паэмы — «Замест эпілога». Пярэчанняў не было. Але расканспіраравацца, даказваць сваё аўтарства гэты літаратар перадумаў: маўляў, хай будзе як ёсць, хай, як і абяцаў, навечна кане ў Лету. Рукапіс знішчаны.

Хутчэй яно так, і хутчэй за ўсё не цяпер, а яшчэ тады. Я не называю прозвішча гэтага паважанага літаратара, які хутчэй за ўсё і з'яўляецца аўтарам «Сказа», бо я не бачыў чарнавіка паэмы, у мяне няма доказаў. Тым больш, што ведаю яшчэ трох літаратараў, якія, кожны паасобку, гатовы прызнаць сваё аўтарства.

А мо і добра, што гэты выдатны твор так і застанецца ахутаны таемнасцю і загадкавасцю.

Валянцін БЛАКІТ



ТАК АТРЫМАЛАСЯ, што я апынуўся амаль у цэнтры «лысагорскіх падзей» яшчэ задоўга да з'яўлення паэмы пра Лысую гару. Апынуўся не як уладальнік «будаўнічай эпапеі», а як яе сведка: у рэдакцыі часопіса «Маладосць», дзе я тады працаваў, добрая палова творчага калектыву — Алесь Асіпенка, Мікола Аўрамчык, Вера Палтаран — можа, год, а можа, і болей былі ахоплены гэтай, вядомай кожнаму забудоўшчыку, гарачкай, дзе, што, па якой цане, якім шляхам «дастаць», «даставіць», «прыдбаць». «прыладзіць», «зляпіць», «абжыць»... Астатнія маладосцеўцы, вольныя ад гэтых «прадпрымальніцкіх» клопатаў — у тым ліку і я, — толькі ціха пасміхаліся ці ўголас рагаталі, слухаючы штодзённыя «рэляцыі» з «лысагорскага плацдарма». Многа ў іх (а можа, і большасць), помніцца, прагучала тады жывых, яшчэ не зарыфмаваных, малюнкаў — тых самых будучых «лысагорскіх сюжэтаў» — і пра «гнойнае дабро» з-пад цыркавога слана, і пра тача, у бочцы, якое трэба «трымаць на замку», і пра «генеральскую ракету», і пра «пракурорскі хутарок», і пра шмат што іншае... Словам, рагаталі...

І вось аднойчы я ўбачыў, як рэдактар «Маладосці» Алесь Харытонавіч Асіпенка (мы сядзелі ў адным пакоі, як гаворыцца, «візаві»), нетаропка праглядаючы свежую пошту, раптам неяк пачаў раз за разам папраўляць на носе акуляры, быццам не даверачы ім. Потым усміхнуўся, потым рагатнуў, потым паклікаў мяне. Я добра яшчэ і ўцяміць не паспеў, што да чаго, а ён ужо ўсхапіўся і падаўся ў суседні пакой, дзе сядзеў Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, а яшчэ далей — праз унутраныя прахадныя дзверы — Вера Сямёнаўна Палтаран... Тут і пачалося чытанне...

А потым, потым — пайшлі тэлефонныя званкі з «высокага будынка» — ЦК: рабілася спроба «сабраць» разасланыя па рэдакцыях і ўстановах машынапісныя экземпляры Лысагорскай паэмы. Ды было позна: «джын» быў выпушчаны.

Хоць, праўда, было і яшчэ адно «потым»: з аднаго «высокага будынка» было дадзена «баявое» заданне яшчэ аднаму «высокаму будынку» — знайсці аўтара (ці аўтараў?) паэмы. Не дзеля нейкіх «аргвывадаў», а дзеля «інтарэсу» і дзеля «гонару мундзіра»: ну што вы, маўляў, за чэкісты, калі не зможаце адшукаць «пісаку»?!

І шукалі... З тыдзень у рэдакцыю, як на працу, прыходзіў з таго, другога, камітэта чалавек у цывільным (здаецца, капітан), перабіраў папкі з рукапісамі — яўна звяраў машынапісныя шрыфты з тым, «лысагорскім». Відаць, тая ж «аперацыя» праводзілася і ў іншых рэдакцыях...

І не знайшлі...

Ды не ў гэтым справа. Як кажуць, была б паэма — аўтар знойдзецца... Галоўнае, што ён быў, а значыць, ёсць і застанецца — у сваім творы.

Калі я, воляю наступнага часу і абставін, сам зрабіўся «лысагорцам», то перш за ўсё дужа здзівіўся «дакументальнай» дакладнасці «геаграфічных» і «матэрыяльна-прадметных» прывязак і рэалій паэмы: усё было як сфатаграфавана. Усё з натуры — ніякіх «фантазій». І тады я сцвердзіўся на адным: пісалася паэма тым (ці тымі), хто з «першага слупка» быў тут, на голым пляцы, хто ўсё гэта пабачыў «жыўцом» — увачавідкі, сам прайшоў праз гэтую «гісторыю» і сам пасмяяўся з яе... Не дужа верылася, што ўсё мог «зрыфмаваць» «адзіночка» — такія «творчыя акцыі» звычайна здзяйсняліся калектыўна — па слову, па радку, па рыфме,— весела, з чаркаю, з жартамі (прыклады такіх «вершасказаў» былі — яны прывозіліся з розных пісьменніцкіх паездак, творчых «дэсантаў»)... Ды і цяпер — колькі ні ўчытвайся ў тэкст — цяжка ўлавіць (па інтанацыі, па лексіцы) чый-небудзь «канкрэтны» голас. Таленавіта быў «заканспіраваны» не толькі шрыфт, але і стыль (а праз яго — пэўна ж, не без падстаў — аўтарства)... Хоць адна «зачэпка» здаецца, праступае (успомнім згаданую схільнасць да «пісьма з натуры»,—хто з нашых паэтаў тут асабліва «вымалёўваецца?».. Аднак слова — за ім самім...).

З самага пачатку я ўспрымаў «Сказ пра Лысую гару» як твор чыста «цэхавага» прызначэння і ўжытку: парагаталі самі з сябе — і на тым... Да гэтага падштурхоўвала і такая акалічнасць: людзі (найбольш з пісьменніцкага асяроддзя, у іншых рэспубліках, скажам), якія не ведалі асабіста «дзеючых асоб» лысагорскай паэмы, часам ніякавата ўсміхаліся: з чаго б гэта мы так рагочам? А справа ў тым, што ў нас працавала на ўспрыняцце, «уключалася» дадатковая інфармацыя — «ведання», знаёмства «па-за рамкамі» твора...

Аднак — шляхі мастацкага твора, як і шляхі боскія,—«неисповедимы»... Бывае, піша чалавек «нятленку», на вякі, а ўсё зводзіцца на «пшык» — адным днём. А бывае, робіць нешта як бы між іншым, як забаўку, а здараецца тое, што адбылося з лысагорскай паэмай: яна атрымала шырокі чытацкі рэзананс. Прычыны можна адшукаць розныя. Але галоўная: вострае адчуванне грамадскай хваробы, непрыняцце і высмейванне затхлазаплеснявелай, застойнай атмасферы, што панавала над галовамі і душамі ў тыя дні.

«Сказ пра Лысую гару» застанецца вясёлым і сур'ёзным мастацкім дакументам свайго часу...

Васіль ЗУЁНАК

# НАШ Аўген КАЛУБОВІЧ



*Нам продкаў кемкасьць захавала*
*Шмат весьцяў дзіўных з быўшых год,*
*Хоць гэтых весьці ўжо нямала*
*Ў няпамяць кінуў сам народ.*

Я. КУПАЛА. Магіла льва

# МАГІЛЁЎ У ПАЎНОЧНУЮ ВАЙНУ

# ПАВОДЛЯ ЛЕТАПІСУ МАГІЛЁВА

Канец XVII — пачатак XVIII ст.ст.

На высокай крутой гары пры ўтоку р. Дубровенкі ў Дняпро стаяў замак, які ўпяршыню, згодна Баркулабаўскага летапісу, «зароблен.. лета 1526», калі пад ягоную будову было «принято много горы Могилы, на которой... замок Могилев стоить» Да замку прылягаў галоўны рынак із шматлікімі крамамі й складамі. Побач — ратуша. А вакол на скатах гары таго-ж правага берагу Дняпра й на поймах задняпроўя шырака раскінуліся пасады.

Як на тыя часы, Магілёў быў немалым местам, а ў Амсьціслаўскім ваяводстве, куды належыў — найбольшым. Ён меў болей за 10.000 жыхароў, каля 3.000[1] дамоў і іншых будынкаў. Яго ўпрыгожвалі 4 праваслаўныя й 2 каталіцкія манастыры, 13 цэркваў і 2 касьцёлы. Галоўная частка места была абнесеная абароннымі равамі й сьценамі, якія для ўезду сюды адчынялі 11 брамаў Брамы мелі прыгожы архітэктурны выгляд, звонку й знутры аздобленыя разьбой і малярствам. Найстарэйшая зь іх, Алейная, была блізка ратушы й зьвязвала рынак зь Мікольшчынай. Самая прыгожая, Каралеўская, стаяла каля Уваскрэсенскай царквы Усярэдзіне яна была абкладзеная чорным мармурам, а ўваход у яе ішоў праз пад'ёмны мост

Ад 1574 г. Магілёў самакіраваўся магдэбурскім правам.

З гледзішча эканамічнага ён быў адным із цэнтраў рамеснай вытворчасьці й гандлю ў Беларусі. Рамесьнікі ягоныя, паводля прафесіяў, гуртаваліся ў 21 цэх. Найбольш славіліся скуранымі й футравымі вырабамі й піваварствам. На магілёўскім рынку (дзе ўжо ў 1595 г было «крамовъ з великими скарбами 400»[2]) тавары скупалі купцы ўсіх найбольшых местаў Беларусі. Магілёўскія купцы мелі свае крамы ў Шклове, Бабры, Талачыне, Бабруйску, Крычаве, Гомелі й іншых месцах. Яны вялі гандаль з Украінай, Польшчай, Прусамі, Расеяй, Малдавіяй

## Пра Аўгена КАЛУБОВІЧА

**Ці ведаеце вы, што абрэвіятура БССР мае прынамсі яшчэ адну расшыфроўку — Будуйце Самі Сваё Рабства? Да гэткага яе прачытання прычынілася колькі беларускіх інтэлігентаў, што чакалі вырашэння свайго лёсу ў камеры турмы НКВД. Сярод іх быў і дваццацігадовы выпускнік педагагічнага тэхнікума Аўген Калубовіч.**

**У вольны ад допытаў час вязні працягвалі свае крамольныя практыкаванні, складаючы «канстытуцыю» рэспублікі. «Ганаровае права мець грамадзянства БССР належыць дзвюм катэгорыям ейных жыхароў: тым, хто ўжо арыштаваны, і тым, хто будзе арыштаваны. Дзяржава ўрачыста гарантуе: права на працу — у вынайдзеных Леніным і Сталіным для росквіту сацыялістычнага грамадства канцэнтрацыйных лагерах; права на адпачынак — у спецыяльна абсталяваных дамах адпачынку, якія капіталістычная прапаганда называе турмамі; права на смерць — ад кулі ў патыліцу...»**

**Ішоў не 1937–мы, а «ўсяго» 1930–ты. Таму Аўген атрымаў**

і Канстантынопалем; а праз балтыцкія парты — з краямі Заходняй Эўропы. У замежных местах мелі свае кватэры й фактуры, дома былі аб'яднаныя ў купецкі цэх — брацтва.

Магілёў быў адным із царкоўных цэнтраў і цэнтраў асьветы й мастацтва ў Беларусі.

Тут была сталіца Магілёўскай праваслаўнай эпархіі, у Пячэрскім манастыры за местам — япіскапская рэзыдэнцыя. У ім былі дзьве калегіі: пры манастыры Спаскай катэдры ад 1597 г.— праваслаўная, пры язуіцкім манастыры — язуіцкая. Пры Брацкім Багазьяўленскім манастыры ад 1616 г. працавала друкарня. Якраз у кан. XVII — пач. XVIII ст.ст., калі ёю кіраваў радца магістрацкі М. Вашчанка, друкарня была асабліва дзейнай. У 1697 г. яна выдала часаслоў, у наступным, 1698 г.— акафісты й «Діоптру», у 1699 — «Небо новое» І. Галятоўскага й «Перло многоценное» К. Стаўравецкага, у 1700 — Ірмалог, у 1701 — Часоўнік, у 1702 — вялікую ў 657 поўных аркушаў кнігу жыцьця сьвятых, у 1703 — Часаслоў і Псалтыр...

Тут былі свае пісьменікі й паэты. У сяр. XVII ст. у Магілёве жылі ведамы друкар і пісьменьнік — рэктар праваслаўнай калегіі Сьпірыдон Собаль, прафэсары калегіі — паэта Ігнат Іяўлевіч, паэта й філёзаф Ян Андрэй Белабоцкі. У кан. XVII ст. тут быў уложаны пабеларуску Пралог на ўсе 12 месяцаў, перакладзены ў беларускую мову Кіева-Пячэрскі Пацярык рэдакцыі былога Магілёўскага япіскапа й пісьменьніка Сыльвэстра (Косава). Тут вёўся летапіс Магілёва. Пачаў яго ад 1267 году на аснове дакумантаў, а пазьней і як сьведка-летапісец старшыня купецкага брацтва Трахім Сурта. Ад 1701 г. прадаўжаў яго рэгэнт магістрата Юры Трубніцкі.

Менавіта ў гэтым часе тут да пэўнага росквіту дайшлі архітэктура, малярства, графіка й іншыя віды мастацтва. Магілёўскія дойліды Ігнат, Хвеська, Недасек толькі што завяршылі пабудову новае ратушы із арыгінальнай шматяруснай вежай. На беразе Дняпра ў Мікольшчыне для Мікалеўскага манастыра ў стылі беларускага барока пабудаваная новая царква. Побач язуіцкага манастыра вырас новы корпус язуіцкай калегіі, а комплекс Брацкай царквы й манастыра ўзбагаціўся мастацкай званіцай із слынным гадзіньнікам, змайстраваным манахам Макарам. Як і ўва ўсёй Беларусі, тут квітнела праслаўленае далёка за межамі Беларусі разьбярства па дрэву — г. зв. «беларуская рэзь». Цудам гэтага віду мастацтва быў іканастас новай Мікалаеўскай царквы. Тады-ж перажывала росквіт і магілёўская малярская школа, галоўна — іканапіс, із стылізацыяй у ім беларускіх краявідаў і нацыянальнага арнамэнту на вопратцы сьвятых; у графіцы — мастацтва гравюраў на дрэве й медзі, у якім гравёры й друкары Максім Вашчанка, сын ягоны Васіль, Хведар Англейка й іншыя тварылі магілёўскую школу кніжных гравюраў, якімі аздаблялі выданьні магілёўскай і слуцкай друкарняў.

Вонкавы выгляд Магілёва, ягонае багацьце й узровень разьвіцьця мастацтваў адзначалі чужаземныя падарожнікі. Чэх Бэрнард Таньнер у 1678 г. заўважыў, што «Магілёў складаецца із дамоў, упрыгожаных чымсьці падобным на абразы, мастацкія й цудоўныя». В Чантурыя думае, што тут «мова пра ўпрыгожаньне фасадаў лепкай, а, мажліва, і малярствам»[3]. Расейскі стольнік П.Талстой у 1697 г у сваіх падарожных нататках пісаў: «...Горад Магілёў вялікі, і пасады каля яго вялікія. У пасадах мноства садоў. А ўвесь ён шмат большы за Сма-

---

**толькі тры гады сібірскага лагера, а вярнуўшыся ў Менск, паспеў скончыць педінстытут і нават папрацаваць у народным камісарыяце асветы.**

**Выглядае цалкам лагічна, што чалавек, які пачаў працоўную біяграфію ў ГУЛАГу, апынуўся паміж тых, хто ў гады нямецкай акупацыі спрабаваў выкарыстаць гістарычны шанец дзеля будучыні Беларусі. Калубовіч быў старшынёй Беларускага культурнага згуртавання, сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады.**

**Пасля другой сусветнай вайны ён выкладаў мову і літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, займаў пасаду прэм'ера ў эміграцыйным урадзе БНР. Больш за чвэрць стагоддзя жыў у ЗША, дзе і знайшоў свой апошні прыстанак, памёршы 25 траўня 1987 года грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Пяру Аўгена Калубовіча належаць сотні публікацый гістарычнай і культуралагічнай тэматыкі. Найбольш значнымі яго працамі з'яўляюцца кнігі «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» (1975 і 1978), «Айцы» БССР і іхны лёс» (1982), «На крыжовай дарозе» (1986).**

**У 1993 годзе ў Менску пабачыў свет зборнік твораў А.Калубовіча «Крокі гісторыі», а летась былі перавыдадзеныя ўспаміны «На крыжовай дарозе».**

**Уладзімір АРЛОЎ**





ленск... На пасадзе шмат багатых мяшчанскіх дамоў мураваных і шмат добрай будовы драўляных... Вуліцы брукаваныя дзікім каменем. Шмат гандлёвых радоў, а ў іх поўна ўсялякага тавару. Крамы ў радах мураваныя». 31-га сакавіка, у сераду на вялікім тыдні, ён быў у царкве Брацкага манастыра на сьвяточнай літургіі. Яго ўразіла краса царквы, дзе «ўсе сьцены расьпісаныя выдатным насьценным росьпісам. Іканастас — разьбяны, пазалочаны, вялікі, наштадзённай працы... Сьвятыя абразы пры слупох таксама прыгожага пісьма й аздобленыя ў багатыя аправы   На вялікім тыдні іканастас і ўсе абразы былі завешаныя вішнёвай крашанінай, а па ёй добрым пісьмом, жыва, намаляваныя пакуты Хрыста»[4].

...Ішлі гады за гадамі. Магілёў жыў сваім кіпучым жыцьцём. А летапісцы ягоныя ўсё найбольш адметнае ўпісвалі ў летапіс[5]. Так, відаць, было і ў той вечар, калі ўбелены гадамі пачціва купецкі старшыня Т.Сурта, вярнуўшыся дадому із ношаю яркіх уражаньняў дня, ясьней звычайнага запаліў сьвечкі, разгарнуў фаліянты летапісу й ужо дрыжачай рукой зрабіў у ім адзін із апошніх сваіх запісаў:

«1699 году, месяца сьнежаня. Перад самымі Калядамі ў Магілёў прыбыў правялебнейшы Серапіён (Пальхоўскі), япіскап Магілёўскі, Амсьціслаўскі й Аршанскі, архімандрыт Слуцкі, намесьнік мітраполіі Кіеўскай і экзарх сьвяцейшага Апостальскага пасаду Канстантынопальскага.

Пры ўезьдзе ў места яго правялебнасьць быў спатканы магілёўскім сьвятарствам у царкоўных рызах і з царкоўнымі харугвамі. А таксама магістрацкім урадам. Купецтвам — усім і меставым брацтвам купецкім із харугвамі ў авангардзе на верхавых конях колькі сот парадна апранутых. Зь вялікай асістэнцыяй цырыманіяльна ўсімі магілёўскімі цэхамі із цэхавымі харугвамі, стрэльбамі, гарматамі.

Грымела гарматная пальба. Ува ўсіх меставых прыхадзкіх і манастырскіх цэрквах білі ў званы»[6].

Але вось зусім нечакана ў 1700 г. пачалася новая — Паўночная вайна. Яе выклікала жаданьне Расеі захапіць Прыбалтыку, якая тады належыла Швэцыі; гаварылася, што яна ўзьняла свой меч, каб «прарубіць сабе вакно ў Эўропу».

Да восені 1704 г. вайна не зачапіла Беларусі, калі ня браць на ўвагу праходу часткі швэдзкага войску праз Горадню ў Польшчу й Саксонію.

У Вялікім княстве Літоўскім, незадаволеным фэдэрацыяй із Польшчаю, на чале з адным із найбольшых беларускіх магнатаў вялікім гэтманам кн. Казімерам Сапегаю паўстала група, якая ўплянавала пры дапамозе Швэцыі аддзяліцца ад Польшчы. У гэтым кірунку рабіліся дыпляматычныя й вайсковыя прыгатаваньні, зьбіраліся патрыятычныя сілы.

Блізка Магілёва (у Быхаве, Галаўчыне, Дуброўне) паплечнікі Сапегі — Юрэвіч, Хмара Більдзюкевіч — із сялянаў фармавалі асобныя казацкія аддзелы  У Магілёве на выпадак расейскай агрэсіі дадаткова ўзмацнялі абаронныя збудаваньні! Перад тым тут усё места паза Шклоўскім, Віленскім і Задубравенскім пасадамі (дугою ад Дняпра да Дняпра) і левабярэжныя пасады Лупалава й Траецкае былі абнесеныя землянымі валамі із вежамі на іх. Улетку 1704 г., на загад і кошты магістрату, пад кіраўніцтвам начальніка магілёўскага гарнізону палкоўніка Шаўні сьпешна рубілі драўляныя тыны, насыпалі новыя валы. Ад гары Гваздоўкі па берагу р.Дзебры, уздоўж Дзебранскага тыну, да самага Дняпра і ў Дняпро да сярэдзіны, а таксама і ў зарэччы ад Лупалава забівалі дубовыя пáлі. Такія-ж фартыфікацыі рабілі й на ніжнім цёку Дняпра, за Папенскім пасадам.

Працы гэтыя яшчэ ня былі закончаныя, як Расея, згаварыўшыся з групаю палякоў, прыхільнікаў скінутага караля Аўгуста II, уварвалася із сваім войскам у Беларусь. Сьпярша ў раён Полацка, а ў 1706 г. быў заняты й Магілёў. Войска сваё із занятых раёнаў Беларусі яна ня вывела й тады, калі Аўгуст II пад ціскам вайсковых удачаў швэдаў зрокся кароны на карысьць новага караля Станіслава Ляшчынскага й як курфюрст Саксоніі 24.IX.1706 г падпісаў мір із Швэцыяй.

На ўсход ад Менску толькі адзін Быхаў ня быў пад кантролем Расеі. Будучы добра ўмацаванай цытадэльлю, ён меў у колькі тысяч гарнізон пад камандаю гэнэрала Бонча-Сініцкага, найбліжэйшага паплечніка Сапегі. 31.III.1707 г. Пятро I загадаў свайму гэнэралу Р. Боуру, палкі якога былі разьмешчаныя ў раёне Магілёва, «иметь бодрое око» на Сініцкага. Адзінае, што мог зрабіць Боур — аблажыць Быхаў і паспрабаваць узяць яго штурмам.

Цэлы месяц ад канца чэрвеня штурмаваў ён Быхаў. Із падкопамі сьценаў, узрывамі й праломамі іх. Адважна бараніўся беларускі гарнізон. У канцы ліпеня Быхаў быў узяты й увесь спалены. Эпілёг гэтага гераічнага эпізоду вайны Ю. Трубніцкі падрабязна апісаў у летапісе:

«Калі Сініцкіх везьлі праз Магілёў, то сьпераду іх ішла пяхота із аголенымі мячамі вайсковым маршам, знарачыта цырыманіяльным, із гучнай музыкай і барабанным боем. За пяхотаю ехала гвардыя, колькі палкоў, таксама із аголенымі мячамі. Тады ехалі на верхавых конях 14 падпрапаршчыкаў, якія везьлі захопленыя штандары Сініцкага — 8 даўгіх і 6 каротkіх. За штандарамі, валочанымі па зямлі, былі везеныя на адным невялікім возе абодва Сініцкія, закутыя ў жалезныя ланцугі . За возам Сініцкіх, ззаду, із аголенымі мячамі цырыманіяльна ішла коньніца й пяхота.

Такая цырымонія была ўчынена для большае зьнявагі й пагарды

Перапраўвадзіўшы зь ёю Сініцкіх праз Магілёў і выйшаўшы праз Шклоўскую браму на прадмесьце, расейскае войска спынілася на адпачынак і абед. Тады старэйшы Сініцкі, заклікаўшы ксяндза, спавядаўся й прычашчаўся. Ён быў каталіком. А малодшы Сініцкі, падстолі, хоць і быў намаўляны ксяндзамі прыняць каталіцкую веру, не схацеў рэвакаваць. Ён быў кальвінам.

У часе абеду старэйшы Сініцкі прысылаў... у магістрат із просьбаю, каб магістрацкія ўрадоўцы купілі яму шапку для начнога спаньня. І магістрацкія ўрадоўцы купілі яму добрую шапку, уклалі ў яе грошы 200 залатовак... і адаслалі магістрацкім шафарам. А самі не адважыліся йсьці да Сініцкага, каб выказаць яму сваё ўганараваньне. Яны высьцерагаліся не наклікаць на сябе падазраньняў з боку расейскіх ваяначальнікаў.

...Праз колькі дзён пасьля таго расейскія жаўнеры гналі із Быхава праз Магілёў 350 палонных зь пяхоты Сініцкага. Палонныя былі пазбаўленыя сваіх вайсковых мундураў, апранутыя ў падраныя сялянскія сьвіткі й папарна павязаныя за рукі За кожнымі трыма парамі йшоў расейскі жаўнер із аголеным мячом.

І такім парадкам тыя воі Сініцкага гнаныя былі да Смаленскай мяжы.

Сініцкіх-жа. Із Смаленска адвезьлі ў Маскву.. Із Масквы саслалі ў Сібір, у ссылку, дзе яны доўгі час жылі ў вялікай беднасьці. І адзін із братоў у Сібіры памёр, другі, калі звар'яцеў, быў вернуты із Сібіры дадому»[7].

Вайна працягвалася.

На пачатку 1708 г. Кароль XII прывёў свае войска із Саксоніі на мяжу Беларусі, каб пачаць гэнэральны рух на ўсход. 28-га студзеня ён заняў Горадню, а адтуль праз Ліду й Гальшаны хуткім маршам ішоў далей. 8-га лютага войска ягонае ўжо мінула Смаргонь. Заняўшы лінію Даўгінава—Барысаў, яно пасьля доўгага пераходу спынілася на адпачынак.

Расейскае войска, адступаючы перад швэдамі, каціласа на ўсход. Сярод яго была й кавалерыя гэнэрал-паручыка А.Меншыкава.

«Сакавіка, 14 дня. Расейскі князь Аляксандар Меншыкаў зь вялікай помпай уехаў у Магілёў і ў замак Магілёўскі з мноствам караванаў на вярблюдах і мулах, у васысьце драбантаў. Сам ён затрымаўся ў замку, а афіцэры ягоныя — у дамах пачэсьнейшых магілёўскіх купцоў і мяшчанаў

Магілёўскія магістрацкія сябры, ведаючы, што Меншыкаў — чалавек люты й на Магілёў налітасьцівы, у намеры схіліць яго на міласьць, хадзілі да яго із хлебам-сольлю, дарагімі прысмакамі, віном і цукрам; завезьлі яму бочку вугорскага віна, падаравалі вялікую пасудзіну з крышталю, апраўленага ў серабро, гданскае працы вартасьцю ў 1.000 залатовак.

Назаўтра зрана Меншыкаў прыслаў на ратушу свайго сакратара із загадам, каб магістрат «от мала до велика» жыхара места штодня дастарчаў князю рознае пітво й харчовыя прадукты. Хоць Магілёў ад войскаў і ваяначальнікаў ужо быў даведзены да скрайняй беднасьці, аднак вымаганыя Меншыкавым фуражы й прадукты змушаны быў зьбіраць; як на ўтрыманьне самой асобы князя, гэтак і ягонай службы, на ягоныя балі й банкеты

На загад Меншыкава, яму дастарчалі: вугорскае й францускае віно — бочкамі; мёд і піва — глякамі; буракі, капусту й соль — бочкамі; штодня аднаго вала — жывога, бараноў — колькі дзясяткаў; гусей і курэй — статкамі, хлеб сітны й жытны — штодня па 100 боханаў; гарэлку звычайную й наліўку моцную — мернікамі; мыла для мыцьця бялізны — па колькі фунтаў на тыдзень; рыбу салёную — вазамі, а жывую — колькі было мажліва; рыбу вэнджаную — пудамі; масла — фаскамі; грыбы баравікі — тысячамі; дарагія прысмакі (разынкі, вінныя ягады, мігдал) — па колькі дзясяткаў фунтаў; шафран, мускатавыя галкі — лотамі; жалеза на акоў коней і караванаў — пудамі; цыбулю, пятрушку й іншую гародніну — кашамі; перац, імбір і іншыя прысмакі — фунтамі; цытроны й алівы — ахтлінгамі; муку пшанічную самую лепшую — меркамі, драўляны алей — ахтлінгамі, цукар штодня — галовамі; рыбу асятрыну — цэлымі асетрамі й парубленымі; рыбу саміну — па колькі дзясяткаў фунтаў; булкі печаныя, на рынку прадаваныя — штодня, за выключэньнем сьвятаў; таксама штодзень бліны печаныя грэцкія, на рынку прадаваныя — па колькі дзясяткаў і масла да іх.





А калі здаралася, што чагось із гэтага не ставала, то магістрацкія ўрадоўцы зараз-жа былі браныя пад варту, экзэкутаваныя й штрафаваныя.

Таксама княскія краўцы й рымары ўтрымліваліся меставым коштам, і за шыцьцё вопраткі, за рымарную й кожную іншую працу плаціла места, а таксама й скуры для абіўкі караванаў і для рымарных вырабаў былі купляныя за грошы места.

Усяго дастарчанага Магілёвам на патрабаваньні Меншыкава немажліва ні апісаць, ні злічыць. Проста дзіва, як Магілёў мог вытрымаць такія абцяжаньні. Гэты праклятых чарвяк із сваёю службаю, седзячы ў замку ад 14 сакавіка да 19 мая 1708 году, тачыў і аб'ядаў места...

І гэты князь Меншыкаў, жывучы ў Магілёве на такім поўным і раскошным меставым утрыманьні, заміж удзячнасьці, хацеў адпомсьціць Магілёву за зьбіцьцё магілёўскімі мяшчанамі ў 1661 годзе расейскага гарнізону, шукаў спосабаў як-бы схіліць на гэта цара Пятра Аляксеявіча, каб Магілёў вырубіць»[8].

18-га сакавіка швэдскі кароль перанёс сваю кватэру із Смаргоняў у Радашковічы. Разам зь ім тут былі кароль Станіслаў Ляшчынскі із замежнымі пасламі й гэтман кн. К. Сапега із сваім штабам. 11 тыдняў у Радашковічах была часовая сталіца Швэцыі, Польшчы й Вялікага княства Літоўскага. Тут было вырашана йсьці на Маскву Сюды прыяжджалі тайныя паслы гэтмана левабярэжнай Украіны Івана Мазэпы, які згадзіўся далучыць сваіх 40.000 казакаў да супольнага паходу за згоду Караля XII на незалежнасьць Украіны па вызваленьні яе з-пад Расеі

7-га чэрвеня швэды сьцягнулі свае сілы пад Менск і адсюль пачалі наступ. 3-га ліпеня ў баі пад Галаўчыном яны разьбілі расейскае войска, а 7-га ўвайшлі ў Магілёў.

«Калі швэды раскінуліся сваім лягерам на высокім беразе Дняпра ад Магілёва да мястэчка Буйнічы, то тады й былы ў тым часе Буйніцкі манастыр занялі сваім лягерам, разагнаўшы манахаў і ўсіх манастырскіх служыцеляў Манастыр Буйніцкі яны разрабавалі й, разабраўшы ўсе манастырскія будынкі й царкву драўляную Усьпеньня Прасьвятой Багародзіцы, дрэвам тым па балотах і дрыгвяністых месцах парабілі масты.

Усё гэта было зроблена без каралеўскага ведама й загаду

Аднойчы кароль аб'яжджаў войска й фарпосты. І калі пад'ехаў да аднаго маста, па яму афіцэры, ехаўшыя наперадзе, пераехалі, а каралеўскі конь, хоць і быў змушаны йсьці на мост, не пайшоў. Кароль, зьдзівіўшыся, прыглядаўся да таго маста й, убачыўшы дзьве дошкі, ляжаўшыя на ім, загадаў перавярнуць іх. І калі дошкі тыя былі перавернутыя на другі бок, то на аднэй із іх быў напісаны абраз Спаса, а на другой — Багародзіца. Абодва абразы былі із царквы разабранага Буйніцкага манастыра.

Кароль загадаў абразы адлажыць на бок, а на іхнае месца на масту пакласьці іншыя дошкі Калі іншыя дошкі былі пакладзеныя, каралеўскі конь пайшоў праз мост.

Пасьля таго кароль, дасьледаваўшы, якой часьці гэта раён, вінаватых зруйнаваньня Буйніцкага манастыра й зьняважаньня сьвятых абразоў двох урадоўцаў сваіх загадаў павесіць, а абразы Спаса й Багародзіцы занесьці на тое месца, дзе быў манастыр»[9]

4 — 6 жніўеня ён перапраўіў свае войска на левы бераг Дняпра й узяў кірунак на Амсьціслаў Пятро І адыходзіў далей на ўсход і ў імя эгаістычных інтарэсаў Расеі ўсё за сабою пачаў паліць. «Непріятель за нами следоваль, предь которымь наша кавалерія по деревнямь провіянть и на поляхь стоячій хлебь жгли для оголоженія неприятеля и чтобь не было оному пристанища»[10], пісаў ён у сваім дзёньніку Пра тое-ж паведамляў свайму ўраду францускі пасол дэ Бэзанвальд пры каролю Станіславу Ляшчынскім: «Цар загадаў, каб пры нашым набліжэньні была спаленая ўся мясцовасьць ад мяжы да месцаў у двух мілях ад Смаленска... Як мы будзем жыць у гэтай жахлівай пустэльні?»[11]

Швэдскі манарх яшчэ ня рушыў з-пад Амсьціслава на Старадуб і Палтаву, як царскія пажараносцы з боку Горак падкрадаліся пад Магілёў

«Таго-ж году, верасьня, 2 дня Зрана, на ўзыходзе сонца, у самае места ўбег мядзьведзь — дзікі, лясны, вялікі, чорны. Ускочыўшы ў вадзін сад, хлопчыка забіў, жанчыну параніў І калі ў другім садзе лёг, мяшчане із мушкетамі абступілі яго й забілі. Усклаўшы на воз, прывезьлі да ратушы

Такую нязвычайную прыгоду найстарэйшыя магілёўчане палічылі за благое прадвесьце.

Хоць швэдскай арміяй Магілёў і быў абабраны, але дамы, крамы, сьвяцілішчы Божыя — цэрквы й іншыя будовы засталіся цэлымі й непашкоджанымі. Па выхадзе-ж швэдаў расейскі

цар Пятро Аляксевіч, будучы незадаволеным магілёўскімі жыхарамі за тое, што яны швэдзкай арміі давалі правіянт і грашовыя кантрыбуцыі, прадпісаў указам татарскаму й калмыцкаму палкам «выжечь городъ Могилевъ».

Атрымаўшы такі ўказ, татарскі і калмыцкі палкі і расейскія жаўнеры 1708 году, верасьня, 8 дня, зрана, на ўзыходзе сонца, падышлі пад места. Абступіўшы яго, яны пазапіралі брамы й ударылі ў барабаны.

Узрушаныя такой неспадзеўкаю, жыхары зьбегліся на трывогу й пачалі прасіць літасьці. Але не маглі ўпрасіць. Тады прасілі адтэрміноўкі хаця-б на адну гадзіну, каб магчы вынесьці хоць што-колечы із сваіх дамоў перад тым, як дамы будуць падпаленыя. На гэта татары й калмыкі згадзіліся, аднак толькі на адну гадзіну.

Каля ратушы яны паставілі сваю варту . А ўсе іншыя перад тым, як падпаліць места, адбівалі й рабавалі купецкія крамы, на вуліцах зь мяшчанаў зьдзіралі вопратку, па дамох шукалі грошы, займалі цэрквы й рабавалі іх.

Пасьля таго падпалілі места.

І калі загарэўся замак, ратуша, крамы, катэдральная Спаская, Брацкая, Уваскрэсенская цэрквы, званіцы, касьцёлы — язуіцкі, фарны — і іншыя будынкі места,— тады татары й калмыкі кінуліся на прадмесьце, дзе наўперад разрабавалі багацейшыя дамы, а потым падпалілі іх. Таксама й Мікалаеўскую царкву захапілі, куфры мяшчанаў у ёй стаяўшыя паадбіралі, разрабавалі, а царкву падпалілі.

У часе пажару некаторыя мяшчане ад страху крычалі:

—Масква места вырэзвае!..

А іншыя, пачуўшы такі крык, думалі, што й узапраўды на загад расейскага цара татары й жаўнеры пачалі секчы ўсіх жыхароў Магілёва Таму, пакінуўшы ў полымі свае дамы і схапіўшы малыя дзеці, рынуліся наўцёкі із места, адны — у лясы, другія — у пазаместавыя равы, трэція — Холм, іншыя — у Буйнічы й сяло Котуш. У тым часе муж нічога ня ведаў пра сваю жонку, а жонка — пра мужа. Усе ўцякалі, куды хто мог.

Тады ў Брацкай царкве абгарэлі пазалочаныя галовы, пагарэлі калодкі пры званох, але самыя званы й іканастас засталіся непашкоджанымі. Гадзіньнік, што стаяў на Брацкай званіцы, згарэў. Таксама згарэў вялікі абраз Багародзіцы, які ад даўных часоў быў на Алейнай браме. Званы катэдральнай Спаскай царквы — вялікія, мэлядычныя — растапіліся. Уваскрэсенская царква згарэла дарэшты, а звон растапіўся. На Мікалаеўскай царкве былі прыгожыя галовы, а ў сярэдзіне — хоры й дзьверы; усё пагарэла... Калодкі пры Мікалаеўскіх званох пагарэлі, а вялікі звон упаў на вакно, стукнуўся аб біла й раскалоўся...»

Ад мора агню, бушаваўшага каля Спаскай царквы, загарэлася «Прэабражэнская царква, і ў ёй ляжаўшае ў склепе цела (памерлага перад тым — *А.К.*) япіскапа Серапіёна згарэла без належнага над ім пахавальнага абраду»[12].

«...Пазьней стала ведама, што, калі-б магілёўскія мяшчане прысланым расейскім царом для спаленьня Магілёва татарскаму й калмыцкаму палкам паспрабавалі хаця-б трохі супрацівіцца ці адважыліся-б із зброяй у руках бараніцца,— то ня толькі агнём, але й мячом места было-б зьнішчанае. Дзеля гэтага ў дзесяці вярстах ад Магілёва на пагатове стаяла колькі палкоў. Але, як магілёўскія мяшчане ня ўчынілі ніякага супраціву, Бог захаваў іх ад мяча»[13].

Гадзіньнік гісторыі адбіў 265 год ад дня таго жудаснага пажару. Вятры часу разьвеялі попел. Але ў скарбах народнай памяці для роздуму нашчадкаў засталася прыказка:

Стуль маскалі, а стуль швяды; дзе падзецца ад такой бяды.

---

[1] Ведама, што ў 1604 г. ужо меў 2.121 дом.
[2] Баркулабаўскі летапіс, пад 1595 г.
[3] В.А. Чантурия. История архитектуры Белоруссии, Минск, 1969, б.85.
[4] Белоруссия в эпоху феодализма, АН БССР, т.2, Минск, 1960, бб. 461–462.
[5] Мы будзем цытаваць яго паводля выпісак ігум. Арэста. Пераклад у сучасную беларускую мову — наш.
[6] Археографическій сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Северозападной Руси, издаваемый при Управленіи Виленскаго учебнаго округа, т.2, Вильна, 1867 г., Приложеніе: Записки игумена Ореста, б. XXXIII.
[7] Там-жа, бб. XLVI–XLVIII.
[8] Там-жа, бб. LII–LIV.
[9] Там-жа, бб. LVII–LVIII.
[10] Журналъ... Петра Великаго, ч.1, СПБ, 1770 г., б.179.
[11] Труды Русскаго военно-историческаго общества, т.1, СПБ, 1909 г., N 201, бб. 226–228.
[12] Гэта ўстаўка з б. XXXVII.
[13] Там-жа, бб. LXI–LXII.



# Патрык ЗЮСКІНД | ЯНЫ

# ПАРФУМА
## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗАБОЙЦЫ

*Раман*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

У васемнаццатым стагоддзі ў Францыі жыў адзін чалавек, бадай, ці не адзін з самых геніяльных мярзотнікаў той эпохі, такой багатай на геніяў і мярзотнікаў. Пра яго і будзе наша гаворка. Звалі яго Жан-Баціст Грануй, і калі імя ягонае, не раўнуючы з імёнамі іншых геніяльных пачварын, як дэ Сад, Сэн-Жуст, Фушэ, Банапарт ды інш., сёння цалкам забылася, дык зусім не таму, што Грануй нечым не дабраў да славутых пацяробкаў цемры ў фанабэры, пагардзе да людзей, амаральнасці, ці, каб карацей, у бязбожнасці, а таму, што ягоная геніяльнасць і фенаменальная цяга да славы абмежаваліся тою сфераю, якая звычайна не пакідае следу ў гісторыі, — эфірнай сфераю пахаў.

Гарады таго часу патыхалі смуродам, такім смуродам, які сабе і ўявіць не можа чалавек нашых дзён. Вуліцы смярдзелі гноем, двары смярдзелі мачою, лесвіцы смярдзелі драўнінай і пацучынымі бобахамі, кухні смярдзелі дрэнным вугалем і авечым лоем, неправетраныя гасцёўні смярдзелі ўедзеным ва ўсе шчыліны пылам, спальні — бруднай бялізнай, вільготнымі пухавікамі і едка-саладжавымі выпарынамі ноцнікаў. З камінаў патыхала серкай, з дубільняў — шчолакам, з бойняў — крывёю. Людзі смярдзелі потам і нямытай бялізнай; з рота ў іх смярдзела гнілымі зубамі, з жыватоў — цыбуляй, а іхнія целы, калі людзі старэлі, пачыналі тхнуць прагорклым сырам, кіслым малаком, гнойнымі пухлінамі і пухірамі. Смярдзелі рэкі, смярдзелі плошчы, смярдзелі цэрквы, смярдзела пад мастамі і ў палацах. Смярдзелі сяляне і святары, чаляднікі і бабы майстроў, смярдзела ўсё дваранскае саслоўе, смярдзеў нават сам кароль — ён смярдзеў, як драпежны звер, а каралева — як старая казліха, узіму і летам. Бо ў васемнаццатым стагоддзі яшчэ не было заслоны раз'едлівай актыўнасці бактэрый, а таму любая чалавечая дзейнасць, хай стваральная, хай разбуральная, усякая праява жыцця, хай калі яно нараджалася, хай калі гінула, уключала ў сябе смурод.

І мовы няма,— у Парыжы смурод стаяў найбольшы, бо Парыж быў найбольшы горад у Францыі. А ў самым Парыжы было месца паміж вуліцамі О'Фэр і Фэранры — Могільнік нявінных, дзе ўсё прасмердла, як у пекле. Васемсот гадоў запар сюды звозілі і зносілі нябожчыкаў з Гатэль-Д'ё і бліжэйшых парафій, васемсот гадоў запар сюды на тачках звозілі трупы і вывальвалі іх у даўжэзныя ямы, васемсот гадоў іх складвалі пластамі, шкілет да шкілета, у сямейныя склепы і агульныя магілы. І толькі пазней, напярэдадні Французскай рэвалюцыі, калі ўжо многія магілы абваліліся і смурод перапоўненых могілак прымусіў жыхароў прадмесця не толькі запратэставаць, але і наважыцца на бунты, трупніцу нарэшце зачынілі і сплюндрылі, мільёны касцей і чарапоў ссыпалі ў катакомбы Манмартра, а на гэтым месцы адчынілі рынак. І вось якраз тут, у самым смярдзючым месцы каралеўства, 17 ліпеня 1738 года прыйшоў на свет Жан-Баціст Грануй. Гэта было ў адзін з самых спякотлівых дзён года Сквар волавам навісаў над могілкамі, выціскаў у суседнія завулкі чад гнілі і распаду, сумесь цвілых кавуноў і паленага рога. Маці Грануя, калі ўсё пачалося, якраз стаяла каля рыбнага стала на вуліцы О'Фэр і патрашыла беларыбіц, вымаючы іх з вядра. Рыба, якую нібыта толькі раніцай вылавілі з Сены, тхнула так крута, што перабівала трупны смурод. Але Гранувева маці не разбірала, дзе што рыбінае, а дзе трупнае, бо яе нос даўно ўжо не адчуваў пахаў, апрача таго, ў яе балела сярэдзіна, і боль глушыў усякую адчувальнасць да любых пахавых казытак. Яна хацела аднаго — каб той боль перастаў, суняўся, каб мярзотныя роды як мага хутчэй скончыліся Нараджала яна ўжо пяты раз. Усе тыя разы яна ўправілася тут, каля рыбнага стала, усе дзеці нарадзіліся нежывыя ці паўжывыя, бо ж тое крывавае месіва, якое выціскалася тады з яе, мала чым адрознівалася ад рыбных тэльбухаў, што ляжалі перад ёю, дый жыло яно не даўжэй, і ўвечары ўсё разам зграбалі рыдлёўкай і вывозілі тачкаю на могілкі альбо ўніз да ракі. Так яно мелася быць і гэтым разам, і Гранувева маці , яшчэ даволі маладая кабеціна (ёй якраз споўнілася дваццаць пяць), і яшчэ мілавідая з твару, і яшчэ амаль з усімі зубамі ў роце, і яшчэ з калівам валасоў на галаве, і апрача падагры, сіфілісу і лёгкіх зацемкаў у галаве ні на што сур'ёзнае не хварэла, і яшчэ спадзявалася зажыцца Бог ведае як доўга, можа, нават гадоў пяць-дзесяць, і, можа, яшчэ калі-небудзь схадзіць замуж і нарадзіць што-небудзь людскае з дзяцей, ужо ў статусе спаважнай жонкі аўдавелага рамесніка.. дык вось Гранувева маці шчыра прагнула, каб усё хутчэй скончылася І калі схваткі памацнелі, яна залезла пад стол, на якім разбірала рыбу, і раскалолася там, дзе прасталася ўжо чатыры разы, і сама адрэзала народжанае стварэнне ад пупавіны рыбным нажом. Але потым ад гарачыні і смуроду (што яна прымала не за тое, чым яно ўсё было, а толькі за нешта нясцерпнае, аглушальнае, забойчае — як палетак з лілеямі ці як цесны пакой, у якім стаіць занадта шмат нарцысаў) яна самлела, адкінулася без памяці на бок, вывалілася з-пад стала на сярэдзіну вуліцы ды так і засталася ляжаць з нажом у руцэ.

Крык, вэрхал, натоўп разяваў абступае цела, клічуць паліцыю. Жанчына з нажом у руцэ ўсё яшчэ ляжыць на вуліцы, спакваля прыходзячы да жывое памяці.

Пытаюцца, што там у яе?

«Нічога»

Што яна робіць з нажом?

«Нічога»

Адкуль кроў на спадніцы?

«Ад рыбы».

Яна ўстае, шпурляе ўбок нож і ідзе ўмыцца

І тут, чаго ўжо ніхто не чакаў, пад сталом закрычала дзіця. Людзі акідаюцца на крык, знаходзяць у роішчы мух сярод трыбухі і адцятых рыбіных галоў дзіця і выграбаюць яго на божы свет. Паліцыя аддае дзіця нейкай жанчыне з малаком, а маці — пад варту. І як што яна не адпіраецца і прызнае без лішніяга, што збіралася кінуць вылюдка здыхаць з голаду, што, дарэчы, рабіла ўжо чатыры разы, яе валакуць у суд, прызнаюць-такі вінаватай за шматразовае дзетазабойства і праз некалькі тыдняў на Грэўскім пляцы ёй адцінаюць галаву.

А дзіця да таго часу ўжо тры разы памяняла мамку. Аніводная не згаджалася даваць яму цыцкі больш як некалькі дзён Казалі, што дзіця надта прагавітае, смокча за двое, а значыцца, забірае малако ў другіх немаўлят, а ў іх, мамак-карміцелек, — сродкі да існавання. бо карміць адно толькі малое — ніякае выгоды. Афіцэр паліцыі, чыім абавязкам было прыстройваць падкідняў і сірот, нехта якісь-такісь Ляфос, неўзабаве даўся ў нясцерп і ўжо быў пастанавіў занесці малое ў прыют на вуліцы Сэнт-Антуан, адкуль штодня дзяцей адпраўлялі ў Руан, у дзяржаўную кашару для падкідняў Але як што транспарціроўка вялася пешымі насільшчыкамі і дзяцей пераносілі ў лыкавых кашах, у якія дзеля эканоміі ўціскалі адразу па чацвёра-пяцёра, і як што праз гэта неверагодна падскокваў працэнт смяротнасці; і як што насільшчыкі з гэтай прычыны згаджаліся браць толькі хрышчоных і толькі з выпісаным паводле ўсіх формаў накладным лістом, на якім у Руане ім ставілі пячатку; і як што малы Грануй не дастаў ні хросту, ні імя, якое можна было б па ўсёй форме ўпісаць у ліст; і як што, далей, з боку паліцыі было б непрыстойна высадзіць безымяннае немаўля пад дзвярыма зборнага пункта, што было б найлепшым спосабам пазбыцца лішніх фармальнасцяў. як што, выходзіць, паўсталі складанасці бюракратычнага характару, звязаныя з эвакуацыяй немаўляці, і як што, апроч усяго, падціскаў час, паліцэйскі афіцэр Ляфос адмовіўся ад ранейшага плану і ўказаў здаць дзіця пад распіску ў якую-небудзь духоўную ўстанову, хай ужо там яго і ахрысцяць і накануюць яму далейшы лёс. Яго здалі ў кляштар Сэн-Мэры, што на вуліцы Сэн-Мартэн.

На хросце яму далі імя Жан-Баціст І як што прыёр таго дня быў у добрай лагодзе і яго дабрачынныя фундушы яшчэ не былі выскрабтаны да дна, дзіця не адправілі ў Руан, а пастанавілі падгадаваць за кошты кляштара. Дзеля гэтага яго перадалі мамцы Жане Бюсі з вуліцы Сэн-Дэні, якой на разгон платы спачатку прапанавалі тры франкі ў тыдзень.

## 2

Праз некалькі тыдняў памянёная мамка Жана Бюсі з плеценым кашом у руках была зноў каля брамы кляштара і, калі айцец Тэр'е — лысы, крыху падпахлы воцатам манах гадоў пяцідзесяці, — адчыніў дзверы, заявіла яму· «Вось!» і паставіла кош на парог.

—Што «вось»? — сказаў Тэр'е, нахіліўся над кашом і шмурыгнуў носам, спадзеючыся ўнюхаць там нешта смачнае.

—Выблядак дзетазабойцы з вуліцы О'Фэр!

Патэр памацаў у кашы, адсланіў тварык заснулага дзіцяці

—Добра глядзіцца Ружовы, укормлены...

—Дзіва што. Ён выссаў мяне ўсю дарэшты Але цяпер годзе. Зараз карміце яго самыя вашым казліным малаком, кашай, рэпавым сокам. Яно жарэ ўсё, гэты высмердак.

Патэр Тэр'е быў чалавек памяркоўны Як таго служба вымагала, ён апекаваўся кляштарным дабрачынным фондам, раздаваў грошы бедным і ўбогенькім. І ён чакаў, што за гэта яму ўзычыцца і не абкладуць іншымі клопатамі. Тэхнічныя дэталі яму былі не даспадобы, бо яны заўсёды азначалі цяжкасці, а цяжкасці парушалі яго душэўную злагаду, а гэтага ён трываць не мог. Ён ужо злаваўся на сябе, што адчыніў браму Ён хацеў, каб гэтая асоба забрала свой кош і выбралася к чортавай матары і дала яму святога спакою са сваімі немаўлятамі і праблемамі Ён памалу выпрастаўся і ўцягнуў у сябе моцны пах малака і злямцаванай воўны, што ішоў ад мамкі Пах быў сытны

—Не ўцямлю, чаго ж ты хочаш Якое халеры ты дамагаешся. Я толькі магу ўявіць сабе, што дзіцяці гэтаму зусім не зашкодзіць, калі ты пакорміш яго з цыцкі яшчэ колькі там часу.

—Яму не, не зашкодзіць,— адцяла Жана,— а мне дык чыстая шкода. Я ўжо скінула дзесяць фунтаў, хоць і ела за трое. А дзеля чаго, каб у вас папытацца? За тры франкі ў тыдзень!

—А-а, разумею,— сказаў Тэр'е ледзь не з палёгкай,— дайшло: значыцца, гаворка пра грошы.

—Не!— сказала мамка.

—І не адпірайся! Гаворка заўсёды пра грошы Калі стукаюцца ў гэтую браму, наўме толькі грошы. Часам я мару, каб за брамай быў чалавек, якому руліць нешта іншае. Каб, скажам, каторы, ідучы міма, падбаў пакінуць тут хоць малюсенькі знак увагі Напрыклад, крыху садавіны ці колькі там арэхаў. Ці мала чаго можна падкінуць увосені, ідучы міма. Хай нават кветкі. Заглянуў бы хто-каторы ды сказаў па-людску: «Памагай Бог, айцец Тэр'е, добрага вам здароўечка!» Але, пэўна, да гэтага мне не дажыцца. Калі стукаюць, так і ведай — жабрак, а не жабрак, дык гандляр ці рамеснік, і калі не папросіць міласціны, дык выставіць рахунак. Хоць ты на вуліцы не аказвайся. Трох крокаў не ступіш, як да цябе прычэпіцца які-небудзь суб'ект — дастань ды пакладзі яму грошы гатоўкаю.

—Я не пра тое,— сказала мамка.

—Вось што я табе накажу, кабетка: не адна ты такая ў парафіі корміш. Ёсць сотні цудоўных прыёмных мацярок, якія тым толькі і трызняць, каб за тры франкі ў месяц даваць цыцкі гэтаму чароўнаму немаўлятку, або кашы, або соку, або чаго яшчэ...

—Ну вось і аддайце такой цудоўнай!

— А, з другога боку, брыдка так раскідацца дзіцем. Хто ведае, ці заўжывецца яму іншае малако, ці пойдзе? Дзіця, каб ты ведала, прывыкла да паху тваіх грудзей, ведае, як б'ецца тваё сэрца.

І ён зноў уцягнуў у сябе водар цёплага сырадою ад мамкі, але, убачыўшы, што словы яго пайшлі напуста, дадаў:

—А зараз бяры малое і йдзі дахаты Я абгавару гэта ўсё з прыёрам. Я накажу яму, каб далей плацілі табе чатыры франкі за тыдзень.

—Не,— сказала жанчына

—Ну, хай тады ўжо — пяць!

—Не!

—Дык жа колькі табе трэба? — аж крыкнуў Тэр'е.— Пяць франкаў — гэта, мілая, грашыскі за такую дробязь, як цыцка дзіцяці!

—Я зусім не прашу ніякіх грошай,— сказала мамка.— Я не хачу трымаць вылюдка ў сваёй хаце.

—Але чаму, мая мілая? — спытаўся Тэр'е і зноў пакалупаў пальцам у кашы.— Дзіця чысты цуд. Такое ружовенькае, не плача, спіць спакойна, і яно ахрышчана.

—У ім сядзіць чорт!

Тэр'е вышмаргнуў палец з каша.

—Не можа быць. Ані немагчыма, каб у грудным дзіцяці засеў д'ябал. Дзіця не чалавек, а перадчалавек і яшчэ не мае цалкам сфармаванай душы. Значыцца, д'яблу ніякага інтэрасу. Можа, перастаўляе рэчы ў пакоі? Можа, у яго непрыемны пах?

—Яно ўвогуле нічым не пахне.

—Ну вось, сама бачыш! Вось яна, азнака нябесная. Калі б яно было апантанае д'яблам, дык смярдзела б.

І, каб супакоіць мамку і паказаць сваю павагу, Тэр'е падняў кош і прынюхаўся.

—Нічога такога,— сказаў ён, некалькі разоў уцягнуўшы носам паветра,— сапраўды нічога ніякага. Праўда, мне здаецца, што з пялёнак нечым папахвае,— і ён працягнуў ёй кош, каб яна пацвердзіла ягонае ўражанне.

—Я не пра тое,— панура запярэчыла мамка і адсунула кош.— Я не пра тое, што ў пялёнках. Яго брудныя пялёнкі пахнуць, як след. Але сам ён, сам вылюдак, не пахне.

—Бо здаровы,— усклікнуў Тэр'е,— ён здаровы, вось і не пахне! Пахнуць толькі хворыя дзеці, гэта кожны ведае. Напрыклад, калі ў дзіцяці воспа, яно пахне конскім гноем, а калі шкарлятына, дык пераляжалымі яблыкамі, а сухотнае дзіця пахне цыбуляй. Гэты здаровы, вось і ўся яго хвароба. Дык чаго ж яму смярдзець? Хіба твае свае дзеці смярдзяць?

—Не, — сказала карміцелька.— Мае дзеці пахнуць так, як яно і след людскім дзецям.

Тэр'е асцярожна паставіў кош назад на зямлю, бо адчуў, як у ім накіпае першая хваля шалу ад зацятасці гэтай упартай бабы. Нельга было выключаць і той верагоднасці, што ў далейшай дыскусіі яму спатрэбяцца абедзве рукі на больш вольную жэстыкуляцыю, і ён не схацеў гэтым спрычыніцца да шкоды дзіцяці. Зрэшты, дзеля бадзёру ён моцна счапіў рукі за спінай, выставіў востры жывот да мамкі і строга спытаў:

—Дык значыцца, ты заяўляеш, што добра ведаеш, як павінна пахнуць дзіця чалавечае, якое адначасова — дазволь табе нагадаць, тым болей, што яно хрышчонае,— ёсць дзіця Божае?

—Ведаю,— сказала мамка.

—І будзеш мне тут казаць, што калі яно не пахне так, як павінна пахнуць паводле твайго разумення — як гэта разумее мамка Жана Бюсі з вуліцы Сэн-Дэні,— дык гэта дзіця д'ябла?

Ён дастаў з-за спіны левую руку і пагрозліва тыцнуў ёй пад нос указальным пальцам, сагнутым, як пытальнік. Мамка сумелася. Ёй не падабалася, што гаворка раптам перайшла ў тэалагічны дыспут, дзе яна была асуджана на разгром.

—Я такога не казала,— адказала яна ўхілiста.— Пры чым тут д'ябал ці ні пры чым, рашаць вам, войча Тэр'е, гэта не на мой глузд. Я ведаю, што ведаю: на мяне гэтае дзіця наводзіць немарасць, бо яно не пахне, як трэба пахнуць дзецям.





—Ага,— задаволена сказаў Тэр'е і зноў прыняў рукі за спіну — Значыцца, словы свае наконт д'ябла мы забіраем назад. Добра. А цяпер зробім ласку і расталкуем мне: як пахнуць грудныя дзеці, калі яны пахнуць так, як, на тваю думку, ім трэба пахнуць? Ну-у?

—Яны добра пахнуць,— сказала мамка.

—Што значыць «добра»? — рыкнуў на яе Тэр'е.— Ды ці мала што пахне добра. Пучок лаванды вунь як добра пахне. Мяса ў супе добра пахне. Аравійскія сады пахнуць добра. Я хачу ведаць, чым пахнуць дзеці?

Мамка вагалася Яна ведала, як пахнуць грудныя дзеці, яна ведала гэта дакладна і выдатна, праз яе рукі прайшла процьма малечы, яна іх карміла, выходжвала, калыхала, цалавала... яна магла ўчуць іх уначы, нават цяпер яна носам памятала гэты немаўлячы пах. Але яна яшчэ ніколі не вызначала гэтага словамі.

—Ну? — натапырыўся Тэр'е і нецярпліва пстрыкнуў пальцамі.

—Ну, ведаеце,— пачала мамка,— так вось згопалу неяк і не патрапіш сказаць, бо... бо яны не ўсюды пахнуць аднолькава, хоць усюды пахнуць хораша, разумееце, святы войча, ножкі ў іх, напрыклад, пахнуць, як гладкія цёплыя каменьчыкі. не, бадай, як горшчыкі... ці! як масла, свежае масла, ага ж бо: як усё адно што свежае масла. А цельца ў іх пахне... ну, як печыва, размочанае ў малацэ. А галоўка, там, зверху, з патылачкі, дзе закручваюцца валосікі, ну вось тут, святы войча, дзе ў вас ужо нічога не засталося,— і яна пастукала Тэр'е, які аслупянеў ад процьмы гэтых дурных падрабязнасцяў і пакорліва схіліў галаву, па лысіне,— вось тут, далібог, яны пахнуць найлепш. Яны пахнуць карамелем, гэта такі дзівосны, такі салодкі пах, вы не ўяўляеце, святы войча! Як тут іх панюхаеш, так і палюбіш, усё адно — сваё яно ці чужое. Вось так і павінны пахнуць малыя дзеткі, а больш ніяк. А калі яны так не пахнуць, калі яны там, зверху, зусім не пахнуць, як усё роўна халоднае паветра, як у гэтага вырадка, тады... Вы можаце тлумачыць гэта, як хочаце, святы войча, але я, — і яна рашуча склала рукі на грудзях і з такой агідай паглядзела на кош каля ног, быццам там сядзела жаба,— я, Жана Бюсі, больш не вазьму гэта да сябе!

Патэр Тэр'е паволі падняў галаву і некалькі разоў правёў пальцам па лысіне, нібы хацеў прыгладзіць там валасы потым як бы незнарок падняў палец да носа і задуменна панюхаў.

—Як карамель?.. — сказаў ён, стараючыся вярнуцца да строгага тону —Карамель! Што ты петрыш у тых карамелях? Ці хоць ела ты калі іх, тыя шмелі-карамелі, ці каштавала?

—Не тое каб. . — сказала мамка,— але аднаго разу я была ў вялікім гатэлі на вуліцы Сэнт-Анарэ і бачыла, як яе гатуюць з паленага цукру і вяршкоў. Гэта пахла так смачна, век не забуду.

—Ну-ну Хай будзе па-твойму,— сказаў Тэр'е і прыняў палец з-пад носа.— Цяпер памаўчы, зрабі ласку! Мне няма ладу як цяжка, сілы няма, гаварыць з табою далей на гэтым узроўні. Я зазначаю, што ты з нейкіх там прычын адмаўляешся карміць грудзямі даверанае мне дзіця Жан-Бацiста Грануя і ў гэты момант вяртаеш яго часоваму апекуну — кляштару Сэн-Мэры Гэта засмучае мяне, але, відаць, я не магу нічога змяніць. Ты звольнена.

З гэтымі словамі ён падняў кош, яшчэ раз удыхнуў з яго цяпла ваўняны павеў малака і зачыніў браму. Пасля пайшоў у свой кабінет

### 3

Патэр Тэр'е быў чалавек адукаваны. Ён вучыўся не толькі з тэалогіі, але чытаў і філасафаў і вокаўзам далучыўся яшчэ да батанікі і алхіміі. Ён стараўся развіваць у сабе крытычнасць розуму. Што праўда, патэр не сягаў бы аж так далёка, як тыя, што паняверацца ў цудах, прароцтвах і сапраўднасці Святога пісання, нават калі яно часта не паддавалася разумнаму тлумачэнню, ці як тыя, што спрабавалі яго абвергнуць. Ён пастанавіў сабе не лезці ў такія праблемы, яны былі яму аж вельмі не да душы і маглі ўблытаць у — не дапусці, Госпадзе, — якую няпэўнасць і турбацыю, а яно ж бо ўсё так, што, каб чалавеку з толкам карыстацца сваім розумам, яму патрэбныя пэўнасць і спакой Аднак ён вельмі крута ваяваў з прымхамі паспалітага люду. Чарадзейства, круцельства і варажба на картах, амулеты, замовы ад сурокаў, заклёны духаў, штукарствы пад поўняй... чым толькі гэтыя людзі не бавіліся!

Яго глыбока засмучала, што такія паганскія вычуды пасля больш чым тысячагадовага існавання хрысціянства ўсё яшчэ не былі выкарчаваны. Ды і большасць выпадкаў так званай

апантанасці шаламі і каншахтаў з д'яблам, калі прыгледзецца пільней, аказваліся спектаклем прымхаў і немарасці. Праўда, аднекваць само існаванне д'ябла, сумнявацца ў ягонай уладзе — аж так далёка падрэ Тэр'е не рызыкнуў бы зайсці; развязваць такія праблемы, якія закладзены ў падмурак самой тэалогіі, гэта не на розум простага, сціплага мнішка, на тое ёсць іншыя інстанцыі З другога боку, як божы дзень ясна, што калі такая недалужніца, як гэтая мамка, божыцца, што яна выкалупала нейкую д'ябляволіну, значыцца, Сатана не мог утачыцца ў гэтую справу. Ужо хоць бы якраз таму, што ёй здаецца, быццам яна яго выкрыла. А гэта ж самы пэўны доказ, што ніякай д'ябальшчыны няма нізвання,— д'ябал не такі дурны, каб даццца прыхапіць сябе нейкай там мамцы-шмамцы Жане Бюсі Ды яшчэ на нюх! Гэтым самым прымітыўным, самым нізкім адчуваннем! Нібыта пекла смярдзіць серкай, а рай духмяніцца і пыхае ладанам і мірай! Гэта самы цёмны забабон, меса яго ў дзікіх паганскіх эпохах, калі людзі жылі, як жывёлы, калі зрок у іх быў такі слабы, што яны не разбіралі колераў, але ж лічылі, што чуюць пах крыві, што могуць носам адрозніць ворага ад сябра, што іх чуюць волаты-людажэрцы і ваўкалакі, што на іх палююць эрыніі,— і таму прыносілі сваім агідным божышчам на вогнішчах ахвяры, смярдзючыя і чадныя. Жах! «Дурань бачыць носам» — больш, чым вачыма, і, мусібыць, святло Богам дадзенага розуму павінна свяціць яшчэ тысячу гадоў, перш чым апошнія рэшткі першабытных рэлігій рассеюцца, як здані.

«Пры чым жа тут гэтае гаротнае дзіця! Гэта беспахібнае стварэнне! Ляжыць сабе ў кошыку, і соладка сапе ў ноздзеркі, і нічога не ведае пра гнюсотныя падазрэнні на ягоны конт А гэтая нахрапа бярэцца даказваць, што ты, бач, пахнеш не так, як выпадае пахнуць чалавечым дзецям? Ну, і што ж мы на гэта адкажам? У-цю-цю-лю!»

І ён ціхенька пакалыхаў кош на каленях, пагладзіў малое пальцам па галоўцы і некалькі разоў паўтарыў «у-цю-цю-лю», бо лічыў, што гэта дабратворна ўплывае на немаўлят і супакойвае іх.

«Дык табе, значыцца, след пахнуць карамелем, якое глупства, у-цю-цю-лю!»

Праз колькі там хвілін ён выняў руку з каша, сунуў сабе палец пад нос, прынюхаўся, але пачуў толькі пах кіслай капусты, якую еў у абед. Хвіліну-другую павагаўшыся, ён азірнуўся — ці не падглядвае хто, падняў кош з зямлі і тыцнуў у яго свой доўгі нос, тыцнуў глыбока, аж тонкія рыжаватыя коскі дзіцяці заказыталі яму ноздры, і абнюхаў галаву дзіцяці, думаючы ўцягнуць нейкі пах. Але ён не дужа добра ўяўляў сабе, як павінны пахнуць дзіцячыя галоўкі. Ясна, не карамелем, што-што, а гэта ясна, бо карамель — палены цукар, а з якое такое рацыі дзіця, што дагэтуль ссала толькі малако, можа пахнуць паленым цукрам. Яно магло пахнуць малаком, малаком мамкі. Але малаком ад яго не пахла. Яно магло б пахнуць валасамі, скурай і валасамі і, можа, крыху дзіцячым потам. І Тэр'е прынюхаўся і потым угаварыў сябе, што чуе пах скуры, валасоў і, можа, нават слабенькі пашок дзіцячага поту Але ён не чуў нічога. Як ні ўнюхваўся. Бо, можа, немаўляты зусім не пахнуць, думаў ён Мусіць, усё якраз у гэтым Во як рыхтык, дзіця, калі яно дагледжанае і чыстае, наогул не можа пахнуць, як не можа гаварыць, бегаць альбо пісаць. Бо ўсё прыходзіць з узростам. Строга кажучы, чалавек пачынае моцна пахнуць толькі падчас палавога сталення. Так, так яно і ёсць. Так — а не інакш. Хіба ў свой час Гарацый не напісаў «Пахне юнак казляняткам, дзяўчына духмяніцца кветкаю белай нарцыса»? Хто-хто, а рымляне петрылі ў гэтым! Чалавечы пах заўсёды — пах плоці, значыцца, пах грэху. Дык як жа мусіць пахнуць дзіця, якое яшчэ ні сном ні духам не вінаватае ў плоцкім грэхападзенні? Як яму належыць пахнуць? У-цю-цю-лю? Ніяк!

Ён зноў паставіў кош на калена і клапатліва пакалыхаў яго. Дзіця ўсё яшчэ моцна спала. Яго правая ручка, маленькая і чырвоная, высоўвалася з-пад вечка і тузалася да шчакі. Тэр'е замілавана ўсміхнуўся і раптам адчуў сябе вельмі ўтульна. На нейкі момант ён нават дапусціў фантастычную думку, што нібыта ён — бацька гэтага дзіцяці. Быццам ён зрабіўся не манахам, а нармальным абывацелем, можа, сумленным рамеснікам, знайшоў сабе жонку, такую цёплую бабу, якая пахне воўнаю і малаком, і спарадзілі яны сына, і вось ён калыша яго на сваіх каленях, свайго ж сына, у-цю-цю-лю.. Гэтая думка была салодкая У ёй было нешта такое суцяшальнае. Бацька калыша дзіця на каленях, у-цю-цю-лю, карціна была старая як свет і вечна новая і правільная карціна, з таго часу як свет стаіць, акурат так!

У Тэр'е пацяплела на душы, ён расчуліўся

Тут дзіця прачнулася Спачатку прачнуўся яго нос. Малюсенькі нос пачаў рухацца, задраўся ўгору і прынюхаўся. Ён уцягнуў паветра і пачаў выпускаць яго кароткімі штуршкамі, як калі чыхнуць не ўдалося Потым нос зморшчыўся, дзіця расплюшчыла вочы. Вочы былі няпэўнага колеру — нешта ці то вустрычна-шэрае, ці то апалава-бела-крэмавае, зацягнутае слізістай плеўкай і яшчэ не прыстасаванае глядзець. У Тэр'е было такое ўражанне, што яны, вочкі, зусім нічога не бачылі. Іншая справа — нос. Калі цьмяныя вочы дзіцяці касавурыліся на нешта няпэўнае, дык нос, здавалася, фіксаваў пэўную мэту, і Тэр'е меў дзіўнае адчуванне, быццам гэтай мэтай быў ён асабіста, яго асоба, сам Тэр'е. Маленькія крылцы носа вакол дзвюх маленькіх дзірачак на твары дзіцяці раздзімаліся, як бутон, які распускаецца. Альбо хутчэй як чашачкі тых маленькіх драпежных раслін, якія растуць у каралеўскім батанічным садзе. Здаецца, ад іх ідзе нейкая вусцішная сіла, якая ўцягвае ў сябе. Тэр'е здавалася, што дзіця бачыць яго, глядзіць на яго сваімі ноздрамі рэзка і выпрабавальна, пранозлівей, чым магло б глядзець вачыма, быццам глытае сваім носам нешта, што ідзе ад яго, Тэр'е, нешта, чаго ён, Тэр'е, не змог ні схаваць, ні ўтрымаць.

Дзіця, якое не мела паху, бессаромна яго абнюхвала, вось што. Дзіця яго адчувала! І раптам Тэр'е здалося, што ён смярдзіць — потам і воцатам, кіслай капустай і нямытай вопраткай Здаўся сабе голым і выродлівым, быццам на яго тапырыўся нехта, і гэты нехта нічым сябе не выдаў. Здавалася, ён пранюхваў яго наскрозь нават праз скуру, пранікаў усярэдзіну, у самае нутро. Самыя пяшчотныя пачуцці, самыя брудныя думкі агаляліся перад гэтым маленькім прагным носам, які нават яшчэ і не быў сапраўдным носам, а ўсяго толькі нейкім пупсікам, які рытмічна моршчыўся, нейкім маленькім дзюркаватым органам, які раздзімаўся і трымцеў. Тэр'е адчуў мароз. Яму рабілася млосна. Цяпер і ён тасама шмаргануў носам, быццам перад ім было нешта смярдзючае, з чым не хацелася заводзіцца. Бывай, ілюзія, што тут ягоная плоць і кроў Растаптана сентыментальная ілюзія пра бацьку, сына і духмяную маці. Быццам абарваны мяккі шлейф лагодных думак, які ён нафантазіраваў вакол самога сябе і гэтага дзіцяці: чужая, халодная істота ляжала ў яго на каленях, варожая жывёліна, і калі б не самавалоданне і богабаязнасць, калі б не разумныя погляды, уласцівыя характару Тэр'е, ён у прыступе агіды атрос бы яго з сябе як нейкага павука. Тэр'е ўскочыў і паставіў кош на стол Ён хацеў пазбавіцца ад гэтага дзіцяці і ад гэтай справы як мага хутчэй, цяпер, неадкладна.

І тут дзіця зайгліла. Яно прыплюшчыла вочы, разявіла чырвоны рот і заверашчала так звягліва і агідна, што ў Тэр'е кроў застыла. Ён трос кош на выцягнутай руцэ і крычаў «у-цю-цю-лю!», каб дзіця замоўкла, але тое раўло і раўло, тварык пасінеў, і яму, здавалася, вось-вось зарве ад крыку.

Прэч яго, прэч!— думаў Тэр'е, зараз жа прэч гэтага. «д'ябла», хацеў ён сказаць, але спахапіўся і закусіў язык.. прэч гэтую пачвару, гэтае чортава дзіця! Але куды? Ён ведаў тузін жанчын, якія кармілі, і сіроцкіх прыютаў у квартале, але яны былі зусім блізка, амаль удотык з ім, а гэтае стварэнне трэба было запраторыць далей, так далёка, каб яго нельга было ў любую хвіліну падкінуць у дзверы лепей яго перапраўіць у іншую парафію, а яшчэ лепей — на па-той бераг Сены, няблага ж было б — за горад, у прадмесце Сэнт-Антуан, вось куды! Вось куды мы адправім гэтага гарлапана, далёка на ўсход ад горада, па той бок Бастыліі, дзе нанач зачыняюць браму

Падабраўшы крыссе сваёй сутаны, ён схапіў крыклівы кош і кінуўся бегчы, бегчы па лабірынце завулкаў да Сэнт-Антуанскага прадмесця, бегчы ўздоўж Сены, на ўсход, прэч з горада, далей да вуліцы Шарон і ўздоўж гэтай вуліцы амаль да канца, дзе непадалёк ад кляштара Магдаліны ён ведаў адрас мадам Гаяр, якая прымала на поўны пансіён дзяцей любога ўзросту і любога паходжання, абы каб плацілі, і там ён аддаў дзіця, якое ўсё яшчэ не пераставала плакаць, заплаціў за год наперад і пабег назад у горад, скінуў, дастаўшыся да кляштара, сваё адзенне, быццам нешта запэцканае, вымыўся з галавы да ног і залез у келлі ў пасцель, перахрысціўся шмат разоў, доўга маліўся і нарэшце заснуў.

## 4

Мадам Гаяр, хоць ёй не было яшчэ і трыццаці, ужо сваё жыццё аджыла. Выглядам яна адпавядала свайму веку, але тым часам здавалася ў два, у тры, у сто разоў старэйшаю, яна была як мумія дзяўчыны, унутрана ж даўно была мёртвая Колісь малую бацька выцяў яе качубою па лобе, якраз над пераноссем, і з таго часу яна перастала адчуваць і пах, і чалавечае цяпло, і чалавечы холад, і ўвогуле ўсякія моцныя пачуцці Адным гэтым ударам у ёй былі забітыя і пяшчотлівасць, і агіда, і радасць, і роспач. Пазней, у спалуцы з мужчынам і калі на-

раджала дзяцей, яна гэтаксама не адчувала нічога, ну проста зусім анічагуткі. Не засмучалася, як паміралі, не радавалася, як і выжывалі. Калі муж лупцаваў яе, яна не ўздрыгвала, і не адчула палёгкі, калі той памёр ад халеры ў Гатэль-Д'ё. Адзіныя адчуванні, якія яна ведала, — гэта ледзь-ледзь прыкметная запамрочанасць душы, калі разгуляецца штомесячная мігрэнь, і ледзь улоўная прасветленасць душы, калі мігрэнь адступіцца. І больш нічога не адчувала гэтая жанчына, што памерла жывою.

З іншага боку... а можа, якраз ад поўнай безэмацыйнасці, мадам Гаяр мела бязлітаснае пачуццё і нюх на парадак і справядлівасць. Яна не выдзяляла ніводнага дзіцяці з даверaных яе апецы, ніводнага ж і не ўшчамляла. Яна карміла іх тры разы на дзень, і больш ім не перападала ні каліўца, ні паўкаліўца, ані дробачкі. Яна спавівала маленькіх тры разы на дзень, і толькі да года. Хто пасля гэтага рабіў яшчэ ў штонікі, даставаў раўнадушную поўху і на адну кармёжку меней. Роўна палавіну грошай, якія яна атрымлівала, траціла на гадоўлю і выхаванне, роўна палавіну пакідала сабе. У танныя часіны яна не спрабавала павялічыць свой прыбытак, але і ў цяжкія не дакладала да выдаткаў ніводнага лішняга су, нават калі ўжо вялося пра жыццё і смерць. Інакш інтэрас стаў бы ёй без інтарэсу. Ёй патрэбныя былі грошы, яна ўсё разлічыла абсалютна дакладна. У старасці яна збіралася купіць рэнту, а звыш таго мець яшчэ дастаткова сродкаў, каб дазволіць сабе раскошу памерці дома, а не скацубіцца ў Гатэль-Д'ё, як няшчасны муж. Сама ягоная смерць анічым не абышлася ёй. Але яе гідзіла гэта публічнае супольнае паміранне сотняў чужых адно аднаму людзей. Яна хацела разжыцца на прыватную смерць, а на тое трэба было сабраць патрэбную суму цалкам. Праўда, выдаваліся зімы, калі ў яе з двух тузінаў малых пастойнікаў трое-чацвёра паміралі. Але тым не меней гэты вынік быў куды лепшы, чым у большасці прыватных выхавальніц, і намнога перасягаў вынік вялікіх дзяржаўных або царкоўных прытулкаў, дзе страты часам складалі дзевяць дзесятых падкідняў. Зрэшты замяніць іх было няцяжка. Парыж штогоду даваў больша за дзесяць тысяч новых падкідняў, байструкоў і сірот Так што з пэўнай прыроднай выбракоўкаю лёгка мірыліся.

Малому Граную ўстанова мадам Гаяр была чыстым дабраславеннем. Мабыць, ён не мог выжыць больш нідзе. А тут, у гэтай бяздушнай кабеты, ён расцвіў. Складу ён быў моцнага і на рэдкасць жывучы.

Той, хто, як ён, перажыў сваё нараджэнне сярод адкідаў, ужо не так проста дазволіць звесці сябе са свету. Ён мог дзень у дзень хлябтаць вадзяністыя крупнікі, абыходзіцца разведзеным малаком, есці самую гнілую гародніну і пратухлае мяса. За дзяцінства ён перахварэў на адзёр, крываўку, вятранку, халеру, падаў у калодзеж на шасціметровую глыбіню, абварваўся кіпенем, як гэта было, калі апарыў сабе грудзі.

Хоць у яго і засталіся ад гэтага шнары, і воспіны, і струпы, і прыкалечаная нага, на якую накульгваў, ён жыў. Бо быў жывучы, як бактэрыя-лрыстасаванка, і незажывушчы, неперабарлівы, як клешч, які сядзіць на дрэве і жыве малюпасенькай кроплінкай крыві, раздабытай некалькі гадоў назад.

Ягонаму целу хапала мінімальнага харчу і вопраткі. А душа не заўжывала нічога. Бяспека, увага, пяшчотнасць, любоў і ўсякае такое астатняе, што патрэбна дзіцяці, былі поўнай лішніцай Граную. Больш таго, нам здаецца, што ён сам сябе пазбаўляў гэтага, каб выжыць— ад самага пачатку.

Крык, якім ён абвясціў пра сваё нараджэнне, крык з-пад разборнага стала, што прывёў на эшафот ягоную маці, не быў інстынктыўным крыкам за спагаду і любоў. Гэта быў узважаны, мы ледзь былі не сказалі, стала ўзважаны крык, якім дзіця рашуча галасавала супроць любові і ўсё-такі за жыццё. Зрэшты, пры такіх акалічнасцях адно было магчымае толькі без другога, і калі б дзіця пачало дамагацца ўсяго, яно несумненна адразу загінула б самым нікчэмным чынам. Хоць. . ён мог бы тады скарыстацца з іншай дадзенай яму магчымасці — маўчаць і выбраць дарогу да смерці без бакавых сцежак цераз жыццё, і тым самым пазбавіць свет і сябе ад вялікага ліха. Аднак, каб так сціпла адысці ў нябыт, яму спатрэбіўся б мінімум прыроджанай прыязнасці, а гэтага ў яго не было. Ён быў ад пачатку — пачвара. Ён прагаласаваў за жыццё з чыстай упартасці і з чыстай злосці.

Ясна, ён адважыўся на гэта не так, як адважваецца дарослы, які карыстаецца сваім больш-менш сталым і ўжо моцным розумам і вопытам, каб выбраць паміж дзвюма рознымі перспектывамі. Але ўсё ж ён зрабіў выбар — вегетатыўна, як робіць выбар зерне: ці трэба яму выпускаць парасткі ці лепей не прарастаць. Альбо як клешч на дрэве, якому жыццё так-





сама не прапануе іншага апрача перманентнага зімавання. Маленькі выродлівы клешч сціскае сваё свінцова-шэрае цела ў камячок, каб выставіць на свет мінімум сваёй паверхні, ён робіць сваю скуру гладкай, і шчыльнай, каб не выпускаць вонкі нічога лішняга — аніякага выпраменьвання, аніякусенькага выпарэння. Клешч спецыяльна робіць сябе маленькім і непрыкметным, каб ніхто не змеціў і не растаптаў яго. Адзінокі клешч, замкнуўшыся ў сабе, сядзіць на сваім дрэве, сляпы, глухі і нямы, і толькі вынюхвае, гадамі вынюхвае на цэлыя мілі навокал кроў жывых, якія праходзяць міма, якіх ён ніколі не дагоніць. Клешч мог бы дазволіць сабе ўпасці. Ён мог бы дазволіць сабе ўпасці на лясную зямлю, прапаўзці на сваіх малюпасенькіх лапках некалькі міліметраў туды ці сюды і зашыцца ў сухую лістоту — паміраць, і ніхто б яго не пашкадаваў. Богу вядома, што ніхто. Але клешч, упарты, зацяты і мярзотны, затоіўся і жыве, і чакае. Чакае, калі неверагодна які рэдкі выпадак падгоніць проста да яго пад дрэва кроў у выглядзе якой-небудзь жывёлы. І толькі тады ён заняхаіць сваю патаемнасць, сарвецца, і ўчэпіцца, і ўвінціцца, і ўвап'ецца ў чужую плоць.

Такім кляшчом быў і малы Грануй... Ён жыў, затуліўшыся ў сваю абалонку, і чакаў на лепшыя часіны, на сваю нагоду. Свету не аддаваў нічога, акрамя свайго бруду: ні ўсмешкі, ні бляску з вачэй, ні нават паху. Усякая іншая жанчына адштурхнула б такое дзіця. Але не мадам Гаяр. У яе ж не было нюху, яна не ведала, што ён не пахне, і не чакала ад яго ніякага душэўнага парыву, бо яе душа была замкнёная

Затое іншыя дзеці адразу адчулі, што з Грануем нешта не тое. З першага дня навенькі наводзіў на іх страх. Яны абыходзілі яго калыску і шчыльней ціснуліся адно да аднаго на сваіх ложках, быццам у пакоі пахаладала. Меншыя часам плакалі сярод ночы; ім здавалася, што ў спальні дзьме. Другім снілася, што ён як бы забірае ў іх дыханне. Аднаго разу старэйшыя згаварыліся задушыць яго. Яны навалілі яму на твар рыззя, і коўдру, і салому. Калі мадам Гаяр на раніцу адграбла яго з-пад кучы лахманоў, ён быў увесь спісяжаны, стурзаны, звесь у сіняках і гузах, але жывы. Тыя паспрабавалі паўтарыць гэта яшчэ некалькі разоў — пустое. Проста так, сваімі рукамі сціснуць яму горла ці затуліць рот і нос, што было б больш пэўна,— яны баяліся. Яны не хацелі да яго дакранацца. Яны ім грэбавалі, як велізарным павуком, якога не хочацца, гідка душыць.

Калі ён падрос, яны адмовіліся ад замахаў на яго жыццё. Яны, здаецца, зразумелі, што знішчыць яго нельга. Замест гэтага яны пачалі цурацца яго, прынамсі пазбягаць сутычак. Яны яго ненавідзелі. Яны яго і не раўнавалі, і не зайздросцілі яму На такія пачуцці ва ўстанове мадам Гаяр не было аніякіх прычын. Ім проста замінала ягоная прысутнасць. Яны не чулі ягонага паху Яны яго баяліся

## 5

Калі пры гэтым пaглядзець аб'ектыўна, у ім не было нічога такога, што палохала б чалавека. У падлетках ён быў не тое каб высокі, не дужа дужы, хай сабе і брыдкі, але ж не такі табе й брыдкі, каб аж палохацца, убачыўшы яго. Ён быў не агрэсіўны, не хітры, не падступны, ён нікога не правакаваў. Ён лепей сабе трымаўся наадасобку. Дый інтэлект ягоны, бадай што, меней за ўсё мог наганяць страх. Ён устаў на абедзве ножкі толькі ў тры гады, першае слова вымавіў — у чатыры, гэта было слова «рыба» — яно выхапілася ў яго ў момант раптоўнага ўзрушэння, як рэха, калі на вуліцу Шарон явіўся здалёк нейкі гандляр-рыбнік і пачаў на ўсё горла нахвальваць свой тавар. Наступныя словы, якія ён выпусціў з сябе, былі: «пеларгонія», «казіны хлеў», «савойская капуста» і «Жан Страхалюдзіна» (мянушка памагатага ў садоўніка з недалёкага кляштара Жанчын Міраносіц, мадам Гаяр часам наймала яго на самую брудную і цяжкую працу, і ён запомніўся тым, што ні разу ў жыцці не ўмыўся). Што да дзеясловаў, прыметнікаў і часціц, дык іх у Грануя было яшчэ меней. Апрача «так» і «не» — іх, калі на тое, ён сказаў упершыню досыць позна — ён вымаўляў толькі асноўныя словы, адны назоўнікі і назвы канкрэтных рэчаў, раслін, жывёл і людзей, і тое толькі тады, калі гэтыя рэчы, расліны, жывёлы або людзі выпадкова ўрываліся ў ягоны нюх.

Седзячы пад сакавіцкім сонцам на кастры букавых дроў, якія патрэсквалі ад цяпла, ён упершыню вымавіў слова «дровы». Да гэтага ён сотні разоў чуў гэтае слова. Нават і разумеў яго: зімой яго часта пасылалі па дровы. Але сам прадмет — дровы— не здаваўся яму дастаткова цікавым, каб вымаўляць яго назву. Гэта адбылося толькі таго дня ў сакавіку, калі ён ся-

дзеў на кастры Касцёр быў складзены як бы лавай каля паўднёвай сцяны хлява мадам Гаяр пад паветкай Верхнія цуркі пахлі горача і саладжава, з глыбіні кастра падымаўся лёгкі дух моху, ад сасновай сцяны хлява плыў цёплы струмень смалы

Грануй сядзеў на дровах, расставіўшы ногі і абапершыся на сцяну, ён заплюшчыў вочы і не варушыўся. Ён нічога не бачыў, нічога не чуў і не адчуваў Ён проста ўдыхаў пах драўніны, які клубіўся вакол яго і збіраўся пад дахам, як пад каўпаком Ён піў гэты пах, тануў у ім, прасякаўся ім аж да самай апошняй клеткі, сам рабіўся дрэвам, ён ляжаў на кучы дроў, як драўляная лялька, як бураціна, як мёртвы, пакуль праз доўгі час, можа, праз паўгадзіны, не вырыгнуў з сябе слова «дровы». Так, быццам ён быў увесь перапоўнены дровамі, быццам быў сыты дровамі па горла, нібы яго жывот, глотка, нос былі закладзеныя дровамі,— вось як ён званітаваў гэтым словам

І гэта схамянула яго, уратавала ад знясілення драўнінай, ад яе паху, якім можна было задыхнуцца. Ён падабраўся, ссунуўся з кастра і паклыпаў прэч на драўляных нагах. Яшчэ некалькі дзен ён быў сам не свой ад інтэнсіўнага нюхальнага ўражання, і калі ўспамін з новай сілай выплываў перад ім, ён мармытаў сам сабе, як заклён· «Дровы, дровы»

Так ён вучыўся гаварыць. Са словамі, якія не азначалі пахучых прадметаў, інакш— з абстрактнымі паняццямі, найперш з этычнымі і маральнымі — яму было найцяжэй Ён не мог запомніць іх, ужываў іх, нават калі ўжо быў дарослы, неахвотна і часта няправільна· права, Бог, радасць, адказнасць, пакорлівасць, удзячнасць і г.д. — тое, што павінна азначацца імі, было і засталося яму туманам белым. З другога боку, беднай гутарковай мовы неўзабаве стала не хапаць, каб называць усе тыя рэчы, якія ён назапасіў у сабе нюхальнымі ўяўленнямі. Хуткім часам ён ужо адрозніваў па паху не проста дровы, але і якія гэта дровы. вяз, груша, дровы старыя, сырыя, трухлявыя, гнілыя, замшэлыя, ён разбіраў на нюх нават асобныя цурбакі, трэскі, апілкі — і адрозніваў так ясна, як іншыя людзі не маглі б на вока. З астатнімі рэчамі было тое самае.

Тое, што белае пітво, якое мадам Гаяр кожнае раніцы выдавала сваім утрыманцам, заўсёды называлася малаком, хоць яно кожнае раніцы зусім інакш успрымалася Грануем на пах і на смак, — яно ж было то халоднае, то гарачае, было ад той ці іншай каровы, то яно кожную хвіліну пералівалася сотнямі асобных пахаў і ўтварала кампазіцыю пахаў, змяшаных у новае адзінства,— і дым з вогнішча меў толькі адну, менавіта гэтую назву· «дым» тое, што зямля, ландшафт, паветра, якія на кожным кроку, з кожным удыхам, напаўняліся іншым пахам і тым самым адухоўліваліся іншай ідэнтычнасцю, тым не меней абазначаліся ўсяго трыма, менавіта гэтымі, няўклюднымі словамі, — усе гэтыя пачварныя разбежнасці паміж багаццем нюхальна ўспрыманага свету і беднасцю мовы наогул прымусілі маленькага Грануя засумнявацца ў самой мове; і ён апускаўся да карыстання ёю толькі калі гэтага вымагалі зносіны з людзьмі

Да шасці гадоў ён нюхальна цалкам спасціг сваё атачэнне. У доме мадам Гаяр не было ніводнага прадмета, у паўночнай частцы вуліцы Шарон не было ніводнай мясціны, ніводнага чалавека, ніводнага каменя, дрэва, куста ці плота, ніводнага нават самага маленькага закавурка, якога б ён не ведаў на нюх, не пазнаваў бы, і цвёрда не трымаў бы ў памяці ва ўсёй яго непаўторнасці Ён сабраў дзесяць тысяч, сто тысяч спецыфічных, адзіных у сваім родзе пахаў і трымаў іх так учэпіста, што згадваў, калі чуў іх, але і сапраўды чуў, калі згадваў пра іх зноў; больш за тое — ён нават умеў уяўна па-новаму іх спалучаць і такім чынам ствараў у сабе такія пахі, якіх увогуле не было на свеце.

Ён як бы авалодаў велізарным слоўнікам, які дазваляў яму складваць з пахаў любыя новыя фразы — і гэта ў тым узросце, калі іншыя дзеці, ледзь-ледзь падбіраючы ўбітыя ў іх мазгі словы, лепяць кароценькія банальныя сказы, якімі аніяк не апішаш свету Бадай, слушней было б параўнаць яго з музычным вундэркіндам, які з мелодый і гармоній вылузаў альфабэт асобных гукаў і вось ужо сам складае новыя мелодыі і гармоніі — з тою, праўда, розніцай, што альфабэт пахаў быў непараўнальна больш і дыферэнцыраваны, чым гукавы, і яшчэ з таго, што творчая дзейнасць вундэркінда Грануя бушавала толькі ўсярэдзіне яго самога і не магла быць заўважана нікім, апрача яго.

Вонкава ён усё больш замыкаўся ў сабе. Яму падабалася бадзяцца ў паўночных кварталах Сэнт-Антуанскага прадмесця, па гародах, палях, вінаградніках. Часам ён не вяртаўся нанач, прападаў недзе па некалькі дзён Экзекуцыю за гэта прымаў пакорліва і без пратэсту Хатні арышт, галадоўкі, штрафная праца нічога ў паводзінах не мянялі Нерэгулярная седня





(паўтара года) у парафіяльнай школе пры царкве Нотр-Дам-дэ-Бон-Сэкур не ўмудрыла яго ні больш ні менш. Навучыўся збольшага чытаць па складах і пісаць сваё імя, і гэта ўсё. Настаўнік лічыў яго слабым у розуме. Затое мадам Гаяр змеціла ў ім пэўныя здольнасці і схільнасці, даволі незвычайныя, каб не сказаць няма ладу якія. Так, яму, здавалася, быў зусім невядомы дзіцячы страх перад цемрай і ноччу. Яго можна было ў любы час па што хоч паслаць у склеп, куды іншыя дзеці нават з ліхтаром не патыкаліся; ці па дровы — у хлеў на двары, у самую непраглядзь начную. І ніколі не браў ліхтара, а ўсе-такі адразу знаходзіў і прыносіў па што пасылалі, і ўсё дакладна, ўсё правільна, нікуды табе не ўлезе, не спатыкнецца, нічога не аберне. Але, канечне, яшчэ большае дзіва, што Грануй, як каторага разу заўважала мадам Гаяр, умеў бачыць праз паперу, тканіну, драўлянае, і нават праз мураваныя сцены, шчыльна зачыненыя дзверы. Ён ведаў, хто менавіта з выхаванцаў быў у дартуары, не заходзячы туды ведаў. Што ў капусціне затоіўся слімак, ведаў да таго, як качан паспявалі разрэзаць. А аднаго разу, калі мадам Гаяр так добра прыхавала грошы, што і сама не магла іх знайсці (яна мяняла свае схованкі), ён, ні хвіліны не сумняваючыся, паказаў месца за стаяком коміна, і гэта ж трэба — якраз там яны і знайшліся! Ён нават будучыню ўмеў бачыць наперад: бывала, нідзе нікога, а ён ужо дакладвае пра візіт чалавека задоўга да яго прыходу, і без памылак прадказваў навальніцу, хоць неба яшчэ было як прамытае.

Што ўсяго гэтага ён, вядома, не бачыў вачыма, што чым далей, тым вастрэй і дакладней чуў носам слімака ў капусце, грошы за стаяком, чалавека за сцяной ці за некалькі кварталаў, — пра гэта ўсё мадам Гаяр не здагадалася б і ў сне, нават калі б яе нюх не пацярпеў ад бацькавай кацубы. Яна была пэўная, што ў гэтага хлопчыка — слабы ён розумам ці не — ёсць другі твар. А як што яна ведала, што двухаблічныя прыносяць няшчасце і смерць, ёй зрабілася вусцішна.

Яшчэ больш вусцішнай, аж да нясцерпу, была думка, што пад адным дахам з ёю жыве нехта, хто мае дар праз сцены і бэлькі бачыць старанна схаваныя грошы, і як толькі яна выявіла ў Грануя гэтую жахлівую здольнасць, адразу паспрабавала ад яго пазбыцца, і так яно ўсё склалася ўдала, што якраз тым часам — Граную было восем гадоў — кляштар Сэнт-Мэры, не ўдаючыся ў прычыны, спыніў свае штогадовыя выплаты. Мадам не нагадала кляштару пра запазычанасць. Дзеля блізіру яна пачакала з тыдзень, і калі грошы так і не паступілі, яна ўзяла хлопчыка за руку і выправілася з ім у горад.

На вуліцы Мартэльры непадалёк ад ракі жыў адзін яе знаёмы — гарбар Грымаль, якому ўвесь час былі патрэбныя хлапчукі для працы — не вучнямі ці чаляднікамі, а як танныя чорнарабочыя Бо ў яголым рамястве даводзілася рабіць настолькі небяспечныя для жыцця аперацыі — мяздрыць гнілыя звярыныя скуры, змешваць атрутлівыя дубільныя і фарбавальныя рошчыны, выводзіць едкія пратравы,— што прыстойны майстар, звычайна шкадуючы сваіх навучаных памочнікаў, наймаў беспрацоўны і бяздомны зброд альбо беспрытульных дзяцей, чый лёс у разе якога няшчасця анікога не зацікавіць. Не дзіва, мадам Гаяр ведала, што ў гарбарні Грымаля ў Грануя — па чалавечых мерках — не было шанцу застацца жывым. Але не такая яна была жанчына, каб тлуміць сабе галаву ўсякай лухтою. Свой святы абавязак яна выканала. Апека скончылася. Што там далей будзе з яе гадаванцам, ёй не абыходзіла. Выжыве — добра, спражэцца — а што ў тым благога?— галоўнае, каб усё было законна. І таму яна папрасіла мсье Грымаля пісьмова пацвердзіць перадачу хлопчыка, сама распісалася за пятнаццаць франкаў камісійных і выправілася дамоў на вуліцу Шарон.

Яна не адчувала ніякіх дакораў сумлення. Наадварот, лічыла, што зрабіла не толькі ў згодзе з законам, але і справядліва, бо ўтрыманне ў прыюце дзіцяці, за якога ніхто не плаціць, магчымае толькі за кошт іншых дзяцей ці нават за яе асабісты кошт, а, можа, нават пагражае будучыні іншых дзяцей ці нават яе асабістай будучыні, інакш кажучы, яе забяспечанай, прыватнай смерці, адзінаму, чаго яна яшчэ хацела ад жыцця.

З увагі на тое, што мы тут развітаемся з мадам Гаяр і пазней ужо не сустрэнемся з ёю, акінем колькімі фразамі яе апошнія дні Хоць душою мадам сканала яшчэ ў маленстве, яна дажыла, на няшчасце, да глыбокай, глыбокай старасці. У лета ад Нараджэння Хрыстовага 1782-е, на сямідзесятым годзе жыцця, яна пакінула сваё рамяство, купіла, як і мерылася, рэнту, засела ў сваім дамку і чакала смерці. Але смерць не спяшалася. Замест смерці прыйшло нешта такое, на што не мог падумаць ніводзін жывы чалавек на свеце і чаго яшчэ ніколі не было ў краіне, а то ж бо — прыйшла спадарыня рэвалюцыя, а з ёю шалёная, стрымгаловая карэнная змена ўсіх грамадскіх, маральных і трансцэндэнтных адносінаў. Спярша памянё-

ная рэвалюцыя не зачапіла асабістага лёсу мадам Гаяр. Але потым, калі ёй ужо заехала пад восемдзесят, выявілася, што чалавек, які плаціў ёй рэнту, застаўся без уласнасці і вымушаны быў эмігрыраваць, а ягоную маёмасць купіў з аўкцыёна фабрыкант штаноў. Некаторы час яшчэ здавалася, што і гэтая перамена не сфаталізуе лёсу мадам Гаяр, бо фабрыкант-нагавічнік спраўна сплачваў рэнту Але потым прыйшоў дзень, калі яна атрымала свае грошы не манетай, а нейкімі маленькімі паперкамі, і гэта запачаткавала яе матэрыяльны канец.

Праз два гады рэнты ўжо не хапала нават на аплату дроў. Мадам мусіла прадаць свой дом па смешна сказаць якой нізкай цане, бо акрамя яе раптам павыпаўзалі тысячы іншых людзей, якім, канечне, мусова і да зарэзу прыспічыла прадаць свае дамы. І зноў яна атрымала ўзамен толькі гэтыя ідыёцкія паперкі, і зноў праз два гады яны амаль нічога не каштавалі, і ў 1797 годзе — ёй тады было пад дзевяноста — мадам страціла ўвесь свой ашчадак да драбніцы — нажытую цяжкай векавой працай маёмасць,— і тулілася ў малюпасенькай мэбляванай каморцы на вуліцы Кокій. І толькі цяпер, запазніўшыся гадоў на дзесяць-дваццаць, заспела-такі смерць — яна прыйшла да яе ў вобразе пухлізны, хвароба схапіла мадам за горла, пазбавіла яе спачатку апетыту, потым голасу, так што яна не магла запярэчыць ні словам, калі яе адпраўлялі ў багадзельню Гатэль-Д'ё. Там яе паклалі ў тую самую залу, бітком набатаваную сотнямі паўжывых людзей, дзе калісьці сканаў яе муж, сунулі на агульны ляжак да пяцёх нейкіх старонніх старэч (яны ляжалі ўпокат шчыльненька адна каля аднае) і пакінулі там на тры тыдні прылюдна даходзіць. Потым яе зашылі ў мех, у чатыры гадзіны раніцы разам з пяцідзесяццю іншымі трупамі шпурнулі на падводу і пад цяненькае бомканне званочка вывезлі на новыя могліцы ў Клямар, што за мілю ад гарадское брамы, і там паклалі на вечны спачын у агульнай яміне пад тоўстым пластам нягашанай вапны.

Гэта было ў 1799 годзе. Але мадам, дзякуй Богу, не прадчувала свайго лёсу, вяртаючыся дамоў у той дзень 1747 года, калі яна пакінула хлопчыка Грануя — і нашу аповесць. Інакш яна, напэўна, страціла б веру ў справядлівасць і тым самым адзіны даступны ёй сэнс жыцця.

## 6

З першага позірку, які ён кінуў на мсье Грымаля,— не, з першага чуйнага ўдыху, якім ён уцягнуў у сябе пах Грымаля,— Грануй зразумеў, што гэты чалавек можа забіць яго да смерці за самую малую прамашку Ягонае жыццё каштавала цяпер роўна столькі, колькі ягоная праца, яго жыццё было роўнае толькі той карысці, якою вымяраў яе Грымаль. І Грануй пакорліва лёг да ног гаспадара і не зрабіў аніводнай спробы ўстаць. Дзень у дзень ён закаркоўваў у сабе ўсю энергію сваёй упартасці і наравістасці, ужываючы яе, толькі каб, як той клешч, перажыць блізкі ледніковы перыяд. цярплівы, сціплы, непрыкметны, захоўваючы агонь жыццёвай надзеі на самым малым, але старанна пільнаваным вогнішчы. Цяпер ён зрабіўся ўзорам паслушэнства, непатрабавальнасці і працалюбства, улёт лавіў кожны загад, прымаў любую ежу. Вечарамі рахмана дазваляў замыкаць сябе ў прыбудаваную збоку да майстэрні каморку, дзе захоўвалася ўсялякае чарэп'е, рабочы інструмент і віселі прасоленыя сырыя скуры. Тут ён спаў на голай уторанай зямлі Цэлымі тыднямі ён працаваў ад цямна да цямна, узімку — восем, летам — чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць гадзін: мяздрыў смярдзючыя скуры вымочваў іх у вадзе, зганяў поўсць, вапнаваў, травіў квасцамі, калоў дровы, акорваў бярозу і ціс, спускаўся ў дубільныя ямы, поўныя едкіх выпарэнняў, укладваў пластамі скуры, як загадвалі яму чалядніکі, раскідваў раздушаныя чарнільныя арэшкі, закідваў гэтае жудаснае вогнішча цісавым голлем і зямлёю. Праз некалькі гадоў яму даводзілася адкопваць і даставаць з гэтых магіл трупы скур, муміфікаваныя да стану дублёных скур. Калі ён не закопваў і не выкопваў скуры, дык цягаў ваду Месяцамі цягаў з ракі ўгору, заўсёды па два вядры, сотні вёдраў у дзень, бо гарбарства патрабуе мора вады на мыццё, вымочванне, выварку, фарбаванне. І так месяц у месяц ён насіў тую ваду, вымакаў сам да рубчыка, увечары яго вопратка капала, а скура была халодная, мяккая і набрынялая, як замша.

Праз год такога — хутчэй жывёльнага, чым чалавечага — існавання ён захварэў на сібірскую язву, гэтую страшную хваробу гарбароў, якая звычайна канчаецца смерцю. Грымаль ужо паставіў на ім крыж і пачаў шукаць яму замену — зрэшты, не без шкадавання, бо ў яго яшчэ ніколі не было больш сціплага і руплівага дбальцы, як гэты Грануй. Аднак, насуперак усякаму разумнаму чаканню, Грануй ачуняў. Толькі за вушамі, на шыі і на шчоках засталіся шнары ад вялікіх чорных нарываў, якія нявечылі яго і рабілі яшчэ брыдчэйшым, чым ён быў раней. Затое ў яго застаўся — найкаштоўнейшая перавага — імунітэт да сібірскай язвы, так што цяпер ён мог мяздрыць самыя кепскія скуры нават скрываўленымі, парэпанымі рукамі, не баючыся заразіцца нанава. Гэтым ён выгадна вылучаўся не толькі спасярод іншых вучняў і чаляднікаў, але і сваіх патэнцыяльных пераемнікаў і таму, што цяпер стала цяжка яго замяніць, вартасць яго працы павысілася, а тым самым і цана ягонага жыцця. Яму раптам дазволілі не спаць больш на голай падлозе, а збіць сабе драўляны ляжак у хляве, заслаць яго саломай і накрывацца коўдрай. Яго больш не замыкалі нанач. Ежа палепшылася. Грымаль абыходзіўся цяпер з ім не проста як з жывёлай, а як з жывёлай карыснаю.

Калі яму споўнілася дванаццаць гадоў, Грымаль пачаў вызваляць яго ад працы на паўдня ў нядзелю, а з трынаццаці яму нават у будні дазвалялася на гадзіну пасля працы выходзіць з дому і рабіць, што ўжо ён там хацеў. Ён перамог, бо застаўся жывы, і ў яго была пэўная свабода, каб жыць далей. Час зімавання мінуўся. Клешч Грануй зноў ажыў Ён адчуў ранішняе паветра. Яго ахапіў паляўнічы сверб. Перад ім адкрыўся найвялікшы ў свеце запаведнік пахаў: горад Парыж.

## 7

Гэта было як у казцы. Ужо бліжэйшыя вуліцы Сэн-Жак-дэ-ля-Бушры і вуліцы вакол царквы Св. Яўстахія былі казкай. У завулках ад вуліц Сэн-Дэні і Сэн-Мартэн людзі жылі так купна, дамы ў пяць, шэсць паверхаў стаялі так шчыльна, што засланялі неба, і паветра было застаялае, як вада ў канавах, і наскрозь прапахлае. У ім мяшаліся пахі людзей і жывёл, выпарэнні ад ежы і хваробаў, вады і каменя, попелу і скуры, мыла і свежага хлеба і яек, згатаваных у воцаце, локшыны і нашараванай да бляску латуні, шалфею і піва і слёз, тлушчу і мокрай і сухой саломы. Тысячы і тысячы пахаў стваралі нябачную лаву, якая перапаўняла цясніны вуліц, якая пад дахамі знікала толькі зрэдчасу, а з бруку — ніколі. Людзі, якія жылі там, даўно прынюхаліся да гэтай сумесі: яна ж і падымалася ад іх і зноў прасякала іх наскрозь, гэта ж было паветра, якім яны дыхалі і жылі, яно было як зношаная цёплая вопратка — яе не чуеш на целе, яе паху не заўважаеш. Але Грануй усё гэта чуў упершыню. І не толькі ўспрымаў мяшанку пахаў ва ўсёй яе поўнасці і поўніцы — ён расшчапляў яе аналітычна на самыя дробненькія і драбнюсенькія часткі і часцінкі. Яго вытанчаны нюх разблытваў вузел з выпарэнняў і смуроду, распраўляў асобнымі нітачкамі на асноўныя пахі, якія далей ужо не раскладаліся. Яму было неверагодна прыемна разблытваць і прасці гэтыя ніткі

Ён часта спыняўся, прыхіляўся да сцяны якога-небудзь дома або затоўкшыся ў цёмны закутак, і стаяў там, заплюшчыўшы вочы, крыху разявіўшы рот і раздзімаючы ноздры, нерухомы, як драпежная рыбіна ў глыбокай, цёмнай, спавольненай вадзе. І калі нарэшце рух паветра падкідваў яму кончык тоненькай духмянай нітачкі, ён накідваўся на гэты адзін пашок, не чуючы больш нічога навокал, хапаў яго, чапляўся за яго, уцягваў яго ў сябе і пакідаў у сабе назаўсёды. Гэта мог быць даўно знаёмы пах або яго разнавіднасць, а мог быць і зусім новы, амаль або зусім не падобны на ўсё, што яму дагэтуль даводзілася чуць, а тым болей бачыць; напрыклад, пах прасаванага шоўку; пах чабаровай гарбаты, пах кавалка вышыванай срэбрам парчы, пах каранца да бутэлькі з рэдкім вінам, пах чарапахавага грэбеня. Грануй угоньваўся за такімі яшчэ не знаёмымі яму пахамі, лавіў іх заўзята і цярпліва, як рыбак, і назапашваў у сабе.

Удосыць нанюхаўшыся густога паху завулкаў, ён ішоў у мясціны, дзе пахі былі танчэйшыя, змешваліся з ветрам і разносіліся амаль як парфума: скажам, на рынкавы пляц, дзе ўвечары моцна трымаліся пахі дня — нябачныя, але ў той самы час такія яўныя, быццам у натоўпе ўсё яшчэ кішэлі гандляры, стаялі кашы з гароднінай і яйкамі, бочкі з віном і воцатам, мяхі з прыправамі і бульбай і мукою, скрынкі з цвікамі і гайкамі, рыбныя сталы, сталы, заваленыя тканінай, і посудам, і падэшвамі, і сотнямі іншых рэчаў, якія прадаваліся ўдзень.. увесь гэты вэрхал і гармідар стаяў у паветры і ўвечары. Грануй, можна сказаць, носам бачыў увесь рынак. І носам бачыў яго дакладней, чым іншы вачыма, бо Грануй успрымаў яго «следам» і таму больш узвышана: як эсэнцыю, як дух чагосьці мінулага, не парушанага звычнымі атрыбутамі цяперашчыны — такімі, як шум, яркасць, гнюсотная штурхатня жывых людзей.

Альбо ж ён ішоў туды, дзе каралі ягоную маці, на Грэўскі пляц — які велізарным языком

высалопваўся ў раку Тут стаялі караблі і лодкі, выцягнутыя на бераг або прышвартаваныя да тумбаў, тут пахла вугалем, і збожжам, і сенам, і мокрымі пяньковымі канатамі.

А з захаду, па тым адзіным трыбе, які рака прасекла ў горадзе, плыў шырокі паток ветру і прыносіў пахі палёў, лугоў пад Нэі, лясоў паміж Сэн-Жармэнам і Версалем, далёкіх гарадоў Руана і Каэна, а часам нават і мора. Мора пахла як надзьмуты ветразь, у якім заблыталіся вада, соль і халоднае сонца. Яно пахла проста, гэтае мора, але пах быў адразу вялікі і своеасаблівы, так што Грануй не асмельваўся расшчапіць яго на рыбнае, салёнае, вадзяністае, водарасці, свежасць і так далей. Ён лепей сабе не разбіваў яго, трымаў у памяці цалкам і цешыўся ім на поўную поўніцу. Пах мора яму так падабаўся, што ён хацеў калі-небудзь атрымаць яго чыстым, без дамешак і ў такой колькасці, каб ім можна было ўпіцца. І калі пазней з расказаў ён даведаўся, што мора вялікае і па ім можна цэлымі днямі плысці на караблі, і нідзе ніякае зямлі, ён звычайна ўяўляў сябе на такім караблі, высока ўгары, сядзіць сабе на мачце ў кашы, і ляціць, ляціць кудысьці далёка па бясконцым паху мора, які ніякі нават не пах, а дыханне, выдых, подых, канец усіх пахаў, і ад асалоды ён быццам раствараецца ў гэтым дыханні. Але гэтаму не наканавана было збыцца, бо Грануй, які стаяў на Грэўскім пляцы на беразе Сены і раз за разам удыхаў маленькі абрывак марскога ветру, што раптам прыбіўся да ягонага носа, не наканавана было ніколі ў жыцці ўбачыць мора, сапраўднае мора, вялікі акіян на захадзе, не дадзена было акунуцца ў яго пах.

Квартал паміж царквою Св. Яўстахія і гарадскою ратушай ён неўзабаве вывучыў на нюх так дасканала, што не заблудзіўся б там і ў самую цёмную ноч І тады ён пашырыў поле свайго палявання — спачатку на захад да прадмесця Сэнт-Анарэ, потым уверх па вуліцы Сэнт-Антуан да Бастыліі і, нарэшце, нават на па-той бераг ракі да квартала Сарбоны і прадмесця Сэн-Жармэн, дзе жылі багатыя людзі. Праз чыгунныя краты брамы пахла скурай ад карэт і пудрай з пахолкавых парыкоў, а цераз высокія сцены з садоў пераліваўся водар жаўтазелю і ружаў і толькі што пасаджанай біручыны. І сама тут Грануй упершыню пачуў пах парфумы — у сама гэтым сэнсе слова. Гэта была простая лавандавая ці ружовая вада, якую ва ўрачыстых выпадках дамешвалі ў садовыя фантаны, і больш складаныя, больш каштоўныя духмянасці мускуснай настойкі, змяшанай з алеем нарцыса і туберорзы, танкілій, язмену або карынкі, якія вечарамі, як цяжкі шлейф, цягнуліся за экіпажамі. Ён запамінаў гэтыя духмянасці, як запамінаў вульгарныя пахі, з цікаўнасцю, але без асаблівага здзіўлення. Зрэшты, ён заўважыў, што парфумы наўмысна стараліся адурманіць і прывабіць яго нюх, і ён прызнаў вартасці асобных эсэнцый, з якіх яны складаліся. Але ў цэлым яны здаваліся яму ўсё ж грубымі і пошлымі, разбаўленымі, а не скампанаванымі, і ён ведаў, што мог бы скласці зусім іншыя пахошчы калі б меў такія самыя зыходныя матэрыялы

Многія з гэтых матэрыялаў ён ужо сустракаў раней, на рынку — у радах кветак і радах з гастранамічнымі духмянасцямі, іншыя былі яму новыя, і іх ён фільтраваў з духмяных сумесяў і безназоўна захоўваў у памяці' амбру, цыбетын, пачулі, сандалавае дрэва, бергамот, бензойную смалу, кветкі хмелю, бабровы струмень. .

Ён не быў пераборлівы Між тым, што паўсюль азначалася як добры пах, ён не разрозніваў — пакуль. Ён быў прагны. Мэта ягоных паляўнічых вылазак была — проста авалодаць усімі пахамі, якія мог прапанаваць яму свет, і адзіная мэта — каб пахі былі новыя. Пах конскага поту значыў у яго столькі ж, колькі далікатны водар бутона ружы, які якраз распускаецца, востры смурод клапа — не менш, чым пара ад смажаніны з цяляціны, што прасочваецца з гаспадарскіх кухняў. Ён паглынаў, убіраў у сябе ўсё, усё запар. Але і ў кухні, якая сінтэзуе ягоныя ўяўленні, дзе ён увесь час складваў новыя камбінацыі пахаў, яшчэ не панаваў ніякі эстэтычны прынцып. Гэта былі велягурыстыя фантазіі, ён ствараў і тут жа разбураў іх, як дзіця, што гуляе ў кубікі — вынаходліва і дэструктыўна, без прыкметнага творчага прынцыпу.

## 8

Першага верасня 1753 года, у гадавіну інтранізацыі караля, горад Парыж зладзіў феерверк на Каралеўскім мосце. Відовішча не было такое раскошнае, як феерверк у гонар шлюбавання караля ці як легендарны феерверк з нагоды нараджэння дафіна, але ўсё-такі гэта быў феерверк не абы-які На мачтах караблёў былі ўмацаваны залатыя задыякальныя колы.





Так званыя сонечныя звяры вырыгалі з моста ў раку вогненны залаты дождж. Аглушальна рваліся петарды, і на бруку лопаліся ляскаўкі, выробленыя ў выглядзе жаб, а ў неба шугалі ракеты і прапісвалі белыя лісягі на чорным небе. Тысячагорлы натоўп на мосце і набярэжных абапал ракі захоплена ахаў і вохаў, крычаў «Брава!», «Віват!»— хоць той кароль сеў на трон трыццаць восем гадоў таму назад і пік народнай любові даўно застаўся ў мінулым. Вось на што здольны феерверк!

Грануй моўчкі стаяў у цяні павільёна Флоры, на правым беразе, насупраць Каралеўскага моста. Ён не ўдзельнічаў у віватаванні, нават ні разу не зірнуў угору на ракеты Ён прыйшоў, спадзеючыся ўнюхаць што-небудзь новае, але неўзабаве высветлілася, што феерверк у пахавым сэнсе нічога яму не дае. Усё, што іскрылася, і ззяла, і трашчала, і вішчала там у занадтай разнастайнасці, явіла ў найвышэйшай ступені аднастайную сумесь пахаў серы, алею і салетры

Ён ужо намерыўся пакінуць гэтае нуднае гледзішча, каб, трымаючыся ўздоўж галерэі Луўра, пайсці дамоў, як тут вецер нешта данёс да яго, нешта маленькае, ледзь улоўнае, абрывак, атам далікатнага паху — не, нешта яшчэ меншае: гэта было хутчэй прадчуванне, чым сапраўдны пах, і адначасова ўпэўненая здагадка, што нічога такога ён ніколі раней не чуў. Ён зноў прыхіліўся да сцяны, заплюшчыў вочы і наставіў ноздры Водар быў такі далікатны і тонкі, што раз-пораз выпадаў з успрымання, яго нельга было ўтрымаць, яго перакрываў дым петардаў, блакіравалі выпарэнні чалавечай масы, разрывалі і сціралі тысячы іншых гарадскіх пахаў Але потым — раптам— ён зноў праскокваў на нейкую долю секунды, гэты маленькі драбок духмяніў раскошным намёкам... і адразу знікаў Грануй нясцерпна пакутаваў Упершыню пакутаваў не толькі яго прагны характар, які напароўся на знявагу, а сапраўды пакутавала ягонае сэрца. Зарадзілася цьмянае адчуванне, што гэты водар — ключ да парадку ўсіх іншых пахаў, што нельга нічога зразумець у пахах, калі не зразумець гэтага адзінага, і ён, Грануй, марна пражыве жыццё, калі яму не ўдасца ім авалодаць. Ён павінен дастаць, выдабыць яго не проста дзеля таго, каб наталіць прагу валодання, а дзеля спакою свайго сэрца.

Яму мала не зрабілася дрэнна, аж так яго разабрала. Ён нават яшчэ не ўстанавіў, адкуль увогуле ішоў гэты пах. Часам інтэрвалы паміж павевамі доўжыліся хвілінамі і кожнага разу на яго нападаў жудасны страх, што ён выпусціць яго назаўсёды Нарэшце ён зрабіў выратавальную выснову, што водар плыве з па-таго боку ракі, аднекуль бо з паўднёвага ўсходу.

Адштурхнуўшыся ад сцяны павільёна Флоры, Грануй нырнуў у людскую гушчыню і пачаў traляваць сабе дарогу праз мост Ён штохвіліны спыняўся, падымаўся на пальчыкі, каб прынюхацца паверх галоў, спачатку, страшэнна ўзрушаны, не чуў нічога, тады нарэшце нешта ўлоўліваў, чапляўся за пах нават мацней, чым раней, пераконваўся, што рухаецца да мэты, зноў ныраў у натоўп разяваў і піратэхнікаў, якія беспераста нку падносілі паходні да кнатоў шуціх, упускаў свой арыенцір у едкім парахавым дыме, панікаваў, зноў локцямі і ўсім корпусам працісквўся наперад. Праз некалькі бясконцых хвілін ён апынуўся на другім беразе, абмінуў асабняк Маі, набярэжную Малакэ, тое месца, дзе падыходзіць да ракі вуліца Сены.

Тут ён спыніўся, перавёў дух і прынюхаўся. Ён злавіў яго. Цяпер не ўпусціць. Водар, быццам стужка, спускаўся па вуліцы Сены, непаўторны і выразны, але ўвесь час такі пяшчотлівы і вельмі тонкі Грануй адчуў, як б'ецца ягонае сэрца, і зразумеў, што б'ецца яно не ад напружанасці бегу, а ад раптам паўсталай бездапаможнасці перад гэтым пахам Ён намогся ўспомніць што-небудзь падобнае, але ўсе параўнанні адпадалі. У гэтым паху была свежасць, але не свежасць лімонаў ці памеранцаў, не свежасць міры, ці карынкавага лісця, ці кучаравай мяты, ці бярозавага соку, ці камфары, ці хваёвай іглiцы, не свежасць майскага дажджу, ці марознага ветру, ці крынічнай вады .. і адначасова з яго цякло цяпло; але не так, як бергамот, кіпарыс або мускус, не як язмін і нарцыс, не як ружавы куст і не як касач.. У гэтым паху зліваліся і тое, і другое, лятучае і цяжкае, але пахі не проста змешваліся, а былі нечым адзіным і да таго ж невялікім і слабым і ў той самы час трывалым і моцным, як кавалак тонкага пералівістага шоўку але не, гэта было не як шоўк, а як салодкае мядовае малако, у якім распускаецца піропжнае,— але тады адно з адным не вязалася, як ты таго ні хоч: малако і шоўк! Нейкі неспасцігальны пах, неапісальны, ён не ўмяшчаўся ў нівошта, зрэшты яго наогул не павінна было быць. І ўсё-такі ён быў — у самай раскошнай неаспрэчнасці. Грануй ішоў за ім, і сэрца ў яго грукатала, ён цьмяна здагадваўся, што не ён ідзе за пахам, а што пах захапіў яго ў палон і цяпер неадольна вабіць да сябе.

Ён рушыў уверх па вуліцы Сены. На вуліцы ні душы Дамы стаялі, пустыя. Людзі сышлі

ўніз да ракі, на феерверк. Тут яму не заважалі ні разгарачаны пах людскога збою, ні параха-вы смурод. Вуліца пахла як звычайна — вадой, памыямі, пацукамі і гнілой гароднінай. Але над усім гэтым лунала пяшчотна і выразна тая самая стужка, якая прывяла сюды Грануя. Праз некалькі крокаў слабенькае святло начнога неба паглынулі высокія дамы, і Грануй па-йшоў далей у цемры. Яму не было патрэбы што-небудзь бачыць. Пах надзейна вёў яго.

Метраў праз пяцьдзесят ён збочыў на вуліцу Марэ, у зусім ужо цёмны завулак, раскінуўшы рукі, можна было дастаць да сцен абапал бруку. Дзіўна, але пах тут не дужа каб памацнеў. Ён толькі пачысцеў і, дзякуючы гэтаму, дзякуючы ўсё большай чысціні, рабіўся не-адчэпна панадным. Грануй ішоў як бы супроць волі. У адным месцы пах цвёрда павярнуў яго направа, яму здалося, што ён зараз, вось-вось саўганецца носам у сцяну якогась дома. Але пасярэдзіне сцяны аказалася нізкая арка. Як лунатык, Грануй прайшоў праз арку ў двор, за-вярнуў за вугал, выйшаў яшчэ ў адзін дворык, ужо меншы, і тут нарэшце было святло: асвет-лены быў квадрат двара, усяго некалькі крокаў Да сцяны пад косым нахілам была прыбуда-вана павець. На стале пад павеццю гарэла свечка. За сталом сядзела дзяўчына і перабірала мірабэль. Яна брала слівіну з каша, злева ад сябе, адшчыквала чарашок, нажом даставала костачку і кідала ў вядро. Ёй было гадоў трынаццаць-чатырнаццаць. Грануй застыў. Ён адра-зу зразумеў, што было крыніцай духмянасці, якую ён учуў больш чым за паўмілі на тым бера-зе ракі: не гэты брудны двор, не мірабэль. Крынічыла дзяўчына.

Ён быў зусім збіты з панталыку На імгненне яму сапраўды здалося, што яшчэ ніколі ў жыцці ён не ўдыхаў нічога такога цудоўнага, як гэтая дзяўчына. Да таго ж, стоячы супроць святла, ён бачыў толькі яе абрыс. Ён вядома меў на ўвазе, што ніколі не нюхаў нічога такога цудоўнага. Але таму, што ён усё-такі ведаў чалавечыя пахі, тысячы і тысячы пахаў мужчын, жанчын, дзяцей, у яго ў мазгах ніяк не ўкладвалася, што такі вытанчаны водар мог існаваць ад чалавека. Звычайна людзі пахлі пошла і гаротна. Дзеці пахлі безгустоўна, ад мужчын паты-хала мачой, вострым потам і сырам, ад жанчын — з'ялчэлым лоем і тухлай рыбай. Людзі пахлі зусім нецікава, агідна... І вось упершыню ў жыцці Грануй не паверыў свайму носу, і яму да-вялося паклікаць на дапамогу вочы, каб пераканацца, што нюх яго не падвёў. Праўда, гэтае замяшанне пачуццяў не задоўжылася Яму і праўда годзе было аднаго імгнення, каб аптычна пацвердзіць свае нюхальныя ўражанні і з тым большай безагляднасцю аддацца ім. Цяпер ён адчуваў, што яна была — чалавек, чуў пот яе падпашак, тлушч яе валасоў, рыбны пах яе сцёг-наў, і гэта давала яму найвышэйшую асалоду. Яе пот духмяніўся, як свежае марское паветра, валасы — як арэхавы алей, сцёгны — як букет вадзяных лілеяў, скура — як абрыкосавая кве-цень. . і сума ўсіх гэтых кампанентаў давала духмянасць такую раскошную, такую гар-манічную, такую чароўна-вабную, такую гаюча-панадную, што ўсе пахі, якія Грануй хоць раз калі чуў раней, усе канструкцыі з пахаў, якія ён, як бы між іншым хоць раз калі ладзіў унутры сябе, раптам проста разваліліся, страцілі сэнс. Сто тысяч пахаў не пераважвалі аднаго гэта-га. Ён адзін быў найвышэйшы прынцып, усе астатнія павінны былі падладзіцца пад гэты ўзор. Ён быў дасканалая прыгажосць.

Грануй зразумеў: калі ён не завалодае гэтым водарам, яго жыццё не мецьме сэнсу. Ён павінен спазнаць яго да драбніц, да самага апошняга найдалікатнейшага адцення; проста агульнага ўспаміну пра яго мала. Ён хацеў як бы паставіць асабістае кляймо на гэтым апафе-озным водары, удрукаваць яго ў неразбярыху сваёй чорнай душы, даследаваць да тонкасці і далей ужо мысліць, жыць, нюхаць свет у адпаведнасці з унутранымі структурамі гэтай ча-роўнай формулы.

Ён павольна падступаў да дзяўчыны, бліжэй, яшчэ бліжэй. Вось ён ступіў пад павець і спыніўся за крок у яе за спінай. Яна яго не чула.

Валасы ў яе былі рыжыя, шэрая сукенка без рукавоў агаляла вельмі белыя плечы і рукі, жоўтыя ад соку разрэзаных сліў. Грануй стаяў, схіліўшыся над ёю і ўдыхаючы яе пах, цяпер ужо без ніякіх дамешак, ён падымаўся ад яе патыліцы, валасоў, выразу ў сукенцы і ўліваўся ў яго, як свежы вецер. Яму яшчэ ніколі не было так прыемна. Але дзяўчыне зрабілася холадна.

Яна не бачыла Грануя. Але адчула неўсвядомлены сполах, дзіўную зябкасць, быццам яе раптам агарнуў забыты, даўно пераадолены страх. Ёй здалося, быццам за спінай у яе пацяг-нуў халодны, знобкі продзімень, быццам нехта адчыніў дзверы ў велізарны склеп. І яна ад-клала свой кухонны нож, прыцiснула рукі да грудзей і абярнулася.

Ды так і скамянела ад жаху, угледзеўшы яго, што яму якраз хапіла часу, каб сціснуць яе рукамі за шыю. Яна не крыкнула, не варухнулася, не спрабавала абараніцца хоць бы рухам





якім. А ён і не зірнуў на яе. Ён не бачыў ні яе далікатнага, усыпанага канапацінкамі твару, ні чырвонага рота, ні вялікіх ярка-зялёных вачэй, бо, пакуль ён душыў яе, вочы ў яго былі моцна заплюшчаныя, і ён баяўся толькі аднаго — страціць хоць кроплю яе паху.

Калі яна знежывела, ён паклаў яе на зямлю сярод костачак мірабэлі, садраў з яе сукенку, і струмень водару ператварыўся ў паток, які захліснуў яго сваёй раскошаю. Ён прынік тварам да яе скуры і правёў ноздрамі ад жывата да грудзей, да шыі, па твары і па валасах і назад да жывата, уніз па сцёгнах, па лытках, па яе белых нагах. Ён увабраў яе пах з галавы да ног, да кончыкаў пальцаў, ён пазбіраў рэшткі яе паху з падбародка, пупка і са згінаў яе локцяў.

Калі ён выдабыў усё і яна завяла, ён яшчэ нейкі час сядзеў побач з ёю на кукішках, каб апамятацца, бо перанасыціўся ёю. Ён не хацеў расплюхаць нічога з яе паху. Для пачатку яму трэба было шчыльна задраіць унутраныя пераборкі. Потым ён устаў і патушыў свечку.

## 9

А тым часам з песнямі і крыкамі «Віват!» пачалі вяртацца дамоў на вуліцу Сены ўдзельнікі гуляння. Грануй нюхам знайшоў у цемры выйсце ў завулак, а адтуль на паралельную вуліцу Птыз-Агюстэн, якая таксама вяла да ракі. Крыху пазней людзі знайшлі мёртвую. Усчаўся крык. Запалілі паходні. Прыбыла гарадская варта. Грануй даўно ўжо быў на другім беразе.

У гэтую ноч яго каморка здалася яму палацам, а нары — шыкоўным альковам. Дагэтуль ён ніколі за ўсё жыццё не адчуваў шчасця. Хоць і здараліся рэдкія хвіліны тупой задаволенасці Але цяпер ён дрыжаў ад шчасця, не мог заснуць ад асалоды. Ён быццам другі раз нарадзіўся, не, не другі, а першы, бо дагэтуль ён проста існаваў, як жывёліна, меў вельмі цьмянае ўяўленне пра сябе самога. Сёння яму задалося, што ён нарэшце давэдаўся, хто ж ён усё-такі ёсць: а менавіта не хто там які, а геній; і што ягонае жыццё мае сэнс, і задачу, і мэту, і вышэй-шую наканаванасць; а менавіта — здзейсніць рэвалюцыю, аніяк не менш, у свеце пахаў; і што на ўсім свеце толькі ён адзін мае патрэбныя на гэта сродкі: вытанчаны нюх, фенаменальную па-мяць і — самае важнае — запамятаны пах дзяўчыны з вуліцы Марэ, у якім у чароўнай формуле змешчана ўсё, з чаго складаецца водарнасць: пяшчота, сіла, трываласць, шматграннасць і вусцішная неадольная прыгажосць. Ён знайшоў компас свайму будучаму жыццю. І як усе геніяльныя пачвары, зладжаныя так, што праз знешнюю падзею прыкладваюцца каляіны ва ўзвіхураны хаос іхніх душаў, Грануй ужо больш не ўхіляўся ад таго, што ён прымаў і прызнаваў за кірунак свайго лёсу. Цяпер яму зрабілася ясна, чаму ён так упарта і зацята чапляецца за жыццё: ён павінен быў зрабіцца Творцам пахаў. І не абы-які. А найвялікшым парфумнікам усіх часоў.

Ужо тае ж ночы, спачатку чуваючы, потым у сне, ён праінспектаваў велізарнае поле з руінамі сваіх успамінаў. Ён перабраў мільёны і мільёны абломкаў, кубікаў, цаглінак, з якіх будуюцца пахі, і сістэматычна іх упарадкаваў: добрае да добрага, благое да благога, тонкае да тонка-га, грубае да грубага, смярдзючае да смярдзючага, пахучае да пахучага. Праз тыдзень гэты па-радак стаў яшчэ больш зладжаны, каталог пахаў яшчэ больш змястоўны і дыферэнцыраваны, іерархія яшчэ выразнейшая, ужо неўзабаве ён мог прыступіць да планавага будаўніцтва гмахаў паху: дамы, сцены, лесвіцы, вежы, сутарэнні, пакоі, тайнікі... з кожным днём больш шырокая, з кожным днём усё прыгажэйшая ўнутраная моц цудоўных пахавых кампазіцый.

Тое, што на пачатку гэтай раскошы стаяла забойства (калі толькі ён наогул усведамляў гэта), ані яму не абыходзіла. Вобразу дзяўчыны з вуліцы Марэ — яе твару, яе цела — ён ужо не мог успомніць. Бо ж ён захаваў самае лепшае, што выбраў і прысвоіў: сутнасць яе духмянасці.

Тымі часамі ў Парыжы было больш тузіна парфумнікаў. Шасцёх з іх жыло на правым беразе, шасцёх — на левым, а адзін якраз пасярэдзіне, якраз на мосце Мяняйлаў, што злучаў правы бераг з востравам Сітэ. Гэты мост забапал быў так шчыльна забудаваны чатырохпа-вярховымі дамамі, што з яго з ніводнага месца нельга было ўбачыць ракі, так што складвала-ся ўражанне нармальнай, грунтоўнай, добра выбрукаванай і да таго ж досыць элегантнай вуліцы. І сапраўды, мост Мяняйлаў лічыўся адным з самых модных кварталаў горада. Тут былі славутыя лаўкі, дзе свой тавар выстаўлялі ювеліры, разбяры па чорным дрэве, найлепшыя вырабшчыкі парыкоў, чамаданаў, сумак і кашалькоў, найтанчэйшай сподняй бялізны і пан-чох, рамак на карціны і ботаў на верхавую язду, вышывальнікі эпалетаў, гутнікі па залатых гузіках і банкіры. І сама тут былі крама і жылы дом парфумніка і пальчатніка Джузэпэ Бальдзіні. Над яго вітрынай была напята шыкоўная зялёная паветка, побач вісеў герб

Бальдзіні, увесь у золаце: залаты флакон з букетам залатых кветак, а перад дзвярыма ляжаў чырвоны дыванок, таксама ўгербаваны, шыты золатам. Калі адчыняліся дзверы, тылікаў званочак і выконваў персідскую мелодыю, і дзве срэбныя чаплі пачыналі выпырскваць фіялкавую ваду з дзюбаў у пазалочаную міску, якая акурат жа зноў была ў форме герба Бальдзіні

А за канторкаю са светлага буку стаяў сам Бальдзіні, стары і маналітны, як калона, у парыку, абсыпаным пудрай, у каптане, абшытым залатым галуном Воблака міндальнай вады Франжыпані, якою ён пырскаўся штораніцы, проста відавочна ахінала і адсоўвала ягоную асобу ў нейкую празрыста-імглістую далеч. У гэтай нерухомасці ён нагадваў манекен самога сябе. Толькі калі тылікаў меладычны званочак і чаплі пачыналі фантанаваць — што здаралася не вельмі часта,— манекен імгненна ажываў, стульваўся, рабіўся маленькі і ўвішны і, сцелючы паклоны і паклончыкі, вылятаў з-за канторкі так імкліва, што пахучае воблака ледзьве паспявала за ім, пасля найпакорлівейшым чынам прасіў кліента прысесці і ўчаставацца выбарам найадборнейшых духмянасцяў і касметычных цудотаў

У Бальдзіні іх былі тысячы. Асартымент — ад чыстых эсэнцый, кветкавых алеяў, настоек, выцяжак, узвараў, сакрэцый, бальзамаў і бальсанаў, смолаў і іншых прэпаратаў у сыпучым, цякучым і цягучым выглядзе — памады, пасты, усемагчымыя пудры і мыла, сухія духі, фікстуры, брыльянціны, эліксіры для дагляду барады, кроплі на звод бародавак і малюпасенькія пластыры, каб выпраўляць пахібы знешнасці — аж да прыцірак, ласьёнаў, духмяных соляў, туалетных вадкасцяў і безлічы розных духоў Але Бальдзіні не абмяжоўваўся гэтымі прадуктамі класічнай касметыкі. Ён лічыў за гонар збіраць у сваёй лаўцы ўсё,што сачылася хоць якім водарам або хоць як надавалася на выдабыванне водару. І таму апрача курыльных свечак, пасцілак і стужачак там меліся ўсе пахошчы — ад насення анісу да карынкі, сіропы, лікёры і фруктовыя воды, віны з Кіпра, Малагі і з Карынта, мноства гатункаў мёду, кавы, чаю, гарбаты, сушоныя і цукраваныя фрукты, смоквы, карамелі, шакаладкі, каштаны, нават кансерваваныя каперсы, гуркі і цыбуля і марынаваны тунец. Апрача ж таго, араматызаваны сургуч на пячаткі, надушаная папера, чарніла для любоўных пісьмаў з пахам ружовага алею, бювары з гішпанскай скуры, футаралы пад пёры з белай сандалавай драўніны, горшчычкі і місачкі пад пялёсткі, курыльніцы з латуні, флаконы і флакончыкі з крышталю з прыцёртымі бурштынавымі каранцамі, пахучыя пальчаткі, хусцінкі, падушачкі для іголак, набітыя мускатным цветам і прапашаныя мускусам шпалеры, якія маглі сто гадоў напаўняць пакой пахам.

Ясна, на ўвесь гэты тавар не хапіла б месца ў пампезнай лаўцы, якая выходзіла на вуліцу (гэта значыцца, на мост), а як што падвала не было, дык не толькі кладоўка, але і другі і трэці паверхі, а таксама ўсе павернутыя да ракі памяшканні першага служылі складам У выніку ў доме ў Бальдзіні панаваў неверагодны, аж не апісаць, хаос пахаў. Наколькі выштукаваная была якасць асобных тавараў — бо Бальдзіні купляў тавар толькі найвышэйшай якасці,— настолькі нязносны быў пах, які з іх вывяргаўся адначасова, падобны на гучанне аркестра, у якім кожны з тысячы музыкантаў грае фартысіма сваю адмысловую партыю. Сам Бальдзіні і яго службоўцы даўно прынюхаліся да гэтага хаосу, як прыстарэлыя дырыжоры, якія ж бо ўсе да аднаго тугавухія, і нават жонка, пані спадарова, якая жыла на чацвёртым паверсе і з усёй сілы супраціўлялася далейшаму наступу складскіх памяшканняў, амаль усе прыцярпеліся да пахаў. Іншая справа — кліент, які ўпершыню наведваў лаўку Бальдзіні. Кактэйль пахаў дзейнічаў на яго, як удар кулаком у твар, выклікаў, залежна ад характару кліента, захапленне і збянтэжанасць, прынамсі, збіваў яго з панталыку да такой ступені, што чалавек часта пераставаў цяміць, чаго ён наогул прыйшоў сюды. Пасыльныя хлопчыкі забываліся пра свае даручэнні. Нахабныя паны бянтэжыліся. А некаторыя дамы перажывалі ці то істэрыку, ці то прыступ клаўстрафобіі, млелі, і прывесці іх да памяці маглі хіба што самыя рэзкія нюхальныя солі з гваздзіковага алею, нашатыр і камфарны спірт

Пры такіх акалічнасцях увогуле не дзіва, што званочак на дзвярах лаўкі Джузэпэ Бальдзіні ўсё радзей вызвоньваў персідскую мелодыю, а срэбныя чаплі ўсё радзей фантанавалі фіялкавай вадой.

## 10

— Шанье! —гукнуў Бальдзіні з-за канторкі, дзе ён некалькі гадзін прастаяў слупом, утапырыўшыся на зачыненыя дзверы — Надзявайце ваш парык! — І паміж барылкай з





аліўкавым алеем і павешанымі на гачкі баёнскімі кумпякамі паявіўся Шанье, чаляднік Бальдзіні, таксама ўжо стары чалаавек, хай і маладзейшы за гаспадара, і прайшоў наперад, у больш далікатна абсталяванае памяшканне лаўкі Ён дастаў з каптана свой парык і ўспёр яго на галаву

— Вы сыходзіце, мсье Бальдзіні?

— Не,— сказаў Бальдзіні,— я адскочу на гадзіну-другую ў кабінет і хачу, каб мяне абсалютна ніхто не турбаваў.

— А, разумею! Вы творыце новую парфуму

Бальдзіні. Менавіта. На заказ графа Верамона. Ён хоча араматызаваць кавалак гішпанскай скуры і патрабуе чагосьці цалкам новага. Патрабуе чагосьці накшталт. накшталт... здаецца, гэта называецца «Амур і Псіхея» — тое, чаго ён патрабуе, а выраблена яно гэтым бяздарным ёлупам з вуліцы Сэнт-Андрэ-дэз-Ар. . як гэта яго там.

Шанье. Пелісье.

Бальдзіні Во. Пелісье.Так яго завуць, гэтага ёлупа. «Амур і Псіхея» ад Пелісье. Ведаеце гэтыя духі?

Шанье. Дзіва што. Цяпер іх чуеш ад кожнага. Імі душыцца ўвесь свет Але калі вас цікавіць мая думка — нічога асаблівага! Яны, вядома, не цягнуць на параўнанне з вашымі, мсье Бальдзіні.

Бальдзіні. Вядома, не цягнуць.

Шанье. У вышэйшай ступені банальны пах у гэтага «Амура»

Бальдзіні Вульгарны?

Шанье. Вельмі вульгарны, як ва ўсіх духоў Пелісье. Я думаю, яны на ліметыне.

Бальдзіні. Ты так думаеш? А што там яшчэ?

Шанье. Памеранцавая эсэнцыя, здаецца. І, магчыма, настойка размарыну.

Бальдзіні. Мне гэта ўсё адно.

Шанье. Вядома

Бальдзіні. Мне напляваць, што там накалаціў у свае духі гэты боўдзіла Пелісье. Мне ён не ўказ!

Шанье. Ваша чыстая праўда, мсье.

Бальдзіні. Як вам вядома, мне ніхто не ўказ! Як вам вядома, я сам распрацоўваю свае парфумы.

Шанье. Я ведаю, мсье.

Бальдзіні Я сам спараджаю свае ідэі!

Шанье. Ведаю.

Бальдзіні І думаю стварыць графу Верамону нешта такое, што наробіць фурору

Шанье. Інакш і быць не можа, мсье Бальдзіні.

Бальдзіні. Пакідаю лаўку на вас, Шанье. Мне трэба папрацаваць. Не дазваляйце нікому турбаваць мяне, Шанье.

І з гэтымі словамі стары, ужо зусім не велічны, а згорблены, як яно і павінна быць у ягоным веку, і нават як бы прыгнечаны, пашкандыбаў і павольна падняўся па лесвіцы на другі паверх, дзе быў яго кабінет.

Шанье заняў месца за канторкай, прыняў такую самую, гаспадаровую паставу, і застылым позіркам прыляпіўся да дзвярэй. Ён ведаў, што будзе ў бліжэйшыя гадзіны, а менавіта: у лаўцы — роўна нічога, а наверсе, у кабінеце Бальдзіні, як заўсёды — поўная катастрофа. Бальдзіні здыме свой блакітны каптан, прапахлы вадой Франжыпані, сядзе за пісьмовы стол і будзе чакаць азарэння згары. Азарэння не будзе, натхненне не прыйдзе. Потым ён кінецца да шафы з флаконамі пробаў і пачне змешваць наўгад. Сумесь не атрымаецца Ён выбухне праклёнамі, адчыніць акно і шпурне пробу ў раку Потым паспрабуе змяшаць нешта іншае, і ў яго зноў нічога не атрымаецца, тады ён пачне крычаць і бушаваць і, адурэўшы ад пахаў, якія запоўняць кабінет, кінецца ў слёзы Гадзіны каля сёмай вечара ён спусціцца ўніз, гаротны, нікчэмны, зарумзаны, і скажа: «Шанье, я страціў нюх, я не магу стварыць гэтых пахошчаў, не магу нарадзіць гэтых духоў, не магу зрабіць бювар графу, я загінуў, усярэдзіне ў мяне ўсё памерла, я хачу памерці, калі ласка, Шанье, дапамажыце мне памерці!» І Шанье параіць пасланць да Пелісье па флакон «Амура і Псіхеі», і Бальдзіні згодзіцца на ўмове, што аніводная душа не дазнаецца пра гэтую ганьбу, Шанье пабожыцца, што аніводная, і ўначы яны таемна насыцяць бювар графа Верамона чужой парфумай Усё будзе акурат

гэтак, а не інакш, і Шанье хацеў толькі аднаго — каб камедыя хутчэй закончылася Бальдзіні больш не быў вялікі парфумнік. Так, раней, у маладосці, трыццаць, сорак гадоў назад ён склаў «Паўднёвую ружу» і «Галантны букет Бальдзіні»— два сапраўды вялікія водары, якімі ён заўдзячвае сваёй маладосцю. Але цяпер ён стары, і паношаны, і адстаў ад моды і ад новых густаў людзей, і нават калі яму наогул яшчэ давалася скялемзаць які-небудзь пах, дык атрымлівалася дапатопная нехадавая дрэнь, якую яны праз год у дзесяць разоў разрэджвалі і сплаўлялі ў розніцу як дамешку ў ваду фантанаў Шкада яго, падумаў Шанье і зірнуў у люстэрка спраўдзіцца, ці не з'ехаў набакір яго парык, шкада старога Бальдзіні, шкада яго цудоўнай лаўкі, бо ён збанкрутуе, і сябе шкада, бо пакуль той збанкрутуе, я паспею пастарэць і не змагу яе выкупіць...

## 11

Джузэпэ Бальдзіні хоць і зняў свой пахучы каптан, але толькі па старой звычцы. Пах вады Франжыпані даўно ўжо не дакучаў яго носу: за некалькі дзесяткаў гадоў ён так да яго прывык, што ўжо ўвогуле не заўважаў. Ён і дзверы ў кабінет зачыніў і цішыні запатрабаваў, але не прысеў да пісьмовага стала, каб мысліць і чакаць азарэння, бо ведаў лепей, чым Шанье, што натхненне яго не наведае. А ўсё ў тым, што яно ніколі яго і не наведвала. Так, слушна, ён быў стары, і зношаны, і перастаў быць вялікім парфумнікам, але ён ведаў, што ніколі ў жыцці і не быў ім. «Паўднёвую ружу» ён успадкаваў ад бацькі, а рэцэпт «Галантнага букета Бальдзіні» купіў у заезнага гандляра каланіяльнымі пахошчамі з Генуі Усе астатнія ягоныя духі былі даўно вядомыя сумесі. Ён яшчэ ніколі нічога не вынайшаў. Ён не быў вынаходца. Ён не быў педантычны выробшчык дабраякасных пахаў — накшталт кухара, які выдатна гатуе па добрых рэцэптах, але ніколі не прыдумае свайго варыва. Усю гэтую камедыю з лабараторыяй, і эксперыментамі, і натхненнем, і таямнічасцю ён напусціў толькі таму, што яна падтрымлівала яго рэнамэ майстра — парфумніка і пальчатніка. Парфумнік стварае цуды, ён напалову алхімік, лічаць людзі — тым лепей! Пра тое, што яго мастацтва —рамяство, як і любое іншае, ведаў толькі ён, і ў гэтым быў ягоны гонар. Ён і не хацеў быць вынаходцам. Вынаходніцтва даволі падазронае, лічыў ён, бо яно заўсёды азначае парушэнне правіла. Ён зусім не збіраўся выдумваць новыя духі графу Верамону. Прынамсі, Шанье не будзе ні ўмаляць яго, ні даставаць «Амура і Псіхею» Пелісье. Ён ужо дастаў гэтыя духі. Вось яны на стале каля акна, у маленькім шкляным флаконе з гранёным коркам. Ён купіў іх некалькі дзён назад. Ясна, не асабіста сам. Не можа ж ён жывой пярсонай заявіцца да Пелісье па духі! Ён дзейнічаў праз пасярэдніка, а той таксама праз пасярэдніка... Асцярожнасць ніколі не залішніцца. Бо Бальдзіні збіраўся не толькі скарыстацца гэтымі духамі для араматызацыі гішпанскай скуры, ды і не хапіла б яму аднаго флакона. Ён намысліў нешта горшае: скапіраваць іх.

Зрэшты, гэта не было забаронена. Гэта было толькі ў найвышэйшай ступені невысакародна. Таемна ўзнавіць духі канкурэнта і прадаваць пад сваім імем было жах як непрыстойна. Але яшчэ больш непрыстойна, калі цябе зловяць за руку, а таму Шанье не павінен нічога ведаць, бо ў Шанье не язык, а памяло.

Ах, як яно нядобра, што прыстойны чалавек павінен так выкручвацца! Як цяжка ахвяраваць самым каштоўным, што маеш, — так ганебна плаціць за свой гонар. А што рабіць? Як ні павярні, а граф Верамон такі кліент, якога грэх страціць. Апрача графа кліентаў амаль не засталося. Зноў бегаеш за заказчыкам, як на пачатку дваццатых гадоў, калі ён толькі пачынаў кар'еру, цягаючыся з латкамі па вуліцах. Богу вядома, што ён, Джузэпэ Бальдзіні, уласнік самай вялікай і найбольш удала размешчанай парфумнай лаўкі ў Парыжы, фінансава вярнуўся на кругі свае, бо ўжо наведвае кліентаў у іх дома з чамаданчыкам у руках. А гэта яму зусім не падабалася: яму ж было ўжо за шэсцьдзесят, і ён не пераварваў чакаць у халодных прыхожых і расхвальваць старым маркізам туалетную ваду, настоеную на крываўніку, воцат «Чатыры разбойнікі» або мазь ад мігрэняў. Акрамя таго, у прыхожых панавала проста мярзотная канкурэнцыя. Напрыклад, гэты выскачка Бурэ з вуліцы Дафіна, які божыцца, што ў яго самы багаты выбар памад у Еўропе; або Кальто з вуліцы Макансей, які працерабіўся ў асабістыя пастаўшчыкі графіні д'Артуа, або вось зусім непрадказальны Антуан Пелісье з вуліцы Сэнт-Андрэ-дэз-Ар, які кожнага сезону ўводзіў у моду новыя духі, за якімі ўвесь свет прападаў.





Такія духі ад Пелісье маглі абярнуць у хаос увесь рынак. Калі ў сезоне ў моду бралася мадзярская мода і Бальдзіні адпаведна назапашваў лаванду, бергамот і размарын,— Пелісье выступаў з «Млосцю», перанасычанай мускусным пахам. Усіх раптам разбірала жывёльная прага патыхаць мускусам, і Бальдзіні нічога не заставалася, як пераганяць свой размарын на ваду для мыцця галавы і зашываць лаванду ў нюхальныя мяшэчкі Затое калі налета ён заказваў адпаведную колькасць мускусу, цыбетыну і кастарэўму, Пелісье згопалу прыдумваў пахошчы пад назвай «Лясная кветка» і яны імгненна выбіваліся на поспех. Цаною доўгіх начных доследаў або падкупляючы за шалёныя грошы шпіёна, Бальдзіні нарэшце вясвятляў, з чаго складецца тая «Лясная кветка», — а Пелісье ўжо казыраў «Турэцкімі начамі», або «Лісабонскім водарам», або «Букетам каралеўскага двара» або чорт яго ведае чым яшчэ. У кожным разе, гэты чалавек са сваёй неакілзанай вынаходлівасцю быў небяспечны ўсяму рамяству. Як тут было не пашкадаваць, што суворая часіна цэхавага права адышла ў нябыт. Да такога нахрапістага выскачкі, да такога тарбахвата, урвікавалка такога, які нажываецца на інфляцыі пахаў, варта было б ужыць самыя драконаўскія меры Адабраць бы ў яго патэнт, забараніць соваццa ў парфумныя справы. І наогул, хай бы гэты прайдзісвет спачатку тагосяго як след навучыўся! Ён жа не быў вывучаны парфумнік і пальчатнік, гэты Пелісье! Яго бацька быў усяго толькі нейкі цадзільшчык воцату, і Пелісье быў цадзільшчык воцату, а не хто які там. І проста таму, што цадзільшчыкі воцату маюць доступ да спіртавых прадуктаў, яму ўдалося ўшыцца ў кола сапраўдных парфумнікаў, і цяпер ён шуруе там, як смярдзючы тхор. Навошта, скажыце, штосезону ўводзіць новыя пахошчы? Якая ў гэтым патрэба? Якая рацыя? Раней публіка спраўна абыходзілася фіялкавай вадзіцай і простымі кветкавымі сумесямі, якія хіба што злёгку мяняліся раз у дзесяць гадоў, і не плакала. Тысячы гадоў людзям хапала ладану і міры, некалькіх бальзамаў, алеяў і сушаных каранёў — і жылі. Нават пасля таго, як людзі навучыліся з дапамогаю колбаў і перагонных кубаў рабіць дыстыляваную ваду, парай адбіраць у траў, кветак і рознай драўніны іх пахучую сутнасць у выглядзе эфірнага алею, дубовымі прэсамі чавіць яго з насення, костачак і кажуры садавіны або старанна прафільтраванымі тлушчамі даставаць яго з пялёсткаў, колькасць пахаў была яшчэ абмежаваная. У тыя часы такі тып, як Пелісье, наогул не мог паявіцца: бо ў тыя часы нават на выраб простай шмінкі спатрэбіліся б здольнасці, якіх у гэтага воцатніка і заводу няма. Трэба было не толькі ўмець дыстыляваць, трэба было рабіць масці, быць аптэкарам, алхімікам і рамеснікам, гандляром, гуманістам і садоўнікам адначасова. Умець адрозніць лой з авечай ныркі ад тлушчу цялячага, а фіялку «вікторыя» ад пармскай фіялкі — гэта вам не хурды-мурды А ведаць, калі выспяваюць геліятропы і калі цвіце пеларгонія і што кветка язміну з усходам сонца траціць духмянасць? Такіх тонкасцяў суб'ект кшталту Пелісье, зразумела, не ведаў. Вельмі магчыма, што ён ніколі яшчэ і не з'язджаў з Парыжа, ніколі ў жыцці не бачыў, як цвіце язмін. Яму і не снілася, якая патрэбна гіганцкая чорная праца, каб са ста тысяч язмінавых пялёсткаў выдабыць маленечкі камячок канкрэцыі або некалькі кропелек чыстай эсэнцыі. Мабыць, ён ведаў толькі яе, ведаў язмін толькі ў выглядзе канцэнтраванай цёмнакарычневай вадкасці ў маленькім флаконе, які стаяў у яго ў незгаральнай шафе побач з многімі іншымі флакончыкамі, з якіх ён змешваў свае модныя духі. Не, у добрыя старыя часіны, калі рамяство шанавалася, такі працмыга, як гэты Пелісье, не паткнуўся б у парфумнікі. Яму на тое нічога ад Бога не дадзена: ні характару, ні адукацыі, ні сціпласці, ні паняцця пра цэхавую субардынацыю. Усімі сваімі поспехамі ён абавязаны выключна адкрыццю, зробленаму дзвесце гадоў назад геніяльным Маўрыцыё Франжыпані — дарэчы, італьянцам!— і яно было ў тым, што духмяныя рэчывы распускаюцца ў вінным спірце. Змяшаўшы пахучыя парашкі з алкаголем і перанёсшы тым самым іх пах на лятучую вадкасць, ён вызваліў пах ад матэрыі, адухавіў яго, вынайшаў пах як чысты пах, карацей — стварыў духі. Які вялікі чын! Які эпахальны подзвіг! Яго сапраўды можна параўнаць толькі з найвялікшымі дасягненнямі чалавечага роду, з вынаходствам пісьмовасці асірыйцамі, з эўклідавай геаметрыяй, з ідэямі Платона і ператварэннем вінаграду ў віно грэкамі. Сапраўды, праметэеўскі подзвіг! Але як што ўсе вялікія подзвігі духу адкідаюць не толькі святло, але і цень, і прыносяць чалавецтву разам з даброцямі яшчэ бядоты і смуткі, дык і дзівоснае адкрыццё Франжыпані мела, на жаль, благія наступствы. Бо з таго часу, як людзі навучыліся зачароўваць дух кветак і траў, дрэў, смолаў і сакрэцый жывёл і трымаць яго ў зачыненых флаконах, мастацтва араматызацыі паступова ўвінalася ад нямногіх універсалаў-рамеснікаў і адкрылася шарлатанам, якія толькі таго і ўмелі, што віжаваць і вынюхваць,— накшталт гэтага смярдзючага

ўдода Пелісье. Ані не маючы клопату за тое, як і калі ўзнікла чароўнае змесціва ягоных флаконаў, ён можа цяпер проста следаваць за капрызамі свайго нюху і мяшаць усё, што раптам заскочыць у галаву яму альбо публіцы.

Гэты слімак Пелісье ў свае трыццаць пяць ужо напэўна нагробся багацця больш за яго, Бальдзіні, назапасіў, нарэшце, дзякуючы цяжкай настойлівай працы трох генерацый. І набытак Пелісье дзень у дзень павялічваўся, а ягоны, Бальдзінін, дзень у дзень меней. За колішнім часам такога проста быць не магло! Каб шанаваны ўсімі рамеснік і паважаны негацыянт быў літаральна вымушаны змагацца за існаванне — такое пачалося ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў таму назад! З таго часу, як усіх закалаціла ліхаманка навізны, як падступіў нястрымны панос прадпрымальніцтва, як усіх апантала жывёльнае шаленства эксперыментацыі, як асляпіла ўяўная веліч гандлю, падарожжаў, навук!

Альбо як усе падурэлі на хуткасці! Навошта спатрэбілася столькі новых дарог? Навошта гэтыя новыя масты? Навошта? Каб за тыдзень даехаць да Ліёна? А які ў гэтым сэнс? Каму ад гэтага выгода? Нашто на злом галавы перціся цераз Атлантыку? Каб праз месяц ступіць у Амерыку? А людзі ж тысячы гадоў выдатна абыходзіліся без гэтага кантынента і тых вашых Амерык. Што згубіў цывілізаваны чалавек у першабытных нетрах у індзейцаў і неграў? Альбо ў Лапландыі, на Поўначы, дзе вечны лёд і дзе жывуць дзікуны і жаруць сырую рыбу? Мала вам таго — закарцела ім адкрыць яшчэ адзін кантынент, дзесьці ў паўднёвых водах, кажуць. А навошта гэтая бязглуздасць? Іншыя, бачыце, таксама так рабілі, іспанцы, праклятыя англічане, нахабныя галандцы, з якімі пасля давялося ваяваць, чаго наогул нельга было сабе дазваляць. 300 000 ліўраў гатоўкі — вось у што абыходзіцца толькі адзін ваенны карабель, а потым ён за пяць хвілін, даўшы нырца ідзе на дно ад аднаго гарматнага стрэлу, і бывайце навекі, грошы налогаплацельшчыкаў. Спадар міністр фінансаў патрабуе цяпер адпісваць яму дзесяціну з усіх даходаў, суцэльнае спусташэнне, нават калі не плаціць яму той дзесяціны, калі ўжо навокал пануе такая разбэшчанасць маралі і сапсутасць нораваў.

Усе гароты чалавека ад таго, што ён не хоча спакойна пасядзець дома, дзе яму і след сядзець. Так кажа Паскаль. Але ж Паскаль быў не абы-які чалавек, Франжыпані духу, майстар у сваім рамястве, а на такіх сёння попыту няма. Цяпер усе чытаюць падбухторніцкія кніжкі гугенотаў або англічан А то яшчэ пішуць трактаты, ці так званыя вялікія навуковыя творы, у якіх усё ставіцца пад пытанне Нібыта і няма болей нічога праўдзівага, вартага даверу, і ўсё раптам перамянілася У шклянках вады, бачыце вы мне, плаваюць малюсенькія букі, якіх раней, бачыце, ніхто не бачыў, сіфіліс цяпер быццам нармальная хвароба, а не кара Божая, Гасподзь, бач, стварыў свет не за сем дзён, а за мільёны гадоў, калі гэта наогул быў Гасподзь, дзікуны — такія самыя людзі, як і мы, дзяцей мы выхоўваем няправільна, зямля больш не круглая, як была дагэтуль, а сплюснутая зверху і знізу, як той гарбуз — быццам бы ўсё яно ў гэтым! Усе каму заўгодна задаюць пытанні, і капаюць, і даследуюць, і вынюхваюць, вынюхваюць, і нышкараць, нышкараць, і над чым толькі не эксперыментуюць. Цяпер мала сказаць, што і як, — не, зрабі ласку, дакажы, падай сведкаў, прывядзі лічбы, зрабі нейкія смеху вартыя доследы. Усялякія дзідэроты, і даламберы, і вальтэры, і русо, і іншыя пісакі, як ты іх ні называй — сярод іх пракідаюцца нават духоўныя асобы і высакародныя! — свайго дамагліся, свой падступны неспакой, распусную звычку да ненаедства і незадаволенасці ўсім на свеце, карацей, бязмежны хаос у сваіх галовах яны ўхітрыліся накінуць усяму грамадству!

Куды вокам ні кінь, усіх трасца трасе. Людзі чытаюць кнігі, нават жанчыны. Святары ў кавярнях. А калі аднаго разу ўмяшалася паліцыя і запраторыла ў турму аднаго такога рызыканта-шахрая, выдаўцы нарабілі голасу на ўвесь белы свет, а высокія паны і дамы заўжылі ўсю сваю прывабу, і таго праз колькі там тыдняў зноў выпусцілі і турнулі за мяжу, дзе ён потым ужо без ніякай завады крамзоліў далей свае памфлеты. У салонах балабоняць пра траекторыі камет і экспедыцыі, пра сілу рычага і Ньютана, пра пракладку каналаў, кровазварот і дыяметр зямное кулі.

І нават кароль дазволіў прадэманстраваць пры ім навамодную лухтамельшчыну, нешта накшталт штучнай навальніцы пад назвай электрычнасць: пры ўсім двары нейкі мужчына пашараваў бутэльку, і — грымнула навальніца, пасыпаліся іскры, і на яго вялікасць, як кажуць, гэта зрабіла не абы-якое ўражанне. Немагчыма сабе ўявіць, што ягоны прадзед, той сапраўды вялікі Людовік, чыё пераможнае караляванне Бальдзіні яшчэ меў шчасце застаць, дазволіў бы такое смяховіска ў сваёй прысутнасці! Але такі вось дух новага часу, і дабром усё гэта не скончыцца

Бо ўжо калі дазволена без ніякага сораму дзёрзка паняверыцца ў аўтарытэце царквы Божай; бо калі пра не менш багадайную манархію і свяшчэнную асобу караля гаворыцца проста як пра змену пазіцый у цэлым каталозе іншых формаў кіравання, якія можна выбіраць на свой густ; бо калі, нарэшце, дапялі да таго, што самога Бога, асабіста Усёмагутнага Госпада абвяшчаюць лішнім і на поўным вам сур'ёзе кажуць, што парадак, маральнасць і шчасце на зямлі можна змысліць і без Яго, проста дзякуючы прыроджанай маралі і розуму саміх людзей. о Божа, Божа! — тады якое ж вам тут дзіва, што ўсё ляціць дагары нагамі, і норавы ўшчэнт збэсціліся, і чалавецтва наклікала на сябе кару Таго, Каго яно адмаўляе. Гэта дрэнна скончыцца. Вялікая камета 1681 года, з якое яны жываты рвалі, якую яны лічаць проста кучай зорак, была папераджальнай азнакай Гасподняй, бо яна — цяпер дык мы ведаем — прадказала век распусты, распаду духоўнай, палітычнай і рэлігійнай багны якую чалавецтва самое сабе стварыла і ў якой яно калі-небудзь загразне і дзе пышным цветам закрасуюць толькі такія махровыя і смярдзючыя балотныя кветкі, як гэты — няма на яго здыхаты! — ваш Пелісье!

Стары Бальдзіні стаяў каля акна і ненавіднымі вачыма глядзеў на раку пад касымі промнямі сонца. Пад ім выныралі грузавыя лодкі і паволна плылі на захад да Новага моста і да прыстані каля галерэяў Луўра Ніводная з іх тут не падымалася ўгору супроць плыні, яны збочвалі ў рукаў ракі па той бок вострава. А тут усё імкнулася толькі міма, парожнія судны і наладаваныя, веславыя лодкі і рыбацкія пласкадонкі, рудая ад бруду вада і вада з залатым адлівам,— усё памыкалася ўпрочкі, спакваля, шырока і нястрымна. А калі Бальдзіні глядзеў уніз пад сабою, уздоўж сцяны дома, яму здавалася, што паток вады уцягвае ў сябе апоры моста, і ў яго круцілася галава.

Купля дома на мосце была памылкай, і памылка дубэльтам — купляць яго на заходнім баку І вось цяпер у яго заўсёды перад вачыма рака, якая імкнецца прэч, і яму здавалася, што ён сам, і яго дом, і яго нажытае за дзесяткі гадоў багацце таксама сплываюць прэч, як вось гэтая рака, а ён занадта стары і слабы, каб выстаяць супроць магутнага плыву Часам, выбіраючыся па справах на левы бераг у квартал каля Сарбоны або каля царквы св. Сульпіцыя, ён ішоў праз востраў і не па мосце Сэн-Мішэль, а даўжэйшай дарогай — праз Новы мост, бо гэты мост не быў збудаваны І тады ён спыняўся каля ўсходняга парапета і глядзеў уверх па цячэнні, каб хоць раз убачыць, як усё імкнецца яму насустрач; і на некалькі хвілінак аддаваўся салодкім марам пра тое, як інтэрас яго працвітае, сям'я дабрашчасціцца, жанчыны не даюць яму праходу і яго маёмасць, замест таго каб сплываць, усё расце і падрастае.

Але потым, калі ён падводзіў вочы крыху ўгору, ён бачыў за нейкіх сто метраў свой уласны дом, высока на мосце Мяняйлаў, перакошаны і цесны; ён бачыў вокны свайго кабінета на другім паверсе і самога сябе, там, каля акна, як вось ён глядзіць уніз на раку, на ваду, якая сплывае прэч, як вось цяпер. І на гэтым цудоўная кроза канчалася, і Бальдзіні, на Новым мосце, адварочваўся, больш прыгнечаны, чым быў, больш прыгнечаны, чым цяпер, калі ён адвярнуўся ад акна, падышоў да пісьмовага стала і сеў

## 12

Перад ім стаяў флакон з духамі Пелісье. Залаціста-бурая вадкасць пералівалася ў сонечным святле, была празрыстая, без следу хоць якой каламуці. Яна выглядала абсалютна нявінна, як светлая гарбатка,—і ўсё ж акрамя чатырох пятых спірту ў ёй была адна пятая таямнічай сумесі, якая магла перавярнуць цэлы горад. Гэтая сумесь, у сваю чаргу, складалася, падобна на тое, з трох або трыццаці розных рэчываў у нейкіх вельмі пэўных (з бясконца магчымых) аб'ёмных суадносінах адно з адным Гэта была душа парфумы — калі, кажучы пра парфуму гэтага халоднага як лёд прадпрымальніка Пелісье, выпадае дарэчы згадваць душу,— і яе склад трэба было цяпер высветліць.

Бальдзіні добранька высмаркаўся і, крыху счакаўшы, апусціў жалюзі на акне, бо адкрытае сонечнае святло шкодзіць любому пахучаму рэчыву і любой больш-менш далікатнай кампазіцыі пахаў З шуфляды ён дастаў свежую белую хусцінку і расправіў яе. Пры гэтым ён

адкінуў галаву далёка назад і затуліў нос — крый Божа ўлавіць похапкам з бутэлькі першае неасцярожнае нюхальнае ўражанне. Духі трэба нюхаць у іх свабодным, лятучым стане і ані ў якім разе не ў канцэнтраваным. Ён змачыў некалькімі кропелькамі хусцінку, памахаў ёю, каб выветрыць алкаголь, а потым наблізіў да носа. Трыма вельмі кароткімі поцягамі ён увабраў у сябе пах, нібы гэта быў парашок, тут жа выдыхнуў яго, памахаў рукою, набліжаючы да сябе паветра, яшчэ раз прынюхаўся, зрабіў у заключэнне глыбокі ўдых і павольна, раз-пораз затрымліваючы дыханне, выдыхнуў паветра, нібы выпускаючы яго на доўгую плоскую лесвіцу Ён кінуў хусцінку на стол і адваліўся на біла крэсла.

Духі былі да агіды — цудоўныя. Гэты нікчэмнік Пелісье, на жаль, петрыў у сваёй справе. Божухны, які майстар, хай сабе нават тысячу разоў нічому не вучаны! Бальдзіні хацеў бы, каб гэтыя духі былі ягоныя—«Амур і Псіхея» У іх не было поцемку вульгарнасці. Абсалютна класічны пах, зграбны, завершаны і гарманічны. І разам з тым дзівосна новы Ён быў свежы, але не настырны. Ён быў кветкавы, але не саладжавы. У ім была глыбіня, раскошная, панадная, вабная, цёмна-бурая глыбіня — і пры гэтым ніякай перагружанасці, ніякай напышлівай рыторыкі.

Бальдзіні ледзь не багавейна ўстаў і яшчэ раз паднёс да твару хусцінку. «Цудоўна, цудоўна... — мармытаў ён, прагна ўнюхваючыся.— У ім ёсць гарэзлівасць, ён чароўны, як мелодыя, аж падымае настрой... Якая дрэнь, якое паскудства!» І ён ашалела шпурнуў хусцінку на стол, адвярнуўся і адышоў у самы далёкі куток кабінета, быццам засаромеўся свайго захаплення. Смешна ўпадаць у такое недарэчнае красамоўства. «Мелодыя. Гарэзлівасць. Чароўнасць. Падымае настрой. .» — якая лухта! Дзіцячая балбатня Хвіліннае ўражанне. Стары грэх. Пытанне тэмпераменту. Хутчэй за ўсё італьянская спадчыннасць. Ніколі не ахінайся першым уражаннем! Гэта ж залатое правіла, Бальдзіні, стары ты асёл! Калі нюхаеш — нюхай, а выракай потым! «Амур і Псіхея» — духі, канечне. Нават неблагія. Даволі ўдалы выраб. Спрытна схляпаная халтура. Каб не сказаць падробка. А чаго яшчэ, каб у вас папытацца, акрамя падробкі можна спадзявацца ад чалавека кшталту Пелісье? Ясна, такая вантробіна, як Пелісье, не будзе табе фабрыкаваць абы-што і абы-як. Махляр, ён умее напусціць туману ў вочы, збіць з панталыку нюх дасканалай гарманічнасцю паху, воўк у авечым руне класічнага мастацтва, вось хто гэтая пачварына — адным словам, бестыя з бестый, талентам нават не памазаная. А гэта горш, чым які-небудзь бяздарны няўмека, які не ўсведамляе свайго невуцтва.

Але ж ты, сеньёр Бальдзіні, не дасіся ў змусту, а такі не дасіся. Цябе толькі ў першую хвілю збіла з тропу манлівае ўражанне. Але ж ці падумаў ты, што станецца з тым пахам праз гадзіну, калі лятучыя субстанцыі вычыхаюцца, выперхаюцца і праступіць сэрца з абалоні? Або сёння ўвечары, калі будуць чуцца толькі тыя цяжкія, цёмныя кампаненты, якія цяпер як бы хаваюцца ў мораку пад прыемным кветкавым вэлюмам? Пачакай, не бі ў хамут, Бальдзіні, не мітусіся!

Другое правіла запавядае: парфума жыве ў часе; у парфумы ёсць свая маладосць, свая сталасць і свая старасць. І толькі калі яна ва ўсіх трох узростах крынічыць аднолькава прыемна, яе можна лічыць удалай. Бо ўжо ж колькі разоў так бывала, што прыгатаваная сумесь з першага понюху пахла цудоўнай свежасцю, а ў нядоўгім часе — гнілою капустай і нарэшце, зусім ужо агідна — чыстым цыбетынам, бо перабольшана яго доза. Наогул з цыбетынам трэба быць сабе на ўме! Адна лішняя кропелька можа прывесці да катастрофы. Вечная памылка. Хто ведае — можа, Пелісье перабраў цыбетыну? Можа, да вечара ад яго амбіцыйных Псіхеяў і Амураў застанецца толькі помазь кашэчай мачы? Пажывём — пабачым.

А на пачатак панюхаем. Як вострая сякера коле цурбак на дробныя асклабкі і дразкі, так наш нос расколе ягоныя духі на складнікі І тады выйдзе на святло, што гэтая нібыта чарадзейная духмянасць атрымана звычайным, добра вядомым спосабам. Мы, Бальдзіні, патомныя парфумнікі, мы заспеем на месцы злачынства гэтага воцатніка Пелісье. Мы сарвем маску з яго азызелай храпы і дакажам гэтаму наватару, на што здатнае старое сапраўднае рамяство. Мы змарголім яго модныя духі нанава, скапіруем іх нашымі рукамі з такой дасканалай дакладнасцю, што гэты працмугра і сам не пазнае, дзе сваё, дзе чужое. Не! Нам гэтага мала! Мы зробім іх яшчэ лепш! Мы выявім ягоныя хібы і заганы, падправім іх і такім чынам дастанем хвігай да носа і дамо ганьбы! Ты— тандэтнік, Пелісье! Смярдзючы тхор! У парфумстве ты прышч на белым целе, і больш нічога!

Цяпер закачай рукавы, Бальдзіні! Прасморкайся і нюхай, нюхай без ніякіх сантыментаў!





Трэба расшчапіць гэты пах па ўсіх правілах мастацтва! Сёння падвечар ты павінен мець формулу!

І ён кінуўся назад да стала, дастаў паперу, чарніла і свежую хустачку, расклаў усё гэта ў сябе пад рукамі і прыступіў да аналітычнай працы. Яна была ў тым, што ён борздзенька падносіў да носа змочаную духамі хустачку і спрабаваў з лятучага духмянага воблака выхапіць нюхам той ці іншы складнік, стараючыся пры гэтым па магчымасці ўхіліцца ад цэласнага ўспрымання, каб потым, трымаючы хустачку далей ад сябе ў выцягнутай руцэ, хуценька запісаць назву выяўленага інградыента, пасля чаго зноў правесці хустачкай пад носам, падчапіць наступны фрагмент паху — і так далей..

## 13

Ён працаваў без перапынку дзве гадзіны І яго рухі рабіліся ўсё больш ліхаманкавыя, рыпенне яго пяра па паперы ўсё больш энергічнае, дозы духоў, якія ён вытрасаў з флакона на сваю хусцінку і падносіў да носа,— усё большыя.

Цяпер ён амаль не пазнаваў пахаў, ён даўно быў адурманены эфірнымі субстанцыямі, якія ўдыхаў, але ўжо не мог адрозніваць,— а на пачатку сваіх спробаў ён лічыў, што беспамылкова іх прааналізаваў. Ён ведаў, што ўнюхвацца далей не мела сэнсу. Ён ніколі не даведаецца, з чаго складаюцца навамодныя духі, сёння ўжо напэўна нічога не ўведае, ды і заўтра нічога, нават калі яго нос з Божай дапамогай зноў будзе ў норме. Ён так і не навучыўся гэтаму вынюхванню. Яму заўсёды быў агідны гэты занятак — раскладанне паху. Расчляняць цэлае, больш-менш удала скампанаванае цэлае на яго простыя кампаненты? Гэта нецікава. Годзе!

Але рука яго механічна працягвала тысячакротна адрэпетыраваным далікатным рухам змочваць духамі карункавую хустачку, страсаць яе і хуценька праносіць міма твару, і кожнага разу ён механічна ўцягваў у сябе порцыю пранізанага водарам паветра, каб, затрымаўшы дыханне па ўсіх правілах мастацтва, зрабіць доўгі выдых. Нарэшце нос сам выбавіў яго ад гэтай пакуты: алергічна распухлы ўсярэдзіне, ён як бы закаркаваўся васковым коркам. Цяпер ён наогул нічога болей не чуў і ледзь дыхаў. Нос быў закладзены як пры цяжкім насмарку, а ў куточкі вачэй набеглі слёзы. Дзякуй Богу! Цяпер з чыстым сумленнем можна было спыніцца. Цяпер ён выканаў свой абавязак, зрабіў усё, што было яму па сіле, згодна з усімі правіламі мастацтва і, як бывала ўжо няраз, пацярпеў паразу Ultra posse nemo obligatur*. Заўтра раніцай ён пашле да Пелісье па вялікі флакон «Амура і Псіхеі», надушыць яго змесцівам бювар графа Верамона і выканае заказ. А потым возьме свой чамаданчык са старамоднымі памадамі, прыціркамі, сашэ і кавалачкамі мыла і пойдзе ў абход па салонах сваіх старавечных герцагінь. І аднаго разу апошняя старая герцагіня памрэ, і такім чынам ён застанецца без апошняй кліенткі І сам ён тады стане старавечным дзедам, і яму давядзецца прадаць свой дом — Пелісье ці камусьці яшчэ з гэтых нуварышаў-гандляроў, магчыма, ён і возьме за яго тысячу-другую ліўраў. І возьме ён з сабою пару чамаданаў і сваю старую жонку, калі яна да таго часу не памрэ, і выправіцца ў Італію. І калі перажыве гэтае падарожжа, дык купіць маленькі дамок у вёсцы пад Месінай, дзе жыццё таннейшае, чым тут. І там ён, Джузэпэ Бальдзіні, колісь найвялікшы парфумнік Парыжа, памрэ ў жахлівай галечы, калі будзе на тое воля Гасподняя. Так што ўсё на лепшае. Ён закаркаваў флакон, адклаў пяро і апошні раз выцер лоб змочанай хустачкай. Ён адчуў прахалоду алкагольнай пары, і больш нічога. Потым настаў заход.

Бальдзіні ўстаў. Ён падняў жалюзі, і яго постаць азарылася вечаровым святлом і заззяла, як абгарэлая паходня, па якой прабягаюць апошнія іскры агню. Ён глядзеў на барвовую паласу заходу за Луўрам і яго мяккі водбліск на шыферных дахах горада. Пад ім прамянілася золатам рака, караблі зніклі. Здалося нават, што падняўся вецер, бо водная паверхня зарабілася, быццам пакрылася лускою, там-тут заззяла, усё бліжэй, бліжэй, здавалася, велізарная рука рассыпала па вадзе мільёны луідораў, і рака на імгненне як бы павярнула назад: бліскучы паток чыстага золата слізгаў убок да Бальдзіні.

Вочы ў Бальдзіні былі вільготныя і зажураныя. Нейкі час ён стаяў ціха і азіраў гэты велічны малюнак. Потым раптам расхінуў акно, шырока развёў аканіцы і з размаху шпурнуў

* **Нікога нельга абавязваць звыш ягоных магчымасцяў (*лац.*).**

флакон з духамі Пелісье. Ён бачыў, як флакон плюхнуўся ў ваду і на нейкае імгненне разарваў бліскучы водны кілім.

У пакой дыхнула свежым паветрам. Бальдзіні перавёў дух і пачакаў, пакуль распухлы нос не вярнуўся ў норму. Тады ён зачыніў акно. Амаль у тую самую хвіліну настала ноч, зусім ратоўна. Бліскучая залатая карціна горада і ракі застыла ў попельна-шэры сілуэт. У пакоі адразу зрабілася змрочна Бальдзіні зноў стаяў у той самай паставе, нерухома гледзячы ў акно. «Не буду я заўтра пасылаць да Пелісье, — сказаў ён, учапіўшыся абедзвюма за білца крэсла. — Не буду. І не пайду па салонах. Заўтра я пайду да натарыуса і прадам дом і лаўку. Вось што я зраблю»

На яго твары паявіўся ўпарты, гарэзлівы выраз, і ён раптам адчуў сябе вельмі шчаслівым. Ён зноў быў малады Бальдзіні, які адважна кідае выклік лёсу,—нават калі выклік лёсу ў гэтым выпадку быў усяго толькі адступленнем. А хай сабе і быў! Больш нічога ж не засталося Дурны час не даваў яму іншага выбару. Гасподзь пасылае добрыя і ліхія часіны, але Ён жадае, каб у ліхія часіны мы не енчылі, не галасілі, а трымаліся як сапраўдныя мужчыны Але Ён паслаў азнаку. Крывава-залаты-чырвоны міраж горада быў папярэджаннем: дзей, Бальдзіні, пакуль не позна! Яшчэ моцны твой дом, яшчэ поўныя твае засекі, ты яшчэ мецьмеш добрую цану ў тваім падзаняпалым гешэфце. Рашэнні залежаць ад цябе. Праўда, рахмана-сціплая старасць у Месіне не была мэтай твайго жыцця — але ўсё ж яна вартаснейшая і богаспадобнейшая за пампезную галечу ў Парыжы. Няхай яны святкуюць сваю перамогу, усе гэтыя бруэ, кальто і пелісье. Джузэпэ Бальдзіні пакідае рысталішча. Але робіць ён гэта па сваёй волі і не схіляючы галавы!

Цяпер ён быў проста горды сабою. І адчуваў бясконцую палёгку Першы раз за шмат гадоў сутарга паслужлівасці, якая ўзнатужыла ягоны карак і ўсё дагодлівей угінала спіну, не зачапіла яго хрыбетнік, і ён выпрастаўся, вызвалены, свабодны, узрадаваны. Яго дыханне лёгка праходзіла праз нос. Ён ясна ўспрымаў пах «Амура і Псіхеі», што запоўніў пакой, але цяпер Бальдзіні быў яму непаддатны. Ён змяніў сваё жыццё і пачуваўся выдатна. Цяпер ён падымецца да жонкі і паведаміць ёй свае рашэнні, а потым выправіцца на па-той бок ракі ў сабор Парыжскай Багамаці і паставіць свечку, каб падзякаваць Богу за міласэрную азнаку і за неверагодную сілу характару, якою Ён абдарыў яго, Джузэпэ Бальдзіні. З амаль хлапечым шыкам ён нядбала насунуў на лысы чэрап парык, апрануў блакітны каптан, схапіў свечнік, які стаяў на стале, і пакінуў кабінет Ён якраз паспеў запаліць свечку ад лоевай свечкі на лесвічнай пляцоўцы, каб пасвяціць сабе наверх у жылое памяшканне, калі ўнізе, на першым паверсе, зазванілі Гэта не быў прыгожы персідскі званочак каля ўваходу ў лаўку, а брынчанне каля чорнага ўваходу для пасыльных, мярзотнае дзынканне, якое заўсёды тузала яму нервы Ён усё збіраўся зняць гэтую дрэнь і заказаць званок з больш прыемным гукам, але кожнага разу яму шкада было траты, а цяпер, падумаў ён раптам і захіхікаў пры гэтай подумцы, цяпер яму было напляваць: ён прадасць настырнае дзынканне разам з домам. Хто купіць, таму і клопат хай будзе.

Званок задзынкаў зноў. Бальдзіні прыслухаўся. Шанье, вядома, ужо сышоў з лаўкі. А служанка, мусіць, не збіралася спускацца. Таму ён рашыў адчыніць сам

Ён адкінуў зашчапку, адчыніў цяжкія дзверы — і не ўбачыў нічога. Цемра цалкам паглынула святло свечкі. Потым ён паступова разгледзеў маленькую постаць,— дзіця ці хлопчыкпадлетак з нечым, перакінутым праз руку

—Што табе?

—Мяне прыслаў мэтр Грымаль, я прынёс казліныя скуры,—сказала постаць, і падышла бліжэй, і працягнула Бальдзіні сагнутую ў локці руку, на якой вісела некалькі складзеных скур. У святле свечкі Бальдзіні ўбачыў твар хлопчыка з палахліва-насцярожанымі вачыма Яго пастава была схіленая. Здавалася, ён хаваецца за сваёй выцягнутай рукою, як чалавек, які чакае ўдару. Гэта быў Грануй.

## 14

Казліныя скуры! Бальдзіні ўспомніў Некалькі дзён таму назад ён заказаў у Грымаля тонкую мяккую лайку на бювар графу Верамону, па пятнаццаць франкаў за полку Але цяпер яна яму, шчыра кажучы, на ліха матары патрэбная, можна было б ашчадзіць грошы З іншага боку, а калі проста адаслаць пасыльнага?.. Хто ведае — гэта можа зрабіць неспрыяльнае ўражанне, пачнуць балбатаць, распускаць чуткі: Бальдзіні, бачыце, ужо ненадзейны, у Бальдзіні больш няма заказаў... а гэта нядобра, не, не, такія рэчы страшэнна збіваюць прадажную цану крамы. Лепей ужо прыняць гэтую непатрэбную скуру. Ніхто не павінен раней, чым трэба, ведаць, што Джузэпэ Бальдзіні змяніў сваё жыццё.

— Увайдзі!

Ён упусціў хлопчыка, і яны пайшлі на другую палавіну дома, наперадзе — Бальдзіні з запаленай свечкай, за ім — Грануй са сваімі скурамі. Грануй першы раз заходзіў у парфумную лаўку — у такое месца, дзе пахі не былі нечым пабочным, а адкрыта займалі цэнтральнае месца. Зразумела ён ведаў усе парфумныя і аптэчныя лаўкі горада, ён цэлыя ночы прастойваў перад іх вітрынамі, прыціскаючы нос да шчылін у дзвярах. Ён ведаў усе пахі, якімі тут гандлявалі, і часта сам сабе ствараў з іх цудоўныя духі. Так што нічога неспадзяванага тут яго не чакала. Але сама гэтак, як музычна адоранае дзіця прагне пабачыць аркестр зблізку або падняцца ў саборы на хоры, да схаванай клавіятуры аргана, так Грануй прагнуў убачыць парфумную лаўку з сярэдзіны, і, ледзь толькі пачуў, што Бальдзіні трэба занесці скуры, ён папрасіўся ўзяць на сябе гэтае даручэнне.

І вось ён стаяў у лаўцы ў Бальдзіні, у тым месцы Парыжа, дзе на самай сціслай прасторы было сабрана мноства прафесійных пахаў. У дрогкім святле свечкі ён разгледзеў няшмат чаго, ды і тое мімаходзь: цень канторкі з вагамі, чаплі пад фантанам, крэсла для заказчыкаў, цёмныя паліцы на сценах, бляск латунных інструментаў і белыя налепкі на шклянках і тыглях; і пахаў ён улавіў не больш, чым чуў з вуліцы. Але ён адразу адчуў сур'ёзнасць, якая панавала ў гэтых сценах, мы ледзь былі не сказалі свяшчэнную сур'ёзнасць, калі б слова «свяшчэнны» мела хоць якую значнасць для Грануя; ён адчуў халодную сур'ёзнасць, цвярозасць рамяства, сухую дзелавітасць у кожным прадмеце мэблі, у начынні, флакончыках, і бутэльках, і гаршках. І пакуль ён ішоў следам за Бальдзіні, у цяні Бальдзіні бо Бальдзіні не рабіў сабе лішняга клопату, каб пасвяціць яму, яго захапіла думка, што ягонае месца тут, і нідзе больш, што ён застанецца тут, і больш нідзе, што ён застанецца тут і адсюль пераверне свет дагары нагамі.

Зразумела, думка гэтая была бязглузда недарэчная. Не было нічога, проста анічагусенькі, што дазваляла б гарбароваму чаляднiку, які выпадкова задыбаў сюды, падлетку невядома якога паходжання, без сувязяў, без пратэкцыі, без аніякай вагі ў саслоўі, трывала замацавацца ў самай ганаровай парфумнай гандлёвай установе Парыжа, тым болей, што, як мы ведаем, ліквідацыя фірмы была ўжо, можна сказаць, поўнай пэўнасцю. Але ж і гаворка ішла нават не пра надзею, што праскочыла ў нясціплых думках у хлопца, а пра ўпэўненасць. Ён ведаў, што пакіне гэтую лаўку толькі яшчэ адзін раз, каб забраць у Грымаля вопратку, не больш за тое. Клешч учуў кроў. Гадамі ён тоіўся, закукліўшыся ў сабе, і чакаў Цяпер ён адчэпіцца і ўпадзе — хай сабе без нізкай надзеі. Але тым большая была ягоная ўпэўненасць.

Яны прайшлі лаўку. Бальдзіні адчыніў задняе памяшканне, што з боку ракі, у якім была кладоўка, і майстэрня, і лабараторыя, і дзе варылася мыла, і збівалася памада, і ў пузатых бутлях мяшаліся пахучыя вадкасці

—Сюды! — сказаў ён і паказаў на вялікі стол пад акном,— кладзі іх сюды!

Грануй выйшаў з цяні Бальдзіні, паклаў скуркі на стол, потым борздзенька адцыгнуў назад і стаў паміж Бальдзіні і дзвярмі. Бальдзіні нейкі час стаяў нерухома, адвёўшы свечку крыху ўбок, каб ніводная кропля воску не ўпала на стол, і слізгаў костачкай пальца па гладкай паверхні скуры. Потым перавярнуў верхнюю скурку і пагладзіў аксамітны, грубы і разам з тым мяккі спод. Яна была вельмі добрая, гэтая скурка. Проста як выраблена на лайку. Будзе сушыцца і амаль не сядзе, а калі яе правільна разгладзіць, яна зноў будзе паддатлівая, ён адчуў гэта адразу, як толькі заціснуў яе паміж вялікім і ўказальным пальцамі; яна магла б трымаць водар пяць або і дзесяць гадоў, гэта была вельмі, вельмі добрая скура — можа, ён зробіць з яе пальчаткі, тры пары сабе, тры пары жонцы, на паездку ў Месіну.

Ён адвёў руку і замілавана паглядзеў на свой рабочы стол — усё ляжала напагатове: шкляная кювета на араматызацыю, шкляная пласціна на сушку, ступкі, каб падмешваць тынктуру, мяла, шпатэль, пэндзлік, і гладзілка, і нажніцы. Здавалася, гэтыя рэчы толькі заснулі, бо цёмна было, а раніцай зноў прачнуцца. Можа, забраць і гэты стол з сабою ў Месіну? І сёе-тое з інструменту, самае патрэбнае?.. За гэтым сталом вельмі добра працавалася. Ён быў з дубовых дошак — і века, і рама з касым мацаваннем, на гэтым стале нічога не хісталася

і не абярталася, ён не баяўся ніякай кіслаты, ніякага алею, ніякага парэзу нажом, нішто яго не брала... Перавезці яго ў Месіну? Гэта абыдзецца ў вялікія грошы! Нават калі адправіць морам! І таму ён будзе прададзены, і ўсё, што на ім, пад ім і побач з ім гэтаксама будзе прададзена! Бо хоць сэрца ў яго, Бальдзіні, мяккае, затое характар —цвёрды, а таму ён выканае сваё рашэнне, як бы цяжка яму ні абышлося, ён адасобіцца ад усяго са слязьмі на вачах, але ён усё ж зробіць гэта, бо ведае, што гэта правільна, яму была дадзена азнака.

Ён павярнуўся ісці. Тут ён заўважыў у дзвярах гэтага маленькага скурчанага чалавечка, пра якога ледзь быў не забыўся.

— Добра,— сказаў Бальдзіні — Перадай свайму майстру, што скура добрая. Днямі я зайду расплаціцца.

—Я перадам,— сказаў Грануй і не зрушыў з месца, заступіўшы дарогу Бальдзіні, які ўжо сабраўся пакінуць майстэрню. Бальдзіні аж крыху атарапеў, але, нічога не падазраючы, убачыў у паводзінах хлопчыка не дзёрзкасць, а нясмеласць.

— Што такое? — спытаўся ён.—Ты маеш яшчэ што перадаць мне? Ну? Кажы!

Грануй стаяў панурыўшыся і глядзеў на Бальдзіні тым позіркам, які нібыта выдае баязлівасць, а на самай справе хавае насцярожанасць і напружанасць.

— Я хачу працаваць у вас, мэтр Бальдзіні. У вас, у вашай краме я хачу працаваць.

Гэта было сказана не як просьба, а як патрабаванне, і, шчыра кажучы, не сказана, а выціснута, як змяінае сыканне. І зноў Бальдзіні прыняў пачварную самаўпэўненасць Грануя за дзіцячую бязраднасць. Ён ласкава яму ўсміхнуўся.

—Ты вучань дубільшчыка, сынку мой,— сказаў ён — У мяне няма працы вучню дубільшчыка. У мяне ёсць свой чаляднік, і мне вучань не патрэбен.

—Вы хочаце надушыць гэтыя казліныя скуры, мэтр Бальдзіні? Гэтыя скуркі, якія я вам прынёс, вы хочаце іх надушыць?— прашаптаў Грануй, быццам не ўзяўшы да ведаму адказу Бальдзіні

—Менавіта,— сказаў Бальдзіні

—«Амурам і Псіхеяй» Пелісье? — спытаўся Грануй і схіліўся яшчэ ніжэй.

Па целе Бальдзіні прабегла кволая сутарга жаху. Не таму, што ён спытаўся ў сябе, адкуль гэтаму хлопцу ўсё вядома так дакладна, а проста таму, што назва ненавісных духоў, склад якіх ён сёння, на ганьбу сабе, не змог разгадаць, была сказана ўголас.

—Як табе ў галаву прыйшла абсурдная ідэя, што я карыстаюся чужымі духамі, каб...

—Ад вас імі пахне,— сказаў Грануй.— Яны ў вас на лобе, і ў правай кішэні каптана ў вас ляжыць змочаная імі хустачка. Яны нехарошыя, гэтыя «Амур і Псіхея», яны кепскія, у іх надта многа бергамоту, і замнога размарыну, і вельмі мала ружовага алею.

—Ага,— сказаў Бальдзіні, які быў проста ашаломлены такім паваротам гутаркі ў сферу дакладных ведаў.— Што яшчэ?

—Апельсінавы цвет, салодкі лімон, гваздзікі, мускус, язмін, вінны спірт і яшчэ адна рэч, не ведаю, як яна называецца, вось яна, тут, глядзіце! У гэтай бутлі!— І ён парнуў пальцам у цемру

Бальдзіні павёў свечнікам у той бок, яго позірк скіраваўся за ўказальным пальцам на паліцу, дзе стаяла бутля з шэра-жоўтым бальзамам.

— Стыраксавы алей?

Грануй кіўнуў

— Але. Ён там, усярэдзіне. Стыраксавы алей.— І ён скурчыўся, як ад сутаргі, разоў з дзесяць прамармытаў сабе слова «стыракс»: «стыракс-стыракс-стыракс-стыракс-стыракс»...

Бальдзіні паднёс свечку да гэтай чалавекападобнай істоты, якая мармытала «стыракс», і падумаў: альбо ён апантанец, альбо шахрай і блазнюк, альбо прыродны талент. Бо цалкам магчыма, і нават напэўна, што названыя ім рэчывы ў правільным спалучэнні маглі скласці духі «Амур і Псіхея». Ружовы алей, гваздзікі і стыракс — якраз гэтыя тры кампаненты ён так настойліва шукаў сёння цэлы дзень, астатнія часткі кампазіцыі — яму здавалася, што іх ён таксама адгадаў,— спалучаліся з імі як сегменты цудоўнага круглага торта. Заставалася толькі высветліць, у якіх дакладна суадносінах іх трэба было спалучаць. Каб высветліць гэта, яму, Бальдзіні, давялося б эксперыментаваць некалькі дзён запар — жахлівая праца, бадай, яшчэ горшая, чым ідэнтыфікацыя частак, трэба ж было б вымерваць, і важыць, і запісваць, і пры гэтым быць халерна важлівым, бо наймалейшая неасцярожнасць — дрыжанне піпеткі, памылка ў падліку кропель — магла ўсё чыста спляжыць. А кожны няўдалы доследа абыходзіўся жахліва дорага. Кожная сапсаваная сумесь каштавала цэлае багацце... Яму захацелася праверыць маладога чалавека, захацелася спытацца ў яго пра дакладную формулу «Амура і Псіхеі». Калі ён ведае яе з дакладнасцю да грама і да кроплі — тады ён яўны махляр, які нейкім чынам вызнаў рэцэпт Пелісье, каб уцерціся ў давер і атрымаць месца ў Бальдзіні. А калі ён разгадае яго прыблізна, значыцца, ён геній нюху і ў гэтай сваёй якасці заслугоўвае цікавасці Бальдзіні. Не тое каб Бальдзіні ставіў пад пытанне прынятае ім рашэнне адысці ад спраў! Нават калі гэты хлопец здабудзе іх цэлыя літры, Бальдзіні і не падумае араматызаваць імі лайку графу Вермону, але.. Але ж не на тое чалавек на ўсё жыццё робіцца парфумнікам, не на тое ж ён цэлае жыццё займаецца складаннем пахаў, каб за адзін раз страціць увесь свой прафесійны жанр! Цяпер яго цікавіла формула праклятых духоў, і больш за тое, ён хацеў даследаваць талент дзіўнага хлопчыка, які прачытаў пах з ягонага лоба. Ён хацеў ведаць, што за гэтым крыецца. Простая цікаўнасць, ці што большае.

— У цябе, здаецца, тонкі нюх, хлопча, — сказаў ён пасля таго, як Грануй перастаў крактаць. Ён вярнуўся назад у майстэрню, каб асцярожна паставіць свечнік на стол.

— У мяне найлепшы нюх у Парыжы, мэтр Бальдзіні,— зашапялявіў Грануй.— Я ведаю ўсе пахі на свеце, усе, якія ёсць у Парыжы, толькі не ведаю некаторых назваў, але я магу іх вывучыць, усе назвы, іх няшмат, усяго некалькі тысяч, я іх усе вывучыў, я ніколі не забуду назвы гэтага бальзаму, стыракс, бальзам называецца стыракс, стыракс...

— Сціхні! — закрычаў Бальдзіні.— Не перабівай, калі я гавару! Ты дзёрзкі і самаўпэўнены Ніводзін чалавек не ведае тысячы назваў, а ўсяго некалькі сотняў, бо ў нашым рамястве іх не болей, чым некалькі сотняў, усё астатняе не пах, а смурод!

Грануй, які ў хвіліны выбуху свайго красамоўства амаль выпрастаўся фізічна і нават у нейкі момант узбуджана замахаў рукамі, выпісваючы ў паветры колы, каб паказаць, як ён ведае «ўсё, усё», пачуўшы адказ Бальдзіні, адразу панік, зноў абярнуўся ў маленькую чорную жабку і нерухома застыў на парозе, хаваючы нецярплівасць.

— Я, — сказаў Бальдзіні,— зразумела, даўно сцяміў, што «Амур і Псіхея» складаюцца са стыраксу, ружавага алею і гваздзікоў, а таксама бергамоту і размарынавага экстракту et cetera. Каб устанавіць гэта, трэба, як той казаў, мець тонкі нюх, і вельмі можа нават быць, што Бог даў табе такі нюх, як і многім, многім іншым людзям — асабліва ў тваім узросце. Але ж парфумніку,— і тут ён падняў угору палец і набычыў грудзі,— але ж парфумніку мала мець тонкі нюх. Яму патрэбен вывераны за многія дзесяткі гадоў, непадкупна дзейсны орган нюху, які разгадвае нават самыя заблытаныя пахі — іх складнікі і прапорцыі, а таксама ўмее кампанаваць новыя, модныя сумесі пахаў Такі нос — і ён пастукаў пальцам па сваім — за так нікому не даецца, малады чалавек! Такі нос — узнагарода за руплівасць і настойлівасць. Няўжо ты мог бы проста так, з лёту, назваць дакладную формулу «Амура і Псіхеі»? Ну, мог бы?

Грануй не адказваў.

— Можа, ты скажаш мне яе хоць прыблізна, эскізна, у агульных рысах?— сказаў Бальдзіні і крыху нахіліўся наперад, каб лепей разгледзець затоенае ў дзвярах жабяня.— Хоць бы прыкладна, збольшага? Ну? А яшчэ найлепшы нос у Парыжы!

Але Грануй маўчаў.

— Вось бачыш,— сказаў Бальдзіні задаволена і расчаравана.— Ты не ведаеш Ясна, не ведаеш. Адкуль табе ведаць. Ты з тых, хто за міскай вызначае, што ў супе — пятрушка ці маркоўнік. Ну што ж — гэта ўжо сёе-тое. Але да кухара табе яшчэ далёка. У кожным мастацтве, а таксама ў кожным рамястве — укруці гэта сабе ў мазгі, перш чым пойдзеш дахаты, — талент амаль нічога не значыць, галоўнае — вопыт, набыты сціпласцю і рупнасцю.

Ён ужо працягнуў руку, каб узяць са стала свечнік, калі ад дзвярэй засыкаў глухі голас Грануя:

— Я не ведаю, што такое формула, мэтр, гэтага я не ведаю, а так — ведаю ўсё.

— Формула — гэта альфа і амега ўсякай парфумы,— строга адказаў Бальдзіні, бо ўжо збіраўся закончыць размову.— Яна ёсць карпатліва зробленае прадпісанне, у якіх суадносінах трэба змешваць асобныя інгрэдыенты, каб узнік пажаданы адзіны і непаўторны водар; вось што такое формула. Яна ёсць рэцэпт — калі ты лепей разумееш гэтае слова.

— Формула, формула,— хрыпла прамовіў Грануй, і яго постаць у раме дзвярэй азначылася больш выразна.— Не трэба мне ніякай формулы. Рэцэпт у мяне ў носе. Змяшаць іх вам, мэтр, змяшаць? Змяшаць?

— Як гэта?— ускрыкнуў Бальдзіні гучней, чым яму след было, і паднёс свечку да твару гнома.— Як гэта — змяшаць?

Грануй упершыню не адхінуўся.

—Дык жа яны ўсе тут, гэтыя пахі, якія патрэбны, яны ўсе тут у гэтым пакоі,— сказаў ён і зноў тыцнуў пальцам у цемру — Ружавы алей вунь там! А там апельсінавы цвет! А там гваздзікі! А там размарын!.

—Ясна, яны там,— ускіпеў Бальдзіні.— Усе яны там! Але ж кажу табе, дурная твая конаўка, ад іх ніякага толку, калі не ведаеш формулы!

—Вунь там язмін! Вунь там вінны спірт! Вунь там стыракс!— хрыпла пералічваў Грануй, паказваючы тое ці іншае месца ў памяшканні, дзе было так цёмна, што ледзь можна было разгледзець паліцы з бутлямі

—Ты, здаецца, можаш бачыць поначы, га?— сказаў Бальдзіні.— У цябе не толькі тонкі нюх, але і самы востры зрок у Парыжы, праўда? Калі ў цябе такі ж самы і слых, дык растапыр шырэй свае вушы, і я табе скажу: ты маленькі хлус. Напэўна тое-сёе свіснуў у Пелісье, падгледзеў штосьці, га? І думаеш, можаш укручваць мне глузды?

Грануй стаяў цяпер у дзвярах ужо выпрастаны, так сказаць, на поўны рост, крыху расставіўшы ногі і растапырыўшы рукі, так што нагадваў чорнага павука, які чапляецца за парог і раму.

— Дайце мне дзесяць хвілін,— даволі сур'ёзна сказаў ён,— і я вам зраблю «Амура і Псіхею» Проста тут і зараз, у гэтым пакоі.

—Думаеш, я дазволю табе гаспадарыць у маёй майстэрні? Хапацца за эсэнцыі, цана якім — цэлае багацце?

—Але, — сказаў Грануй.

—Бач ты яго! — Бальдзіні ледзь не задыхнуўся ад нечаканасці Потым набраў у грудзі паветра, перавёў дух і доўга-доўга задуменна глядзеў на гэтага кепа. Зрэшты, ці не ўсё адно, думаў ён, бо ж заўтра і так будзе пастаўлена кропка. Я, вядома, знаю, што ён не зробіць таго, на што замахнуўся, і нават не можа гэтага магчы, гэтага не змог бы сам вялікі Франжыпані Але чаму ж бо мне на свае вочы не пераканацца ў тым, у чым я і так перакананы? А раптам аднаго разу ў Месіне мне заверне ў галаву (у старых часам бываюць заскокі і самыя вар'яцкія ідэі), што я не распазнаў генія, вундэркінда, істоты, шчодра адоранай ласкай Божай. Гэта выключана. Паводле ўсяго, што мне падказвае розум, гэта выключана... Але ж бываюць цуды? Бываюць. І вось, калі я буду паміраць у Месіне, на смяротным ложку мяне наведае думка: таго вечара ў Парыжы табе быў яўлены цуд, а ты сам затуліў сабе вочы!.. Гэта было б не вельмі прыемна, Бальдзіні! Хай ужо гэты прыдурак выльe на стол некалькі кропляў ружавага алею і мускуснай настойкі, ты б іх таксама разліў, калі б цябе яшчэ сапраўды цікавілі духі ад Пелісье. І што там тых некалькіх кропляў — так, дарагіх, вельмі, вельмі дарагіх — у параўнанні з надзейнасцю ведаў і спакойнай старасцю?

—Паслухай! — сказаў ён сумысля строга.— Паслухай! Я... дарэчы, як цябе завуць?

—Грануй, — сказаў Грануй.— Жан-Батыст Грануй.

—Ага,— сказаў Бальдзіні — Дык вось паслухай, Жан-Батыст Грануй! Я перадумаў. Ты мецьмеш магчымасць цяпер жа, вось тут, даказаць тое, што сказаў І разам з гэтым табе даецца нагода сваім скандальным правалам прыхапіць крыху сціпласці, якая, дабрадзея твая, у тваім маладым узросце — і гэта можна дараваць— яшчэ наўрад ці развілася, і яна ёсць абавязковая перадумова твайго далейшага поступу як члена цэху, як чалавека і як добрага хрысціяніна. Я гатовы за свой кошт даць табе гэты ўрок, бо з пэўнай прычыны схіляюся сёння да шчодрасці, і, хто ведае, можа, калі-небудзь успамін пра гэтую сцэну распацешыць мяне да слёз. Але не думай сабе, што табе ўдасца мяне ашукаць! У Джузэпэ Бальдзіні нос стары, затое нюх востры, дастаткова востры, каб адразу ўлавіць самую малую розніцу паміж тваёй мікстурай і вось гэтым прадуктам! —І ён дастаў з кішэні прамочаную «Амурам і Псіхеяй» хустачку і памахаў ёю перад носам у Грануя.— Падыдзі ж сюды, ты, самы лепшы нос Парыжа! Падыдзі да стала, пакажы, на што ты здатны! Утры мне носа! Але глядзі мне, нічога тут не разбі і не абярні. І нічога не руш! Спачатку я запалю болей святла. Мы зладзім ілюмінацыю ў гонар гэтага маленькага эксперыменту, добра?

І з гэтымі словамі ён узяў дзве свяцільні з краю вялікага дубовага стала і запаліў іх. Ён паставіў усе тры свечкі побач адну з адной на заднім доўгім баку, адсунуў скуры і вызваліў сярэдзіну стала. Потым спакойнымі, але ўвішнымі рухамі зняў з маленькай этажэркі і прынёс патрэбнае на дослед начынне: вялікую пузатую бутлю з-пад малака, шкляную лейку, піпетку, маленькую і вялікую мензуркі — і па ўзорным парадку расставіў усё гэта на дубовай стальніцы

Грануй тым часам адарваўся ад дзвярэй За час напышлівай прамовы Бальдзіні з яго сышла ўся здранцвеласць, насцярожанасць, прыгнечанасць. Ён чуў толькі згоду, толькі «так» з унутраным трыумфам дзіцяці, якое настырнай упартасцю дабілася нейкай саступкі і якому пляваць на ўсякія абмяжоўкі, умовы і маральныя засцярогі Яго поза пасвабаднелася, упершыню ён быў падобны на чалавека больш, чым на жывёлу. Ён прапусціў міма вушэй канец казані Бальдзіні, ведаючы, што перасіліў яго, што той ужо не дасць з ім сабе рады

Пакуль Бальдзіні корпаўся каля стала са свечкамі, Грануй шмыгнуў у бакавую цемру майстэрні, дзе стаялі стэлажы з каштоўнымі эсэнцыямі, алеямі і тынктурамі, і, следуючы за ўпэўненым чуццём свайго носа, борздзенька падхапіў з паліц патрэбныя яму флаконы. Лікам іх было дзевяць. эсэнцыя апельсінавага цвету, алеі лімонны, гваздзіковы і ружавы, экстракт язміну, бергамоту і размарыну і бальзам стыраксу, які ён момантам хапнуў з верхняй паліцы і паставіў на край стала. Напаследак ён прытарабаніў балон высокапрацэнтовага віннага спірту Потым стаў за плячыма ў Бальдзіні (той усё яшчэ педантычна расстаўляў свой посуд —крыху ссоўваў адну шклянку, крыху падсоўваў другую, каб усё мела свой добры, здавён заведзены парадак і эфектна зззяла ў святле свечак) і пачаў чакаць, нецярпліва дрыжучы, пакуль стары адыдзе і дасць яму месца.

—Так! — сказаў нарэшце Бальдзіні, адступаючыся ўбок.— Тут расстаўлена ўсё, што трэба на твой... назавём яго з ласкі «эксперыментам» Нічога мне тут не пабі, нічога не разлі! Памятай: гэтыя вадкасці, якімі табе зараз будзе дазволена карыстацца аж пяць хвілін, маюць такую каштоўнасць і яны такія рэдкасныя, што ты больш ніколі ў жыцці не атрымаеш іх у такой канцэнтраванай форме.

—Колькі вам нарабіць, мэтр? — спытаўся Грануй.

—Колькі — чаго? — неўразумела перапытаў Бальдзіні, які яшчэ не скончыў сваёй прамовы

—Колькі гэтых духоў? — хрыпла адказаў Грануй — Вам іх колькі трэба? Хочаце, вунь тую тоўстую флягу па беражкі? —І ён паказаў на змяшальнік ёмістасцю ў добрыя тры літры.

—Не, не трэба! — з жахам закрычаў Бальдзіні, і ў ягоным крыку быў страх, такі самы глыбокі, як і стыхійны страх перад марнатраўствам, страх за сваю маёмасць. Але, нібы засаромеўшыся гэтага самавыкрывальнага крыку, ён зарыкаў — І не перабівай мяне! — Потым крыху супакоіўся і — ужо з лёгкай іроніяй у голасе:— Навошта нам тры літры духоў, якіх мы абодва не цэнім? Па сутнасці, даволі і палавіны мензуркі. Як што, аднак, такія малыя колькасці цяжка змешваць дакладна, я дазваляю табе запоўніць змяшальнік на траціну

—Добра,— сказаў Грануй. —Я напоўню гэтую фляжыну да палавіны «Амурам і Псіхеяй» Толькі ж, мэтр Бальдзіні, я зраблю гэта па-свойму Я не ведаю, як трэба па правілах мастацтва, я гэтаму не вучаны, а па-свойму зраблю.

—Калі ласка!— сказаў Бальдзіні, які ведаў, што ў такой справе не бывае ніякіх «па-мойму» або «па-твойму», а ёсць толькі адзін, адзіна магчымы і правільны спосаб: ведаючы формулу і выходзячы з зададзенай колькасці духоў, трэба зрабіць адпаведныя разлікі і з розных эсэнцый выпрадукаваць строга пэўную колькасць канцэнтрату, які, у сваю чаргу, у дакладнай прапорцыі, якая звычайна вагаецца між адзін да дзесяці і адзін да дваццаці, трэба разбавіць алкаголем да канечнага прадукту Іншага спосабу, ён ведаў, няма. І таму тое, што ён цяпер убачыў і за чым назіраў спачатку пакепліва і скептычна, потым разгублена і нарэшце толькі з бездапаможным здзіўленнем, здалося яму самым сапраўдным дзівам. І сцэна гэтая так урэзалася яму ў памяць, што ён не забыў яе да канца сваіх дзён

**Пераклаў з нямецкай**
**Васіль СЁМУХА.**

*Працяг будзе.*

